М. В. БІРЫЛА

# БЕЛАРУСКАЯ

БОНДАР — *Бондар*
— ОК *Бондараў*
— ЫК *Бандарэвіч*
— ЧЫК *Бандарэнка*
— ЭЦ-АЦ *Бандаронак*
*Бандарэня*
*Бандарчук*

# АНТРАПАНІМІЯ

М. В. БІРЫЛА

# БЕЛАРУСКАЯ АНТРАПАНІМІЯ

## 2. Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі

ВЫДАВЕЦТВА „НАВУКА І ТЭХНІКА“
Мінск 1969

АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

Рэдактар
член-карэспандэнт АН СССР
Р. І. АВАНЕСАЎ

Бірыла М. В.

Б 64 Беларуская антрапанімія. 2. Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі. Мінск, «Навука і тэхніка», 1969. 508 с. (АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа). 1000 экз. 1 р. 78 к. У перапл.

У кнізе разглядаецца этымалогія прозвішчаўтвараючых асноў і структура сучасных беларускіх прозвішчаў, якія ўзніклі на базе апелятыўнай лексікі і на аснове ўласных імён цюркскага і літоўскага паходжання.

Праца зацікавіць не толькі спецыялістаў-мовазнаўцаў, але і пісьменнікаў, гісторыкаў, этнографаў, даследчыкаў культуры беларускага народа і шырокае кола чытачоў.

7-1-1
50-69

4 Бел.

# УВОДЗІНЫ

§ 1. Антрапанімія ў цэлым і асабліва антрапанімія, звязаная з апелятыўнай лексікай, у кожнай мове з'яўляецца важным элементам агульнай моўнай і гісторыка-культурнай спадчыны таго народа, якому яна належыць. Антрапонімы — не проста знакі, лексемы, функцыяй якіх з'яўляецца ідэнтыфікацыя асобных членаў калектыву, грамадства. Гэта неадрыўная, але спецыфічная частка моўнай сістэмы. Неадрыўная таму, што ў антрапаніміі няма нічога такога, чаго б у які-небудзь з перыядаў не было ў самой мове. Спецыфічная — па функцыі і ў некаторай меры па структуры.

Адапелятыўная антрапанімія з'яўляецца своеасаблівым люстэркам, у якім адбілася, праўда, у абмежаваных рамках, гісторыя развіцця лексічнай сістэмы мовы. Частка прозвішчаўтваральных асноў, хаця самі прозвішчы з'яўляюцца прадуктам адносна позняга перыяду (XVII—XVIII стст.), захоўвае глыбокую старыну — узыходзіць да агульнаславянскай эпохі. Пры тым адны з асноў у апелятыўнай лексіцы беларускай мовы існуюць і зараз, а другія да нашых дзён або не дайшлі, або, магчыма, жывуць дзе-небудзь у дыялектах, але з-за таго, што лексіка апошніх вывучана недастаткова, нам яны невядомы. Другая частка прозвішчаўтваральных асноў узыходзіць да апелятыўнай лексікі больш блізкіх да нас эпох — агульнаўсходнеславянскага перыяду ці перыяду станаўлення беларускай мовы. Як і ў выпадку з асновамі, што ўзыходзяць да агульнаславянскага перыяду, толькі частка асноў агульнаўсходнеславянскага і ўласнабеларускага перыядаў вядома ў сучаснай беларускай мове. Антрапанімія, такім чынам, законсервавала пэўную частку лексем, якіх не захавала мова, і дае надзвычай каштоўны матэрыял для гістарычнай лексікалогіі і этымалогіі.

Акрамя прозвішчаўтваральных апелятыўных асноў славянскага паходжання, у беларускай антрапаніміі знаходзім значную колькасць іншамоўных асноў — у першую чаргу асновы цюркскага і літоўскага паходжання. Сярод іх таксама адны ў беларускай мове захаваліся і зараз, а другія зніклі. Значыць і пры вывучэнні ўзаемадзеяння беларускай мовы з іншымі антрапанімія дае ўнікальны матэрыял, які дазваляе больш глыбока і ўсебакова вывучаць беларуска-літоўскія і беларуска-цюркскія моўныя ўзаемасувязі, сферы запазычванняў, характар асваення іх і інш.

Коратка кажучы, з пункту погляду гісторыі мовы адапелятыўная антрапанімія з'яўляецца захавальнікам, кансерватам лексікі папярэдніх эпох, дае матэрыял для больш глыбокага вывучэння гістарычнага слоўніка, лінгвістычнага субстрату, моўных узаемасувязей.

З'яўляючыся спецыфічным, найбольш цесна звязаным з асобай чалавека класам лексікі, адапелятыўная антрапанімія адлюстроўвае самыя разнастайныя галіны жыццядзейнасці народа і акружаючай яго рэчаіснасці — быт, заняткі, становішча ў сям'і і грамадстве, фізічныя, разумовыя і маральныя якасці, пачуцці, сацыяльны ўклад, фізіяграфію мясцовасці, жывёльны і раслінны свет, захоўвае звесткі з міфалогіі, этналогіі і гістарычнай геаграфіі. У гэтым сэнсе антрапанімія, утвораная ад апелятыўнай лексікі, з'яўляецца кладоўкай гісторыка-культурнай спадчыны, дае каштоўны матэрыял для вывучэння агульнай гісторыі народа.

Падкрэсліваючы значэнне дадзеных антрапаніміі для гістарычнай лексікалогіі і этымалогіі, а таксама для агульнай гісторыі народа, аўтар не ставіў сваёй мэтай пошукі ў гэтым напрамку. Галоўнай задачай ён лічыў даследаванне матэрыялу з пункту погляду самой антрапаніміі — імкнуўся вызначыць лексічны састаў, семантычную базу і моўную прыналежнасць апелятыўных асноў, на базе якіх склаліся сучасныя беларускія прозвішчы: даследаваць ступень прадуктыўнасці кожнай прозвішчаўтвараючай асновы, прасачыць ужывальнасць утвараючых асноў сучасных беларускіх прозвішчаў у антрапаніміі дапрозвішчнага перыяду (XV—XVIII стст.), нарэшце, супаставіць лексічны састаў утвараючых асноў беларускіх прозвішчаў з лексічным саставам утвараючых асноў рускіх прозвішчаў.

§ 2. Пры вылучэнні адапелятыўных прозвішчаў з агульнай масы ўсіх зарэгістраваных можна было б выкарыстаць спосаб накладвання на антрапонімы адпаведных апелятываў. Але гэты спосаб як адзіны крытэрый не задавальняе па розных прычынах. Па-першае, беларуская рэгіянальная лексіка і лексіка старабеларускай мовы пакуль што вывучаны недастаткова, з-за чаго многія асновы мы не распазналі б. Па-другое, шмат якія з сучасных беларускіх прозвішчаў утвораны на лексічнай аснове іншых моў — літоўскай, польскай, цюркскіх, яўрэйскай і інш. З-за гэтага прыйшлося б шукаць апелятыўныя адпаведнікі ў шматлікіх рознамоўных крыніцах і ўсё адно не было б упэўненасці, што матэрыял для накладвання вычарпаны поўнасцю, не кажучы ўжо аб тым, што аўтар як беларусазнаўца аднолькава кваліфікавана па ўсіх названых мовах гэтага зрабіць не мог. З прычыны ўсяго сказанага вялікая частка прозвішчаў засталася б у «нейтральнай зоне» — не знайшла б месца ні сярод прозвішчаў, утвораных ад уласных асабовых імён, ні сярод прозвішчаў, утвораных ад апелятываў. Нарэшце, спосаб накладвання на стадыі вылучэння з ліку ўсіх зафіксаваных прозвішчаў, прозвішчаў, утвораных ад апелятываў, нават пры адсутнасці вышэй названых цяжкасцей з'яўляецца нерацыянальным з-за таго, што кожнае прозвішча толькі пасля доўгай «прымеркі» да апелятываў беларускай і іншых моў, якія патэнцыяльна маглі ўдзельнічаць сваёй лексікай ва ўтварэнні беларускіх прозвішчаў, паасобку можна было б аднесці ці да адапелятыўных ці да адіменных.

Аўтар палічыў больш мэтазгодным вылучыць адапелятыўныя прозвішчы шляхам выключэння з ліку ўсіх сабраных тых прозвішчаў, якія ўтвораны ад уласных асабовых імён. Апошнія разгледжаны ў кнізе «Беларуская антрапанімія. Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы» (Мінск, 1966) у раздзеле «Мужчынскія імёны і прозвішчы, утвораныя ад іх». Вылучэнне адіменных прозвішчаў забяспечана вялікім фактычным матэрыялам, выбраным з пісьмовых помнікаў XV—XVIII ст., і, на нашу думку, у пераважнай большасці выпадкаў з'яўляецца пераканальным. Выключыўшы прозвішчы, утвораныя ад імён, мы атрымалі корпус прозвішчаў, утвораных не ад імён. Пераважная большасць іх утворана на базе апелятыўных асноў, а паасобныя на

базе старажытных славянскіх ці літоўскіх двухчленных (адапелятыўных) імён ці на базе цюркскіх імён, што суадносяцца з апелятыўнай лексікай. Такое аб'яднанне ў адным раздзеле названых груп прозвішчаў нам здаецца правамерным таму, што ўсе яны аднолькава суадносяцца з апелятывамі — не непасрэдна, а праз антрапонім дапрозвішчнай фармацыі: апелятыў — антрапонім (старажытныя двухчленныя імёны, імёны-мянушкі, цюркскія імёны) — сучаснае прозвішча. Спосаб накладвання апелятываў выкарыстоўваецца пры вызначэнні моўнай прыналежнасці асноў і іх семантыкі.

§ 3. Структура працы і спосаб аналізу матэрыялу абумоўлены задачай вывучыць лексіка-семантычны састаў утваральных асноў сучасных беларускіх прозвішчаў. Найбольш мэтазгоднай формай аналізу матэрыялу з'яўляюцца паасобныя слоўнікавыя артыкулы, у якіх на аснове адзінай методыкі вызначаецца лексічная і семантычная база прозвішчаўтваральных асноў. Слоўнікавыя артыкулы маюць агульную структуру: 1) загалоўнае слова, 2) семантычная частка, 3) сучасныя беларускія прозвішчы, утвораныя на базе загалоўнага слова, 4) антрапанімічныя паралелі: а) імёны-мянушкі, зафіксаваныя ў пісьмовых помніках, б) лексічна суадносныя сучасныя рускія, украінскія, літоўскія і цюркскія прозвішчы.

§ 4. У якасці загалоўнага слова падаецца рэканструяваная па сучасных беларускіх прозвішчах утваральная аснова — антрапонім дапрозвішчнага этапа, г. зн. імя-мянушка апелятыўнага паходжання. Таму загалоўная частка слоўнікавых артыкулаў выконвае трайную функцыю: паказвае лексічны састаў прозвішчаўтваральных асноў, з'яўляецца зборам імён-мянушак перыяду XVI—XVII стст., падае апелятыўную лексіку, выкарыстаную ў антрапаніміі.

Загалоўнае слова ў залежнасці ад наяўнага матэрыялу рэканструіруецца на падставе групы прозвішчаў, утвораных ад агульнай асновы, ці на падставе аднаго прозвішча. Рэканструкцыя ажыццяўляецца шляхам дзялення прозвішча, пры якім налева ад месца дзялення знаходзіцца ўтваральная аснова, а направа — антрапанімічны фармант. Дзяленне праводзіцца на падставе выяўлення спецыфічна прозвішчных фармантаў і выяўлення агульнай утваральнай асновы ў радзе сучасных беларускіх прозвішчаў і ідэнтыфікацыі яе з апелятыўнай лексікай.

У якасці спецыфічных прозвішчных фармантаў пры рэканструкцыі ўлічваюцца суфіксы *-оў/-аў/-еў/-ёў, -ін/-ын, -іч/-ыч, -овіч/-евіч/-эвіч, -енка/-энка/-анка, -еня/-эня, -ёнак/-онак.*

Суфікс *-ёнак/-онак* у прозвішчах, якія супадаюць з назвамі маладых істот, утвораных ад назваў дарослых жывёлін і птушак (*Арлёнак — арлёнак : арол, Казлёнак — казлёнак : казёл*), разглядаецца і як прозвішчаўтваральны і як апелятыўны. Гэта значыць, дапускаецца, што прозвішчы тыпу *Арлёнак, Казлёнак* маглі ўзнікнуць на базе антрапонімаў *Арол, Казёл* і на базе антрапонімаў *Арлёнак, Казлёнак,* якія ў сваю чаргу з'явіліся семантычным шляхам на аснове апелятываў *арлёнак, казлёнак.* Таму ў падобных прозвішчах дапускаецца дваякае чляненне (*Арл-ёнак, Арлёнак*) і рэканструкцыя дзвюх утвараючых асноў, двух загаловачных слоў (*Арол, Арлёнак*), а самыя прозвішчы служаць ілюстрацыяй і ў адным і ў другім слоўнікавым артыкуле.

Двухзначнымі з'яўляюцца і суфіксы *-ік/-ык, -чык, -ук/-юк, -чук, -ак/-як, -ец/-эц.* Суфіксы *-ік/-ык, -чык* маюць памяншальнае (у апелятывах і антрапонімах) і патранімічнае значэнне. Суфіксы *-ук/-юк, -чук* — нейтральнае значэнне ў апелятывах і патранімічнае ў антрапаніміі. Суфіксы *-ак/-як* утвараюць назвы жыхароў па назвах населеных пунктаў і маюць патранімічнае значэнне. Суфікс *-ец/-эц* — памяншальнае значэнне (ў апелятывах і антрапонімах) і ўтварае назвы асоб па назвах населеных пунктаў.

Сучасныя беларускія прозвішчы з суфіксамі *-скі/-цкі, -оўскі/-аўскі/-еўскі/-эўскі, -інскі/-ынскі, -анецкі/-янецкі* для рэканструкцыі ўтвараючых асноў не выкарыстоўваюцца. Звязана гэта з тым, што адны з іх узніклі на базе айконімаў, а другія на базе антрапонімаў у выніку моды. Зараз няма крытэрыяў вызначыць іх утвараючую базу. Напрыклад, прозвішча *Камароўскі* можна чляніць *Камар-оўскі,* а частку злева інтэрпрэтаваць як антрапонім *Камар* ці айконім *Камары,* можна чляніць *Камароў-скі* і частку злева інтэрпрэтаваць як айконім *Камарова, Камароў,* гэта значыць, трэба для кожнага прозвішча рэканструяваць некалькі ўтвараючых асноў, будаваць некалькі слоўнікавых артыкулаў. Таму прозвішчы на *-скі/-цкі* падаюцца толькі тады, калі іх левая частка суадносіцца з левай часткай прозвішчаў іншых мадэлей, па якіх

рэканструявана ўтвараючая аснова (*Камароўскі* на аснове суадноснасці з *Камароў* і інш. трапляе ў артыкул з загаловачным словам *Камар*). Пры гэтым дапускаецца, што прозвішча на *-скі -цкі* магло ўзнікнуць і непасрэдна на базе рэканструяванай утвараючай асновы (г. зн. ад антрапоніма) і на базе айконіма.

Тыя сучасныя беларускія прозвішчы на *-скі/-цкі*, левая частка якіх не мае аднакаранёвых адпаведнікаў у аснове прозвішчаў іншых мадэлей, у працу не ўключаны, бо для іх не знайшлося адпаведнага слоўнікавага артыкула, а самі яны з прычыны неаднароднасці паходжання для вырашэння пастаўленых задач непрыдатныя. З агульнай колькасці наяўных у калекцыі аўтара 2130 прозвішчаў на *-скі/-цкі* ў гэтую працу не ўвайшло 770.

Загалоўныя словы падаюцца ў пачатковай форме з нейтральным значэннем. Але, калі сярод прозвішчаў, якія разглядаюцца ў канкрэтным слоўнікавым артыкуле, ёсць утвораныя ад памяншальна-ласкальных ці павелічальна-зневажальных форм, у загалоўную частку артыкула з паметай *памянш.* ці *павеліч.* уключаюцца і такія формы.

Да ліку памяншальных форм аднесен шырокі круг дэрыватаў, які ўключае мадэлі, вядомыя апелятыўнай лексіцы, чыста антрапанімічныя мадэлі, невядомыя апелятыўнай лексіцы, мадэлі, якія ў антрапаніміі могуць выкарыстоўвацца і як памяншальныя, і як патранімічныя, і ўмоўна-памяншальныя формы. Пры назоўніках мужчынскага роду з нулявой флексіяй у якасці памяншальных падаюцца формы: а) з суфіксамі *-ок/-ёк, -ак, -ік/-ык, -ец/-эц, -ка* (*Абух — Абушок, Заяц — Зяцёк, Арэх — Арэшак, Арол — Орлік, Біч — Бічык, Акунь — Акунец, Арабей — Арабейка*), якія выкарыстоўваюцца і ў апелятыўнай лексіцы, б) з суфіксамі *-ко, -ушка* (*Бес — Бяско, Глаз — Глазко, Голад — Галадушка*), якія ў апелятыўнай лексіцы не ўжываюцца, в) з суфіксам *-чык*, які вядомы і ў апелятыўнай лексіцы, а ў антрапаніміі мае памяншальнае і патранімічнае значэнне (*Гаспадар — Гаспадарчык, Каравай — Каравайчык*). Пры назоўніках мужчынскага роду на *-а* падаюцца памяншальныя формы з тымі ж суфіксамі, якія выкарыстоўваюцца ў апелятыўнай лексіцы (*Бацька — Бацечка*). Пры назоўніках жаночага роду на *-а* ў якасці памяншальных прыведзены формы: а) з суфіксамі *-ка, -ушка, -ашка, -ачка, -іца* (*Ба-*

*буня — Бабунька, Каробка — Каробачка — Каробушка, Галава — Галавашка, Бульба — Бульбачка, Крупа — Крупіца),* якія вядомы і ў памяншальных дэрыватах апелятыўнай лексікі, б) з суфіксамі *-ец, -ок, -ко* (*Крупа — Крупец, Галава — Галавок — Галаўко*), якія не ўжываюцца ў апелятыўнай лексіцы, в) з суфіксам *-чык*, які мае дэмінутыўнае і патранімічнае значэнне (*Губа — Губчык*). Пры назоўніках жаночага роду з нулявой флексіяй падаюцца формы з вядомым у апелятывах суфіксам *-ка* (*Кадзь — Кадзька*) і спецыфічна антрапанімічнымі суфіксамі *-ік, -ко* (*Кадзь — Кадзік, Гусь — Гусько*). Пры назоўніках ніякага роду рэканструяваны памяншальныя формы толькі з антрапанімічнымі суфіксамі *-/ь/ка, -ок* (*Балота — Балоцька, Гавяда — Гавядок*). Пры прыметніках у якасці памяншальных звычайна прыведзены ўмоўна-памяншальныя формы. Так мы называем формы з дэмінутыўнымі суфіксамі назоўнікаў *-ік/-ык, -ок/-ёк, -ец/-эц, -/ь/ко, -/ь/ка, -чык* (*Востры — Вострык, Глухі — Глушок, Крывы — Крывец, Брыты — Брыцько — Брытко, Вялікі — Вялічка, Буланы — Буланчык*). Зрэдку рэканструіруюцца формы з памяншальным суфіксам прыметніка *-енькі* (*Глухі — Глухенькі*).

Найбольш простай з'яўляецца рэканструкцыя ўтваральнай асновы і афармленне загалоўнага слова ў тых артыкулах, у якіх ёсць прозвішча, утворанае семантычным шляхам, па структуры роўнае адапелятыўнаму імені-мянушцы, а гэта значыць, і самому апелятыву. Напрыклад, для вызначэння ўтваральнай асновы прозвішча *Вясёлка* дастаткова канстатаваць, што яно не мае спецыяльнага прозвішчаўтваральнага фарманта, а гэта значыць, захоўвае структуру ўтваральнай асновы і што па структуры яно поўнасцю суадносіцца з апелятывам *вясёлка*. Такім жа чынам праводзіцца рэканструкцыя асновы і афармленне загалоўных слоў тых артыкулаў, у складзе якіх разглядаюцца разам з прозвішчам, утвораным семантычным шляхам, прозвішчы, якія маюць спецыфічныя фарманты. На аснове агульнасці асновы яны аб'яднаны ў адзін прозвішчны рад і разглядаюцца ў агульным слоўнікавым артыкуле. Што ж належыць самой формы рэканструяванай асновы, то яна «зададзена» адным з прозвішчаў названага раду. Напрыклад, на аснове агульнасці асновы ў адзін прозвішчны рад аб'яднаны прозвішчы *Бондар, Бондараў, Бандаровіч, Бандарэвіч, Банда-*

*рэнка, Бандаронак, Бандарук.* На чале рада стаіць прозвішча, якое па структуры поўнасцю суадносіцца з апелятывам *бондар.* У гэтым прозвішчы і «зададзена» ўтвараючая аснова. Такім чынам, у частцы слоўнікавых артыкулаў рэканструкцыя ўтваральнай асновы па сутнасці з'яўляецца рэгістрацыяй асновы, «зададзенай» у адным з прозвішчаў.

Не выклікае асаблівых цяжкасцей і рэканструкцыя ўтваральных асноў тых прозвішчаў і прозвішчных радоў, якія ў сваім складзе не маюць «зададзенай» асновы, але грунтуюцца на празрыстай, лёгка суадноснай з апелятывамі аснове. Напрыклад, утвараючая аснова прозвішча *Батрачэнка* суадносіцца з апелятывам *батрак.* Некаторы раз аснова, рэканструяваная шляхам члянення прозвішча, з'яўляецца празрыстай, але патрабуе «даафармлення». Напрыклад, пры члянені прозвішча *Баразнёнак* атрымліваем *Баразн/ёнак.* Атрыманая аснова *баразн* выклікае адзіна магчымую асацыяцыю з апелятывам *баразна,* ад якога адрозніваецца адсутнасцю паказчыка формы жаночага роду — флексіі *-а.*

Рэканструкцыя рэальнай утваральнай асновы, такім чынам, патрабуе вызначэння граматычнага роду ўтваральнага назоўніка і адпаведнага граматычнага афармлення яго. Вызначэнне роду ўтваральнага назоўніка, як у паказаным выпадку, можна правесці толькі шляхам збліжэння асновы, атрыманай у выніку члянення прозвішча, з апелятывам (*баразн — баразна*). Прозвішчаўтваральныя суфіксы *-іч/-ыч, -овіч/-авіч/-евіч/-эвіч, -енка/-энка, -ёнак/-онак* і *-еня/-эня* спалучаліся з назоўнікамі ўсіх трох родаў, таму пры вызначэнні граматычнага роду рэканструяванай утваральнай асновы застаюцца ўбаку. На форму жаночага роду асновы ўказвае суфікс *-ін/-ын* (*Капусцін — Капуста — капуста*), але і тут трэба памятаць, што ў антрапаніміі вядомы выпадкі дэрывацыі пры дапамозе суфікса *-ін/-ын* ад назоўнікаў мужчынскага роду (*Дубін, Дзедушкін*). «Даафармленне» рэканструяваных асноў некаторы раз праводзіцца на падставе імён-мянушак XV—XVIII стст.

У радзе выпадкаў рэканструкцыя грунтуецца толькі на канстатацыі адсутнасці прозвішчнага фарманта, бо немагчыма было выявіць суадносны апелятыў. У такім разе рэканструкцыя ў загалоўным слове даецца з зорачкай. Але трэба агаварыць тры выпадкі, калі пры адсутна-

сці суадноснага апелятыва зорачка пры загалоўным слове не даецца. 1. У артыкулах з загалоўным словам на *-іха* (*Абядзіха*). Такія словы разглядаюцца як імёны-мянушкі асоб мужчынскага ці жаночага полу, што грунтуюцца на апелятыўнай мадэлі на *-іха* са значэннем 'жонка такога ці такога' (*кавал*іха, *шаўчыха*) або са значэннем занятку (*краўчыха, партніха*). 2. У артыкулах з загалоўным словам на *-овец/-авец/-евец/-эвец, -анін/-янін, -інец/-ынец*. Гэтыя словы маюць агульнае значэнне 'жыхар ці выхадзец з такога ці такога населенага пункта' (назвы н. п. у такіх артыкулах прыводзяцца гіпатэтычна). 3. У артыкулах, у якіх ёсць адсылка *параўн.*

У працы 1040 слоўнікавых артыкулаў. У якасці загалоўных слоў выкарыстоўваецца звыш тысячы рэканструяваных апелятыўных асноў у пачатковай форме і каля 400 апелятыўных эмацыянальна-ацэначных форм.

§ 5. У семантычнай частцы даецца тлумачэнне загалоўнага слова, указваецца крыніца, па якой прыведзена значэнне, даюцца лексічныя, стылістычныя, а некаторы раз і граматычныя паметы, а таксама паметы аб моўнай прыналежнасці і рэгіянальным ужыванні слова.

Калі загалоўнае слова ў беларускай мове з'яўляецца агульнавядомым (прадстаўленым у «Беларуска-рускім слоўніку»), значэнне не падаецца. Не падаюцца значэнні і пры «цёмных» словах, але перад загалоўным словам у такім разе стаіць зорачка.

У тым разе, калі для загалоўнага слова знойдзены абсалютна тоесны апелятыўны адпаведнік, апелятыў у семантычнай частцы не прыводзіцца, а даецца толькі яго значэнне. Калі ж апелятыўны адпаведнік чым-небудзь адрозніваецца ад загалоўнага слова, ён падаецца. У некаторых слоўнікавых артыкулах прыведзены паралелі да загалоўнага слова з некалькіх моў. Пры тым у адных выпадках прыведзеныя паралелі генетычна блізкія і маюць агульнае значэнне, на базе якога ўзнікла імя-мянушка, а пасля і прозвішча. А ў другіх выпадках прыведзены паралелі з розных моў, генетычна не звязаныя, з розным значэннем. Аўтар дапускае, што антрапонім мог узнікнуць на базе любога з прыведзеных апелятываў.

У тых слоўнікавых артыкулах, для загалоўных слоў якіх не знойдзены апелятыўныя паралелі, у семантычнай частцы артыкула падаюцца іншыя ўтварэнні (прыметнік, дзеяслоў, прыслоўе) ад таго ж, што і загалоўнае слова,

кораня, і на аснове гэтага ўстанаўліваецца значэнне загалоўнага слова.

Пасля значэння ў дужках скарочана абазначана крыніца, з якой узята апелятыўная паралель. Спіс скарачэнняў прыведзены ў канцы працы.

§ 6. Прозвішчы, утвораныя ад агульнай утвараючай асновы, уваходзяць у агульны прозвішчны рад. Асобныя члены яго аб'ядноўваюцца асновай і адрозніваюцца адзін ад другога спосабам утварэння ці ўтвараючымі фармантамі. Прозвішчы, утвораныя ад пачатковай нейтральнай формы назоўніка ці прыметніка, і прозвішчы, утвораныя ад кожнай эмацыянальна-ацэначнай формы тых жа назоўнікаў і прыметнікаў, уваходзяць у асобныя, самастойныя прозвішчныя рады, але разглядаюцца ў агульных слоўнікавых артыкулах. У прозвішчным радзе прозвішчы падаюцца ў наступнай чарговасці: без фарманта на *-оў/-аў/-еў, -ін/-ын, -овіч/-авіч/-евіч/-эвіч, -іч/-ыч, -енка/-энка/-анка, -ёнак/-онак, -еня/-эня, -ук/-юк.* Адзін прозвішчны рад ад другога аддзяляецца кропкай з коскай.

§ 7. Пасля прозвішчаў у слоўнікавым артыкуле прыводзяцца антрапанімічныя паралелі: беларускія, рускія і ўкраінскія імёны-мянушкі XV—XVIII стст., утвораныя ад той жа асновы, што і прозвішчы; і сучасныя рускія прозвішчы. Беларускія імёны-мянушкі сабраны аўтарам з помнікаў пісьменнасці XV—XVIII стст., а рускія і ўкраінскія — узяты з працы Н. П. Тупікава «Словарь древнерусских личных имён». У слоўнікавых артыкулах з загалоўным словам цюркскага паходжання прыводзяцца антрапанімічныя паралелі з цюркскіх моў. Гэтым аўтар падкрэслівае, што беларускае прозвішча з цюркскай асновай магло ўзнікнуць на аснове імені-мянушкі, носьбітам якой мог быць і беларус, і на аснове цюркскага імені, носьбітам якога мог быць толькі цюрак.

Рускія прозвішчы падаюцца па працы Мартона Бенсана Dictionary of Russian Personal Names (Філадэльфія, 1964). Гэта наглядна паказвае, якія асновы з'яўляюцца агульнымі для беларускай і рускай антрапаніміі, а якія ўласцівы толькі першай з іх. На жаль аўтар не меў магчымасці прывесці ўкраінскія прозвішчы. У капітальнай працы Ю. К. Радзько «Сучасні українські прізвища» разглядаецца марфалагічная структура прозвішчаў і семантыка іх асноў.

§ 8. Слоўнікавыя артыкулы распрацаваны надзвычай лаканічна, і многія з іх на першы погляд здаюцца пазбаўленымі не толькі элемента даследавання, але нават і дастатковай інфармацыі. Таму не лішнім будзе паказаць, як аўтар сам разумее змест слоўнікавых артыкулаў.

Возьмем слоўнікавы артыкул БОНДАР (гл. стар. 58). Яго можна прачытаць так. У ліку лексічных адзінак, на базе якіх утварыліся сучасныя беларускія прозвішчы, знаходзіцца і агульнавядомае ў Беларусі слова *бондар*, якое мае значэнне 'майстар, што вырабляе цабры, бочкі'. Але прозвішчы ўтвараліся не на базе апелятыва *бондар*. На аснове яго ўзніклі імёны-мянушкі, а ад іх — прозвішчы. Пры ўтварэнні беларускіх прозвішчаў аснова *бондар* была надзвычай прадуктыўнай. Аб гэтым сведчыць тое, што ў якасці ўтваруючай асновы гэта слова выкарыстоўвалася не толькі ў нейтральным значэнні, але і яго эмацыянальна-ацэначныя формы: *бандарок, бандарык, бандарчык, бондарчык, бандарэц*. Аб прадуктыўнасці слова *бондар* ва ўтварэнні прозвішчаў сведчыць і тое, што ад яго беларускія прозвішчы ўтвораны семантычным шляхам (*Бондар*) і пры дапамозе прозвішчаўтваральных фармантаў *-аў, -овіч, -эвіч, -энка, -онак, -ук, -чук* (*Бондараў, Бандаровіч, Бандарэвіч, Бандарэнка, Бандаронак, Бандарук, Бандарчук*), г. зн. рэалізаваны амаль усе мадэлі другасных прозвішчаў (акрамя мадэлі з суф. *-эня*). Прозвішчы *Бандарук, Бандарчук* маглі ўзнікнуць і іншым шляхам — непасрэдна з апелятываў *бандарук, бандарчук* 'сын бондара'. Ад эмацыянальна-ацэначных форм прозвішчы ўтвораны семантычным шляхам, а ад некаторых яшчэ і пры дапамозе суфікса *-оў/-аў* (*Бандарок, Бандаркоў, Бандарык, Бандарчык, Бандарэц, Бондарац, Бондарцаў*). Слова *бондар* у беларускай антрапаніміі выкарыстоўвалася ў XVII—XVIII стст. Яно выступала ў функцыі імені-мянушкі чалавека (*Бондар, Бондарка*), якую хутчэй за ўсё ён атрымаў па сваіму занятку. Разглядаемая аснова прадстаўлена і ў рускіх прозвішчах (*Бондарь, Бондарев, Бондаренко, Бондарчук, Бондаревский*), а таксама ў украінскіх. Гэта значыць, прозвішчаўтвараючая аснова *бондар* з'яўляецца агульнай для ўсходнеславянскіх моў.

Возьмем яшчэ адзін слоўнікавы артыкул, які належыць да групы самых лаканічных: БОНДАЛ — *Бондал*. Яго можна прачытаць так. Слова *бондал* па семантыцы і

моўнай прыналежнасці «цёмнае». У беларускай антрапаніміі ў якасці прозвішчаўтваральнай асновы яно непрадуктыўнае — ад яго ўтворана толькі адно прозвішча (*Бондал*). У дапрозвішчны перыяд, як сведчаць помнікі пісьменнасці, аснова не выкарыстоўвалася. Сучасныя рускія прозвішчы ад слова *бондал* невядомы.

§ 9. Месца націску абазначана толькі ў беларускіх прозвішчах.

§ 10. З пункту погляду моўнай прыналежнасці рэканструяваныя ўтваральныя асновы характарызуюцца наступным чынам. Каля 55% іх знаходзіць тлумачэнне на базе лексікі беларускай мовы, прыкладна 6% асноў—на базе лексікі рускай мовы і каля 3%—на базе ўкраінскай. Цюркскага і літоўскага паходжання—прыкладна па 3% асноў. Каля 33% рэканструяваных асноў з'яўляюцца цёмнымі. Зразумела, што вынікі даследавання лексіка-семантычнага саставу ўтваральных асноў трэба лічыць толькі папярэднімі як па рэканструкцыі, так і па тлумачэнню асноў, не кажучы ўжо аб тым, што трэцяя частка рэканструкцый наогул не знайшла асвятлення.

Граматычная структура ўтваральных асноў патрабуе спецыяльнага даследавання.

* * *

Праца пабудавана на матэрыяле, сабраным у 930 н. п. Беларусі і з перыядычнага друку. Матэрыял па беларускай гістарычнай антрапаніміі пачэрпнуты з пісьмовых крыніц XV—XVIII стст. (гл. БА, I, стар. 6—10).

## ЛЕКСІКА-СЕМАНТЫЧНЫ САСТАЎ УТВАРАЮЧЫХ АСНОЎ

*АБАБУРКА.— *Абабу́рка.* Параўн. БАБУРА, БАБУРКА

*АБАЛІКШТА.— *Абалікшта*

АБАЛІХА.— *Абаліхін.* Параўн. АБАЛЬ

*АБАЛЬ, *АБОЛЯ, *ОБАЛЬ параўн. літ. *obalis, obelē* 'яблыня', *obuolỹs, óbalas* 'яблык' (Фрэнк.).— *Абале́віч.* СЛП *Оболіс, Обалевічюс*

АБЖЫГАЙЛА ад *обжигать* 'апальваць', г. зн. 'які апальвае гліняную пасуду'? — *Абжыга́йла.* Параўн. АЖЫГАР

АБІБОК 'гультай, лежань'.— *Абібо́к, Абібак* з пераносам націску

АБІДА.— *Абі́да.* Рус. у XVII ст. *Обида* (Туп.). СРП *Обидин*

*АБІЗУРА.— *Абізу́ра*

АБІРАЛА ад *абіраць,* г. зн. 'той, хто абірае'? — *Абіра́ла́*

АБЛАВУШКА 'мужчынская шапка з вушамі' (Нас.).— *Аблаву́шка*

АБЛАМ 'футра, шкурка з ворсам' (Нас.).— *Абла́м, Абла́маў, Абла́менка, Абламе́йка.* СРП *Абламов*

*АБЛЕЦ.— *Бле́ц.* Параўн. АБЛЯК

АБЛОГА 'запушчаны, неапрацоўваемы кусок поля', рэг. 'гультай, лежань' (Дзярж.— М. Б.).— *Абло́гін*

АБЛЯК рэг. 'плотка' (Палессе — Крыв.), ст. рус. *облякъ* 'мужчынскае адзенне'? (Ср. II, 530), рус. курск. *абляк* 'тоўстае здаровае дзіця' (Хал.), польск. *obłak* 'кусок дрэва, калода, кругляк, прадаўгаваты камень' (Карл.), параўн. ст. рус. *обьло* 'шар' (Ср.), укр. *віблий* 'круглы, цыліндрычны' (Грынч.), магчыма, цюрк., параўн.

тур. *абляк* 'таўсташчокі' (ТБР). СБП, відаць, на аснове агульнага значэння 'круглашчокі, паўнашчокі', 'тоўсты, пузаты'.— *Абляк*

АБМЕТКА рэг. 'жаночы галаўны ўбор, намётка' (Шейн, Сб. ОРЯС, 72, стр. 49), магчыма, 'той, хто абмятае' ці 'тое, чым абмятаюць'.— *Абмётка, Абмётка.* Бел. у XVI ст. *Обметка* (Туп.).

АБОЗ 'абоз', укр. обоз 'артылерыя', 'лагер' (Піск.), магчыма, памянш. ад *абозня* 'будынак для павозак і саней' (БРС), 'вялікая няўтульная хата' (Янк., I).— *Абозенка*

АБОЗНЫ ўкр. *обозний* 'вайсковы чыноўнік' (Піск.).— *Абозны*

АБОЙ польск. *oboj, obój* 'хата на дзве сям'і', 'лянівы чалавек, конь ці вол, якога біццём прымушаюць працаваць' (Карл.).— *Абоеў*

*АБОКША.— *Абакшонак*

АБОРА 'вяровачка ў лапцях', 'кароўнік'.— *Абарэвіч.* Рус. у XV—XVI стст. *Обора* (Туп.). СРП *Оборин, Оборенков*

АБРАЗ, памянш. АБРАЗЕЦ 'ікона'.— *Абразцоў; Абразоўскі.* Рус. у XV—XVII стст. *Образец* (Туп.). СРП *Образцов, Образков*

АБРУЧ.— *Абручоў.* СРП *Обручев*

*АБРЫНЬБА. — *Абрыньба*

АБУГЕЛЬ.— *Абугель* у выніку асваення ЛП *Абугеліс, Абугеляс*

АБУЗ(А).— *Абузаў*

АБУХ, памянш. АБУШОК.— *Абух, Обух, Абуховіч, Абушанка; Абушок, Абушко, Абушкевіч; Абухоўскі.* Рус. у XVI ст. *Обух* (Туп.). СРП *Обух, Обухов, Обуховский*

*АБЦЭШКА.— *Абцэшка*

АБЯДЗІХА.— *Абядзіхін*

АВАДА ст. рус. *овада* 'нагавор, паклёп' (Ср.), бел. рэг. *авад* 'авадзень' (Нас.).— *Авада.* Рус. у XVII ст. *Овод* (Туп.)

АВАДЗЕНЬ.— *Аваднёў*

АВЕЧКА.— *Авечка, Авечкін.* Бел. у XVI ст. *Овечка* (БА, I, 240). СРП *Овечкин*

АВЕС.— *Аўсоў; Аўсюк, Аўсюкевіч; Аўсянскі.* Параўн. АЎСЮК. СРП *Овсов*

АГАЛЕЦ рус. *оголец* 'хлапчук-свавольнік' (СРЯ).— *Агальцоў*

*АГАР.— *Агáраў.* СРП Огарёв

АГАРАК.— *Агáрак.* Рус. у XV—XVI стст. *Огарок* (Туп.). СРП *Огаркин, Огарков*

АГАРОДНІК 'той, хто вырошчвае агароднiну', бел. устар. *огородник* 'селянін, які меў тры маргі агароду, за што выконваў службу адзін раз у тыдзень, а жонка 6 дзён за лета жала' (Гарб.).— *Агарóднік, Агарóднікаў.* Бел. і рус. у XVI—XVII стст. *Огородник* (Туп.). СРП *Огородник*

АГАРОДНЫ, АГАРОДНІ.— *Агарóдны; Агарóднеў*

АГАРЭЛІК 'гарэлік'?, 'абгарэлы'? — *Агарэ́лік.* Параўн. бел. у XVI ст. *Огорелок* (БА, I, 214). СРП *Огòрелин*

*АГРАН.— *Агрáнаў; Агранóўскі*

АГРЫЗКА 'той, хто агрызаецца'? — *Агры́зка.* Бел. у XVI ст. *Огрызко* (БА, I, 214). СРП *Огрызко, Огрызков*

*АГРЫМ(А).— *Агрымóвіч*

АГРЭНЬ параўн. ст. рус. *огренуться,* перан. 'адысці, аддаліцца' (Ср.).— *Агрэ́ніч*

АГУЛЬНІК 'агульны, якім карыстаюцца ўсе'? — *Агýльнік*

*АГУРЖА.— *Агуржы́н*

АГУРЭЦ бел. рэг. і рус. *огурец* 'агурок'.— *Агурцóў; Агурэ́цкі.* СРП *Огурцов*

АГУР'ЯН параўн. рэг. *агурыцца* 'прывыкнуць, апусціцца' (Дзярж.— М. Б.).— *Агур'я́наў.* Параўн. СРП *Огуряев*

АДАШ тат., узб. *адаш* 'цёзка' (ТРС, УРС), кірг. 'пачцівы'— зварот да незнаёмага мужчыны (КРС).— *Адáш.* СРП *Адашев*

АДДЗЕЛЬНЫ рэг. 'асобны'.— *Аддзéльны.* СРП *Отдельнов*

АДЗІНЕЦ, АДЫНЕЦ ст. рус. *одиньць* 'адзінокі, бессямейны чалавек' (Ср.).— *Адзінéц, Адзінцóў, Адзянцóў* пры [і]>[я]; *Адынéц* пры [дз']>[д]. Бел. у XVII—XVIII стст. *Одинец* (Туп., БА, I, 241). Рус. у XV—XVII стст. *Одинец* (Туп.). СРП *Одинцов*

АДЗІНОКІ.— *Адзінóкі, Адзінóкаў.* СРП *Одиноков*

АДЗІНОЧКА 'які жыве адзін'? — *Адзінóчкін.* СРП *Одиночкин*

*АДЗІЯН.— *Адзія́наў*

АДЗЯРЫХА.— *Адзяры́ха.* Параўн. бел. у XVII ст. *Одзеруха* (Туп.)

АДКЛЕЙКА, відаць, ад *адклеіць.— Адклéйкін*

АДНАМАХ складанае са спалучэння *адным махам, з аднаго маху* 'скоры ў рабоце, які выконвае ўсё адным махам'? — *Аднамáх*

АДЫНЕЦ гл. АДЗІНЕЦ

АДЫР, памянш. АДЫРЭЦ кірг., туркм., 'узгорак, узгоркі' (КРС, ТуРС).— *Адырэ́ц*

*АДЫРЭЙ.— *Адырэ́й*

АЖАР башк. 'мужнасць' (БаРС), кірг. 'прыгожы колер твару', 'абаяльны знешні від' (КРС).— *Ажáр*. Каз. УІ *Ажарбек* (Жануз.)

*АЖГА.— *Ажгін*

АЖГІР тат. *ажгыру* 'раззлавацца' (ТРС).— *Ажгірэ́віч*

*АЖГІРЭЙ.— *Ажгірэ́й*

АЖОГА ад *ожечь, ожигать* 'абпаліць, абпальваць', г. зн. 'абпалены' ці 'той, які абпальвае'.— *Ажóга*. Рус. у XV—XVI стст. *Ожога* (Туп.). СРП *Ажогин, Ожогин, Ожогов, Ожегов; Ожигов, Ожегов*

*АЖОЙ, памянш. АЖОЙЧЫК.— *Ажóйчык*

АЖЫГАР ад *ожигать* 'абпальваць', г. зн. 'той, які абпальвае пасуду, ганчар'? — *Ажыгáр*. Параўн. АБЖЫГАЙЛА

АЖЭЛЬ.— *Ажэ́ль* у выніку асваення ЛП *Ажэліс. Ожеліс*

АЗАРД рэг. 'азарт', з тат. *азарт* (ТРС).— *Азáрд, Азардóвіч*

*АЗАРХ.— *Азáрх*

АЗЕРНІК 'азёрны наглядчык'? ці 'той, які жыве ля возера або ў в. Возера'? — *Азéрнік*

АЗЁРНЫ 'азёрны наглядчык'? ці 'той, які жыве ля возера'?— *Азёрны, Азярноў*. СРП *Озерной*

АЗІМКА рэг. 'зімка, азімая пшаніца' (Пол.— М. Судн.).— *Азíмка*. Магчыма, памянш. ад цюрк. УІ, параўн. каз. УІ *Азім* (Жануз.). Рус. у XVII ст. *Озим* (Туп.). Бел. у XVI ст. *Озимко* (БА, I, 241). СРП *Озимков*

АЗІМЫ 'пасеяны да зімы', 'які нарадзіўся перад зімой'? — *Азíмы, Азíмаў*

*АЗОЙ.— *Азóенка*

*АЗОЛЯ.— *Азóлін*

*АЗОН, памянш. АЗОНЧЫК.— *Азóнчык*

*АЗРЭЛЬ, параўн. кірг. *Азраіл* 'ангел смерці' (КРС).— *Азрэ́леў*

*АЗУКА.— *Азýка*

АЗЯВА, памянш. АЗЯЎЧЫК параўн. рэг. *азяў* 'узяў', г. зн. 'той, які ўзяў, браў'.— *Азя́ўчыкаў*

АЙБІНДЭР параўн. кірг. *айбандар* 'жывёльны, жывёлін' (КРС).— *Айбíндэр*

АКАВІТЫ, магчыма, ад *вока* з суфіксам *-авіты*, параўн. таксама *акавіта* 'гарэлка, настоеная на карэннях' (Нас.).— *Акавíты*

АКАЛА ці ОКАЛА параўн. *акаць, окаць*, г. зн. 'той, хто адрозніваецца па вымаўленню [а] або [о]', параўн. таксама ст. рус. *окаляти* 'пэцкаць, брудзіць' (Ср.).— *Акалóвіч*. СРП *Околов*

АКАЛЕЛЫ 'той, які змёрз, азяб', 'той, які здох'.— *Акалéлаў*

АКАЛОТ 'сноп, абмалочаны без развязвання'.— *Акалóт, Акалатóвіч*

АКНО, памянш. АКЕНЦА, АКЕНКА.— *Акéнчыц*, ?*Акíнчыц* пры [е]>[і]

*АКОСТКА.— *Акóстка*

АКОТ, памянш. АКОТЧЫК 'акот, перыяд, калі коцяцца авечкі', рэг. 'валаскі на каласках збожжа' (КСЧ).— *Акацэ́віч, Акачóнак; Акóтчык*

АКРУЖНЫ 'які адносіцца да акругі', 'размешчаны на акружнасці', ст. рус. *окружьныи* 'суседні, які знаходзіцца навокал' (Ср.).— *Акружны́*

АКСАК тур. 'храмы, кульгавы' (ТБР), тат. тое ж (ТРС), кірг. тое ж (КРС), алт. тое ж (Залатн.).— *Аксáк*. Рус. і ўкр. у XVI—XVII стст. *Аксак* (Туп.). СРП *Аксаков*

АКСАМІТ.— *Аксамíт, Аксамíтаў*

*АКТАНАР.— *Актанарóвіч*. Параўн. АКТУН

*АКТУН.— *Актунóвіч*. Каз. УІ *Актан* (Жануз.)

*АКУДА.— *Акудóвіч*

АКУЛА, памянш. АКУЛКА, АКУЛЬЧЫК.— *Акýла, Акýлаў, Акулóвіч, Акулéвіч, Акýліч, Акулёнак, Акýленка, Акýлінка* пры [е]>[і]; *Акýлка, Акýльчык*. Усе СБП магчымы і ад УІ *Акула*<*Акила* (БА, І, 23). СРП *Окулов*.

АКУНЬ, памянш. АКУНЕЦ.— *Акунёў, Акунéвіч, Óкунеў; Акунéц*. Рус. у XV—XVII стст. *Окунь, Окунько* (Туп.). СРП *Окунев, Окуньков*

АКУТЫ 'акаваны', *АКУТ(А).— *Акуцёнак*. СРП *Акутин*

АКЦЫЗНЫ ўстар. 'акцызнік, чыноўнік па акцызу — пітному водкупу'.— *Акцызны*

АЛ тур. 'ружовы', 'хітрасць', 'сям'я' (ТБР), тат. 'ружовы', 'пярэдні' (ТРС), кірг. 'сіла', (КРС).— *Алаў*

АЛАДКА.— *Аладка*. Бел. у XVI—XVII стст. *Оладя* (БА, I, 214). Рус. у XV—XVI стст. *Оладко, Оладья* (Туп.). СРП *Аладьин, Аладушкин, ?Аладьев*

АЛАЙ тур. 'полк', 'працэсія, шэсце' (ТБР), тат. 'так, гэтак' (ТРС), кірг. 'глухі', 'так, гэтак' (КРС), башк. устар. 'полк' (БаРС).— *Алай*. Рус. у XVI—XVII стст. *Алай* (Туп.). СРП *Алаев*

АЛАНЬ туркм. 'горка, узгорак, бугор' (ТуРС).— *Аланьеў*. СРП *Аланин*. Параўн. каз. УІ *Алан* (Жануз.)

АЛБУЛ чув. 'пан' (Залатн.).— *Албул*

АЛДАН тат. 'спераду, спачатку' (ТРС), кірг. 'перад, пярэдняя частка' (КРС).— *Алданаў*. СРП *Алданов*. Каз. УІ *Алданазар* (Жануз.)

АЛЕЙ, памянш. АЛЕЙКА.— *Алейчанка*

АЛЕЙНІК 'той, які робіць алей'.— *Алейнік, Алейнікаў*. Бел. у XVI—XVII стст. *Олейник* (БА, I, 241; Туп.). Укр. у XVII ст. *Олейник* (Туп.). СРП *Олейник, Олейников, Алейников; Алейничук*

АЛЕНЬ, памянш. АЛЕНІК, АЛЕНЬЧЫК, АЛЯНЁК, АЛЯНЕЦ.— *Аленіч; Аленікаў; Алёнчык; Аляньков; Алянцэвіч*. Магчыма ўтварэнне прыведзеных СБП і ад жан. УІ *Алена<Елена*. Рус. у XVII ст. *Олень, Оленик* (Туп.). СРП *Оленев, Аленев, ?Оленин, ?Аленин, Оленичев, Аленичев, Олеников, Оленевский*

*АЛІТОЙЦЬ.— *Алітойць*

АЛПАТ тат. *алпаут* 'пан' (Залатн.).— *Алпатаў*. СРП *Алпатов, Алпатьев, Алпаткін*

АЛТЫН устар. 'грашовая адзінка'.— *Алтынаў*. СРП *Алтынов*

*АЛЫБА.— *Алыбін*. СРП *Алыбин*

АЛЫКА кірг. гіст. *алык* 'дань' (КРС), чув. *алык* 'дзверы' (Залатн.).— *Алыка*

АЛЬВАС рэг. 'альяс' (Дзярж.— М. Б.).— *Альвас*

*АЛЬД.— *Альдаў*

*АЛЬСА.— *Альсевіч*

АЛЬХА рэг. 'алешына, вольха' (Дзярж.— М. Б.).— *Альховіч, Альшук; Альхоўскі, Альшынскі, Алшэўскі, Альшоўскі*. СРП *Ольхин, ?Ольхов, Ольховский, Ольшевский, Ольшинский, Ольшанский*

АЛЬХАВЕЦ 'той, які жыве ў альховым лесе ці каля яго'?, 'жыхар вёскі Альха (Вольхі, Альховае)'? — *Альхавéц*

АЛЬХАВІК, АЛЬХОВІК.— *Альхавíк, Альхóвік, Альхóвікаў.* Рус. у XVII ст. *Ольховик* (Туп.). СРП *Ольховиков.* Параўн. АЛЬХАВЕЦ

АЛЬХОВЫ.— *Альхóвы.* СРП *Ольховой*

АЛЬХОЎКА.— *Альхóўка.* Бел. у XVIII ст. *Ольховка* (Туп.). Параўн. АЛЬХАВЕЦ

*АЛЬЦЫВАН.— *Альцыванóвіч*

АЛЬШАНІК рэг. 'алешнік' (Ст.-дар.— Э. Л.), ст. рус. *ольшаник* 'алешнік, альховы лес' (Ср.).— *Альшáнік, Альшáнікаў.* Бел. у XVI ст. *Ольшаник* (БА, I, 241)

АЛЬШЫНЕЦ з в. Альха, Вольхі, Альховае, Альшына.— *Альшынéц*

*АМЕГА рэг. *воміга* 'перасол' (Нас.), *вомігам* 'моцна, жорстка' (Нас.), рус. смал. *вомег, омег* 'горасць, нешта горкае, ядавітае' (Даль), смал. *омяга* 'стомленасць' (Дабр.).— *Амéга*

АМІР, відаць, з *эмір.— Аміраў.* Каз. УІ *Амір* (Жануз.)

*АМРОМА.— *Амрóмін*

АМФІТЭАТР.— *Амфітэáтр*

АНАДА укр. *онада* 'прыманка' (Грынч.).— *Анáдзéнка*

*АНАР.— *Анарóвіч.* Каз. УІ *Анар* (Жануз.)

АНГА ўзб. устар. *анга* 'ён, яна, яно' (УРС).— *Áнжанкаў*

*АНГОЛА.— *Анróлаў*

АНГУР параўн. кірг. *ангыр* аб прадметах 'вузлаваты, каравы', аб дарозе 'з выбоінамі, няроўная' (КРС).— *Ангýр*

АНДАЛА кірг. *андала* 'разыходзіцца ў розныя бакі, кідацца ўрассыпную' (КРС), кірг. *андал* аб дарозе 'пакрыцца выбоінамі' (КРС).— *Андáла*

*АНДЗІЛА.— *Андзілóвіч, ?Андзюлéвіч; Андзілéўка; Андзілéўскі*

*АНЗЕЛЬ.— *Анзéль* у выніку асваення ЛП *Анзеліс*

*АНІП(А), памянш. АНІПКА.— *Аніпка*

*АНКІН.— *Анкінóвіч.* СРП *Онкин*

*АНКІП.— *Анкіп*

*АНКУД, *АНКУДА.— *Анкýд, Анкýт* пры [д]>[т], *Анкýда, Анкудóвіч; Анкудзінаў.* СРП *Анкудинов*

*АНОДА, памянш. АНОДКА. — *Анóдчанка.* СРП *Анодин*

*АНОКА.— *Анóка; Анóцкі*

*АНОП.— *Анóп*

АНТРОП гр. *антропос* 'чалавек'.— *Антрóпаў.* СРП *Антропов*

*АНЦЁТКА.— *Анцётка*

*АНЦІХОР.— *Анціхóраў*

*АНЦУГАЙ.— *Анцугáй*

АНЦЫБАЛ рус. курск. лаянлівае слова 'чорт, сатана, д'ябал' (Хал. Сб. ОРЯС, т. 76, стр. 18; Кард. Уч. зап. Моск. обл. пед. инст., т. 35, вып. 3, стр. 195).— *Анцыбáлаў*

АПАЛЬКА, ідаць, ад *апаліць* 'абпаліць, апячы' ці ст. рус. *опалиться* 'гневацца' (Ср.), г. зн. 'апечаны, абпалены' ці 'гняўлівы, успыльчывы' — *Апáлька.* Бел. у XVII ст. *Опалько* (БА, I, 241). СРП *Апальков*

АПАНТАНЫ.— *Апантáны*

АПАРА, памянш. АПАРЭЦ ад *апáрыць* ці ад *апора?* — *Апарóвіч, Апарэвіч, Апарцоў.* Параўн. СЛП *Апарас*

АПЕНЬКА, рэг. АПЁНАК грыб 'апенька'.— *Апéнька; Апёнка, Апéнкін, Апéнчанка.* СРП *Опенкин*

*АПЕТ.— *Апéт, Апяцёнак; Апэт, ?Апáцкі.* СРП *Апетов*

АПЁК, АПЕЧАНЫ.— *Апячóнак*

АПОКА рэг. 'гультай, лежабок' (Бяльк., Юрч., Краснап.— В. Л.) 'аб'ядала' (Нас.), рус. смал. тое ж (Дабр.), ст. бел. *опока* 'камень; каменная скала' (Нас., АУ), ст. рус. 'вапняк, белая гліна' (Ср.).— *Апóка*

*АПОЛЯ, памянш. АПОЛЬКА.— *Апóлька; Апóльскі, Апалінскі.* Рус. у XVI ст. *Ополя.* Бел. у XVII ст. *Аполко* (БА, I, 241)

АПРАНА ад *апрануць?,* г. зн. 'адзенне'? — *Апрáніч*

АПУНА параўн. ст. рус. *опона* 'занавес, заслона, пакрывала' (Ср.).— *Апунéвіч*

АПУХА ў футры 'аблямоўка, абшыўка', рэг. 'закрыліна саламянай страхі, дошка над франтонам, якая трымае салому' (Дзярж.— М. Б.).— *Апухóвіч; Апухóўскі*

АРАБА тур. 'павозка, арба' (ТБР), кірг. тое ж (КРС), чув. *ораба* тое ж (Залатн.).— *Арабін*

АРАБЕЙ, памянш. АРАБЕЙКА рэг. 'верабей'.— *Арабéй; Арабéйка.* Параўн. ВЕРАБЕЙ

АРАБІНА рэг. 'рабіна' (Янк., I).— *Арабіна.* Параўн. РАБІНА

АРАБОК.— *Арабóк.* Параўн. АРАБЕЙ

*АРАЙ.— *Арáеў.* Каз. УІ *Арай* (Жануз.)

АРАКЧЭЙ, РАКЧЭЙ тат. *аракчы* 'п'яніца' (Труб. Этимология, 1968, стр. 46).— *Аракчэеў; Ракчэеў.* СРП *Аракчеев, Ракчеев*

АРБУЗ рэг., рус. 'гарбуз', з тат. *карбуз* (Дзмітр.)— *Áрбузаў.* Чув. УІ *Арбуз* (Магн.). Бел. у XVII ст. *Арбуз* (Туп.). СРП *Арбузов.* Параўн. ГАРБУЗ

АРГОН параўн. кірг. *аргун* 'помесь каровы і яка', 'помесь, гібрыд, метыс', 'ялаўка' (КРС).— *Аргóнаў.* СРП *Аргунов*

АРДА 'арда', рус. смал. 'зборышча, натоўп', 'шум, буянства' (Дабр.), ст рус. *орда* 'стаянка, качэўе', 'полчышча' (Ср.), з тур. *орду* 'палатка хана' (Уш., II).— *Ардá; ?Ардó, Ардыцкі.* Бел. у XVI—XVII стст. *Орда* (БА, I, 241; Туп.). СРП *Ордин, ?Ордов, ?Ардов*

*АРДАТ.— *Ардáтаў*

*АРДАШНІК параўн. тур. *орудаш* 'з таго войска' (Шынк.).— *Ардáшнікаў*

*АРДЗЯКА.— *Ардзя́ка.* Параўн. АРДА

АРДЫНЕЦ ст. рус. *ординьць, ордыньць* 'палоннік, выкуплены з ардынскага палону' (Ср.).— *Ардынец.* Бел. у XVI—XVII стст. *Ордынец* (БА, I, 241). СРП *Ордынцев*

АРЖАНІК, відаць, ад *аржаны.— Аржáнік*

АРЖАНЫ рэг. РЖАНЫ 'аржаны, жытні'.— *Аржаны, Аржáнаў, Аржанóвіч; Ржаны, Ржáнскі.* СРП *Аржанов, Аржанков, Ржанов, Ржаных*

*АРЖАУТ.— *Аржáут*

*АРКУТ(А), памянш. *АРКУЦІК.— *Аркýцік*

АРЛЁНАК.— *Арлёнак, Арлянкéвіч.* Параўн. АРОЛ

АРМОНІК параўн. казах. *орман* 'лес' (КРС), магчыма, фанетычна з *гармонік*— параўн. ст. бел. *орностай, осподарь* (Нас., АУ).— *Армóнік.* Параўн. каз. УІ *Орман* (Жануз). СРП *Орманов*

АРОЛ, памянш. ОРЛІК.— *Арóл, Арлóў; Арлёнак, Арлянкéвіч; Óрлік.* Бел. у XVI ст. *Орел, Орол* (БА, I. 241). Рус. у XV—XVIII стст. *Орел, Орлик* (Туп.). СРП *Орлов, ?Орлин, Орловцев, Орловский*

*АРОЧКА.— *Арóчка.* СРП *Орочко*

АРТЫШ, памянш. АРТЫШОК башк. 'ядловец' (БаРС), алт. тое ж (Залатн.), кірг. 'лішняе, лішак' (КРС).— *Артыш, Артышóнак; Артышóк*

*АРУШ, *АРУХ.— *Арушо́нак*

АРХІРЭЙ.— *Архірэ́еў*. СРП *Архиреев*

АРЧАК, ВАРЧАК рэг. 'прыпражны конь' (Нас.), сг. рус. *арчакъ, орчак* 'драўляная аснова сядла' з таг. *арчак* 'сядзельная лука' (Фасм.), параўн. *ингырчак* 'падсядзёлак' (Ср.).— *Арчако́ў*. СРП *Арчаков, Арчаковский*

АРШЫН.— *Аршы́наў*. СРП *Аршинов*

АРЫШ тат. 'жыта', 'аржаны' (ТРС).— *А́рышаў*

*АРЭТ.— *Арэ́таў*. СРП *Аретов*

АРЭХ, памянш. АРЭШАК.— *Арэ́х, Арэ́хаў, Арашо́нкаў; Арэ́шка, Арашко́ў, Арашке́віч; Аржахоўскі* з польск. *orzech* 'арэх'. Рус. у XV—XVII стст. *Орех, Орешко* (Туп.). СРП *Орехов, Орехович, Орешенков, Орешонков, ?Орешкин, Орешин, Орешков*

*АРЭЦ.— *Арцэ́віч*

АСАВЕЦ з в. Осава, Осаў.— *Асаве́ц*

АСАДЧЫ, памянш. АСАДЧЫК укр. *осадчий* 'асаднік, першапасяленец, заснавальнік паселішча' (Грынч.).— *Аса́дчы, Аса́дчанка, Аса́дчых; Асадчу́к; Аса́дчык*. Укр. у XVII ст. *Осадчий* (Туп.). СРП *Осадчий, Осадченко, Осадчиев*

АСАКА.— *Асака́*. Рус. у XV—XVII стст. *Осока* (Туп.). СРП *Осокин*

АСАН кірг. 'лёгкі, просты, нескладаны для выканання' (КРС), башк. аб чалавеку 'сухарлявы, хударлявы' (БаРС).— *Аса́наў, Асано́віч*. Кірг., каз. УІ *Асан* (КРС, Жануз.). Рус. у XVI—XVII стст. *Осан, Асанчюк* (Туп.). СРП *Асанов*

АСЕДА, ідаць, ад *асядаць*.— *Асе́да*

*АСЕЙ, памянш. АСЕЙКА.— *Асію́к; Асе́йка*

АСЁЛ.— *Аслю́к*

АСІЛАК.— *Асі́лак, Асі́лкін*

АСІНА. — *Асі́ненка; Асіно́ўскі*. СРП *Осинин, Осинкин, Осиновский*

АСІНАВІК 'той, які жыве ў асінавым лесе ці каля яго'?, 'жыхар вёскі Асіна (Асіны, Асінавае)'? — *Асі́навік*

*АСКА.— *Аскі́н*. СРП *Оскин*

*АСКАБА.— *Аскабо́віч; ?Васкабо́віч* з прыстаўным [в], магчыма і ад *Васкабой* з суф. *-іч* і ўстаўным [в]

АСКЕР, памянш. АСКЕРКА араб. *аскер* 'войска', 'воін, салдат' засвоена многімі цюрк. мовамі (Дзмітр.): тур. 'воін', баец', 'ваяўнічы' (ТБР), кірг. 'войска', устар.

'салдат, воін' (КРС), у рускай мове з тур.— так звалі рускія турэцкіх салдат (Дзмітр.).—*Аскéраў; Аскéрка, Аскірка.* Каз. УІ *Аскер* (Жануз.). Бел. у XVII ст. *Оскерка.* СРП *Оскеров*

АСКОЛАК.— *Аскóлак, ?Аскóлкін.* Бел. у XVIII ст. *Асколак* (БА, I, 242). СРП *Осколков*

*АСКУНТ.— *Аскунтóвіч*

АСМАК ст. бел. *осмакъ* 'манета ў восьмую частку гроша' (Нас., АУ), ст. рус. *осмакъ* тое ж (Дзюверн.).— *Асмакóвіч; Асмакóўскі*

*АСМЫК(А).— *Асмыкóвіч*

АСОБА, памянш. АСОБІК.— *Асóбік*

АСОКА ст. бел. *осока* 'сабака-сышчык, які высочвае звера ці яго логава' (Нас., АУ), ст. рус. *осока, осокъ* 'аблава на звера' (Ср.).— *Асóка. Асóкін*

*АСОМ, памянш. АСОМЧЫК.— *Асóмчык; Асóмскі*

*АСОН.— *Асóнаў*

АСТАТАК.— *Асташкéвіч*

АСТРАВІК 'жыхар вострава ці в. Востраў'?, параўн. ст. рус. *островьникъ* 'жыхар вострава'? (Ср.).— *Астравік, Астравічэ́ня*

АСТРАВУХ, АСТРАВУШКА складанае са спалучэння *вострыя вуха* 'які добра чуе, мае вострае вуха'?— *Астравýх, Астравýшка.* Бел. у XVI—XVII стст. *Остроух* (БА, I, 242; Туп.). СРП *Остроухов, Остроушкин*

АСТРАК 'вострыя на язык'?, 'дасціпнік, жартаўнік'?, параўн. рус. *остряк.*— *Астракóў.* СРП *Остряков*

АСТРАЎНЫ.— *Астраўны́; Астраўля́нчык.* Апошняе магчыма ад АСТРАВІК (гл.) і ад айконіма *Востраў* як назва жыхара. СРП *Островнов*

АСТРАШАБ складанае са спалучэння *вострая шабля* 'які ўмела валодае шашкай, ліхі рубака'.— *Астрашáб.* Рус. і ўкр. у XVII ст. *Острая Сабля* (Туп.). СРП *Остросаблин*

*АСТРОМ, *АСТРЭМ.— *Астрамóвіч*

АСТРОЎКА рэг. 'піраміда з сукаватых калоў для сушкі снапоў' (Сл.— М. Б.), параўн. *астрова* 'ствол ёлкі з сукамі, своеасаблівая лесвіца' (Янк., I).— *Астрóўка*

АСТРЭЙКА 'вострыя на язык'?, 'дасціпнік, жартаўнік'.— *Астрэ́йка.* СЛП *Астрейка, Астрейкіс.* Параўн. АСТРАК, ВОСТРЫ

*АСУЛА.— *Асулéвіч*

АСЦЮК.— *Асцю́к, Асцюкéвіч*

АСЦЮЛЬКА рэг., памянш. ад *асцё.* — *Асцю́лькін*

АСЫКА, відаць, ад рэг. *асыкацца* 'рэзка адказваць каму', г. зн. 'які асыкаецца'?— *Асычэ́нка*

АСЯДАЧ 'які асядае'.— *Асяда́ч.* Бел. у XVIII ст. *Асядач* (БА, I, 242)

АТАЙ башк. 'бацька' (БаРС).— *Ата́еў.* Рус. у XVI ст. *Атай* (Туп.)

АТАМАН цюрк. складанае *ата* 'бацька, дзед' і *ман* афікс для ўтварэння павелічальных імён (Дзмітр.).— *Атама́нскі.* Рус. і ўкр. у XVI—XVII стст. *Атаман, Ватаман* (Туп.). СРП *Атаманов*

АТАМАНЧУК 'сын атамана'— *Атаманчу́к.* СРП *Атаманчуков*

*АТАХЕЛЬ.— *Ата́хель*

АТВАЛКА ад рэг. *атваліць* 'адваліць'?— *Атва́лка*

АТЛАН тат. каманда 'па конях, сядай на каня' з *ат* 'конь' і *лан* дзеяслоўны суфікс (Заянч., 37), *атлану* 'садзіцца конна' (ТРС).— *Атла́наў.* Чув. УІ *Атлан* (Магн.)

АТЛІВАНЫ рэг. 'адліваны', г. зн. 'добра зложаны'?, 'прыгожы'?— *Атліва́наў; Атліва́нчык.* Бел. у XVIII ст. *Атливаны, Одливаны* (БА, I, 242). Рус. у XVII ст. *Отливанный* (Туп.)

АТЛЫГА параўн. *залыгаць* 'злавіць, накінуўшы вяроўку', 'уцягнуць у якую-небудзь справу', рэг. 'запрэгчы'; праўдападобна існаванне дзеяслова *атлыгаць* з агульным значэннем 'вызваліць', ад якога **Атлыга* 'які вызваліўся'? ці 'якога вызвалілі'?— *Атлы́гін*

*АТМАН параўн. АТАМАН.— *Атмано́віч.* СЛП *Атмонайтіс*

*АТОКА.— *Ато́ка*

АТОСА.— *Ато́са, Ато́сін*

*АЎЗА.— *Аўзін*

АЎКШТОЛЬ літ. *áukštas* 'высокі'.—*Аўкшто́ль*, у выніку асваення ЛП *Аукштоліс, Аукштуоліс*

АЎЛАН рэг. 'улан'.—*Аўла́наў.* Параўн. УЛАН

АЎРУНА параўн. рэг. *уруна* 'рунь' (Сл. — М. Б.).— *Аўру́нін*

*АЎСІШЧАР.— *Аўсішча́р*

АЎСЮК бат.— *Аўсю́к, Аўсюке́віч*

АЎСЯНІК бат., заал., 'аўсяны блін'.— *Аўся́нік, Аўся́ннік, Аўся́ннікаў.* Бел. у XVI—XVII стст. *Овсяник* (БА, I, 240). Рус. у XV—XVI стст. *Овсяник* (Туп.). СРП *Овсяников, Овсянников*

АЎСЯНЫ.— *Аўсяны, Аўсяновіч.* Рус. у XVI ст. *Овсяной* (Туп.)

*АЎХАЧ.— *Аўхачоў*

АЎЦА рэг. 'авечка'. — *Оўчанка; Аўчук.* Рус. у XV—XVII стст. *Овца* (Туп.). СРП *Овцын, Овчуков.* Параўн. АВЕЧКА

АЎЧАР.— *Аўчароў, Аўчэрэнка.* Бел. у XVII ст. *Авчар* (БА, I, 241). СРП *Овчаров, Овчаренко*

АЎЧЫНА, АЎЧЫНКА.— *Аўчынка.* Бел. у XVII ст. *Овчинка* (Туп.). Рус. у XV—XVII стст. *Овчина* (Туп.). СРП *Овчинкин*

АЎЧЫННІК.— *Аўчыннікаў.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Овчынник, Авчинник* (БА, I, 241). Рус. у XV ст. *Овчинник* (Туп.). СРП *Овчинников*

*АХЛАМ рэг. 'хлам'?— *Ахламёнак*

*АХЛЯБІНА.— *Ахлябінін.* СРП *Охлябинин*

АХОТНІК рэг. 'паляўнічы', 'ахвочы, ахвотны'.— *Ахотнікаў.* СРП *Охотников*

*АХПАШ.— *Ахпаш*

*АХПОЛ(А).— *Ахполаў.* Чув. УІ *Ахпулат* (Магн.)

*АЧКАВЕЦ.— *Ачкавец*

*АЧЫН(А).— *Ачыновіч.* Чув. УІ *Ачин* (Магн.)

*АШАРАП.— *Ашарап*

АШВІЛА параўн. літ. *ašva* 'кабыла' (Атр., II, 37).— *Ашвілаў*

*АШКАЛА.— *Ашкала, ?Ашкяловіч*

*АШМЯГА.— *Ашмяга.* СЛП *Ašmega, Ašmegas*

АШМЯН, АШМЯНЕЦ 'жыхар г. п. Ашмяны'.— *Ашмян, Ашмянец, Ашмянскі.* Бел. у XVI ст. *Ошменец* (БА, I, 242). СЛП *Ašmena, Ašmenas, Ašmenavičius*

*АШОМКА.— *Ашомка*

АШУЙКА 'правая рука'?— *Ашуйка*

АШУРАК, АШУРКА рус. смал. *ошурки* 'рвань, анучы' (Дабр.).— *Ашурак, Ашурка, Ашуркевіч.* Рус. у XV—XVI стст. *Ошурок* (Туп.). СЛП *Ошурка, Ошурко*

АШЭЕК, памянш. АШЭЙЧЫК рэг. 'ашыек'.—*Ашэйчык*

АШЭЙНІК рэг. 'нашыйнік'.— *Ашэйнік*

БАБА.— *Бабіч, Бабічаў, Бабовіч, Бабенка, Бабеня; Бабанюк; Бабінскі, Бабіцкі.* Рус. у XV ст. *Баба* (Туп.). СРП *Бабин, Бабич, Бабичев, Бабиченко, Бабенко, Бабенков, Бабинский, Бабицкий.* Параўн. БАБІЧ, БАБКА

БАБАВОЗ 'той, які возіць боб'? — *Бабавóз*

БАБАЕД 'той, які есць боб'— *Бабаéд*. Рус. у XVI ст. *Бобоед*

БАБАЙ, памянш. БАБАЙКА тат. *бабай* 'стары', 'дзед, дзядуля', 'дзядзя', 'цесць', ветлівы зварот да старэйшага мужчыны (ТРС), кірг. 'стары' (КРС), башк. 'дзед, дзядуля', 'стары чалавек', рэг. рус. тое ж (Даль), рус. *бабайка* 'вясло', 'уключына' (Фасм.).— *Бабáеў, Бабáйка*. Чув. УІ *Бабай* (Магн.). Рус. і ўкр. у XVI ст. *Бабайко* (Туп.). СРП *Бабаев, Бабайцев, Бабаевский*

БАБАК рэг. 'дурань, безгаловы чалавек' (Дзярж.— М. Б.), рус. 'байбак, стэпавы сурок', 'непаваротлівы чалавек, маруда, гультай, соня', укр. тое ж (Грынч.).— *Бабáк, Бабакóў, Бабачóнак*. Чув. УІ *Бабака* (Магн.). СРП *Бабак, Бабаков, Бабакин*

БАБАКА.— *Бабáка*. Параўн. БАБАК

*БАБАН, памянш. БАБАНКА.— *Бабáнаў; Бабáнка*. Рус. у XV ст. *Бабан* (Туп.). СРП *Бабанов, ?Бабанин*

*БАБАР.— *Бабарэ́нка*. Чув. УІ *Бабар* (Магн.). СРП *?Бабарин*

*БАБАРЫКА.— *Бабары́ка, Бабарыкін*. Рус. у XVI ст. *Бабарика* (Туп.). СРП *Бабарыкин, Боборыкин*

*БАБАРЭКА.— *Бабарэ́ка*

*БАБАРЭНЬ.— *Бабарнёў*

БАБАХА рус. *бабахи* 'пышкі, аладкі', 'грэцкія бліны', 'перапечка, праснак' (Даль).— *Бабáхін*. Рус. у XVI— XVII стст. *Бабаха*. СРП *Бабахин*. Параўн. БАБАШ, БАБОХА

*БАБАШ з тат. *бабачы* 'той, які робіць абразанне дзецям' (Шынк.).— *Бабáш*. СРП *Бабашев, Бабашкин*

БАБЕЙ, памянш. БАБЕЙКА рэг. 'бабнік', рус. тое ж (Даль), укр. *бабій* тое ж, параўн. тат. *бэбэй* 'грудное дзіця' (ТРС). — *Бабéй, Бабíй; Бабéйка*. Бел. у XVII ст. *Бабейка* (Туп.).

*БАБЕКА.— *Бабéкін*

БАБЕЦ размоўна-прастамоўнае ад *баба*?— *Бáбцаў, Бабцóў*. Бел. у XVII ст. *Бабец* (БА, І, 197). Параўн. БОБ

БАБЁР, БОБР, БОБЕР, памянш. БОБРЫК, БАБРОК, БАБРУК, БАБЯРЭЦ.— *Бабёр, Бобр, Бóбер, Бабрóў, Бабрóвіч; Бабрýк, Бóбрык, Бóбрыкаў, Бабрыкóвіч; Бабракóў; Бабярэ́ц; Бабрóўскі, Бабрыцкі*. Бел. у XVI— XVII стст. *Бобр, Бобер, Бобрик* (БА, І, 199; Туп.). Рус. у XV—XVI стст. *Бобр, Бобер, Бобрик, Бобрище* (Туп.).

ВЕЖНАВЕЦ з в. Вежнава.— *Вежнавец*
*ВЕЙГУРА.— *Вейгура*. Параўн. *Велігура*
ВЕК.— *Век*
ВЕКА.—*Века*
ВЕКАВЫ.— *Векавы*
*ВЕКЛА.— *Вякленка*
ВЕКША рэг. 'белка, ваверка', рус. тое ж 'сарока', 'блок' (Даль).— *Векша, Векшын*. У XV ст. *Векша* (Туп.). СРП *Векшин*
ВЕЛЕС, памянш. ВЯЛЕСЬКА параўн. ст. рус. *Велес* імя паганскага бога, па Фасм. з *вел* 'вялікі' + *ес*, як *бел* 'белы' +*ес*.— *Велясевіч, Велісевіч* пры [е]>[і]; *Вялеська*
ВЕЛІГАЙ, магчыма, з *вел* 'вялікі' + *іг/а/+ай*, г. зн. 'велікан'? — *Велігаеў*
ВЕЛІГАН, магчыма, з *вел* 'вялікі'+ *іг/а/* + *ан*, г. зн. 'велікан'? — *Веліган*
ВЕЛІГУРА рэг. *велегура, велегур* 'велікан, вялікі чалавек' (Нас.), *вілігур* 'самаўпэўнены чалавек' (Бяльк.).— *Велігура, Велігураў*
ВЕЛІКАБОРАЦ з в. Вялікі Бор.—*Велікаборац*
ВЕЛІКАН.— *Веліканаў*. СРП *Великанов*
ВЕЛІКАСЕЛЕЦ з в. Вялікае Сяло.— *Велікаселец*
ВЕЛЯДЗЕЙ з *веле* 'многа' і *дзей*.— *Велядзееў*
ВЕНЕРАЛ 'генерал'?— *Венералаў*
ВЕНЖЫК польск. *węzyk* 'змейка'. *Венжык*
ВЕНЦАЛЬ.— *Венцаль* у выніку асваення ЛП *Венцеліс*
ВЕНЧЫК.— *Венчык*
ВЕРАБЕЙ, рэг. ВАРАБЕЙ.— *Верабей, Вераб'ёў; Варабей, Вараб'ёў*. Бел., укр. у XVII ст., рус. у XV—XVII стст. *Воробей* (Туп.). СРП *Воробьёв, Воробейчик, Воробков, Воробкевич, Воробушкин*
ВЕРАС.— *Верас, Верасаў; Вераскоўскі*. СРП *Вересов*
ВЕРАСНЁВЫ.— *Вераснёвы*
ВЕРАТ, памянш. ВЕРАЦЁК, ВЯРЭЦІК рус. *верета* 'дзяруга, радно', 'палотнішча для сушкі збожжа' (Даль), укр. 'дзяруга' (Грынч.).— *Верат; Верацькоў; Вярэцікаў*
ВЕРАЦІЛА.— *Верацiла*
*ВЕРАШНЯ.— *Верашня*
ВЕРАШЧАКА 'мачанка' (БРС, Нас.), укр. *верещака* 'крыкун' (Грынч.).—*Верашчака*. Бел. у XV—XVII стст., укр. у XVII ст. *Верещака* (БА, I, 202; Туп.)

ВЕРАЯ, памянш. ВЯРЭЙКА рэг. 'шула' (Сл.—М. Б.), рус. *верея,* укр. *верея* тое ж, параўн. і рус. *верейка* 'шлюпка, парусная лодка, баржа' (Фасм.).— *Вярэ́йка.* Бел. у XVIII ст. *Верея* (БА, I, 202)

*ВЕРБАШ.— *Ве́рбаш*

*ВЕРБЕЛЬ.— *Ве́рбель* у выніку асваення ЛП *Вербеліс*

ВЕРЖБАЛ польск. **wierzbał* з літ. *virbalas* 'палачка'.— *Вержбало́віч*

*ВЕРТАХ.— *Верташо́нак.* Бел. у XVI ст. *Вертошка* (Туп.)

*ВЕРТЛІБ.— *Ве́ртліб*

ВЕРХ.— *Ве́рхаў, Вярхо́ў, Вершаня́, Вярша́ня, Вяршыцкі.* У XIII ст. *Верх* (Туп.). СРП *Верховский*

ВЕРХАВЕНЬ укр. *верхівень* 'коннік' (Грынч.). *Верхаве́нь*

ВЕРХАВЕЦ з в. Верхава, Вярхі. — *Верхаве́ц, Верхаўцо́ў*

ВЕРХАВОДКА.— *Верхаво́дка*

ВЕРХАЧУБ.— *Верхачу́б*

ВЕРШАК бел. *вяршак* 'верхавы, коннік' (Нас.), укр. *вершак* 'верхавіна дрэва' (Грынч.).— *Ве́ршак*

ВЕСНАВЫ.— *Веснавы́*

ВЕСЯЛУХА.— *Весялу́ха*

ВЕТКА.— *Ве́тчанка.* СРП *Веткин*

ВЕЦЕР.— *Ве́цер, Ве́траў, Вятро́ў; Вятру́к, Ветруко́ў.* СРП *Ветров*

ВЕЧАР.— *Ве́чар; Вячо́рскі*

ВЕШНІ рэг. 'веснавы'.— *Ве́шнеў*

*ВЕШТАРТ, ВЕШТАР.— *Ве́штарт, Вештар* у выніку асваення ЛП *Вештартас*

ВЕЯЛКА.— *Ве́ялка, Ве́ялкін*

*ВІГУРА.— *Вігу́ра.* Параўн. ВЕЙГУРА

ВІДЗІШ ад *відзець?— Ві́дзішаў*

ВІДЗЯЙЛА.— *Відзя́йла*

*ВІДНІК.— *Віднікі́віч*

*ВІДНІЛА.— *Віднілі́віч*

ВІДРА ўкр. *видра* 'выдра'? — *Відрэ́нка; Відру́к*

ВІДУК.— *Віду́к*

ВІЖ, памянш. ВІЖЫК ст. бел. *вижь, виж* 'служыцель пры старажытных судах у Літве, які дастаўляў у суд абвінавачваемых, вёў расследаванні і наогул ажыццяўляў выкананне прыгавораў' (Гарб., Нас., АУ), рэг.

'той, хто падглядае, незаметна выведвае сакрэты, шпіён, хітрун' (Янк., I).— *Віжык*

ВІЛЕНКА, памянш. ВІЛЕНЧЫК.— *Віленчыц; Віленчык*. СРП *Виленкин*

*ВІЛІМ.— *Вілім* у выніку асваення ЛП *Вілімас*

*ВІЛІТА, памянш. ВІЛІТКА.— *Віліткéвіч*

ВІЛЫ.— *Вілóвіч, Вілéвіч*

*ВІЛЬ.— *Віль, Вілéвіч*. СЛП *Віліс, Вілас*

*ВІЛЬБА, памянш. ВІЛЬБІК.—*Вільбік*. Бел. у XVI ст. *Вилбик* (БА, I, 202). СЛП *Вільба, Вільбікас*

*ВІЛЬГУС.— *Вільгусéвіч*

ВІЛЬК польск. *wilk* 'воўк'.— *Вількóў, Вількóвіч; Вількіцкі, Вількóўскі, Вільчкóўскі, Вільчынскі*. СРП *Вилькович, Вилькицкий*

*ВІЛЬКОТА.— *Вількóта*

ВІЛЬНА.— *Вільнéвіч*

ВІЛЬЧЫК.— *Вíльчык*

ВІЛЮГА, ВІЛЮХА рэг. *вілюга* 'чалавек, які віляе, выкручваецца' (Янк., III).— *Вілю́га, Вялю́га, Вялю́гін* пры [і] > [я]?; *Вілю́ха*

ВІНА ці ВІНО.— *Віні́ч; Ві́нік, Віні́чэнка; Вінкéвіч; Вінéўскі, Віні́цкі, Віня́цкі*. СРП *Винов, Виновский, Винецкий*

ВІНАГРАД. — *Вінагра́д, Вінагра́даў*. СРП *Виноградов*

*ВІНАК.— *Вінакóў*

ВІНАКУР.— *Вінаку́р, Вінаку́раў*. СРП *Винокур, Винокуров*

*ВИНЕЛЬ.— *Винéль*

ВІННІК, памянш. ВІННІЧАК 'прадавец віна' (Гарб., Нас., АУ).— *Ві́ннік, Ві́ннікаў; Ві́нні́чак; Ві́нні́цкі; ?Ві́нік*. Бел. у XVIII ст. *Винник* (БА, I, 202) СРП *Винник, Винников, Винниченко*

*ВІНЦІЗ.— *Вінцізéнка*

*ВІРБАЛ.—*Вірбал* у выніку асваення ЛП *Вірбалас, Вірбаліс*

ВІРГЕЙ параўн. рэг. *віргацца* (пра коней) 'брыкацца', *віргліві* 'брыклівы' (Стэц.) з польск. *wirgać* 'брыкацца' (Карл.).— *Віргéй, Віргéеў*

*ВІРТ.— *Вірт*

*ВІРЭКА.— *Вірэ́кін*

ВІСЛОУС са спалучэння *віслыя вусы, з віслымі вусамі*.— *Віслóус, Віслаўс*

ВІСЛОУХ са спалучэння *віслыя вушы, з віслымі вушамі.— Віслóух.* Бел. у XVI—XVII стст. *Вислоух* (БА, I, 202; Туп.). Рус. у XVI ст. *Вислоух* (Туп.)

ВІСЛЫ.— *Віслóў, Віслóвіч.* Рус. у XVI ст. *Вислой* (Туп.)

*ВІТАР.— *Вітарчу́к; Вітóрскі*

ВІТКА 'пярэвітка' (БРС, Бяльк.), рэг. 'вяха, тычка' (Бяльк.).— *Вітка, Віткó, Віткін; Віткóўскі.* Бел. у XVI ст. *Витка* (БА, I, 202). СРП *Виткин, Витковский*

*ВІТОЛЯ.— *Вітóлін*

*ВІТОШКА.— *Віташкéвіч, Вітóшкін.* Параўн. ВЯТОХА

*ВІТУХА 'вітушка'? — *Вітушэ́нка.* СРП *Витухин*

ВІХАР.— *Віхраў.* СРП *Вихров, Вихрев, Вихрин*

*ВІЦЕНЬ.— *Віцень*

ВІЦЯЗЬ.— *Віцязь.* Укр. у XVII ст. *Витязь* (Туп.)

ВІШНЯ, памянш. ВІШАНЬКА.— *Вішанька; Вішнéўскі, Вішнявéцкі.* Бел. у XVII ст. *Вишенка* (Туп.). СРП *Вишня, Вишнев, Вишнёв*

ВІШНЯК.— *Вішня́к, Вішнякóў.* Рус. у XVI ст., укр. у XVII ст. *Вишняк* (Туп.). СРП *Вишняков*

*ВІЮК.— *Вію́к*

ВОБАД, памянш. АБАДОК.— *Óбадаў, Абóдзіч, Абадэ́нка; Абадкóў; Абадóўскі*

ВОБЛІК 'знешні выгляд'? — *Вóблікаў*

ВОГАР рэг. *вогір* 'зух, хват, хлюст, задавака' (Юрч.), *вогер* 'жарабец' (Нас., Бяльк.), рус. *огер* з тат. *айгыр* 'жарабец' (Даль), укр. *огер, огир* тое ж (Грынч.).— *Вóгар*

ВОДКА.— *Вóдчыц*

ВОЖЫК.— *Вóжык.* Бел. ці ўкр. у XIV ст. *Вожик* (Туп.)

ВОЗНЫ, памянш. ВОЗНІЧАК ст. бел. *возный* 'служыцель, які ў старажытны час замяняў выканаўчую паліцыю: уручаў павесткі на суд, вёў расследаванні, уводзіў ва ўладанне новых гаспадароў' (Гарб., Нас., АУ), укр. *возний* 'род судовага прыстава' (Грынч.), польск. *woźny* тое ж (Карл.).— *Вóзны, Вазнóвіч; ?Вазня́к; Вóзнічак,* хаця магчыма і ад *вознік*

ВОІН.— *Вóінаў.* Бел. у XVI ст., рус. у XV—XVII стст., укр. у XVI ст. *Воин* (БА, I, 203; Туп.). СРП *Воинов*

*ВОЙКА гл. ВАЙКО

*ВОЙКУЦЬ.— *Войкуць*, відаць, у выніку асваення ЛП *Вайкутіс*

*ВОЙНЮШ.— *Войнюш*. Бел. у XVII ст. *Войнюша* (Туп.)

ВОЙТ, памянш. ВОЙЦІК, ВОЙТКА, ВОЙТУЛЬ, ВОЙЦЮЛЬ ст. бел. 'старшыня мяшчанскага ці магдэбургскага суда', 'начальнік гміны' (у Польшчы), 'наглядчык за прыгоннымі, пpыганяты, прызначаны з сялян памешчыкам' (Гарб.), усе ўтварэнні магчымы і ад УІ *Войтех*.— *Войтаў, Вайтовіч, Войценка, Вайценка, Вайцянкоў; Вайтук, Вайтукевіч; Вайцюк; Войтка, Вайткó, Вайткевіч; ?Войтуль; Вайцюль, Вайцюлевіч; Войцік, Вуйцік* пры [о]>[у]; *?Вайткун; Вайтанец; Вайтавец; Вайтэцкі*. Бел. у XVI ст. *Войт* (БА, I, 203). СРП *Войтов, Войтович, Войтенков, Войтинский, Войтковский*

*ВОЙША, ВАЙША.— *Войша, Вайшэвіч*. СЛП *Вайша, Вайшіс, Вайшас*. СРП *Войшин*

ВОЛ, памянш. ВОЛІК.— *Вол, Валоў, Валовіч; Волікаў*. У XV ст. *Вол* (Туп.). Укр. у XVI ст. *Вол* (Туп.)

ВОЛАС.— *Волас, Валасевіч, Валасэвіч; Валасюк*. Бел. у XV ст., рус. у XV—XVI стст. (Туп.). СРП *Волосов, Волосенков, Волосюк, Волосков*

ВОЛАТ, памянш. ВАЛАТОК.— *Волат, Валатовіч; Валаток, Валаткевіч, Валатковіч*

ВОЛАХ рус. *волох* 'юшка', 'крышка на пасудзіне' (Мельн.).— *Волах*. Бел. у XVI—XVII стст. *Волошка* (БА, I, 204; Туп.). Рус. у XVI—XVII стст. *Волох* (Туп.). Параўн. ВАЛАХ

ВОЛГА.— *Волгін; Волжскі*. У XVII ст. *Волга* (Туп.). СРП *?Волжин, Волженский*

ВОЛЕ рэг. 'валлё' (Нас., Бяльк.), менш праўдападобна ад *воля*.— *Волін, Валевіч; Валюк, Валюкевіч; Вольскі*. СРП *Волин*

ВОЛК гл. ВОЎК

ВОРАК, памянш. ВОРАЧАК рэг. 'мяшок' (Нас.), укр. *ворок* тое ж (Грынч.).—*Ворачкаў*

ВОРАН, памянш. ВАРАНЕЦ, ВАРАНОК.— *Воран, Воранаў, Варановіч; Варанец, Варанцоў; Варанкоў, Варанковіч, Варанкевіч; Варанчук, Варанчукоў*. Бел. у XVI ст. *Ворон* (Туп.), у XVII ст. *Воронец* (БА, I, 204), укр. у XIV ст., рус. у XV—XVII стст. *Ворон* (Туп.). СРП *Ворон, Воронов, Воронович, Воронец, Воронков, Вороновский*

ВОРАХ 'шолах, шум', 'пераварот, нарушэнне парадку' (Нас.), рус. *ворох*, 'куча', 'муравейнік', 'шолах камыша, травы' (Даль), укр. 'куча' (Грынч.).— *Во́рах.* СРП *Ворох*

*ВОРАШАНЬ.— *Во́рашань.* Параўн. ВАРАШЭНЬ, ВАРАШЫЛА

ВОРВУЛЬ 'ворвань'?— *Во́рвулеў.* СРП *Ворвулёв*

*ВОРЛА.— *Во́рла*

ВОРНІК 'араты'?— *Во́рнік*

ВОРЧЫК.— *Во́рчык*

ВОСТРЫ, рэг. ОСТРЫ, памянш. ВОСТРЫК.— *Во́стры, О́стры, Астро́ў, Астранко́ў; Во́стрык, Во́стрыкаў; ?Астрэ́йка.* Рус. у XVI—XVII стст. *Острой, Вострой* (Туп.). СРП *Востров, Востриков, Острый*

ВОЎК, рэг. ВОЛК, памянш. ВАЎЧОК, ВАЛЧОК, ВОЎЧЫК, ВОЛЧЫК.— *Воўк, Во́ўкаў, Ваўко́віч, Во́ўчанка, Ваўчо́нак, Ваўчанко́ў; Ваўчо́к, Ваўчко́ў; Во́ўчык; ?Во́ўчак; Волк, Во́лкаў, Валко́віч, Во́лчанка; Валчо́к, Валчко́ў; Во́лчык; ?Валкаве́ц, Валча́нін, Валкавя́к, Валчэ́цкі.* Бел. у XV—XVII стст. *Волк, Волчок, Волчко* (Туп., БА, I, 203—204). Рус. у XV—XVII стст. *Волк, Волчок* (Туп.). Укр. у XVI—XVII стст. *Волк, Вовчок, Волчко* (Туп.). СРП *Вовченко, Вовчок, Волков, Волкович, Волковский, Волчек, Волченков, Волчков*

ВОЎНА.— *Во́ўна*

*ВОЎЧАК.— *Во́ўчак.* Параўн. ВОЎК

ВОШ.— *Вашу́к*

*ВОЮШ.— *Во́юш*

ВРАГ рэг. 'вораг'.— *Враго́ў*

*ВРАНКО.— *Вранко́*

ВРУБЕЛЬ польск. *wróbel* 'верабей' (Карл.).— *Вру́бель; Врубле́ўскі*

ВТОРОЙ 'другое па ліку дзіця ў сям'і'? — *Вто́рых.* Рус. у XVI—XVII стст. *Второй, Вторец, Вторушко, Вторко* (Туп.). СРП *Второв*

ВУГАЛЬ.— *Вугалёў*

ВУЗКІ.— *Ву́зкі.* Рус. у XVI—XVII стст. *Узкой, Ускей, Ускии* (Туп.). СРП *Узков*

ВУЗЕЛ.— *Вузле́нка.* СРП *Узлов, Узликов*

ВУЙ польск. *wój* 'дзядзька, брат маткі'.— *Вуевіч*

ВУЙЦІК польск. *wójcik*, памянш. ад *wójt* 'войт'.— *Вуйцік.* Параўн. ВОЙТ

*ВУЛА, *ВУЛЬ.— *Вуле́віч*

*ВУРГАЛ.— *Вургáлаў*

ВУС, рэг. УС, памянш. ВУСІК, УСІК, павеліч. УСІЛА.— *Вус, Вýсаў; Вýсік; Ус, Усаў, Усéвіч, Усóвіч, Усéня; Усюкéвіч; Усік, Усікаў; Усіла, Усілёнак; Вусóўскі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Ус, Вусок* (БА, I, 267; Туп.). Рус. у XIV—XVII стст. *Ус, Усок, Усик,* укр. у XV—XVII стст. *Ус, Усок* (Туп.). СРП *Ус, Усов, Усиков, ?Усков*

ВУСНЫ, рэг. УСНЫ прым. ад *вусны* 'непісьмовы' ці наз. *вусны* 'губы'? — *Вýсніч, Усніч*

ВУТКА, рэг. УТКА, памянш. УТАЧКА 'качка'.— *Вýткін; Уткін; Утачкін.* Бел. у XVIII ст. *Вуточка* (БА, I, 268). Укр. у XV—XVII стст. *Утка* (Туп.). СРП *Уткин*

*ВУТТА.— *Вýтта*

ВЫБАРНЫ.— *Вы́барны*

ВЫБІРАНЕЦ.— *Выбірáнец.* Параўн. ВЫБРАНЕЦ

ВЫБРАНЕЦ ст. бел. 'выбраны ці рэкрут, узяты на ваенную службу' (Гарб.), 'выбраны'.— *Вы́брáнец*

ВЫДРА.— *Вы́дра, Вы́дры́н, Выдрэ́нка, Выдранкоў; Выдры́цкі.* Бел. у XVII ст. *Выдра* (БА, I, 204). Укр. *Выдра* (Туп.).

*ВЫЛЕЎКА параўн. бел. *вылівак* (БРС).—*Вы́леўка*

ВЫНЯ, ВЫНЬ, памянш. ВЫНЕК, рус. *вынь* 'пояс' (Даль).— *Вынькóў*

ВЫРАСТАК рэг. 'падростак', рус. *выросток* тое ж (Даль, Мірт.), укр. тое ж (Грынч.), *выросток* 'выробленая цялячая шкура' (Піск.).— *Вы́растак*

ВЫРВА параўн. рэг. *вырвас* 'вісельнік, сарвігалава' (Нас.), укр. *вирва* 'узятка', 'насільны пабор' (Грынч.).— *Вы́рва, Вы́рвіч.* Укр. у XVII ст. *Вырва* (Туп.)

*ВЫРКО.—*Выркó; Выркóўскі*

*ВЫРШЧЫК.— *Вы́ршчыкаў*

ВЫСЕЎКА.— *Вы́сеўка*

ВЫСКВАРКА.— *Вы́скварка.* СРП *Выскворкин*

ВЫСОКІ.— *Высакóў, Высóкіх; Высóцкі, Высóцкіх.* Рус. у XIV—XVII стст. *Высокой, Высокий* (Туп.)

ВЫСТАЎКА.— *Вы́стаўка.* СРП *Выставкин*

*ВЫЧЫК.— *Вы́чыкаў.* СРП *?Вычков*

*ВЫШАДКА.— *Вы́шадка*

ВЫШНІК рэг. (картачнае) 'дама' (Нас.), укр. *вишник* тое ж (Грынч.).— *Вы́шнікаў*

*ВЫШЭЛА.— *Вышэ́лаў*

*ВЭЙКУЦЬ.— *Вэ́йкуць* у выніку асваення ЛП *Вэйкутіс*

ВЯГЕРА ўкр. *вегеря* 'род танца' (Піск.). — *Вягéра*
*ВЯГУРА.— *Вягýра*
ВЯДЗЕРКА.— *Вядзéрчык*
ВЯДЗЕРНІК.— *Вядзéрнікаў*. Рус. у XV—XVI стст. *Ведерник* (Туп.)
*ВЯДУТА.— *Вядýта*
*ВЯЖ.— *Вяжэ́віч*
ВЯЗ.—*Вязóвіч, Вя́завіч, Везянóк, Везянкóў; Вя́зіцкі*. СРП *Вязов, Вязиков, Вязков*
*ВЯКЛА.— *Вяклéнка*
*ВЯЛЕЙЧЫК.— *Вялéйчык*. Параўн. ВЯЛЬ
*ВЯЛЕСЬКА гл. ВЕЛЕС
*ВЯЛЕШКА.— *Вялéшка*
ВЯЛІКАБОРАЦ з в. Вялікі Бор.— *Вялікабóрац*
ВЯЛІКІ, памянш. ВЯЛІЧКА.— *Вялíкі, Вялікéвіч; Вялічка*. Бел. у XVII ст. *Великий, Величко* (Туп., БА, I, 202). Рус. у XIII—XVII стст., укр. у XVII ст. *Великой* (Туп.). СРП *Величко, Величкин, Величковский, Великовский*
ВЯЛЫ.— *Вя́лаў*. Рус. у XVI—XVII стст. *Вялой* (Туп.). СРП *Вялов*
*ВЯЛЬ.— *Вяль; ?Вялéйчык; ?Вяльчы́нскі*. У XVI ст. *Вялец* (Туп.). СРП *Вяльцев*
ВЯЛЮГА гл. ВІЛЮГА
*ВЯРАКСА.— *Вярáкса, Вярáксіч*. Параўн. ВАРАКСА
*ВЯРАКША.— *Вярáкша*
ВЯРБА.— *Вярбá, Вéрбін, Вéрбінаў, Вярбóвіч; Вярбіцкі*
*ВЯРБІЛА.— *Вярбíла*
*ВЯРБОВІК.— *Вярбóвік*
ВЯРГЕЙ, памянш. ВЯРГЕЙЧЫК параўн. рус. *вергать, вергнуть* 'кідаць, кінуць' (Даль), укр. *вергати* тое ж (Грынч.).— *Вяргéй; Вяргéйчык*
ВЯРГУН укр. *вергун* 'хруст, хворост, салодкае пячэнне' (Грынч.).— *Вяргýн*. Чув. УІ *Вергун* (Магн.). Укр. у XVII ст. *Вергун* (Туп.). СРП *Вергун*. Параўн. ВЯРГЕЙ
ВЯРОЎКА.— *Вярóўка, Вярóўкін*. Рус., укр. у XVI ст. *Веревка* (Туп.). СРП *Верёвка, Верёвкин*
ВЯРСТАК рэг. 'варштат' (Нас.).— *Вярстáк*
*ВЯРЦЕЙКА.— *Вярцéйка*. Бел. у XVI ст. *Вертейко* (Туп.). Параўн. ВЯРЧУН
ВЯРЧУН рэг. 'бойкае, рухавае дзіця, непаседа' (Дзярж.— М. Б.).— *Вярчýн*
ВЯРШОК.— *Вяршóк; Вяршкóўскі*. СРП *Вершков*

*ВЯРШЫЛА.— *Вяршыла; Вершылоўскі*

ВЯРЫГА, памянш. ВЯРЫЖКА ст. рус. *верига* 'ланцуг' (Ср.).— *Вярыга; Вярыжка, ?Вярышка* пры [ж]>[ш]. Бел. у XVI ст. *Верига* (БА, I, 202). Рус. у XVI—XVII стст. *Верига* (Туп.). СРП *Вериго, Веригин*

ВЯРЭНЯ, памянш. ВЯРЭНЬЧЫК 'пастушыная каробачка з бярösты' (КСЧ), 'торба для ежы'?, 'кемлівы, мешкаваты чалавек' (Янк., I), *вярэні* 'лапці з вяровачак' (Сакал.), укр. *вереня* 'маленькая вярэта, дзяруга' (Грынч.).— *Вярэніч; Вярэнчык.* У Туп. у XVI ст. *Вереня*

ВЯСЁЛКА.— *Вясёлка.* СРП *Весёлкинъ*

ВЯСЁЛЫ, памянш. ВЯСЕЛІК.— *Вясёлік.* СРП *Веселов, Весельков*

ВЯСНА.— *Вясноў.* Бел. у XIV ст. *Весна* (Туп.). СРП *Веснин*

*ВЯТКА.— *Вяткін, Вяткевіч.* Рус. у XIII—XVII стст. *Вятка, Вятко* (Туп.)

ВЯТОХ рэг. 'ветах, луна ў апошняй чвэрці' (Нас.).— *Вятох*

ВЯТОХА, памянш. ВЯТОШКА рус. *ветоха, ветошка* 'ануча для падціркі, абрывак адзення' (Даль).— *Вятоха, Вятохін; Вятошка, Вятошкін, ?Віташкевіч, ?Вітошкін* пры [е]>[і], *?Вятушка* пры [о]>[ô]>[у]. Бел. у XVI ст. *Ветошка, Ветошко* (БА, I, 202; Туп.). Рус. у XVII ст. *Ветошка* (Туп.). СРП *Ветошкин*

ВЕХАЦЬ, памянш. ВЯХОТКА.— *Вяхотка*

*ВЯЧОРКА параўн. бел. *вячоркі.*— *Вячорка; Вечаркавец.* Бел. у XVII ст. *Вечорко,* укр. у XVI ст. *Вечорка, Вечурка* (Туп.)

ВЯЧЭРА.— *Вячэра; Вячэрскі*

ГАБА, памянш. ГАБІК, ГАБЕЦ ст. бел. 'тоўстае турэцкае сукно' (Гарб.), укр. тое ж (Грынч., Піск.), параўн. таксама ст. рус. *габати* 'прыгнятаць, уціскаць' (Ср.), бел. рэг. *габаць* 'браць, хапаць, чапаць' (Нас.), укр. *габати* 'хватаць, хапаць' (Грынч.), польск. *gabać* 'чапаць', літ. *gabti* 'хапаць, красці, грабіць' (Атр., II, 223).— *Габа; Габік; Габец.* СРП *Габов, Габович*

*ГАБАЛА, *ГАБАЛЬ.— *Габаленка,* магчыма, у выніку асваення ЛП *Габаліс.* Параўн. ГАБА

*ГАБЕЛА, памянш. ГАБЕЛКА параўн. рус. *габёлок* 'цялячая шкура' (Даль), укр. *габелок* 'бычок', 'цяля' (Фасм.), 'стары чалавек' (Вашч.).—*Габелка*

*ГАБЕРНІК.— *Габе́рнік*

*ГАБІС.— *Га́біс.* СЛП *Габіс.* Параўн. ГАБА

*ГАБЛА.— *Габлю́к,* магчыма, ад ГЭБАЛЬ (гл.)

ГАВА, памянш. ГАВЕНЬКА ўкр. 'варона' (Грынч., Піск.), 'адлегласць, прамежак паміж двума зубамі пілы' (Грынч.), польск. *gawa* 'казка' (Карл.).— *Гаве́нька.* СЛП *Гавеніс*

*ГАВАКА.— *Гава́ка.* Параўн. ГАВА

ГАВАРАКА 'гаварун, той, хто любіць гаварыць'? — *Гавара́ка*

ГАВАРКО.— *Гаварко́.* СРП *Говорков.* Параўн. ГАВАРАКА

ГАВАРУШКА рэг. 'летняя апенька' (Юрч., Бяльк.), параўн. таксама рус. *говоруша* 'разгаворлівы чалавек' (Мельн.).— *Гавару́шка, Гавару́шкін.* Бел. у XVII ст. *Говорушка* (БА, I, 206). Рус. у XVII ст. *Говоруха* (Туп.)

*ГАВІНА.— *Гаві́на.* Параўн. ГАВА

ГАВОРКА.— *Гаво́рка*

ГАВЯДА, памянш. ГАВЯДОК рэг. 'жывёла, скаціна' (БРС).— *Гавя́дкаў.* СРП *Говядин*

ГАВЯЗА параўн. рэг. бат. *гавэз* 'жывакост лекавы' (Бейл.), рус. *гавяз,* укр. *гав'яз* тое ж (Фасм.).— *Гавяза́*

ГАГАН польск. *gagan* 'каганец, свяцільнік' (Карл.).— *Гага́н, Гага́наў.* СРП *Гаганов*

*ГАГУН.— *Гагуно́ў*

ГАДУН рэг. 'падгадаванае дзіця' (Дзярж.— М. Б.), 'маладая жывёліна, якая корміцца малаком маткі' (Нас., КСЧ), *гадунец* 'прыёмнае дзіця' (Нас., Бяльк.), магчыма, ад польск. *gadać* 'гаварыць'.— *Гаду́н.* Бел. у XVII—XVIII стст., укр. у XVI ст. *Годун* (БА, I, 206; Туп.). СРП *Годунов, Гадунов*

*ГАЕЛЬ.— *Гае́ль*

ГАЗДА ўкр. 'гаспадар' (Грынч.), польск. *gazda* 'гаспадар', 'гультай, бяздзельнік' з венг. *gazda* (Карл.).— *Га́зда, Газдзе́віч.* СЛП *Газдіс, Газдас*

*ГАЗУКА.— *Газу́ка*

ГАЙ, памянш. ГАЙКО рус. 'крык, гам, шум' (Даль), відаць, не звязана з бел. *гай* 'ліставы лес', бо няма СБП і ад іншых назваў лесу (*лес, бор*).— *Гай; Гайко́, Гайко́ў, Гайко́віч, Гайке́віч; Гайчу́к; Гае́ўскі, Гайко́ўскі.* Бел. у XVI ст. *Гайко* (Туп.). СРП *Гайков*

*ГАЙБУТ.— *Га́йбут*

ГАЙДА ўкр. *гайда* 'залётнік, валакіта', 'флейта', *гайда* 'пастушкова жалейка; валынка', 'дрэнны сабака', 'нягоднік, дрэнны чалавек' (Грынч.), польск. *gajda* 'кабза, дуда', 'дудар, кабзар', 'жарты, кпіны', 'нязграбны чалавек', 'галіна, сук дрэва', 'пазуха, запазуха' (Карл.), літ. *gaidas* 'спявак' (Атр., II, 32), амаль усе значэнні звязаны з цюрк. *гайда* тур. 'валынка' (Будаг.), тат. 'ідзі, пайшоў' (Даль), магчыма, ад *гайдацца*, па асаблівасці паходкі.— *Гáйда.* СРП *Гайдин, Гайденков, Гайдовский.* СЛП *Гайдіс*

ГАЙДАЙ рэг. 'чалавек, якога наймаюць для перагону скаціны' (Кобр.— Выгон.), 'той, хто працуе на конях, ездавы' (Маз.— Выгон.).— *Гайдáй.* СРП *Гайдай.* Параўн. ГАЙДА

*ГАЙДАЛЬ.— *Гайдалёнак,* відаць, у выніку асваення ЛП *Гайдаліс.* Параўн. ГАЙДА

ГАЙДАР рэг. *гайдáр* 'пагоншчык, чалавек, які параганяе скаціну на месца назначэння' (Калінк., Малар.— Выгон.), укр. *гайдар* 'авечы пастух' (Грынч.), 'аўцавод' (Піск.), польск. *gajdar* 'дудар, кабзар' (Карл.).— *Гайдáр, Гайдарóвіч.* СРП *Гайдар, Гайдаров*

*ГАЙДАШ.— *Гайдáш, Гайдашóў.* Параўн. ГАЙДА, ГАЙДАЙ, ГАЙДАР

ГАЙДУК, памянш. ГАЙДУЧЫК ст. рус. 'лёгка ўзброены воін' (Ср.), ст. бел. 'пешы, лёгка ўзброены салдат' (Гарб.), 'слуга ў вяльмож для парадных выездаў' (Нас., АУ).— *Гайдýк, Гайдукóў, Гайдукéвіч, Гайдучэ́нка, Гайдучóнак, Гайдучэ́ня; Гайдýчык; Гайдукóўскі.* Бел. у XVII ст. *Гайдук* (БА, I, 205). СРП *Гайдуков*

*ГАЙКО гл. ГАЙ, ГОЙ

ГАЙЛА рус. *гáйло, гайлó,* 'шырокае горла, пашча, зяпа' (Даль), літ. *gaĩla* 'жаданы, пажаданы' (Фрэнк.), тат. *гаилэ* 'сям'я' (ТРС).— *Гáйла.* СРП *Гайлевіч*

*ГАЙЛЕШ.— *Гáйлеш.* Параўн. ГАЙЛА

ГАЙН параўн. укр. *гайнар* 'работнік, што прыганяе на ярмарку скот' (Грынч.).— *Гайн, Гáйнаў.* СРП *Гайнов.* СЛП *Гайна*

ГАЙНІК бел., рус. *гайник* назва некалькіх раслін (БРС, Даль), укр. *гайник* 'лясник' (Грынч.).—*Гáйнік*

ГАЙС.— *Гайс, Гайсéнка, Гайсёнак.* Тат. УІ *Гайса* (СЛІ, 161). СЛП *Гайсас*

ГАЙШМАН параўн. укр. *гайшан, гайша* 'дрэнны чалавек, забіяка, разбойнік' (Вашч.).— *Гáйшманаў*

ГАЙШУН параўн. літ. *gàišùs* ’капун, маруда’ (Фрэнк.).— *Гайшу́н, Гайшуно́ў*. СЛП *Гайша*. Параўн. ГАЙШМАН

ГАК.— *Гачэ́ня*. Магчыма і ад ГАЧА (гл.). СРП *Гаков, Гаченков*

*ГАКЕЛЬ.— *Гакель*

*ГАКУЦЬ.— *Гакуць* у выніку асваення ЛП *Гакуціс, Гакутіс*

ГАЛА рус. *га́ло* ’прыстасаванне для гнуцця дуг, абадоў’ (Фасм.), польск. *gało* ’тоўстае сасновае дрэва’ (Карл.), узб. *гала* ’чарада птушак’, ’натоўп’ (УРС).— *Га́ла, Гало́*. У Туп. у XV ст. *Гала*. СРП *Галин*

ГАЛАБУРДА ўкр. ’дэбош, буянства’, ’дэбашыр, буян’ (Грынч.).—*Галабурда, Гарабурда* пры [л]>[р]. Бел. у XVI—XVII стст. *Галабурда, Гарабурда* (БА, I, 206). СЛП *Галабурда*

ГАЛАВА, памянш. ГАЛОЎКА, ГАЛАВОК, ГАЛАЎКО, ГАЛОЎЧЫК, ГАЛАВАША, ГАЛАВАШКА, ГАЛАВЕЦ.— *Галава́, Галавін, Галаве́нка, Галаве́нчык; Гало́ўка, Гало́ўкін, Гало́ўчыц; Галаво́к, Галаўко́, Галаўко́ў; Галаўчу́к; Гало́ўчык; Галава́шын; Галава́шка; Галава́цкі*. Бел. у XVI—XVIII стст. *Голова, Головка, Головчик*. Рус. у XIV—XVII стст. *Голова, Головко, Головка* (Туп.). СРП *Головин, Головинов, Головенко, Головкин, Головко, Головченко, Головашин, Головашкин, Головенкин, Головинский, Головкинский*

ГАЛАВАН ’галаваты’.— *Галава́наў*. СРП *Голован, Голованов, Голованенко*

ГАЛАВАСТЫ ’галаваты’.— *Галава́сты*. СРП *Головастов*

ГАЛАВАТЫ.— *Галава́ты; Галава́цкі*. СРП *Головатый, Головацкий*

ГАЛАВАЧ ’галаваты’.— *Галава́ч; Галава́цкі*. Бел. у XVI—XVII стст. *Головач* (БА, I, 206; Туп.). СРП *Головачёв, Головачевский*

ГАЛАВЕЙ, памянш. ГАЛАВЕЙКА ’галаваты’?— *Галаве́й; Галаве́йка*

ГАЛАВЕНЬ рэг. ’рыба-бычок’ (КСЧ), ’галаваты’?, магчыма і ад ГАЛАЎНЯ (гл.).— *Галаўнёў, Гало́ўніч, Галаўне́нка*

ГАЛАВЕЦ.— *Галаве́ц, Галаўцо́ў*. Параўн. ГАЛАВА

ГАЛАВЕШКА.— *Галаве́шка*

*ГАЛАВІЧЭР.— *Галавічэ́р*

ГАЛАВОК.— *Галавóк, Галаўкóў*. Параўн. ГАЛАВА
*ГАЛАГАЙ.— *Галагáй, Галагáеў*
ГАЛАГАН рэг. назва пароды курэй і гусей (Нíканч.), укр. 'іскра, галавешка', 'вялікі медны гаршчок', 'старая медная манета', 'ікра белай рыбы', 'паплавок на рыбацкіх сетках' (Грынч.).— *Галагáнаў; Галаганюк*. У Туп. у XVIII ст. *Галаган*
ГАЛАГУТ рэг. 'певень з густым пер'ем на нагах' (Клімч.), параўн. ст. бел. *калакут* 'індык' з літ. *kalakūtas* 'індык' (Вяржб.).— *Галагýт, Галагýцкі*
ГАЛАДЗЕД.— *Галадзéд*
ГАЛАЗУБЫ.— *Галазýбы, Галазýб, Галазýбаў*. У Туп. у XV ст. *Голозуб*
ГАЛАЙ укр. *галай* 'крыкун' (Грынч.).— *Галáй*. СРП *Галаев*
ГАЛАЙДА рэг. 'назва гатунку ячменю' (Выг.), укр. *галайда* 'бадзяга, бяздомны' (Грынч.).— *Галайдá*
*ГАЛАЙША.— *Галайша*. Параўн. ГАЛАЙ
ГАЛАК параўн. рэг. *галакать* 'голасна гаварыць' (Нíканч.), укр. *галакати* 'крычаць' (Грынч.).— *Галáкаў*
ГАЛАЛОБ.— *Галалóб, Галалóбаў*. СРП *Гололобов*
*ГАЛАМАКА.— *Галамáка*
ГАЛАН рус. данск. 'рыбалоўная снасць з кручкамі для лоўлі бялугі' (Мірт.), параўн. рус. *галанить* 'гарланіць, крычаць, спорыць' (Даль).— *Галáн, Галáнаў*. СРП *Галан, Галанов, Галанин, Голанов*
*ГАЛАНЦЭР, памянш. ГАЛАНЦЭРЧЫК.— *Галанцэ́рчык*
ГАЛАПУП.— *Галапýпенка*. Бел. у XVIII ст. *Голопупок* (БА, I, 206)
*ГАЛАПУРА.— *Галапýра*
ГАЛАПЯТ.— *Галапя́цін*
*ГАЛАСКОК.— *Галаскóк*
ГАЛАСУЙ параўн. *галас* 'крык, лямант' (БРС, Нас.), г. зн. 'крыкун'?, магчыма з *гол*, 'голы' і *соваць*.—*Галасýй*
ГАЛАЎКО.— *Галаўкó, Галаўкóў*. Параўн. ГАЛАВА
ГАЛАЎНЯ рэг. 'галавешка', 'сажа (хвароба збожжавых культур)'.— *Галаўня́, Галаўнёў, ?Галóўніч* — два апошнія магчымы і ад ГАЛАВЕНЬ, ГАЛОЎНЫ (гл.). Бел. у XVI—XVII стст. *Головня* (БА, I, 206; Туп.). СРП *Головня, Головнин*
*ГАЛАХ, памянш. ГАЛАШКА параўн. укр. *галахура* насмешлівае аб асобах духоўнага звання і аб членах іх

сям'і (Грынч.).— *Галáх; Галáшка; Галашэўскі.* СРП *Галах, Галахов, Галашин*

*ГАЛАЦ.— *Галацэ́віч*

ГАЛБЕКА параўн. ст. рус. *голбец* 'перагародка, загародка' (Ср.), рус. *голбец, голбчик* 'каморка ля печы ў сялянскай хаце' (Даль).— *Галбéка*

ГАЛГАН рус. 'індык' (Фасм.), польск. *gałgan* 'лахман, парванае адзенне', 'гультай, абдзіранец', 'непрыдатная рэч' (Карл.).— *Галгáнаў*

ГАЛДА, ГОЛДА рус. *галда* 'крыклівы чалавек' (Мірт.), укр. *галда* 'узятка, хабар' (Грынч.), параўн. бел. *галдаваць* 'прыслужваць', 'патураць' (Нас.), *галдзець* 'шумець, без парадку гаварыць' (Дзярж.— М. Б.), *га(о)лдить* 'шумець' (Даль), літ. *gáldyti* 'церці, ачышчаць' (Фрэнк.).— *Галдóвіч, ?Галдук, Галдукéвіч; Галдóўскі, Галды́нскі.* СРП *Галдин*

ГАЛДЗЕЙ.— *Галдзéеў.* СРП *Галдеев.* Параўн. ГАЛДА

ГАЛДУК.— *Галдукéвіч.* Параўн. ГАЛДА

ГАЛЕГА рус. бат. 'казлятнік лекавы' (Фасм.).— *Галéга*

*ГАЛЕЗНІК.— *Галéзнік*

ГАЛЕЙ рус. *галей* 'безікровы селядзец' (Даль).— *Галéй, Галéеў, ?Галіéнка* пры [ее]>[іе]; *?Галіéўскі.* СРП *Галеев*

*ГАЛЕНДА.— *Галéнда*

ГАЛЕРА, памянш. ГАЛЕРКА. — *Галéрка, Галéркін*

ГАЛЕТА.— *Галéта*

ГАЛЕЦ рыба 'галец', 'стары венік, дзяркач', 'бедны чалавек, бядняк'.— *Галéц; Галéцкі.* У Туп. у XV ст. *Галец.* СЛП *Гольцев*

*ГАЛЁНА.— *Галёнаў.* Параўн. ГАЛЁНКА

ГАЛЁНКА, памянш. ГАЛЕНЧЫК.— *Галёнка, Галéнка, Галéнчанка; Галянкó, Галéнчык.* СРП *Голенкин*

*ГАЛЁТА.— *Галёта*

ГАЛІМ(А) тат. *галим* 'вучоны чалавек' (ТРС).—*Галíм, Галíмаў; Галíмскі.* Тат. УІ *Галим* (ТРС). СРП *Галимов*

ГАЛІНА.— *Галíна, Галінéвіч; Галінóўскі, Галíнскі.* СРП *Галинов*

ГАЛІЦА рус. *голицы* 'скураныя рукавіцы' (Мельн.).— *Галíца.* У Туп. у XV ст. *Галица.* СРП *Голицын, Голицин*

ГАЛІЧЫН 'галічанін'?— *Галíчын*

ГАЛКА.— *Га́лка, Галко́, Галко́ў, Га́лкін; Галко́ўскі.* Рус. у XVI—XVII стст. *Галка* (Туп.). СРП *Галкин, Галкович*

*ГАЛО гл. ГАЛА

ГАЛОДНЫ.— *Галаднюк.* У Туп. у XVI—XVII стст. *Голодной.* СРП *Голодный, Голоднов*

*ГАЛОМЗА, памянш. *ГАЛОМЗІК.— *Гало́мзік*

*ГАЛОНКА.— *Гало́нчанка*

ГАЛОТА, памянш. ГАЛОЦІК.— *Гало́та; Гало́цік.* Укр. у XVII ст. *Галота* (Туп.)

ГАЛОЎНЫ.— *Гало́ўніч, ?Галаўне́нка* магчыма і ад ГАЛАВЕНЬ, ГАЛАЎНЯ (гл.)

ГАЛОЎЧЫК.— *Гало́ўчык.* Параўн. ГАЛАВА

ГАЛУБ гл. ГОЛУБ

ГАЛУБЕЦ рэг. 'голуб' (Бяльк.), бел. кулінарнае 'галубец'. — *Галубе́ц, Галубцо́ў.* Бел. у XVII ст., рус. у XVI—XVII стст. *Голубец* (Туп.). СРП *Голубцов.* Параўн. ГОЛУБ

ГАЛУЗА, памянш. ГАЛУЗКА 'гарэза, свавольнік' (Нас., Юрч.), 'дурны, неразумны' (Нас.), 'бедны, але фарсісты чалавек' (КСЧ), рус. 'гарэза, свавольнік' (Фасм.), параўн. рус. *галузать* 'гарэзіць, сваволіць, балавацца' (Даль), укр. *галуза,* памянш. *галузка* 'галіна' (Грынч.), *галуза* 'балаўнік', 'дурнаваты, бесталковы' (Піск.).— *Галу́за, Галузо́віч; Галу́зка, Галуска* пры [з]> >[с]. Бел. у XVI—XVIII стст. *Галуза* (Туп., БА, І, 205). Рус. у XV ст. *Галуза* (Туп.), укр. у XVII ст. *Галузка* (Туп.). СРП *Голузин*

ГАЛУН.— *Галуно́віч.* Укр. у XVI ст. *Голунок* (Туп.)

*ГАЛУЦ.— *Галуц*

ГАЛУХА рус. 'дасціпны жарт' (Фасм.), укр. 'вялікая галушка' (Грынч.).— *Галу́ха.* СРП *Галушин*

ГАЛУШКА.— *Галу́шка, Галу́шкін, Галу́шчанка.* Бел. у XVI—XVII стст. *Галушка* (БА, І, 205; Туп.). СРП *Галушка, Галушкин, Голушкин, Голушков*

*ГАЛЦЕЙ. — *Галце́еў.* СРП *Галтеев*

*ГАЛЫГА.— *Галы́га, Галы́гін*

ГАЛЫН, памянш. ГАЛЫНЕЦ, ГАЛЫНОК, ГАЛЫНЧЫК.— *Галыно́ў; Галыне́ц; Галыно́к, Галынко́ў; Галы́нчык; Галы́нскі.* Укр. у XVII ст. *Галын* (Туп.)

ГАЛЫНА, ГАЛЫНЯ.— *Галы́на, Галы́ня, Галы́нін.* СРП *Галынин, Голынин, Голынский*

ГАЛЬ рус. 'насмешка, здзек' (Фасм.).— *Галь*

*ГАЛЬКО.— *Гальќо, Галькéвіч, Гальчэ́ня.* Параўн. ГАЛЯК

ГАЛЬМАК параўн. рус. *гальмовать* 'тармазіць' (Даль), *гальма* 'тормаз у павозцы, млыне' (Мірт.), укр. *гальмо* тое ж, пераносн. 'перашкода', 'недахоп, вада' (Грынч.).— *Гальма́к, Гальмакóў*

*ГАЛЬША, *ГОЛЬША.— *Гальшэ́віч*

ГАЛЮГА 'голы, бедны чалавек'? — *Галю́гін, Галю́жын*

*ГАЛЮД.— *Галю́дач*

ГАЛЮК укр. 'бядняк' (Грынч.).— *Галю́к, Галюкéвіч.* СРП *Галюков.* Параўн. ГАЛЯК

*ГАЛЯГУЗ.— *Галягу́заў*

ГАЛЯК.— *Галя́к, Галякéвіч, Галя́чанка; ?Галькó, Галькéвіч, Гальчэ́ня.* Бел. у XVI ст. *Голяк* (БА, I, 207). Укр. у XVII ст. *Голяк* (Туп.). СРП *Голяков*

*ГАЛЯН, памянш. ГАЛЯНЁК.— *Галянóвіч; ?Галянкó; Галянькóў.* Бел. у XVII ст. *Голян* (Туп.). СРП *Голянов*

*ГАЛЯС.— *Галя́с*

ГАМАЛА літ. *gãmala* 'снежка, снежны камяк', 'кусок хлеба, мяса' (Фрэнк.), магчыма і ад *гамаць* 'есці'.— *Га́мала; Гамаліцкі*

*ГАМЕЗА параўн. рус. *гамаза* 'той, хто надакучвае' (Мірт.).—*Гамéза.* Параўн. СРП *Гомозов*

*ГАМЕЗАН.— *Гамеза́н*

ГАМЗА, ГОМЗА рэг. 'неахайны, той, хто камечыць адзенне' (Юрч.), параўн. *гамзіць* 'мяць, камячыць адзенне', 'лаяць, бэсціць' (Юрч.), 'марна траціць' (Бяльк.), *гамзаць* 'павольна есці', *гамзаць* 'гаварыць у нос, гугнявіць' (БРС, КСЧ), рус. *гамза* 'бумажнік', 'грошы' (Даль), 'прыбытак' (Даль), параўн. *гамзать* 'гугнявіць', *гомзать* 'вазіцца, шавяліцца, мітусіцца', (Даль).— *Гамза́, Гóмза; Гамзю́к.* Бел. у XVII ст. *Гомза* (БА, I, 207)

*ГАМОЛКА параўн. рэг. *гамоляты* 'есці, умінаць, жаваць' (Клімч.).— *Гамóлка*

ГАМУЛА рэг. 'бульбяная клёцка' (Бяльк.), укр. 'каша з яблыкаў з мёдам', 'занадта густая страва' (Грынч.), польск. *gamuła* 'дурань, балван, варона', 'бязрогая жывёліна' (Карл.), літ. *gamulas* 'цюк, кіпа, куча' (Фрэнк.).— *Гаму́лéнка.* СЛП *Гамула*

*ГАМУС.—*Га́мус*

ГАН, памянш. ГАНЬКО рэг. 'загана, вада', 'пляма, дрэнны бок чаго-небудзь' (Нас.), параўн. *ганіць* (БРС),

укр. *гана* 'ганьбаванне, вымова, ганьба' (Грынч.), літ. *ganas* 'пастух' (Атр., II, 32).— *Ган, Га́ніч; Ганю́к, Гáнько́; Ганчу́к.* СЛП *Ганас, Ганіс*

*ГАНАК.— *Ганако́ў*

*ГАНДАР.— *Гандаро́віч.* СРП *Гандер*

*ГАНДЗЕЛЬ.— *Гандзель*

*ГАНДЫШ.— *Га́ндыш*

ГАНЕБНЫ.— *Гане́бны.* Бел. у XVIII ст. *Ганебны* (БА, I, 205)

ГАНЖА ўкр. *ганжа, ганджа* 'загана, хіба' (Грынч.), узб. *ганж* 'багацце, скарб' (УРС).— *Ганжа, Ганжын.* Укр. у XVII ст. *Ганжа* (Туп.)

*ГАНЖУРА.—*Ганжу́ра, Ганжуро́ў*

ГАНЗА рус. *ганза* 'мангольская ці кітайская люлька' (Даль).— *Ганзю́к.* СЛП *Ганзин*

ГАНУС параўн. рэг. *ганусавы* 'анісавы' (Нас.), рус. *ганус* 'аніс', 'чарнушка' (Даль), укр. 'аніс' (Грынч.), літ. *ganus* 'пастух' (Атр., II, 32).— *Га́нус, Ганусе́віч*

*ГАНУШ, памянш. ГАНУШКА.— *Гануш; Гану́шчанка*

*ГАНЦ.— *Ганц*

ГАНЧАР, памянш. ГАНЧАРЫК бел. 'той, хто вырабляе гліняную пасуду' (БРС), устар. 'пячнік', 'чарапічнік' (Гарбач.). — *Ганча́р, Ганчаро́ў, Ганчарэ́віч, Ганчарэ́нка, Ганчаро́нак; Ганчару́к; Ганча́рык.* Бел. у XVI—XVII стст. *Гончар, Ганчар* (БА, I, 207). Рус. у XVII ст. *Гончар, Гончаров, Гончарёв, Гончаренко, Гончарук*

*ГАНЧУРА.— *Ганчу́рын*

*ГАНЭЛЯ.— *Ганэ́лін*

ГАПАК.— *Гапако́ў*

ГАПТА параўн. рэг. *гаптачка* 'гафтачка, пятля для кручка' (КСЧ), *гаптаваць* 'вышываць' (КСЧ), укр. *гаптувати* тое ж (Грынч.).— *Гапцёнак*

*ГАПЦАР.— *Гапцар*

*ГАПША.— *Гапшэ́ня.* СЛП *Гапшіс*

ГАРА.— *Гара́; Гара́нскі, Гараўскі, Гарэ́цкі.* Укр. у XVI ст. *Гора, Горка* (Туп.). СРП *?Горин, ?Горич, ?Горичев, ?Горкин*

ГАРАВЫ 'той, хто жыве на гары, на высокім месцы'.— *Гараві́, Гараве́нка; Гараві́х.* Бел. у XVI ст. *Горевы* (БА, I, 207)

ГАРАВЕЦ 'жыхар вёскі Гара', 'той, хто жыве на гары, на высокім месцы'.— *Гараве́ц, Гараўцо́ў*

*ГАРАГЛЯД.— *Гарагля́д.* Бел. у XVI ст. *Горегляд* (БА, I, 207)

ГАРАДНІЧЫ.— *Гараднічы.* Рус. у XVII ст. *Городничий* (Туп.)

ГАРАДНЯК.— *Гараднякóў*

*ГАРАЙ.— *Гара́й, Гара́еў.* Рус. у XV—XVII стст. *Горяй* (Туп.). СРП *Горяев, ?Гараев*

*ГАРАЙМА.— *Гараймóвіч*

*ГАРАЛЬ 'які жыве на гары'? — *Гаралёў*

*ГАРАН.— *Гаранóвіч, Гаранёнкаў; Гаранчу́к; Гара́нскі.* СРП *Горанов, Горанков, Горанский, Горянов, Горянчиков, Гаранкин*

ГАРАНІН 'той, хто жыве ў в. Гара', 'той, які жыве на гары, на высокім месцы'.— *Гара́нін.* СРП *Горанин, Горянин, Горянинов, ?Гаранин*

*ГАРАПЕКА.— *Гарапéка*

*ГАРАСТ.— *Гараст* у выніку асваення ЛП *Гарастас, Гараста*

ГАРАЧКА.— *Гара́чка.* Бел., укр. у XVI ст. *Горячка* (Туп.). СРП *Горячкин*

ГАРАЧУН 'гарачы, нястрыманы'? — *Гарачу́н*

ГАРАЧЫ.— *Гара́чы.* Рус. у XVI ст. *Горячий* (Туп.). СРП *Горячев, Горяченков, ?Горячин*

*ГАРАША, памянш. ГАРАШКА, магчыма, ад УІ *Гарасім*<*Герасим.*— *Гарашкéвіч, Гара́шчанка, Гарашчэ́ня; Гарашчу́к* — некаторыя магчымы і ад *гарошка,* гл. ГАРОХ. Рус. у XVI ст. *Горяша, Горяшка* (Туп.). СРП *Горященко, Гарашин*

ГАРБАЛЬ, ГОРБАЛЬ 'гарбаты, гарбун'? — *Гарба́ль, Гóрбаль, Гарбалéня*

ГАРБАР.—*Гарба́р; Гарбарчу́к*

ГАРБАТЫ, ГОРБАТ.— *Гóрбат, Гарбатóвіч, Гарбацэ́віч* (магчыма і ад *гарбач*), *Гарбацéнка, Гарбацéня; Гарбатóўскі.* Бел. у XVIII ст. *Гарбат* (БА, I, 207). Рус. у XV—XVI стст. *Горбатой* (Туп.). СРП *Горбатов, Горбатенко, Горбатенков*

ГАРБАЧ, памянш. ГАРБАЧЫК 'гарбаты'.— *Гарба́ч, Гóрбач, Гарбачóў, Гарбачóнак; Гарба́чык; Гарбачэ́ўскі, Гарба́цкі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Горбач, Горбачик* (БА, I, 207; Туп.). Укр. у XVII ст. *Горбач* (Туп.). СРП *Горбачёв*

ГАРБЕЛЬ, памянш. ГАРБЕЛІК 'гарбаты'.— *Гарбéль, Гóрбель; Гарбéлік*

ГАРБУЗ, памянш. ГАРБУЗОК.— *Гарбу́зо́ў; Гарбузо́к.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Гарбуз* (БА, I, 205; Туп.). СРП *Гарбузов*

ГАРБУЛЬ 'гарбаты'.— *Гарбу́ль.* СРП *Горбулёв, Горбулин*

ГАРБУН.— *Гарбу́н, Гарбуно́ў.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Горбун* (БА, I, 207; Туп.). Рус., укр. у XVII ст. *Горбун* (Туп.). СРП *Горбун, Горбунов, Горбунков, Горбунцов, Горбунчиков*

ГАРГАРА рэг. 'вялікая грамоздкая рэч' (БРС), 'сварлівы чалавек' (Юрч.) 'высокага росту жывёліна, напрыклад, конь, карова' (Дзярж.— М. Б.), параўн. літ. *gar̃garas* 'конь, кляча' (Фрэнк.).— *Гарга́рын*

*ГАРГОНЬ.— *Гарго́нь* у выніку асваення ЛП *Гаргонас*

*ГАРГУН гл. ГОРГУН

*ГАРДЗЕЛЬ 'горды'? — *Гардзе́ль*

*ГАРДЫНА, *ГАРДЫНЯ, памянш. *ГАРДЫНЕЦ 'горды', магчыма, 'той, які жыве ў в. Гардыні'.— *Гардыне́ц.* Бел. у XVI ст. *Гардына* (БА, I, 205). Укр. у XV—XVII стст. *Гордыня* (Туп.)

ГАРКАВЫ 'картавы'.— *Гарка́вы.* Бел., укр. у XVII ст. *Горкавый, Гаркавый* (Туп.)

ГАРКАЛЬ рэг. 'горкі' (Дзярж.— М. Б.), 'картавы'? — *Гарка́ль, Гарка́лін; Гаркалю́к.* Параўн. ГОРКІ, ГАРКАВЫ

ГАРКАЧ рэг. 'горкі' (Дзярж.— М. Б.), 'картавы'? — *Гарка́ч.* Параўн. ГОРКІ, ГАРКАВЫ

ГАРКУН рус. 'крыкун, гарлапан' (Даль), укр. 'буркун, бурчун' (Грынч.).— *Гарку́н.* Бел. у XVIII ст. *Гаркун* (БА, I, 205). СРП *Гаркунов.* Параўн. ГАРКАВЫ.

ГАРКУША, памянш. ГАРКУШКА рэг. 'яблыня, на якой растуць горкія яблыкі' (Бяльк.), *гаркуш, гаркушка* 'горкі грыб' (Нас.), рус. *гаркуша* 'крыкун, гарлапан' (Даль), *горькуша* 'гаротнік, бядняк' (Дабр.). — *Гарку́ша, Гарку́шын; Гарку́шка.* Бел., укр. у XVII ст. *Гаркуша, Горкуша* (Туп.)

*ГАРЛА.— *Гарла.* СЛП *Гарла*

ГАРЛАН 'гарлапан, крыкун'.— *Гарла́н, Гарла́наў.* Рус. у XVII ст. *Горлан* (Туп.). СРП *Горланов*

ГАРЛАЧ рэг. 'той, хто бярэ горлам, гарлапан' (Стэц.), 'збанок' (РБС), рус. тое ж (Даль), укр. заал. (Грынч.).— *Гарла́ч, Гарлачо́ў.* СРП *Горлачёв*

*ГАРЛЕЙКА.— *Гарле́йка*

ГАРЛЯНКА рэг. 'горла' (Дзярж.— М. Б.), назва расліны (БРС), рус. назва некалькіх раслін (Даль), укр. 'горла', назва дзвюх раслін (Грынч.).— *Гарлянко́* пры змене месца націску

ГАРМАЗА ўкр. *гармиза* 'гарнізонны салдат' (Грынч.). — *Гармаза́.* СЛП *Гармасас*

ГАРМАШ укр. 'артылерыст, пушкар' (Грынч.), параўн. таксама данск. *гармаши* 'вілы для саломы' (Мірт.).— *Гармашу́к.* СРП *Гармаш*

*ГАРМЕЛЬ.— *Гарме́ль*

*ГАРМІН.— *Гарміно́віч*

ГАРМОНШЧЫК 'майстар, які робіць гармонікі'? — *Гармо́ншчыкаў*

ГАРНАК 'той, хто вырабляе зброю'? параўн. ГАРНАШ, магчыма, ад укр. *гарний,* параўн. *гарнюк* 'прыгажун' (Грынч.).— *Гарна́к, Гарнако́ў*

ГАРНАСТАЙ.— *Гарнаста́й, Гарнаста́еў.* Бел. у XVI—XVII стст. *Горностай* (БА, I, 207; Туп.). СРП *Горностаев*

ГАРНАШ, памянш. *ГАРНАШКА 'рыцарскае ўзбраенне' (Гарбач.).— *Гарна́ш, Гарнашэ́віч; Гарна́шка, Гарнашке́віч*

ГАРНЕЦ — *Га́рцаў* пры спрашчэнні [рнц] у [рц]. Укр. у XVII ст. *Гарнец* (Туп.). СРП *Гарцев*

ГАРНЫ рэг. 'прыгожы, добры', укр. *гарний* 'добры, ладны, прыгожы' (Грынч.).— *Га́рны, Гарно́ў; Гарні́цкі, Гарно́ўскі.* СРП *Гарнов*

ГАРОДНІК 'агароднік'.— *Гаро́днік.* Параўн. АГАРОДНІК

ГАРОХ, памянш. ГАРОШКА.— *Гаро́х, Гаро́хаў; ?Го́рах, Го́рахаў; Гаро́шка, Гаро́шкін, Гарашке́віч, Гаро́шчанка, Гарашчэ́ня; Гарашчу́к.* Бел. у XVIII ст. *Горошко* (БА, I, 207). Рус. у XVI ст. *Горох* (Туп.). СРП *Горохов, Горошкин, Горошков, Гороховский*

ГАРОХАВЕЦ з в. Гарохава.—*Гаро́хавец, Гарахаве́ц.* СРП *Гороховцев*

ГАРОХАВІК 'той, хто жыве ў в. Гарохава'? — *Гаро́хавік*

*ГАРОШ.— *Гаро́ш, Го́раш*

*ГАРСТ, памянш. ГАРСЦІК.—*Га́рсцік*

*ГАРУДА, памянш. ГАРУДКА. — *Гару́дка, Го́рудка*

ГАРУЛЯ ад *гараваць?*— *Гару́ля,* магчыма, у выніку асваення ЛП *Горуліс*

ГАРУН рэг. 'гаротнік', рус. *горюн* тое ж (Даль).— *Гару́н, Гаруно́ў, Гаруно́віч*. Бел. у XVII ст. *Горунко*, укр. у XVI ст. *Горунец* (Туп.). СРП *Горюнов, Горюнков, Горюнцев*

ГАРУПА ўкр. *горупа* 'свірэпа' (Грынч.).— *Гару́па*

ГАРУС.— *Га́рус, Га́русаў*

*ГАРУСТ параўн. рэг. *гарусціць* 'прыграбаць да сябе, прыбіраць да рук' (КСЧ), рус. *гарустить* 'надаядаць, наводзіць сум' (Мельн.).— *Гарусто́віч*

ГАРУЧКА 'гарачы, нястрыманы'.— *Гару́чка*

*ГАРЦУЙ.— *Гарцу́еў*

ГАРЧАК рэг. бат. 'драсён змяіны' (Бейл.).— *Гарчако́ў*. У Туп. *Горчаков*

ГАРЧУН ад *горкі?*—*Гарчу́н*

ГАРШКАЛЬ 'ганчар'.— *Гаршкалёў*

*ГАРШУН.— *Гаршуно́ў*. СРП *Горшунов*

ГАРШЧАР, памянш. ГАРШЧАРЫК 'ганчар'. — *Гаршча́рык*

ГАРШЧОК.— *Гаршко́ў*. У Туп. у XVI—XVII стст. *Горшек*. СРП *Горшков*

ГАРЫД.— *Гары́д, Гарыдаве́ц*

*ГАРЫН.— *Га́рын, Гарыно́віч*. СРП *Гарин, Гарынов*

ГАРЫСЛАЎ, памянш. ГАРЫСЛАЎКА.-- *Гарысла́ўка*

*ГАРЫСТ.— *Гары́ст*

*ГАРЭЙКА.— *Гарэ́йка*. СЛП *Гарейка*

ГАРЭЛІК.—*Гарэ́лік, Гарэ́лікаў*. СРП *Гореликов*

ГАРЭЛЫ, памянш. ГАРЭЛЬКА, ГАРЭЛЬЧЫК.— *Гарэ́лаў, Гарэ́ленка; Гарэ́лька; Гарэ́льчык; Гарэ́льскі*. Бел. у XVII ст. *Горелый* (БА, I, 207), рус., укр. у XVII ст. *Горелой* (Туп.). СРП *Горелов, Горелин, Горелкин*

ГАРЭЛЫШ, 'гарэлы'.— *Гарэ́лышаў*. СРП *Горелышев*

ГАСПАДАР, памянш. ГАСПАДАРЧЫК.— *Гаспада́раў, Гаспадаро́ў; Гаспада́рчык*. СРП *Господарёв*

ГАСПОДА рэг. 'гаспадарка', 'двор' (БРС).— *Гаспадзёнак*

*ГАСПАДУРА.— *Гаспаду́ра*

ГАСПАДЫНЯ.— *Гаспады́ніч*

ГАСЦІЛА.— *Гасці́ла, Гасціло́віч; Гасціло́ўскі*. Бел., укр. у XVI ст. *Гостило* (БА, I, 208; Туп.)

*ГАСЫХА.— *Гасы́ха*

*ГАСЮК.— *Гасю́к*

*ГАСЮЛЬ.— *Гасю́ль* у выніку асваення ЛП *Гасюліс*

ГАТАЛЯК параўн. рэг. *гаталяй* 'гультай' (КСЧ), укр. *гатала* 'наўскач, наўгалоп', *гаталати* 'ездзіць, бегчы наўскач, наўгалоп' (Грынч.).— *Гаталя́к; Гата́льскі*

ГАТОЎКА, памянш. рэг. ГАТОЎЧЫК 'наяўныя грошы' (Нас.).— *Гато́ўка, Гато́ўчыц; Гато́ўчык, Гато́ўчыкаў*

*ГАЎДЗЕЛЬ.— *Гаўдзе́ль*

*ГАЎДЗІС.— *Га́ўдзіс.* СЛП *Гаудіс*

*ГАЎЛА, памянш. ГАЎЛІК.— *Га́ўлікаў.* СЛП *Гауле*

*ГАЎЛАС.— *Га́ўлас.* СЛП *Гаулас*

ГАЎРОН ст. рус. *гаврон* 'воран' (Ср.), укр. *гавран* тое ж (Грынч.).— *Гаўро́н; Гаўро́нскі*

*ГАЎША.— *Га́ўшын*

*ГАЦ, памянш. ГАЦКО, ГАЦЬКО параўн. рэг. *гацаць* 'бегаць, падскокваючы', 'хутка ехаць конна' (КСЧ), польск. *gacać* 'хутка ісці' (Карл.).— *?Гацу́к; Гацко́, Гацке́віч; Гацько́*

ГАЦАК укр. *гоцак* назва танца (Грынч.).— *Гаца́к.* Параўн. ГАЦ

*ГАЦІЛА.— *Гаці́ла.* Параўн. ГАЦ

*ГАЦІХ, *ГАЦІХА.— *Гаці́х, Гаці́ха, Гацы́ха.* Параўн. ГАЦ

*ГАЦУК.— *Гацу́к.* Параўн. ГАЦ

*ГАЦУРА.— *Гацу́ра.* Параўн. ГАЦ

ГАЧА ўкр. *гача* 'жарабя' (Грынч.).— *Гачэ́ня,* магчыма, ад ГАК (гл.). СРП *Гаченков*

ГАША параўн. укр. *гашка* 'змяя' (Грынч.).— *Га́шын; Гашы́нскі*

*ГАЯН параўн. укр. *гаянка* 'затрымка', *гаяння* 'марудлівасць' (Грынч.), 'маруда'?.— *Гайяновіч.* Башк., тат. УІ *Гаян* (СЛІ, 72, 163)

ГВАЗДЗЮК бел. рэг. 'гваздзіка, гваздзік' (Дзярж.— М. Б.).— *Гваздзюке́віч*

*ГВАЙ.— *Гвай*

*ГВАРДЗІЯН параўн. укр. *гвардионець* 'гвардзеец' (Грынч.), рус. *гвардион* 'ніжні чын каранціннай службы ў партах' (Даль).— *Гвардзія́н*

ГВОЗД.— *Гвозд, Гваздо́віч; *Гваздзюк → Гваздзюке́віч; Гваздо́ўскі.* СРП *Гвоздов, Гвоздков*

ГВОЗДЗЬ, памянш. ГВОЗДЗІК.— *Гвоздзь, Гваздзёў, Гво́здзеў; *Гваздзюк → Гваздзюке́віч; Гво́здзік.* Бел. у XV ст. *Гвоздь,* рус. у XV—XVI стст. *Гвоздь,* укр. у XVI ст. *Гвоздик* (Туп.). СРП *Гвоздёв, Гвоздиков, ?Гвоздин*

*ГВОЗДЫР.— *Гвоздыраў*

ГВЯЗДА польск. *gwiazda* 'звязда' (Карл.). — *Гвя́зда*

*ГЕВАД.— *Гéвад*

*ГЕГОЛА.— *Гегóла*

ГЕДА, памянш. ГЕДЗЬКА літ. *géda* 'сарамлівасць' (Фрэнк.), *gedetis, gédytis* 'саромецца' (Фрэнк.).— *Гéда, Гéдзіч; Гéдзька.* СРП *Гедин.* СЛП *Геда, Гедас, Гедіс*

*ГЕДЗЮН.— *Гéдзюн.* Параўн. ГЕДА

ГЕДРАВЕЦ з в. Гедра, Гедрава.— *Гедравéц*

ГЕДРОЙЦЬ, ГЕДРОІЦЬ.— *Гедрóйць, Гедрóіць* у выніку асваення ЛП *Гедрайціс, Гедрайтіс*

ГЕЗ польск. *giez* 'авадзень, гіз' (Карл.).— *Гез*

ГЕЙБА літ. *géiba* 'хворы', *g̃eĩba, g̃éiba* 'слабы, няспрытны, няўмелы' (Фрэнк.).— *Гéйба* ў выніку асваення ЛП *Гейба, Гейбіс*

ГЕЙДА польск. *giejda* 'глуханямы' (Карл.).— *Гéйда, Гейдэ́ка.* СЛП *Гейда*

*ГЕЙЖАН.— *Гéйжан*

*ГЕЛА.— *Гéлін, Гéліч*

*ГЕЛАХ, ГЕЛАШ.— *Гéлах, Гéлаш*

*ГЕЛЕЙША.— *Гелейша*

ГЕМБАР параўн. польск. *gęba* 'губа' (Карл.).— *Гéмбар*

ГЕМЗА польск. *gemza* 'дзікая каза', 'шкура дзікай казы' (Карл.).— *Гéмза; ?Гéмскі*

*ГЕН, памянш. ГЕНЕЦ — *Гéнаў, Гéніч; Гéнец,* магчыма, у выніку асваення ЛП *Геніс*

*ГЕНЕС.—*Гéнесаў, Гéнесеў,* відаць, у выніку асваення ЛП *Геніс*

*ГЕНЕТ.— *Генетаў*

ГЕНЗАЛЬ.—*Гензаль* у выніку асваення ЛП *Гензэліс*

*ГЕНІС.— *Геніс.* СЛП *Геніс*

ГЕР, памянш. ГЕРЫК, ГЕРКА польск. *ger* батан., заал. (Карл.).—*Гер, Гéрыч; Гéрык; Гéрка*

*ГЕРАЙМ(А).— *Гераймóвіч*

*ГЕРАЛ параўн. літ. *gẽralas* 'напітак, пітво' (Атр., II, 110). — *Гералóвіч,* магчыма, у выніку асваення ЛП *Гереліс*

*ГЕРАЛЬНЫ.— *Геральнóвіч.* Параўн. ГЕРАЛ

ГЕРАНЬ.— *Гера́нін.* СРП *Геранин; ?Геранкин*

*ГЕРБАК, памянш. ГЕРБАЧЫК.— *Гербáчык*

*ГЕРБАЛЬ.— *Гéрбалеў.* Параўн. СРП *Гербель*

*ГЕРВЕЛЬ.— *Гéрвель* у выніку асваення ЛП *Герве́ле, Герве́ліс*

*ГЕРДА літ. *gerdauti* 'жартаваць' (Атр., II, 225), параўн. польск. *girda* 'узор са шклярусу' (Карл.). — *Гéрда, Гéрдзі.* Параўн. СЛП *Гердайтіс*

*ГЕРС(А).— *Герсéня*

*ГЕРТ.— *Герт* у выніку асваення ЛП *Герта, Гертас*

*ГЕРТМАН.— *Гéртман* у выніку асваення ЛП *Гертманас*

*ГЕРУС.— *Гéрус*

*ГЕРУЦЬ.— *Гéруць; Гeрýцкі* ў выніку асваення ЛП *Герутіс*

ГЕРЦЫК бел. 'мантач, марнатравец, хітрун, ашуканец' (Нас.).— *Гéрцык, Герцыкóвіч.* Укр. у XVII ст. *Гéрцык* (Туп.)

*ГЕРШОН, памянш. ГЕРШАНОК. — *Гершанóк.* СРП *Гершановіч*

*ГЕСЦЬ.— *Гесць*

*ГЕСЬ, памянш. *ГЕСІК.*— *Гесь, Гéсіч; Гéсік*

ГЕТМАН.— *Гéтманец; Гéтманскі.* Укр. у XVI ст. *Гетман* (Туп.). СРП *Гетманов*

*ГЕУТ.— *Гéут*

*ГЕЦ, памянш. ГЕЦІК.— *Гец, Гéцаў, Гяцэ́віч; Гéцік, Гéцікаў*

*ГЕЦМАН.— *Гецманчýк*

*ГІБ, памянш. ГІБОК, ГІБЧЫК ад *гібаць, гібкі?* — *Гібóк; Гібчык; Гібóўскі*

*ГІВОІН.— *Гівóін*

*ГІГА.—*Гігéвіч* у выніку асваення ЛП *Гіга*

*ГІГЕЛЬ.— *Гігель* у выніку асваення ЛП *Гігеліс*

*ГІГОЛА.— *Гігóла* ў выніку асваення ЛП *Гігуоліс*

ГІДРА.— *Гідрэ́віч,* **Гідрын* → *Гідрынóвіч*

*ГІЗАЙ ад *гізаваць?* — *Гізáй*

ГІЗУН ад *гізаваць?* — *Гізýн*

ГІКАЛА ўкр. *гикало* 'заіка' (Грынч.).— *Гікáла*

*ГІЛІС.— *Гіліс.* СЛП *Гіліс*

*ГІЛУЦЬ.— *Гілуць* у выніку асваення ЛП *Гілутіс*

ГІЛЬ, памянш. ГІЛЁК.— *Гіль, Гілéвіч; Гілёк, Гількóў; ?Гыль* з [г']>[г]; *Гілéўскі.* СРП *?Гилин*

*ГІМ, памянш. ГІМІК.— *Гімік*

*ГІМАН.— *Гіманаў*

*ГІМБАТ.— *Гімбат, Гімбатаў* у выніку асваення ЛП *Гімбута, Гімбутас*, якія ўзыходзяць да ст. літ. двухчленнага УІ *Гімбутас* (Атр., II, 14)

*ГІНАК.— *Гіна́к*

ГІНДА рэг. лайл. 'гніда' (Бяльк.).— *Гіндзіч*

ГІНЕТ.— *Гінётаў* у выніку асваення ЛП *Гінета, Гінетіс, Гінетас*

ГІНТАЎТ, ГІНТАФТ. — *Гінтаў; Гінтафт* у выніку асваення ЛП *Гінтаутас, Гінтоўтас, Гінтаўтіс*, якія ўзыходзяць да ст. літ. двухчленнага УІ *Гінтаутас*

*ГІНЬ.— *Гінь; Гіню́к; Гінько́*, магчыма, у выніку асваення ЛП *Гінюс*

ГІНЧ літ. *gi͂nčas* 'сварка, лаянка' (Фрэнк.).— *Гінч, Гінчанка* ў выніку асваення ЛП *Гінчас, Гінчіс*

*ГІПАЦЬ.— *Гіпаць*

ГІРА, памянш. ГІРКА, ГІРАШКА.— *Гіра, Гіро́, Гірын, Гірынаў; ?Гірко́; ?Гіра́шчанка; Гіры́нскі*. Бел. у XVI ст. *Гира*, укр. у XVI—XVII стст. *Гира, Гиря, Гирка* (Туп.). СРП *Гира, Гирин, ?Гирев*. СЛП *Гіра*

ГІРАВЫ, памянш. ГІРАЎКА рус. *гирявый* 'стрыжаны', 'безвалосы, лысы' (Даль), укр. *гирявый* 'нізка пастрыжаны', (аб прадмеце) 'сапсаваны, дрэнны' (Грынч.).— *Гіра́вы; Гіра́ўка*

*ГІРАС.— *Гірас*. СЛП *Гірас*

*ГІРГЕЛЬ.— *Гіргель*

ГІРДЗЬ, памянш. ГІРДЗЮШКА параўн. літ. *girdėti* 'слухаць, чуць', *girda* 'слых, здольнасць чуць' (Фрэнк.).— *Гірдзь; Гірдзю́к; Гірдзю́шка, Гірдзю́шкін*, відаць, у выніку асваення ЛП *Гірдіс, Гірдас*

*ГІРЖОН.— *Гіржо́н* у выніку асваення ЛП *Гірджёніс*

ГІРСА.—*Гірса́, Гірсіч, Гірсёнак*

*ГІРУЦЬ.— *Гіруць, Гіру́цкі* ў выніку асваення ЛП *Гірутіс, Гіруте*

*ГІРШОН.— *Гіршо́н*

*ГІРЫС.—*Гірыс*. СЛП *Гіріс*.

*ГІРЭЛЬ.— *Гірэ́ль*

*ГІС.— *Гісіч*, відаць, у выніку асваення ЛП *Гісас*

*ГІСАК.— *Гіса́к*

ГІТАЛЬ, памянш. ГІТАЛЁК укр. *гиталь* 'сцябло, тоўсты пражылак ліста' (Грынч.).— *Гіталёк, Гітальсо́ў*

*ГІТАР.— *Гітар*

ГІЧ, памянш. ГІЧЫК, параўн. бел. *гі́чан* 'бацвінне, цяўнік' (БРС), рус. *гич* тое ж (Даль), укр. *гич, гича*

тое ж (Грынч.).— *Гіч, Гічо́ў, Гічаў, Гічэ́віч; Гічык; Гіча́нскі*. СРП *Гичев*

ГІЧАН.— *Гіча́н; Гіча́нскі*

ГЛАБАЖ, ГЛОБАЖ параўн. рэг. *глабаць* 'заграбаць, забіраць' (Нас.), 'мацаць' (Стэц.), польск. *głabać* забіраць, прысвойваць' (Карл.).— *Глаба́ж, Гло́баж*

ГЛАВА, памянш. ГЛАЎКА польск. *gława, głowa* 'галава' (Карл.).— *Гла́ўка; Глава́цкі, Главі́нскі*. СРП *Гловацкий*

ГЛАГОЛЬ.— *Глаго́лев*. Бел., рус. у XVI ст. *Глаголь* (БА, I, 205; Туп.). СРП *Глаголь, Глаголев, Глагольев*

ГЛАДКІ.— *Гла́дкі, Гладко́ў, Гла́дкіх, Гла́дчанка; Гладко́ўскі*. Рус., укр. у XV—XVII стст. *Гладкой, Гладкий* (Туп.). СРП *Гладкий, Гладков, Гладких, Гладченко*

ГЛАДУН назва расліны (БРС), укр. тое ж (Піск.), рус. *глодун* 'той, хто грызе ці агрызаецца' (Даль).— *Гладу́н*. Укр. у XVII ст. *Гладун* (Туп.)

ГЛАДЫШ 'збанок без ручкі' (БРС, КСЧ).— *Гла́дыш, Гла́дышаў*. Бел. у XVII—XVIII стст., рус. у XV ст., укр. у XVII ст. *Гладыш* (БА, I, 205; Туп.). СРП *?Гла́дышев*

ГЛАЗ, памянш. ГЛАЗКО бел. рэг., рус., укр. 'вока', польск. *głaz* 'вялікі камень на полі' (Карл.).— *Глаз; Глазю́к; Глазко́, Глазко́ў, Гла́зкін*. Бел. у XVI—XVII стст. *Глаз, Глазко* (Туп.). СРП *Глазов, Глазко, Глазков*

ГЛАЗУН рус. 'разявака, той, хто без справы ходзіць і разглядвае', 'чалавек з выпуклымі вачыма' (Даль).— *Глазу́н, Глазуно́ў*. Рус. у XVI—XVII стст., укр. у XVI ст. *Глазун* (Туп.). СРП *Глазунов*

ГЛАСКА параўн. польск. *głaskać* 'гладзіць рукой, ласкаць' (Карл.).— *Гла́ска, Гласко́віч*. Бел. у XVII ст. *Гласко* (Туп.). СРП *Гласко*

*ГЛАСТ(А).— *Гласцёнак*

*ГЛАТ(А).— *Глацёнак*

ГЛАЎДЗЕЛЬ параўн. літ. *glaudas* 'забава, пацеха', *glauda* 'жарт, балагурства' (Фрэнк.).— *Глаўдзе́ль* у выніку асваення ЛП *Глауделіс*

*ГЛЕБУС.— *Гле́бус*. СЛП *Глебус*

*ГЛЁЗА, параўн. рус. *глёзкий* 'гладкі, слізкі' (Фасм.).—*Глёза, Глёзаў*. СРП *Глезин*

ГЛЕК рэг. 'гляк'.— *Гле́каў*

*ГЛЕЦ.—*Гляцэ́віч, Гліцэ́віч* пры [е]>[і]

ГЛІНА, памянш. ГЛІНКА.— *Глінка; Глінскі, Гліноўскі*. Бел. у XVIII ст. *Глинко* (БА, І, 205). СРП *Глинка, Глинкин, Глинков, Глинский*

ГЛІНІСТЫ.— *Гліністы*

ГЛОБА ст. бел. 'правінцыяльны саноўнік', 'грашовы штраф' (Гарб.), рус. *глоба* 'перакладзіна, жэрдка, якая ляжыць на чым-небудзь' (Даль), укр. *глоба* 'сцежка' (Мельн.), 'сагнутае ад прыроды дрэва', 'жалезны клін' (Грынч.), літ. *glóba, globá* 'ахова, абарона, апека' (Фрэнк.).— *Глóба*. СРП *Глобов*. СЛП *Глоба*

ГЛОБАЖ гл. ГЛАБАЖ

*ГЛОБУЗ.— *Глóбуз*

ГЛОБУС. — *Глóбус*

ГЛОД рус. 'глог, баярышнік' (Даль), укр. *глід, глод* тое ж (Грынч.), польск. *głód* 'голад', магчыма, ад *гладаць* 'грызці'.— *Гладзéвіч, ?Гладзюк; Глот* пры [д]>[т]

ГЛОТ, памянш. ГЛОЦЬКА ад *глытаць*? — *Глот; Глóцька*. У Туп. *Глот* у XVI ст. СРП *Глотов*

ГЛУЗДАК параўн. *глуздаць* 'біць па галаве', *глузды* 'мозг', 'памяць' (Нас.), рус. *глузд* 'розум, памяць', 'мозг', *глуздаць* 'біць па галаве', укр. *глузд* 'розум, сэнс', *глуздить* 'біць, сцябаць' (Грынч.).—*Глуздакóў*

ГЛУСЕЦ.— *Глусцóў*, магчыма, ад ГЛУШЭЦ (гл.)

ГЛУХІ, памянш. ГЛУХЕНЬКІ, ГЛУШКО, ГЛУШОК, ГЛУШЧЫК.— *Глýхаў, Глухóвіч, Глушóнак, Глушэня; Глушанóк, Глушанкóў; Глушýк; Глухéнькі; Глушкó, Глушóк, Глушкóў, Глýшкін, Глýшчанка, Глушчóнак, Глушчýк; Глýшчык; Глýхаўскі, Глухóўскі*. Бел. у XVI—XVIII стст. *Глухой, Глухи, Глух* (БА, І, 205), рус. у XV—XVII стст. *Глухой, Глух* (Туп.). СРП *Глухов, Глухих, Глушенков, Глуховский, Глушков, Глущенко*

ГЛУША 'глухі'? — *Глýшын*

ГЛУШАЙ 'глухі'? — *Глушáй, Глушáеў*. СРП *Глушаев*

ГЛУШАК рэг. 'глухі' (Дзярж.— М. Б.).— *Глушáк, Глушакóў*. СРП *Глушаков*

ГЛУШАНІН з в. Глуша.— *Глушáнін*. Бел. у XVI ст. *Глушанин*. СРП *Глушанин*

ГЛУШАНЬ, ГЛУШЭНЬ рэг. 'глухі' (Дзярж.— М. Б.), рус. *глушень* 'глушэц' (Даль). — *Глýшань, Глушэнь, Глушнёў*

ГЛУШКО, ГЛУШОК гл. ГЛУХІ

ГЛУШУК 'глухі'.— *Глушýк*

ГЛУШЭЦ 'глухі', заал. 'глушэц'.— *Глушэ́ц, ?Глусцо́ў* пры [шц]>[сц]

ГЛЫБА.— *Глы́бін*

ГЛЫБАВЕЦ з в. Глыб, Глыбава.— *Глыбаве́ц*

ГЛЯД, памянш. ГЛЯДКО ад *глядзець?* — *Гляд; Гля́дчанка.* Бел. у XV—XVII стст. *Гляд, Глядко* (Туп.)

ГЛЯК.— *Гляк*

ГМЫРАК параўн. рэг. *гмыра* 'чалавек суровага выгляду', 'той, хто жмурыцца, прыжмурвае вочы' (Нас.), рус. *гмыра* 'пануры чалавек', 'вялы, непаваротлівы' (Даль). — *Гмыра́к.* СРП *Гмырёв*

ГНЕДЫ, ГНЯДЫ, памянш. ГНЕДЧЫК, ГНЕДЗЬКА, ГНЯДЗЬКО рус. *гнедко* 'клічка гнядога каня' (Даль).— *Гняды́, Гне́даў, Гне́дзеў, Гнядзёнак; Гне́дчык, Гне́дзька, Гнядзько́; Гнядзько́ў; Гнядо́ўскі.* Бел. у XVIII ст. *Гнедзько* (БА, I, 206). Укр. у XVII ст. *Гнедой* (Туп.). СРП *Гнедой, Гнедов, Гнедич, Гнедин, Гнеденко, Гнедых*

ГНЕНЫ рэг. 'гнуты', укр. *гнений* 'гнуты', 'непрыдатны, непрыгодны' (Грынч.).— *Гне́ны*

ГНЕЎКА, ГНЯЎКО 'той, хто гневаецца'? — *Гне́ўка, Гняўко́*

ГНІБ параўн. рэг. *гнібіць* 'прыгнятаць' з літ. *gnýbti* 'трапіць у бяду', 'прычыніць бяду, прыціснуць' (Вяржб., 207), параўн. літ. *gnybti* 'шчыпаць, ушчыпнуць' (Фрэнк.).— *Гніб*

ГНІДА.— *Гнідзін.* Бел. у XVII ст. *Гнидка* (БА, I, 206). Укр. у XVII ст. *Гнида* (Туп.). СРП *Гнидин*

*ГНІЗА.— *Гніза*

ГНІЛАЗУБ са спалучэння *гнілыя зубы.— Гнілазу́б.* Укр. у XVII ст. *Гнилозуб* (Туп.)

ГНІЛАМЁД са спалучэння *гнілы мёд.* — *Гніламёдаў*

ГНІЛАРЫБ са спалучэння *гнілая рыба.* — *Гнілары́баў*

ГНІЛЯК.— *Гнілякевіч.* Бел. у XVIII ст. *Гниляк* (БА, I, 206)

*ГНОТ.— *Гнот*

ГНУС рэг. 'скнара, жмінда, сквапны' (Юрч.), рус. зборн. 'гады, машкара' (Даль).— *Гну́сін.* СРП *Гнусов*

*ГОБАР.— *Го́бараў*

ГОВАР 'гаварун, які любіць гаварыць'? — *Го́вар; Гаваро́ўскі.* Рус. у XV—XVII стст. *Говор* (Туп.). СРП *Говоров, Говоренков*

ДЫМКАВЕЦ з в. Дымкі, Дымкава.— *Дымкаве́ц*

ДЫМНІК 'дымар'? — *Ды́мнікаў*

*ДЫМША.— *Ды́мша, Ды́мшыц.* СРП *Дымшиц*

*ДЫННІК.— *Ды́ннікаў, Дынні́чэнка*

ДЫНЯ.— *Ды́нін.* СРП *Дынин*

ДЫРА, ДЫРКА.— *Дыро; Дырко*

ДЫРДА рэг. 'дзевачка-свавольніца, якая выйшла з дзіцячага ўзросту', 'высокі даўганогі чалавек' (Нас.), 'худы вялікі конь' (Дзярж.— М. Б.).— *Ды́рда*

*ДЫРМАН.— *Дырман*

*ДЫТКА.— *Дытко́*

*ДЫЧКО.— *Дычко́, Дычко́ў, Ды́чкін, Дычко́ўскі.* СРП *Дычкин*

ДЫШАЛЬ.— *Дышле́віч.* СРП *Дышлевский*

ДЭЙКАЛА гл. ДЗЕЙКАЛА

*ДЭЙНАР.— *Дэ́йнар* у выніку асваення ЛП *Дейнеріс*

*ДЭЛДА.— *Дэ́лда*

*ДЭМАШ.— *Дэ́маш*

*ДЭНЮШ.— *Дэ́нюш* у выніку асваення ЛП *Денюшас, Денюшіс*

ДЭРАШ, памянш. ?ДАРОШКА, ?ДАРОШАК.— *Дэ́раш, Дарашэ́віч, Дарашэ́нка; Даро́шка, Даро́шак, Дарашко́ў, Дарашке́віч, Даро́шчанка, Дарашчо́нак; Дарашчу́к,* усе вытворныя магчымы і ад УІ *Дорофей* (гл. БА, I, 63—64)

*ЕДАЛА 'той, хто многа есць'?—*Е́дала*

*ЕДЗЬ 'яда'.— *Едзь*

ЕДНАЧ параўн. *едначык, едначка* 'адзіны сын, адзіная дачка' (Нас.).— *Е́днач, Еднацэ́віч*

*ЕЖГУР.— *Ежгуро́ў*

ЕЗАВІТ параўн. польск. *jezuwita* 'езуіт' (Карл.).— *Езаві́т, Езаві́таў*

*ЕЗУБ, *ЯЗУБ, памянш. ЕЗУБЧЫК, ЯЗУБЧЫК.— *Е́зубчык, Язу́бчык*

*ЕЛАК.— *Е́лак*

ЕЛЕЦ з в. Ель.— *Е́льцаў.* Бел. у XVIII ст. *Елец* (БА, I, 212). Укр. у XVI—XVII стст. *Елец* (Туп.). СРП *Ельцов*

ЕЛЬ рэг. 'елка'.— *Е́лін; Е́ленскі, Е́льскі.* Параўн. ЕЛКА

*ЕМА, памянш. *ЕМКА.— *Е́мчанка.* Параўн. рус. у XIII—XVII стст. *Емин* (Туп.). СРП *Емков*

*ЕМЦЬ.— *Ёмцеў*

ЕН, ЕНА. — *Ёнін; Ёнка.* СРП *Енин, Енов, ?Еников*

ЕНЗА рэг. 'востры на язык чалавек, які любіць укалоць', 'задзіра' (Нас.), параўн. польск. *jędza* 'ведзьма, баба-яга', 'злосная жанчына' (Карл.).— *Ёнза*

ЕРКА, памянш. ЕРЧЫК параўн. польск. *jerk* назва расліны (Карл.)— *Ёрчык.* СРП *Еркин, Ерченко*

ЕРЛІК польск. *jerlik* 'ярлык, пісьмовы дазвол' (Карл.).— *Ёрлік*

*ЕСАЛЬНІК. — *Ёсальнік*

*ЕСМАН.—*Ёсман.* Каз. УІ *Есман* (Жануз.).

*ЕЎГА, памянш. ЕЎЖЫК.—*Ёўжанка; Ёўжык*

ЕЎЗА, памянш. ЕЎЗІК, укр. *евза* 'ліхаманка' (Грынч.).— *Ёўзікаў*

ЕЎПАК.— *Ёўпак*

ЕЧМАН.— *Ёчман*

*ЕШМАН.— *Ёшман* у выніку асваення ЛП *Ешмантас*

*ЁДКА, памянш. ЁДЧЫК, ?ЁТЧЫК.— *Ёдка, Ёдчык; ?Ётчык.* СЛП *Ёдка, Ётка*

ЁЖЫК рэг. 'вожык'.— *Ёжыкаў.* СРП *Ёжиков.* Параўн. ВОЖЫК

ЁЛКА рэг. 'елка'.— *Ёлкін.* СРП *Ёлкин.* Рус. у XVI ст. *Елка* (Туп.)

ЁРШ.— *Ёрш, Яршóў, Яршэ́віч.* Рус., укр. у XVI—XVII стст. *Ерш, Ёрш, Ершик* (Туп.). СРП *Ёрш, Ершов, Ёршик*

ЁЧ параўн. рэг. *ёчы* 'глузды, жыццёвая сіла' (Пол.— М. Судн.).—*Ёч.* СЛП *Ёчас*

ЁШКА, памянш. ЁШЧЫК.— *Ёшчык.* СРП *Ёшков*

*ЖАБА, памянш. ЖАБКА, ЖАБЧЫК, павеліч. ЖАБЫКА.—*Жа́бін; Жабкó; Жа́бкін; Жа́бчык; Жабы́ка.* Бел. у XVI—XVII *Жаба, Жабка* (БА, I, 212—213; Туп.). СРП *Жабин, Жабченко, Жабинский, Жабицкий*

*ЖАБАНОС.— *Жабанóс*

*ЖАБРОН.— *Жабрóн.* Параўн. ЖАБРУН

*ЖАБРУН, *ЖЭБРУН 'той, хто жабруе'? — *Жабру́н, Жэ́брун.* Параўн. ЖЭБРАК

*ЖАБУРДА.— *Жабурдзёнак*

ЖАБУРОНАК 'жабяня, жабка'? — *Жабурóнак*

*ЖАБЫКА.— *Жабы́ка.* Параўн. ЖАБА

ЖАВАРАНАК, ЖАЎРАНАК.— *Жа́варанак, Жа́варанкаў; Жа́ўранак.* Бел. у XVI ст. *Жаворонок* (БА, I,

213). У Туп. у XVI—XVII стст. *Жаворонок*. СРП *Жаворонкин, Жаворонков*

*ЖАГОЛА, памянш. ЖАГОЛКА.— *Жагóлкін*. Бел. у XVIII ст. *Жоголь* (БА, I, 213). СРП *Жеголкин*

ЖАГОРА параўн. *žagaras* 'куст, кустарнік', кірг. *жогор* 'верх' (КРС).— *Жагóра*

*ЖАГУЛА.— *Жагýла*

*ЖАГУЛЬ.— *Жагýль*. СРП *Жегулёв*

*ЖАГУН, ЖАГУНЬ.— *Жагýн, Жагýнь*, відаць, у выніку асваення ЛП *Жагуніс, Жёгунас*

ЖАД, ЖАДЗЬ, памянш. ЖАДЗЬКА, ЖАДЗЕЙКА ад *жадаць*. рэг. *жадны* 'прагны'? — *Жáдзька; Жадзéйка*. Бел. у XVI—XVII стст. *Жадко, Жадей*, рус. у XVII ст. *Жадка*, укр. у XVI ст. *Жадко* (Туп.). СРП *Жадов, Жадаев, Жадовский*

ЖАК ст. бел. 'служыцель у касцёле' (Нас., АУ), 'нерат з двума крыламі' (БРС, Бяльк.). — *Жак; Жачко*. Бел. у XVI ст. *Жак* (БА, I, 213). СРП *Жаков*

*ЖАКУН.— *Жакýн*. Каз. УІ *Жакан* (Жануз.)

ЖАЛАВАК, памянш. ЖАЛАВАЧЫК 'жаўлак'.— *Жалавáчык*. Бел. у XVIII ст. *Жалвачык* (БА, I, 213). СРП *Желваков*. Параўн. ЖАЎЛАК

*ЖАЛАК кірг. 'падліза', *жалаак* 'лізун' (КРС).—*Жалакóвіч*

ЖАЛДАК, ЖОЛДАК рус. *желдак* 'салдат, воін, служылы' (Даль), якое з польск. *żołdak* 'наёмнік' ад *żołnierz* (Фасм.).—*Жалдáк, Жóлдак*

ЖАЛЕЗНЫ.— *Жалéзны, Жалязнóў; Жалязнюк; Жалязніцкі*

ЖАЛЕЙКА.— *Жалéйка*

ЖАЛНА гл. ЖАЎНА

ЖАЛНЕР гл. ЖАЎНЕР

ЖАЛУД гл. ЖОЛУД

ЖАЛЯЗНЯК рэг. 'лапата'.— *Жалязня́к, Жалезнякóў*. СРП *Железняков*

*ЖАМЕЎКА.— *Жамéўка*

ЖАМОЙТА, ЖАМОЙДА, ЖАМОЙЦЬ літ. *žemãitis* 'літовец, жыхар Жамайціі, жмудзін' (Фасм.).— *Жамóйта; Жамóйда, Жамóйдзін* пры [т]>[д] пад уплывам *жмудзін; Жамóйць*, магчыма, у выніку асваення ЛП *Жемайтіс, Жемайтайтіс*

ЖАМЧУЖНЫ.— *Жамчýжны*. СРП *Жемчужный. Жемчужнов*

*ЖАНЧАК параўн. кірг. *жанчык* 'кішэнь' (КРС). — *Жанча́к*

ЖАНДАР.— *Жанда́раў*. СРП *Жандаров, ?Жандарёв*

ЖАР, памянш. ЖАРКО, ЖАРЫК.— *Жа́рын, Жа́раў, Жа́рынаў, Жа́рыч, Жа́ранка, Жаранко́ў; Жарко́, Жарко́ў, Жа́ркін, Жарке́віч, Жа́рчанка; Жа́рык, Жа́рыкаў; Жа́рскі, Жарко́ўскі*. СРП *Жаров, Жарин, ?Жаринов, Жарков, Жариков*

ЖАРАБЕЦ. — *Жарабе́ц, Жарабцо́ў; Жарабе́цкі*. Бел. у XVI—XVIII стст. *Жеребец* (БА, I, 213). Рус. у XV—XVI стст. *Жеребец* (Туп.). СРП *Жеребцов, ?Жеребченко*

ЖАРАБІЛА.— *Жарабі́ла*. Бел. у XVI ст. *Жеребила, Жеребило* (БА, I, 214; Туп.). Укр. у XVII ст. *Жеребило* (Туп.). СРП *Жеребилов*

ЖАРАБОК.— *Жарабко́ў*. СРП *?Жеребченко*

*ЖАРАВЕНЬ.— *Жараве́нь*

ЖАРАЛО.— *Жарало́*. Бел. у XV ст. *Жерло* (Туп.)

ЖАРНАВЫ.—*Жарнавы́*

ЖАРНАКЛЁЎ 'жарнасек'? — *Жарнаклёў*

ЖАРНАСЕК.— *Жарнасе́к*. Бел. у XVII—XVIII стст. *Жорносек, Жарносек* (Туп., БА, I, 214)

*ЖАРТУН ад *жартаваць*? — *Жарту́н*

*ЖАРУЛА ад *жэрці*?—*Жару́ла*

*ЖАРУН ад *жэрці*? — *Жару́н*

*ЖАРЫЙ.— *Жарый*

ЖАЎЛАК.— *Жаўлако́ў, Жаўлако́віч*. СРП *Желваков*

ЖАЎНА, ЖАЛНА.— *Жаўно́ў, Жаўні́н; Жално́ў, Жалні́н*. СРП *Желнин*

ЖАЎНЕР, рэг. ЖЭЎНЕР, ЖАЛНЕР, памянш. ЖАЎНЕРЧЫК, ЖАЎНЕРКА.— *Жаўняро́віч; Жаўняру́к; Жаўнярчу́к; Жаўне́рчык; Жаўне́рка; Жэ́ўнераў; Жалняро́віч*. Бел. у XVI—XVIII стст. *Жолнер, Жолнерик* (БА, I, 214)

ЖАЎНЕРЫС.— *Жаўне́рыс*. СЛП *Жаўнерыс?*

ЖАЎНЯК параўн. рэг. *жаўнаць* 'гаварыць бязглуздзіцу' (Тур.—Выгон.). — *Жаўня́к*

ЖАЎРАНАК гл. ЖАВАРАНАК

ЖАЎРЫД.— *Жа́ўрыд*

ЖАЎТАНОСЫ.— *Жаўтано́саў*

ЖАЎТОК.— *Жаўто́к, Жаўтко́*

ЖАХ.—*Жа́хаў; Жахо́ўскі*

ЖАХАВЕЦ з в. Жахі.— *Жахавец*

ЖБАНОК рэг. 'збан, збанок' (Нас., КСЧ).— *Жбанкоў*. СРП *Жбанов*

ЖВАЛЬ параўн. рэг. *жваць* 'жаваць' (Дзярж.— М. Б.).—*Жвалевіч; Жвалеўскі*

*ЖВІК параўн. рус. *жвикнуть* 'стукнуць, выцяць, сцебануць' (Даль), *жвикать*, 'выплёўваць сліну праз зубы' (Дабр.).— *Жвік, Жвікаў*, магчыма, у выніку асваення ЛП *Жвікас, Жвікіс*

*ЖВІРКО.— *Жвірко*

ЖВІРБЛЯ літ. *zvirblis* 'верабей'.—*Жвірбля; Жвірблінскі*, магчыма, і ў выніку асваення ЛП *Жвірбліс*

*ЖГІР.—*Жгір, Жгіраў, Жгіроў; Жгіроўскі*

ЖГУН рус. 'стручковы перац' (Даль).— *Жгун*

ЖГУТ.— *Жгут, Жгутаў*. СРП *Жгутов*

ЖДАН, памянш. ЖДАНКО, ЖДАНОК старажытнае славянскае імя ва ўсходніх славян, ад *ждаць* 'чакаць', г. зн. 'дзіця, якога чакаюць, хочуць'.— *Ждан, Жданаў, Ждановіч, Жданеня; Жданюк; Жданко, Жданкоў, Жданковіч; Жданок*. Бел. у XV—XVII стст. *Ждан, Жданец* (Туп., БА, I, 213). Рус. у XII—XVII стст. *Ждан, Жданко* (Туп.). Укр. у XVI—XVII стст. *Ждан, Жданец* (Туп.). СРП *Жданов*

*ЖЛОБА.— *Жлоба, Жлобіч*

ЖЛУКТА, памянш. ЖЛУКЦІК 'пасудзіна для выварвання бялізны' (БРС), 'абжора' (КСЧ).— *Жлукта, Жлукто; Жлукцік; ?Жлутка* пры перастаноўцы [к] і [т]. Бел. у XVI—XVII стст. *Жлукта* (БА, I, 214)

ЖМАЙДЗЯК 'жамайдзяк, жыхар Жамайціі'.— *Жмайдзяк*. Параўн. ЖМУДЗЯК, ЖАМОЙТА

ЖМАЙЛА, памянш. ЖМАЙЛІК рэг. 'скупы, хто жме, зажымае'.— *Жмайлік*. СРП *Жмайло*

ЖМАКА рэг. 'скупы, той, хто жме, зажымае', параўн. таксама рус. *жмаки* 'выжымкі канапель ці семя, макуха' (Даль), укр. *жмаки* 'выжымкі' (Грынч.).— *Жмака; Жмачынскі*. Бел., укр. у XVI ст. *Жмака* (БА, I, 214; Туп.). СРП *Жмакин*

ЖМЕЙДА рэг. 'скупы чалавек' (Дзярж.— М. Б.).— *Жмейда*

ЖМЕНЬКА.— *Жменька*

ЖМІНДА, памянш. ЖМІНДЗІК рэг. 'скупы чалавек' (Дзярж.— М. Б.), *жміндзіць* 'есці' (Стэц.). — *Жмінда; Жміндзік, Жміндзікаў*

ЖМУДЗЯК 'жыхар Жмудзі, Жамайціі'.— *Жмудзя́к*

ЖМУЛЯ 'скупы, той, хто жме, зажымае'? — *Жму́ля.* СРП *Жмулин*

*ЖМЫРА.— *Жмы́ра*

ЖОГ, ЖОГА рэг. *жога* 'пякотка' (Бяльк.), рус. *жег, жог* 'гарачыня ад агню', 'прайдзісвет', *жега, жога* 'суматоха, лаянка' (Даль).— *Жог, Жо́га.* Рус. у XVI ст. *Жог* (Туп.). СРП *Жогов.* СЛП *Жёгас, Жёгіс*

*ЖОГАЛЬ.— *Жо́галь,* магчыма, у выніку асваення ЛП *Жёгеліс.* Бел. у XVIII ст. *Жоголь* (БА, I, 213)

*ЖОГАТ.— *Жо́гат*

ЖОГЛА рэг. 'ашуканец, круцель' (КСЧ), рус. *жегло* 'нагрэтае да чырвані жалеза для выпальвання дзірак на дрэве', 'жала' (Даль).— *Жо́гла, Жо́гліч.* СРП *Жеглов*

*ЖОЙДА параўн. літ. *žaĩdas, žaĩdis* 'печ', 'комін'.— *Жо́йда*

*ЖОЙДЗЕНЬ.— *Жо́йдзень*

*ЖОЛА, памянш. ЖОЛІК.— *Жо́лік*

ЖОЛАБ, памянш. ЖАЛАБОК.— *Жалабко́віч.* Бел. у XVI ст. *Жолоб* (БА, I, 213). Рус. у XVI ст. *Желоб,* укр. у XVII ст. *Жолобко* (Туп.). СРП *Жолобов*

ЖОЛДАК гл. ЖАЛДАК

ЖОЛУД, рэг. ЖОЛУДЗЬ, ЖАЛУД, памянш. ЖАЛУДОК, ЖАЛУДКО.— *Жо́луд, Жалудо́ў, Жалудо́віч; Жалудко́, Жалудко́ў; Жо́лудзь, Жо́лудзей.* Бел. у XVI—XVII стст. *Жолудь* (Туп., БА, I, 213). Укр. у XVI ст. *Жолудь* (Туп.). СРП *Жолудев*

ЖОРАЎ 'журавель'.— *Жо́раў, Жо́равін, Жараво́віч.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Жоров* (БА, I, 214)

ЖОРДКА, памянш. ЖОРДАЧКА рэг. 'жэрдка'.— *Жо́рдачкін.* СРП *Жёрдочкин*

ЖОСТКІ рэг. 'жорсткі'? — *Жо́сткін.* СРП *Жестков*

*ЖОЎДА, памянш. ЖОЎДЗІК.— *Жо́ўдзік.* Параўн. ЖОЙДА

*ЖУБАРТ гл. ЖЫБУРТ

*ЖУГАР.— *Жу́га́р, Жугаро́ў*

*ЖУГЕР.— *Жу́гер*

*ЖУДРО.— *Жудро́*

*ЖУДРЫД.— *Жу́дрыд*

*ЖУЖОМА.— *Жужо́ма*

ЖУЙКА бел., рус., укр. 'жвачка' (Нас., Даль, Грынч.).— *Жу́йка.* СРП *Жуйков*

ЖУК, памянш. ЖУЧОК, ЖУЧЫК.— *Жук, Жу́каў, Жуко́віч; Жучо́к, Жучке́вич; Жу́чык; Жуко́ўскі, Жучы́нскі.* Бел. у XV—XVIII стст. *Жук, Жучек* (Туп., БА, I, 214—215). Рус., укр. у XV—XVI стст. *Жук* (Туп.). СРП *Жук, Жуков, Жукович, Жучков, Жучкин, ?Жучин, Жуковский*

ЖУКАВЕЦ з в. Жукі, Жукава.— *Жукаве́ц.* Бел. у XVIII ст. *Жукавец* (БА, I, 215). СРП *Жуковец*

*ЖУЛЕГА.— *Жуле́га*

*ЖУЛЬ, ЖУЛЯ.— *Жуль, Жу́ля, Жу́леў,* магчыма, у выніку асваення ЛП *Жуліс.* СРП *Жулёв*

*ЖУМАРА.— *Жума́ра, Жума́рын*

ЖУПІК параўн. рэг. *жупіць* 'гаварыць, размаўляць' (БРС).—*Жу́пікаў.* СРП *Жупиков*

ЖУР, памянш. ЖУРЫК, ЖУРОК, ЖУРКО.— *Жур, Жу́раў, Журо́віч, Журано́к; Жу́рык; Журо́к; Журко́, Журко́ў, Журке́віч, Журко́віч; Жу́рскі.* СРП *Журов, Журенко, Журков, Журкин*

ЖУРА, памянш. ЖУРЫК, ЖУРОК, ЖУРКО рэг. *жура* 'страва з сырой вады, крышанага хлеба, алею' (КСЧ), рус. *жура* 'журавель' (Даль), укр. *жура, джура* 'казацкі слуга-збраяносец', *жура* 'журба' (Грынч.). — *Жу́ра, Жу́рын, Журо́віч, Журано́к; Журы́к, Журо́к.* СРП *Журин, Журенко, Журков, Журкин*

ЖУРАВЕЛЬ.— *Жураве́ль, Жураўлёў, Жураўле́віч; Журко́, Журко́ў, Журке́віч, Журко́віч.* Рус. у XVI—XVII стст. *Журавль* (Туп.). СРП *Журавлёв*

ЖУРАВЕЦ з в. Журы, Журава.—*Жураве́ц*

ЖУРАЎ, памянш. ЖУРАВОК, ЖУРАВЕЦ рэг. 'журавель'.— *Жураве́нка; Жураво́к, Жураўко́ў, Жура́ўкін, Жураўкевіч; Жураве́ц; Жура́ўскі.* У Туп. у XVI ст. *Журав.* СРП *Журавков, Журавкин, Журавский*

ЖУРБА.— *Журба́*

ЖУРКА. рус. 'журавель' (Мірт.).— *Журко́, Журко́ў, Журке́віч, Журко́віч.* Параўн. ЖУРА

*ЖУРНЯ.— *Журня́, Журне́віч*

*ЖУРЫБА.— *Журы́ба*

*ЖУРЫД.— *Журы́д, Журы́даў.*

ЖУРЫХА ад *журыцца?* — *Журы́ха*

*ЖУСЕЛЬ.— *Жусель*

ЖУТКІ ад *жудасць?* — *Жу́тчанка* пры [д]>[т]?

*ЖУШМА.—*Жушма*

*ЖЫБА, памянш. ЖЫБКО.— *Жыбко́*

*ЖЫБУЛЯ, ЖЫБУЛЬ літ. *žibùlis* 'тое, што blішчыць, бліскучае'.— *Жыбýля, Жыбýль, Жыбулéвіч; Жыбулéўскі*

*ЖЫБУРТ, *ЖЫБАРТ.— *Жы́бурт, Жыбуртóвіч, Жабуртóвіч, Жы́барт, Жыбартóвіч* у выніку асваення ЛП *Жібуртас, Жібертавічюс*

*ЖЫБУЦЬ.— *Жы́буць* у выніку асваення ЛП *Жібутіс*

ЖЫВАГЛОД.— *Жываглóд*

*ЖЫВАДАР.— *Жывадáраў*

ЖЫВАДЗЁР.— *Жывадзёраў*. СРП *Живодёров*

*ЖЫВЕЛЬ.— *Жыўлю́к*

*ЖЫВЕНЬ.—*Жывéнь*. Бел. у XVII ст. *Живень* (Туп.)

*ЖЫВЕТА.— *Жывéта*

ЖЫВІЦА 'яловая смала' (БРС), рэг. 'сапожная смала' (КСЧ), 'палоска з нявырабленай скуры' (КСЧ), 'раменная ці пяньковая пуга' (Дзярж.— М. Б.).— *Жывíца; Жывíцкі*

*ЖЫВОР(А). — *Жывóр, Жывóраў*. СРП *Живоровский*

ЖЫВОТ, памянш. ЖЫВОТКА, ЖЫВАТОК.— *Жывóтка, Жываткóў, Жываткéвіч*. Бел. у XVII—XVIII стст. *Животко* (Туп., БА, I, 214). СРП *Животов, Животков, Животковский*

ЖЫВУЛА, ЖЫВУЛЬКА рус. *живуля, живулька* 'вош, блыха, усякае насякомае, што кусае' (Даль).— *Жывýла; Жывулька*. СРП *Живулин*

ЖЫВУШКА рус. *живушка* 'фастрыга' (Даль).—*Жывýшкін*

ЖЫГА рэг. 'жвавы, спрытны, борзды', 'хто ўмешваецца ў чужыя справы', 'хто настройвае аднаго чалавека супраць другога' (Нас.), рус. *жига* 'лаянка, пострах, пакаранне' (Даль).—*Жыгаў; Жыгóцкі*

ЖЫГАЛА, ЖЫГАЙЛА, ЖЫГАДЛА, памянш. ЖЫГАЛКА рэг. 'металічны прут, якім кавалі выпальваюць дзіркі ў дрэве', 'нагайка' (Нас.), 'жала' (Нясв., Пол.— М. Б.), рус. *жигала, жигало* 'металічны прут', 'жала' (Даль, Дабр.), укр. *жигало* 'металічны прут' (Грынч.).— *Жыгáла, Жыгáлаў; Жыгáлка, Жыгáйла; Жыгáдла; Жыгалкóўскі*. СРП *Жигалов, Жигалин, Жигалкин*

ЖЫГАЛКА рус. *жигалка* 'кусучая муха' (Мірт.) — *Жыгáлка, Жыгалкóвіч*. Параўн. ЖЫГАЛА

ЖЫГАН рус. *жиган* 'работнік на вінакурным ці цукровым заводзе', 'худы, паджары чалавек', 'прайдзісвет, прайдоха' (Даль), параўн. бел. *жыга* 'борзды, спрытны', 'той, хто ўмешваецца ў чужыя справы', 'хто зводзіць, падзуджвае' (Нас.).— *Жыга́н, Жыгано́віч.* СРП *Жиганов*

ЖЫГАР ад *жыгаць?* — *Жыга́р, Жыга́рај, Жыгарэ́віч.* СРП *Жигарёв, Жигарьков.* Параўн. ЖЫГАН, ЖЫГУН

ЖЫГАЧ ад *жыгаць?* — *Жыга́ч, Жыгачо́ў.* СРП *Жигач, Жигачёв.* Параўн. ЖЫГАН, ЖЫГУН

ЖЫГУН рэг. 'хто любіць падглядаць', 'жвавы, спрытны, борзды', 'нагаворшчык, паклёпнік' (Нас.), рус. *жигун* назва расліны (Даль), укр. *жигун, джигун* 'залётнік' (Грынч.).— *Жыгу́н, Жыгуно́ў; Жыгуно́ўскі.* СРП *Жигунов*

ЖЫГЛО 'жала'?—*Жыглé віч.* СРП *Жиглов.* Параўн. ЖЫГАЛА

ЖЫД, памянш. ЖЫДКО, ЖЫДОК, ЖЫДЗІК.— *Жы́дзін, Жыдо́віч; Жыдко́, Жыдко́ў, Жыдко́віч, Жыдкé віч,* якія магчымы і ад *жыдкі; Жыдо́к, Жы́дзік.* Бел. у XVII ст. *Жидко* (Туп.), у XVI—XVIII стст. *Жидкий* (БА, I, 214), укр. у XV—XVII стст. *Жид, Жидок, Жидик* (Туп.). СРП *Жидов, Жидков, Жидкий*

*ЖЫДАЛА.— *Жыдало́віч*

ЖЫЖА, памянш. ЖЫЖКО, ЖЫЖЫК рэг. дзіцяч. 'агонь' (Нас., КСЧ), 'запальчывы чалавек', 'той, хто ўмешваецца ў чужыя справы', 'нагаворшчык, паклёпнік' (Нас.), 'жыжка з гною' (КСЧ), рус. *жижа* 'жыжка' (Даль), укр. *жижа* 'агонь', 'запальчывы чалавек' (Грынч.).— *Жы́жа, Жыжо́ў, Жыжэ́нка; Жыжко́; Жы́жык.* СРП *Жижин*

ЖЫЖКА.— *Жыжко́.* Бел. у XVI—XVII стст. *Жыжка, Жижчик* (Туп.)

ЖЫЖАЛЬ укр. *жижель* 'месца, адкрытае для ветру' (Грынч.).— *Жы́жаль*

ЖЫЛА, памянш. ЖЫЛКА, ЖЫЛКО, ЖЫЛЬЧЫК.— *Жы́ла, Жы́лін, Жы́ліч, Жылé віч, Жы́лінка* з *Жыленка* пры [е]>[і], *Жыляно́к; Жылю́к; Жы́лка, Жылко́, Жылкé віч; Жы́льчык; Жылі́нскі.* Бел у XVI—XVIII стст. *Жила, Жыла, Жылка* (Туп., БА, I, 214). Рус. у XIV—XVII стст., укр. у XVI—XVII стст. *Жила, Жилка* (Туп.)

*ЖЫЛАЧ.— *Жыла́ч*

*ЖЫЛУН.—*Жылу́н, Жылуно́віч; Жылуно́ўскі*

ЖЫЛЯК параўн. рус. *жилак* 'той, хто жыліць, махлюе ў гульні' (Мірт.).—*Жыля́к.* СРП *Жиляков*

*ЖЫМАЙЛА.— *Жыма́йла*

*ЖЫН, памянш. ЖЫНКО.—*Жыно́віч; Жынко́*

*ЖЫНГЕЛЬ.— *Жы́нгель*

ЖЫР, памянш. ЖЫРКО, рэг. 'тлушч'.—*Жы́раў, Жыро́нак; ?Жыро́нкін; Жырке́віч.* Бел. у XVI ст. *Жирка,* рус. у XVI ст. *Жирок* (Туп.). СРП *Жиров, Жирков, ?Жиронкин*

*ЖЫРНЕЛЬ.— *Жырне́ль*

ЖЫРНЫ рэг. 'тлусты', 'поўны ў целе'.— *Жырне́віч.* СРП *Жирнов*

ЖЫТА, памянш. ЖЫТКО, ЖЫЦЬКО. — *Жытко́,* Жыткóў, Жыткóвіч, Жыткéвіч; Жыцькó; Жыткóўскі; усе магчымы і ад ЖЫД (гл.) пры [д]>[т]. Бел. у XVI—XVII стст. *Житко,* рус. у XV—XVII стст. *Жито* (Туп.). СРП *Житов, Житков*

ЖЫТЛА ўкр. *житло* 'жыццё, пражыванне', 'жыллё' (Грынч.).— *Жы́тла*

*ЖЫХ, памянш. *ЖЫШКО.—*Жых, Жыхо́віч; Жышко́, Жы́шкін, Жышке́віч* — тры апошнія прозвішчы магчымы і ад ЖЫЖКА (гл.) пры [ж]>[ш]. У Туп. у XVI ст. *Жиха*

ЖЫХАР, памянш. ЖЫХАРКА.— *Жы́хар, Жы́хараў; Жы́харка.* Бел. у XVI ст. *Жихарь,* рус. у XV—XVII стст. *Жихарь, Жихор* (Туп.). СРП *Жихарёв*

ЖЫЧКА рэг. 'чырвоная істужка, лента' (БРС), укр. *жичка* тое ж, 'чырвоная суконная нітка' (Грынч.).— *Жы́чка.* СРП *Жичкин, Жичков*

ЖЫШКО гл. ЖЫХ

ЖЭБІТ параўн. літ. *žebitas,* 'які складаецца з невялікіх кускоў'.— *Жэ́біт*

ЖЭБРАК 'жабрак'?.— *Жэ́брак.* СРП *Жебрак*

ЖЭБРУН гл. ЖАБРУН

*ЖЭГА, памянш. ЖЭЖКА.— *Жэ́жка, ?Жэ́шка* пры [ж]>[ш]

*ЖЭГАД.— *Жэгад*

*ЖЭГЗДРА.— *Жэ́гздра, Жэ́гздрын.* Параўн. СЛП *Жегзда*

*ЖЭДА, ЖЭДЗЬ, памянш. ЖЭДЗІК.— *Жэдзь; Жэ́дзік*

*ЖЭКА польск. *rzeka* 'рака'— *Жэ́ка*
*ЖЭНКА.— *Жэ́нка*
ЖЭРАБ укр. *жереб* 'жарабя', 'жарабец' (Грынч.).— *Жэ́раб, Жэ́рабаў.* СРП *Жеребов, ?Жеребин*
*ЖЭРАД.— *Жэ́рад*
*ЖЭРБАК.—*Жэ́рбак, Жэ́рбакаў*
ЖЭРДЗЬ рэг. 'жэрдка'.— *Жэ́рдзенка; Жардзе́цкі*
*ЖЭРКА ад *жэрці?* — *Жэ́рка*
ЖЭЎЖЫК 'свавольнік, гарэза' (БРС, Нас., КСЧ), рус. *жевжик* 'невялікі, але вельмі рухавы, жвавы, спрытны' (Дабр.), 'маларослае дзіця' (Даль), укр. *жевжик* 'верабей', 'ветрагон, шалахваст' (Грынч.).— *Жэ́ўжык*
ЖЭШКА гл. ЖЭГА

ЗАБАБУРА. *Забабу́ра, Забабу́рын.* СРП *Забабурин*
ЗАБАЛОТНЫ, ЗАБАЛОТНІ 'які жыве за балотам'— *Забало́тны, Забало́тні; Забало́тнеў.* СРП *Забалотный*
ЗАБАЛОТНІК 'які жыве за балотам'.— *Забало́тнік.* СРП *Заболо́тников*
ЗАБАЛОЦЕЦ 'які жыве за балотам ці ў в. Забалоцце'.— *Забало́цец*
*ЗАБАРА.— *Заба́ра, Забаро́нак.* СРП *Забарский*
ЗАБАЎКА, памянш. ЗАБАЎЧЫК.— *Заба́ўка; Заба́ўчык; Заба́ўскі*
*ЗАБЕЙДА.— *Забе́йда*
ЗАБЕЛА 'смятана для прыправы яды' (Нас.), рус. тое ж, 'забеленае месца на сцяне' (Даль), укр. *забіл, забілка* тое ж (Грынч.).— *Забе́ла, Забе́лін; Забе́льскі.* Бел. у XVI—XVII стст. *Забела* (БА, I, 215; Туп.). Укр. у XV—XVIII стст. *Забела* (Туп.). СРП *Забела, Забелин, Забелинский*
*ЗАБЕНЯ.— *Забе́ня, Забе́нін; Забе́нька, Забянько́ў*
ЗАБЕРМАХ гл. ЗАБІРМАХА
ЗАБІРАН ад *забіраць* 'той, каго забіралі'?— *Забіра́н*
*ЗАБІРМАХА.— *Забірма́ха; Заберма́х*
ЗАБІЯКА.— *Забія́ка.* СРП *Забиякин*
ЗАБОРА рэг. 'складка на адзенні' (КСЧ), 'маршчак на твары' (Дзярж.— М. Б.).— *Забо́ра, Забо́раў.* СРП *Заборин*
ЗАБОТА.— *Забо́цін.* СРП *Заботин*
*ЗАБЯЛЕНДА.— *Забяле́ндзін*

ЗАВАДА 'недахоп, вада', 'перашкода' (БРС, Нас.), 'непаразуменне, валакіта' (КСЧ), рус. 'недахоп, вада' (Дабр.), укр. 'перашкода, цяжкасць' (Грынч.).— *Заваа, Завáдзіч; Завáдзкі; Завáцкі.* СРП *Завадский, Завадовский*

*ЗАВАДЭЎКА 'завадатар, завадатай'?— *Завадэ́ўка*

ЗАВАЖАНЕЦ.— *Заважáнец*

ЗАВАЛЕЙ укр. *завалій* 'непаваротлівы чалавек, цяльпук, мяла' (Грынч.).— *Завалéй, Завалéеў.* Укр. у XVI—XVII стст. *Завалей* (Туп.)

ЗАВАЛІХА ад *заваліць.*— *Завалíшын.* СРП *Завалихин, Завалишин*

ЗАВАЛОКА ўкр. *завалока* 'захожы, бадзяга, чужы чалавек' (Грынч.).—*Завалóкін.* СРП *Заволокин*

ЗАВАРА рэг. 'загартоўка' (Нас.), рус. 'густая каша з грубай жытняй мукі' (Даль).— *Завáрын.* СРП *Заварин, ?Заваров*

ЗАВАРОТНІ, ЗАВАРОТНЫ.— *Заварóтні, Заварóтны*

*ЗАВАРЫКА ад *заварыць?*— *Заварыка.* Бел. у XVIII ст. *Заварыко* (БА, I, 215)

ЗАВІД(А) ад рэг. *завідаваць,* 'зайздросціць'?, рус. *завида* 'зайздрасць', 'зайздросны чалавек' (Даль), укр. *завида* 'зайздросны' (Грынч.).—*Завíд(а), Завíдаў, Завідóўскі.* Рус. у XII ст. *Завид* (Туп.)

ЗАВІДЗЕЙ.— *Завідзéй, Завідзéеў?, Завядзéеў* пры [і]>[я]. Параўн. ЗАВІД(А)

ЗАВІЛЕНЧЫК.— *Завілéнчык*

*ЗАВІРАХА 'той, хто завіраецца, ілгун'. — *Завірáхін*

ЗАВІРУХА.— *Завірýха*

ЗАВУЛАЧНЫ ад *завулак?* — *Завýлачны*

ЗАВЯДЗЕЙ гл. ЗАВІДЗЕЙ

ЗАВЯЛЫ, памянш. ЗАВЯЛІК.— *Завялéвіч; Завя́лік.* Рус. у XVII ст. *Завьял, Завьялко* (Туп.). СРП *Завьялов*

ЗАВЯРТАЙЛА.— *Завяртáйла*

*ЗАГАРУЙ, памянш. ЗАГАРУЙКА.— *Загарýйка*

*ЗАГАРУЛЯ.— *Загарýля, Загарýльскі*

*ЗАГДАЙ.— *Загдáй*

ЗАГЛАДА польск. *zagłada* 'знішчэнне», 'смерць', 'згуба' (Карл.).— *Заглáда, Заглáдзін.* СРП *Загладин*

ЗАГНЕТ.— *Загнéтаў*

ЗАГОРА 'той, хто жыве за гарой'?— *Загóрын, Загóранка; Загóрскі.* СРП *Загорский*

ЗАГОРАЦ 'той, хто жыве за гарой ці ў в. Загор'е'.— *Загóрац*

*ЗАГРЫВА.— *Загрыва*

ЗАГРЭБА ўкр. *загреба* 'месца, дзе штосьці загрэбена, закопана', 'корж, які пры выпечцы заграбаюць у жар', 'прагны чалавек' (Грынч.).— *Загрэ́ба*. СРП *Загребин*

ЗАГРЭБЕЛЬНЫ 'той, які жыве за грэбляй'.— *Загрэ́бельны*

*ЗАГРЭБЕНЬ, *ЗАГРАБЕНЬ.— *Загрэ́бень, Заграбéнь, Загрэ́бнеў*. Параўн. ЗАГРЭБА

*ЗАГРЭК(А).— *Загрэ́каў*

*ЗАГУЗ(А).— *Загу́заў*

*ЗАГУЛА ад *гу́ляць?*— *Загу́ла*

ЗАГУМЕННЫ 'той, хто жыве за гумном'.— *Загумéнны, Загумённы, Загумéнка, Загумéнкін*. Укр. у XVII ст. *Загуменной* (Туп.)

*ЗАГУСТА.— *Загу́ста*

ЗАД.— *За́даў*. СРП *Задов*

*ЗАДАЛЯ.— *Зада́ля*

ЗАДАРОЖНЫ 'той, хто жыве за дарогай'.— *Задарóжны*. СРП *Задорожный*

ЗАДЗІРКА рэг. 'зачэпка, прыдзірка' (Нас.), рус. *задирка* тое ж (Даль), укр. *задирка* тое ж, 'завусеніца' (Грынч.).— *Задзі́рка*

ЗАДЗЁРНЫ параўн. рэг. *задзёра* 'задзіра' (Нас.).— *Задзярню́к*

ЗАДОРА параўн. рэг. *задор* 'сварка, спор' (Нас.).— *Задóра*. Рус. у XVI ст. *Задора* (Туп.). СРП *Задорин, Задоров*

*ЗАЕРКА.— *Заéрка*

ЗАЖЭКА параўн. польск *rzeka* 'рака', магчыма, 'той, хто жыве за ракой'.— *Зажэ́ка; Зажэ́цкі*

*ЗАЗЕКА, ЗАЗІКА.— *Зазéка, Зазі́ка*

*ЗАЗІТ.— *Зазі́т*

*ЗАЗОН.— *Зазóн*

*ЗАЗЫБА.— *Зазы́ба*. Бел. у XIV—XVII стст. *Зазыба* (Туп., БА, І, 215)

ЗАІКА, памянш. ЗАІЧКА.— *Заі́ка; Заі́чка, Заі́чкін, Заі́чкаў*. Бел. у XVII ст. *Заика* (БА, І, 215). СРП *Заикин*

ЗАЙ 'заяц'?— *За́енка*, магчыма, рэг. і рус. памянш. *Заенка ад Заяц*. СРП *Заев*

ЗАЙКА, ЗАЙЧЫК гл. ЗАЯЦ

*ЗАК.— *Зак.* СРП *Заков*

ЗАКАБЛУК укр. *закоблук* сапожн. 'заднік' (Грынч.).— *Закабл́ук, Закаблукóў*

ЗАКРУТА параўн. *закрутка* (БРС), рус. *закрут* 'хвароба, вар'яцтва' (Дабр.).— *Закрýта*

ЗАКУРДАЙ рус. 'франт, валацуга, залётнік' (Дабр.).— *Закурдáеў.* СРП *Закурдаев*

ЗАКУСІЛА ад *закусіць?*— *Закусíлаў.* Бел. у XVII ст. *Закусило,* укр. у XVI—XVII стст. *Закусило, Закусилко* (Туп.)

ЗАЛАМАЙ рус. *заломай* 'хто дорага просіць пры прадажы, абдзірала' (Даль).— *Заламáй.* У Літоўскім кн. у XVII ст. *Заломай* (Туп.)

*ЗАЛАН 'хто жыве за ланамі'?— *Залáн*

ЗАЛАТАР ст. бел. 'залатых спраў майстар' (Нас., АУ).— *Залатáр, Залатарóў, Залатарэ́віч.* Бел. у XVI ст. *Золотар* (БА, І, 217). СРП *Золотарёв, Золотаренко*

ЗАЛАТУХА.— *Залатýха, Залатýхін.* СРП *Золотухин*

ЗАЛАТЫ.— *Залаты́.* Укр. у XVI ст. *Золотой,* рус. у XVI ст. *Золотой* (Туп.). СРП *Золотой, Золотых*

*ЗАЛБА.— *Зáлба.* СЛП *Залба*

ЗАЛЕСНЫ.— *Залéсны*

ЗАЛЕТА, памянш. ЗАЛЕТКА.— *Залéтка; Залéцкі.* СРП *Залёткін, Залётов.* Параўн. ЗАЛЯЦІЛА

*ЗАЛЕШЧ.— *Залéшчанка*

ЗАЛІВАКА параўн. рэг. *заліваха* 'п'яніца' (КСЧ).— *Залівака.* Бел. у XVI ст. *Залівáка* (БА, І, 215). СРП *Заливакин*

ЗАЛОГА рэг. 'залог, заложнік' (Нас.), 'заложнік' (Дабр.), рус. *залога* 'што-небудзь заложнае', 'аблога, залеж' (Даль), укр. *залога* 'гарнізон', 'ахоўны пост' (Грынч.).— *Залóга.* Укр. у XVII ст. *Залога* (Туп.). СРП *Залогин*

ЗАЛТАН.— *Залтáн.* Параўн. *Салтан*

ЗАЛУЖНЫ.— *Залýжны*

ЗАЛУЦКІ 'які жыве за лукою ці ў в. Залукі, Залучча'.—*Залýцкі.* СРП *Залуцкий*

ЗАЛЯЦІЛА 'той, хто заляцеў, перасяленец'.— *Заляціла.* Параўн. бел. у XVI—XVII стст. *Залетелый, Залетелой* (БА, І, 215; Туп.)

ЗАМАРА ад *замараць?*— *Замáра.* Рус. у XV—XVII стст. *Замарай, Замарайко* (Туп.). СРП *Замарин*

*ЗАМАСЦЯН.— *Замасціянін* з устаўкай [і], *Замасціновіч* пры [я]>[і]

*ЗАМАТАЙЛА ад *заматаць*.— *Score Заматáйла*

ЗАМОК.— *Замкóвіч*

ЗАМКАВЕЦ 'хто пражывае ў замку'?— *Замкавéц*

ЗАМОСТА, памянш. ЗАМОСЦІК 'хто жыве за мастом' ці ад *замасціць*.— *Замóсцін; Замóсцік*

ЗАМУЛА, памянш. ЗАМУЛКА ад *замуляць*.— *Замýлка*

ЗАМЫКА ад *замыкаць*?— *Замы́ка*. СРП *Замычкин*

ЗАМЯТА параўн. рэг. *замятня*, 'замяшанне' (Нас.), рус. *замята* 'снежны занос' (Дабр.), укр. *зам'ятня* 'замяшанне, суматоха' (Грынч.).— *Замя́цін*. Бел. у XVI—XVIII стст. *Замятка* (Туп., БА, І, 215). Рус., укр. у XVI—XVII стст. *Замятня* (Туп.). СРП *Замятин, Замятнин*

ЗАНЕМАНЕЦ, 'які жыве за Неманам'.— *Занéманец, Заніму́нец* з пераносам націску і пры [е]>[і]

ЗАНЗУБЕЛЬ рэг. 'плотніцкая прылада зензубель'.— *Занзýбель*

ЗАНОЗА рэг. 'стрэмка'.— *Занóза*

*ЗАПАРАЖАН, відаць, з *запаражанін*, выхадзец з Запарожжа.— *Запаражáн*

*ЗАПАРОВАНЫ.— *Запарóваны*

*ЗАПАРТЫКА параўн. рус. *зáпарток* 'сапсаванае яйцо' (Фасм.)— *Запарты́ка*

ЗАПАСКА ўкр. *запаска* 'від спадніцы — палотнішча, кусок матэрыялу, які захінаецца спераду', 'фартух' (Грынч.).— *Запáска, Запáскін*

*ЗАПАСНІК параўн. *запасны* (БРС).— *Запáснік*. Бел. у XVI ст. *Запасник* (БА, І, 215)

ЗАПАТЫЛАК.— *Запаты́лак*

*ЗАПЕКА параўн. рэг. *запéкаць* 'забіць тупымударам', 'засадзіць у турму' (Нас.), укр. *запекати* 'запраторыць, захаваць' (Грынч.).— *Запéка*. Рус. у XVI ст. *Запека* (Туп)

ЗАПЛАТА бел. 'плата', 'адплата, помста' (БРС, Нас.), рус., укр. тое ж (Даль, Грынч.), рус. 'латка, лапік'.— *Заплáцін*. СРП *Заплатин*

ЗАПОЙКА рэг. 'выпіўка пасля куплі-продажу ці заканчэння якой здзелкі' (Нас.), рус. 'запоіны, заручыны' (Даль).— *Запóйка*

ЗАПОЛЬНЫ 'які жыве за полем'.— *Запóльны*

*ЗАПРАГАЙ ад *запрагаць*.— *Запрагáеў*

ЗАПРАГАЙЛА ад *запрагаць.— Запрагайлаў*

ЗАПРУДНЫ 'хто жыве за прудам', 'які мае адносіны да запруды, жыве ля яе ці працуе'.— *Запрудны*

*ЗАПРЫВАРА.— *Запрыварын*

ЗАРАНКА, *ЗАРАНОК.— *Заранка, Заранкоў, Заранкін; Заранчук; Заранок.* Бел. у XVI—XVII стст. *Заранко* (БА, I, 215—216; Туп.). СРП *Зарянко*

*ЗАРАЙ.— *Зарай*

*ЗАРАНІК.— *Заранік*

ЗАРОЖНЫ 'які жыве за рогам вуліцы, дарогі'?— *Зарожны*

*ЗАРОЎКА.— *Зароўкін*

ЗАРУБА, ЗАРУБКА бел. *зарубка* 'прарэз-адзнака', рус. 'рубец, адзнака на бірцы' (Дабр.).— *Заруба; Зарубкін; Зарубіцкі.* Рус. у XVI ст. *Заруба* (Туп.). СРП *Зарубин, Зарубинский*

ЗАРЫХТА.— *Зарыхта*

ЗАРЭМБА польск. *zaręba* 'зарубка' (Карл.).—*Зарэмба.* Бел. у XVI ст. *Заремба* (БА, I, 216)

ЗАРЭЧНЫ 'які жыве за ракой'.— *Зарэчны*

ЗАСАДА.— *Засадыч, Засадзіч.* Укр. у XVII ст. *Засадка* (Туп.)

ЗАСЕКА рус. *засека* 'знак, засечка ад нажа ці тапара' (Даль), параўн. бел. *засечка.— Засека.* У Туп. у XV ст. *Засека.* СРП *Засекин, Засецкий*

ЗАСТРЭЛ.— *Застрэлаў*

ЗАСТУПЕНЬ укр. *заступень* 'ручка лапаты' (Грынч), магчыма, ад *заступацца.— Заступнэвіч*

ЗАСЯДАЦЕЛЬ.— *Засядацелеў*

ЗАТОРА 'затор, перашкода'? — *Затора*

ЗАТУЛА рэг. 'скураны фартух у рыбака' (Пол.— Баханьк.), параўн. рус. *затул* 'месца, дзе што-небудзь можна схаваць, затуліць' *затулка* 'затычка', 'фартух' (Даль), укр. 'абарона, пакрыццё', 'капюшон адзення' (Грынч.).— *Затула*

ЗАТУРАН рус. *затуран* 'мука, падсмажаная на масле, сале', 'нахабнік, забіяка, буян' (Даль), параўн. бел. *затурыць* 'загнаць' (БРС, Нас.), *затурыць* 'занесці' (Стэц.), рус. *затуривать* 'гнаць, паганяць' (Даль).— *Затуранаў*

ЗАТЫКА 'тое, чым затыкаюць'? — *Затыка, Затычын*

ЗАЎТУРА.— *Заўтура*

ЗАХВАТАЙ 'той, хто захватвае'? — *Захватаеў; Зафатаеў* пры [хв]>[ф]. Бел. у XVI—XVIII стст. *Захватай, Зафатай* (БА, І, 216; Туп.). СРП *Захватаев*

*ЗАХВІТА ці ЗАХВІЦА.— *Захвіцэвіч*

ЗАХІЛА, памянш. ЗАХІЛЬКА ад *захіліць*.— *Захілька*

ЗАХОДА рус. 'злосны, успыльчывы' (Дабр.), параўн. бел. *заходзень* 'зайшлы' (Нас.), рус. *заходень* тое ж (Даль).— *Заходзін*

ЗАХОДНЫ 'зайшлы'.— *Заходны*. Параўн. ЗАХОДА

ЗАХОЖЫ 'зайшлы'.— *Захожы*. Бел. у XVII—XVIII стст. *Захожы* (БА, І, 216). Укр. у XVII ст. *Захожий* (Туп.)

*ЗАХЯЛА.— *Захялаў*

*ЗАЦЕЙ ад рэг. *зацяваць*, рус. *затевать* 'пачынаць, задумваць', г. зн. 'выдумшчык, пачынальнік'.— *Зацееў*. СРП *Затеев*

*ЗАЦЫРКЛЯНЫ.— *Зацыркляны*

ЗАЦЭПА рэг. 'зачэпа, зачэпка'.— *Зацэпін*. Бел. у XVII ст. *Зачэпа* (Туп.). СРП *Зацепин, Зацепов*

*ЗАЦЮПА параўн. рэг. *зацюпаць* 'заплюхаць, абпаліць (адзенне)', перан. 'затуркаць, забіць' (Юрч.), укр. *затюпати* 'пабегчы трушком' (Грынч.).— *Зацюпа*

ЗАЯРНЫ 'той, хто жыве за ярам'.— *Заярны*

ЗАЯЦ, памянш. ЗАЙКА, ЗАЙЧЫК, ЗАЕНКА.— *Заяц, Зайцаў; Зайка, Зайко, Зайкін, Зайкевіч, Зайчанка; Зайчук; Зайчык; Заенка; Заяцкі, Зайкоўскі, Заянкоўскі, Заенчукоўскі, Заянчкоўскі* — два апошнія, відаць, ад польск. *zając* 'заяц'. Бел. у XVI—XVIII стст. *Заяц, Заец, Зайка* (БА, І, 216). Рус., укр. у XV—XVII стст. *Заяц, Заец, Зайка, Зайко* (Туп.). СРП *Зайцев, Зайценко, Зайко, Зайков, Зайкин, Зайчик, Зайчиков, Зайковский*

*ЗАЯШ.— *Заяш*

ЗБАН, ЗБАНОК.— *Збан, Збанок*

ЗБОЙЦА ці ЗБОЙ, памянш. ЗБОЙЧЫК рэг. *збойца* 'разбойнік', 'чалавек, які любіць біцца' (Нас.).— *Збойчык*

ЗБОРА рэг. *зборка* 'складка'.— *Зборын*

*ЗБРОЛ ці ЗБРАЛА.— *Збралевіч*

ЗБРОД 'зброд', параўн. *збродаваць, збродлівы* (БРС).— *Збродаў*

*ЗБРЫЖАР.— *Збрыжар*

ЗВАНАР.— *Званароў*. СРП *Звонарёв*

ЗВАНЕЦ назва расліны (БРС, КСЧ), рус. *звонец* тое ж (Дабр.), *Званцоў.* СРП *Звонцов*

ЗВАНОК.— *Званóк, Званкó.* СРП *Звонков*

*ЗВАРЫКА.— *Зварыка, Зварыкін, ?Зварыцэвіч, Зварычэнка.* Рус. у XV—XVI стст. *Зворыка* (Туп.). СРП *Зворыкин*

ЗВЕР, памянш. ЗВЯРОК, павеліч. ЗВЯРУГА.— *Звéрай; Звярóвіч; Звярóк, Звяркó, Звяркóў; Звярýга; Звярынскі.* Бел., рус. у XVII ст., укр. у XVI—XVII стст. *Зверь, Звер* (Туп.). СРП *Зверев, Зверьков, Зверков*

ЗВОННІК 'званар'?, 'майстар-званалітчык'?— *Звóннікаў*

ЗВЯЗДА.— *Звяздá.* СРП *Звездин, Звёздкин, Звёздочкин*

*ЗГОЛА.— *Згóліч*

ЗДАН ад *ждан* 'той, якога чакалі'.— *Зданóвіч, Зданéвіч.* СРП *Здановіч*

ЗДАРАВЕЦ рэг. 'здаравяк, здаравяка' (Дзярж.— М. Б.). — *Здаравéц, Здараўцóў*

ЗДАРОВЫ.— *Здаравéнка*

ЗДЗЕСЬ.— *Здзéсеў*

ЗДОЛЬНІК устар. 'прыняты ў сям'ю чалавек з роўнай доляй' (КСЧ).— *Здóльнікаў*

ЗДОР.— *Здор, Здóранка, Здаранóк, ?Здураў* пры [o]>[y]

*ЗДОН, памянш. ЗДОНЧЫК.— *Здóнчык*

ЗДРОК, ЗДРУК рэг. *здрок* 'авадзень' (БРС).— *Здрок, Здрук*

*ЗДУН, памянш. ЗДУНКО.— *Здункéвіч*

ЗЕВА параўн. *зяваць* 'зяваць', 'крычаць, гучна гаварыць'.— *Зéвін.* СРП *Зевин*

ЗЕЛЕН.— *Зéлен*

*ЗЕЛЮД, памянш. ЗЕЛЮДОК.— *Зелюдкóў*

*ЗЕЛЯК.— *Зéляк*

ЗЕЛЯНЯК, ЗЕЛЯНЯКА рус. *зеленяк* 'зеленаваты гад', 'яшчарыца', лягушка' (Даль), укр. *зеленяк* (насякомае) 'залаты жук', (птушка) 'зелянушка' (Грынч.).— *Зеляняк, Зеляняка*

*ЗЕЛЯНОК, ЗЕЛЯНЁК.— *Зелянóк, Зелянкóў, Зелянкéвіч; Зеляњкóў; Зелянкóўскі*

ЗЁМЕЦ.— *Зёмец, Зёмцаў; Зямéц, Зямцóў.* Бел., укр., рус. у XVI ст. *Земец* (Туп.). СРП *Земцов*

*ЗЕМЛЯНІК.— *Землянік*

*ЗЕРАНІН.— *Зеранін.* СРП *Зеренинов*

ЗЕРНЕ рэг. ЗЯРНО.— *Зерне, Зярно́, Зярно́ў; Зярніцкі.* СРП *Зернов, Зёрнов*

ЗІЗІКА параўн. укр. *зиз, зизоокий* 'касавокі' (Грынч.).— *Зізіка*

*ЗІКЕЙ параўн. рус. *зик* 'бзік, гіз, неспакой жывёлы ад аваднёў' (Дабр.), укр. *зик* 'крык', *зикати* 'крычаць' (Грынч.).— *Зіке́й, Зіке́еў.* СРП *Зикеев, Зикеин*

*ЗІКУН.— *Зіку́н, Зікуно́ў.* Параўн. ЗІКЕЙ

*ЗІЛГАЛА.— *Зілга́лаў*

*ЗІЛЬ.— *Зіль, Зіле́віч.* СРП *Зильков, Зилюкин*

ЗІМА, памянш. ЗІМКО.— *Зіма́, Зімін, Зіміч; Зімчо́нак; Зімчу́к.* Бел., рус. у XVII ст. *Зима* (Туп.). СРП *Зимин, Зимичев, Зименков*

ЗІМНІ.— *Зімні.* СРП *Зимнюков, Зимницкий*

*ЗІМАК.— *Зіма́к, Зімако́ў; Зіма́цкі.* СРП *Зимаков*

ЗІМЯНЕЦ з в. Зімы.— *Зімянцо́ў*

ЗІМЯНІН гл. ЗЯМЯНІН

*ЗІНГАР.— *Зінгарэ́нка*

ЗІПУН рус. 'бравэрка', 'світка'.— *Зіпуно́ў*

*ЗІРНЯ.— *Зірня*

*ЗЛАТА.— *Зла́цін.* СРП *Злацин*

ЗЛОБА рус. *злоба* 'злосць, гнеў'.— *Зло́бін, Зло́біч.* Бел. у XV—XVIII стст. *Злоба, Злоб, Злобок* (Туп., БА, I, 216). Рус. у XV—XVI стст. *Злоба, Злобка, Злобица* (Туп.). СРП *Злобин, Злобов, Злобинский*

ЗЛОТА, памянш. ЗЛОТКА польск. *złoto* 'золата'.— *Зло́цін; Зло́тка*

*ЗЛЫДА параўн. рэг. *злыдзень* 'шкодны чалавек' (КСЧ), укр. *злидарь* 'бядняк' (Грынч.).— *Злыдзе́нка*

ЗМЕЙ.— *Зме́еў; Змяе́ўскі.* Бел. у XVIII ст. *Змей* (БА, I, 216). СРП *Змеев*

ЗМУДЗЯК са *жмудзяк* 'жыхар Жмудзі, Жамайціі'.— *Змудзя́к.* Параўн. ЖАМОЙТА, ЖМАЙДЗЯК

ЗМУШКА параўн. рэг. *змушаць* 'прымушаць' (Нас.), укр. *змушати* тое ж (Грынч.).— *Зму́шка, Змушко́*

ЗНАК.— *Знак*

*ЗНОР, памянш. ЗНАРКО.— *Знарко́*

*ЗНОС.— *Зно́сінка* пры [е]>[і]

*ЗОЗАН.— *Зо́зан*

*ЗОЙЛЯ.— *Зо́йля*

*ЗОЛА.— *Зо́ла.* СРП *Золин*

ЗОНТ.— *Зо́нтаў*

ЗОРА.— *Зópaў, Зópын, Зópыч, Зópычаў, Зарэнка.* СРП *Зорин, Зорич, Зоров, Зоренков*

ЗОРКА, памянш. ЗОРАЧКА.— *Зópка, Зópкін; Заркéвіч; Зópачкін.* СРП *Зорькин*

ЗОРНЫ.— *Зópны*

*ЗОРЫШ.— *Зópыш*

ЗУБ, памянш. ЗУБІК, ЗУБОК, ЗУБЕЦ.— *Зуб, Зýбаў, Зубóвіч, Зубéнка, Зубéнкін, Зубéня; Зýбік, Зубóк, Зубкó, Зубкóвіч, Зубкéвіч, Зýбчанка, Зубчóнак; Зубéц, Зубцóў; Зубóўскі, Зубкóўскі.* Бел. у XV—XVIII стст. *Зуб, Зубок, Зубец, Зубко* (Туп., БА, I, 217). Рус., укр. у XV—XVII стст. *Зуб, Зубко* (Туп.). СРП *Зубов, Зубин, Зубок, Зубков, Зубченко, Зубцов*

ЗУБАК, ЗУБАКА 'зубаты'?— *Зубáк; Зубáкін.* Бел. у XVIII ст. *Зубака* (БА, I, 217). Рус. у XV—XVI стст. *Зубака* (Туп.). СРП *Зубакин, Зубаков*

ЗУБАЛЬ 'зубаты'? — *Зубалéвіч; Зубалéўскі*

ЗУБАР, памянш. ЗУБАРЫК 'зубаты'? — *Зýбар, Зýбараў; Зубарэвіч.* Рус., укр. у XV—XVI стст. *Зубар* (Туп.). СРП *Зубарёв*

ЗУБАХ, ЗУБАХА 'зубаты'?— *Зýбáх, Зубáха.* Бел. у XV ст. *Зубаха* (Туп.)

ЗУБАЧ 'зубаты'? — *Зубáч, Зубачóў.* СРП *Зубачёв*

ЗУБЕЛЬ, памянш. ЗУБЕЛІК 'зубаты'? — *Зубéль, Зубялéвіч; Зубéлік*

*ЗУБІЛЕНДА, памянш. ЗУБІЛЕНДЗІК. — *Зубілéндзік*

ЗУБР, памянш. ЗУБРОК.— *Зубр, Зýбрыч, Зубрэвіч; Зубрóк, Зубракóў; Зубрынóвіч, Зубрыцкі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Зубер, Зубрик* (Туп., БА, I, 217). Укр. у XV—XVII стст. *Зубр, Зубрик* (Туп.) СРП *Зубрев, Зубров, Зубрицкий*

*ЗУЗА.— *Зýза, Зýзін, Зузёнак.* СРП *Зузенко.* СЛП *Зуза*

ЗУЙ рэг. 'рослы хлапец з паводзінамі дзіцяці, недарэка' (Чавус.— В. Л.), рус. агульная назва невялікіх кулікоў (Даль).— *Зуй, Зýей, Зуёнак; Зуйкó, Зуйкóў, Зуйкéвіч; Зуéньчык; Зуéўскі.* Рус. у XV—XVII стст. *Зуй* (Туп.). СРП *Зуев, Зуенков, Зуйкин, Зуйков, Зуевский*

*ЗУНДА.— *Зýнда.* СЛП *Зунда, Зунде*

*ЗУСЬ, памянш. ЗУСЁК.— *Зуськóў.* СРП *Зусин, Зуськов*

*ЗЫБАЙЛА ад *зыбаць, зыбацца.— Зыбáйла*

*ЗЫБЕЛЬ.— *Зыбе́ль.* СРП *Зыбелин.* Параўн. ЗЫБАЇЛА

ЗЫГ параўн. рус. *зыга* 'непаседлівы чалавек' (Фасм.).— *Зыг*

*ЗЫДАЛЬ.— *Зы́длеў*

*ЗЫЗНІК.— *Зы́знік*

ЗЫК 'гук', 'крык, шум' (БРС, Нас.), 'гул, гудзенне' (Нас.), рус. 'крык, шум, стук' (Даль), 'бліз, гіз, неспакойны стан жывёлы ад аваднёў', 'з'яўленне аваднёў', 'гудзенне, гуд' (Дабр.), укр. 'крык' (Грынч.).— *Зык, Зы́каў, Зыко́віч.* Бел., рус. у XVI ст. *Зык* (Туп.). СРП *Зыков*

ЗЫКУН 'крыкун'?— *Зыку́н*

*ЗЫЛЬ, памянш. ЗЫЛЁК.— *Зыль, Зыле́віч; Зылёк, Зылькоў.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Зыль, Зылица* (БА, І, 217; Туп.)

*ЗЫНЬ, памянш. ЗЫНЁК.— *Зынёк*

*ЗЫСКУН параўн. ст. бел. *зыск* 'сыскванне, забіранне', 'абследаванне, пошук', 'прыбытак, выгада' (Нас., АУ), рэг. *зыск* 'выгада, карысць, прыбытак' (КСЧ), з польск. *zysk* 'прыбытак, барыш'.— *Зыскуно́ў*

*ЗЭДА.— *Зэ́дзін*

*ЗЭК.— *Зэ́каў,* магчыма, у выніку асваення ЛП *Зекас*

*ЗЮБА.— *Зю́ба*

*ЗЮЗЕЛЬ.— *Зю́зель*

ЗЮЗЯ, ЗЮЗЬКО *зюзь* 'п'яніца', *зюзька* 'той, хто баіцца холаду', *зюзя* дзіцяч. 'холад, мароз' (Нас.), рус. *зюзя, зюзила* 'чалавек у мокрым адзенні', 'плакса', 'п'яніца' (Даль), укр. *зюзя* дзіцяч. 'кузурка, казяўка' (Грынч.).— *Зю́зя, Зю́зін, Зюзёнак; Зю́зькін, Зюзьке́віч.* Бел. у XVII ст. *Зюзька* (Туп.). СРП *Зюзин*

*ЗЮКА, ЗЮК параўн. рус. *зюкать* 'гаварыць', *зюк* 'размова', 'шум, гукі' (Дабр.).— *Зю́кін.* СРП *Зюков*

*ЗЮЛЬ, памянш. ЗЮЛЁК.— *Зюль; Зюлько́ў*

*ЗЯБКО, *ЗЯБЧЫК ад *зябнуць?* — *Зябко́, Зябко́ў, Зябчо́нак; Зя́бчык.* Бел. у XVI—XVII стст. *Зябко, Зябка* (БА, І, 217; Туп.). СРП *Зябкин, Зябков*

ЗЯБЛІК.— *Зя́блік, Зя́бліка́ў.* СРП *Зябликов*

*ЗЯБОРА.— *Зябо́ра*

ЗЯВАЛА ад *зяваць?* — *Зява́ліч.* Параўн. ЗЕВА

*ЗЯЗЕТА, памянш. *ЗЯЗЕТКА.— *Зязе́тка*

ЗЯЗЮЛЯ, памянш. ЗЯЗЮЛЬКА, ЗЯЗЮЛЬЧЫК рэг. ЗАЗУЛЯ.— *Зязюля́, Зязю́лін, Зезюле́віч; Зязю́лька, Зя-*

зю́лькін; Зязю́льчык; Зазу́ля; Зазулі́нскі. Бел. у XVIII ст. Зезюля (БА, I, 216). СРП Зезюлин

ЗЯЛЕПУХА рэг. 'зялёныя, недаспелыя ягады, вішні, яблыкі і інш.' (Нясв.— Араш., Чавус.— В. Л.).— Зеляпу́га. Бел. у XVI—XVII стст. Зеляпуга, Зеляпуг, Залепуга (БА, I, 216)

ЗЯЛЁНКА бел. 'зялёная сыраежка' (БРС), зялёнкі 'недаспелыя, зялёныя каноплі' (Нас.), рус. зеленка назва расліны, 'зелень, трава' (Даль), укр. зеленка 'гатунак дыні' (Грынч.).— Зялёнка, Зелянке́віч. Бел. у XVI—XVII стст. Зеленко (БА, I, 216; Туп.). СРП Зеленка, Зеленкевіч

ЗЯЛЁНЫ.— Зялёны, Зеляно́ў; Зеляне́ўскі, Зеляно́ўскі, Зялё́нскі, Зіляні́цкі пры [е]>[і]. Рус. у XV—XVII стст. Зеленой, Зеленый (Туп.). СРП Зелёный, Зеленов, Зеленский

*ЗЯЛЮТА, памянш. ЗЯЛЮТКА.— Зялю́ткін

*ЗЯМЛЮК.— Зямлю́к

ЗЯМЛЯК.— Зямля́к, Земляко́ў. СРП Земляков

*ЗЯМНОХА.— Зямно́ха. Параўн. СРП Земнухов

ЗЯМЯНІН ст. бел. земянин 'карэнны жыхар краіны' (Нас., АУ), 'дваранін, памешчык' (Нас., АУ; Гарб.).— Зімя́нін пры [е]>[і]. СРП Зимянин

*ЗЯРНЯК.— Зярня́к

ЗЯЦЬ, памянш. ЗЯЦЁК.— Зяцько́ў. Рус. у XVII ст. Зять (Туп.)

ІВА, памянш. ІВАЧКА рус. 'вярба'.— Івін; Івачкін; Іві́цкі. СРП Ивин, Ивенков, Ивкин

ІГОЛКА.— Іго́лка, Іго́лкін. Бел. у XV—XVI стст., рус. у XV—XVII стст. Иголка (Туп.). СРП Иголкин

*ІГРАЙ ад іграць? — Ігра́еў

*ІЁДА, *ІОДА, памянш. ІЁДКА, ІОДКА.— Іёда, Іода, Іётчанка, Іо́тчанка пры [д]>[т]; Іадко́ўскі. СРП Иодчин

*ІЖОХА.— Іжо́хін

*ІЖЫК.— Іжык. СРП Ижик, Ижиков

*ІЗАФАТ.— Ізафа́таў

*ІЗВАЛ.— Ізва́лаў

ІЗВОЗЧЫК бел. рэг., рус. извозчык 'рамізнік'.— Ізво́зчыкаў. СРП Извозчиков

ІЗНІК рус. изник, изника 'знікненне' (Даль).— Ізнік

*ІЗОХ.— Ізох

*ІЗРА.— *Ізрын.* СРП *Изрин*

*ІКАН 'той, хто ікае, ікун'?— *Ікáн, Іканóвіч,* апошняе магчыма і ад ІКОНА (гл.)

ІКОНА.— *Іканóвіч.* СРП *Иконин*

*ІМПЕР.— *Імпярóвіч*

ІМХОВІК.— *Імхóвік*

ІМЯННЫ.— *Імянны́*

ІНАЗЕМЕЦ 'іншаземец'.— *Іназéмцаў.* СРП *Иноземцев*

ІНДЗЮК рэг., рус. *индюк* 'індык'.— *Індзю́к, Індзюкóў*

*ІНЕША.— *Інéшын*

ІНТАРЭС.— *Інтарэ́саў*

ІНШАК.— *Іншакóў*

ІОДА гл. ІЕДА

*ІОЗА.— *Іóзін*

*ІОК.— *Іóкаў*

*ІОКША.— *Іóкша*

*ІРУПА.— *Іру́пін*

ІРХА 'аблямоўка з футры на адзенні' (БРС), рэг. 'палоска аўчыны без воўны, якая нашываецца на кажух ці ўшываецца ў швы' (КСЧ), рус. 'мяккая чорная скура ці саф'ян' (Дабр.).— *Ірхá.* СРП *Ирхин*

*ІСАР.— *Ісáр.* СРП *Исаров*

*ІСКАР ад *іскра?— Іскарóў*

ІСКРА.— *Іскра; Іскры́цкі.* Укр. у XVII ст. *Искра* (Туп.)

ІСТОМА гл. СТОМА

**К**АБ, памянш. КАБІК, КАБКО, ?КАБУШКА тат. *каб* 'мяшок' (Будаг.), параўн. таксама тат. *каба* 'пралка', 'чэкмень' (ТРС), каз. 'бледны, буры, жаўтаваты' (Будаг.), тур. 'тоўсты, поўны', 'буйны, вялікі', 'прастак, нядаваны' (ТБР).— *Кáбаў, Кабéнка, Кабéнкін; Кáбік, Кабкó, Кабкóў; ?Кáбушкін.* Частка СБП магчыма і ад КОБА (гл.). СРП *Кабин, Кабков*

КАБАДЗЕЕЦ з в. Кабада.— *Кабадзéйцаў*

КАБАЙ алт. 'калыска' (Будаг.).— *Кабáеў.* Каз. УІ *Кабай* (Жануз.). СРП *Кабаев*

*КАБАЙДА.— *Кабайд*

*КАБАЙЛА.— *Кабáйла.* СЛП *Кабаіла*

КАБАК рэг. рус. 'карчма, шынок', рус. рэг. 'гарбуз' (Мірт.), тат. 'гарбуз', 'карчма' (ТРС), тур. 'гарбуз',

'прастак, невук' (ТРБ).— *Кабак, Кабакоў, Кабаковіч; Кабачэўскі.* У Туп. у XV ст. *Кабак.* СРП *Кабаков, Кабачков*

*КАБАЛАЙ, памянш. КАБАЛАЙЧЫК.— *Кабалайчык*

КАБАН, памянш. КАБАНЁК рэг. рус. 'вяпрук, парсюк', рус. рэг. 'гарбуз' (Мірт.).— *Кабан, Кабанаў, Кабанін, Кабановіч; Кабанёк, Кабанькоў; Кабанчук.* Бел. у XVI ст. *Кобан* (БА, І, 217). СРП *Кабанов, Кабанков*

КАБАРДА рус. 'выдра' (Фасм.), магчыма, 'кабардзінец'? — *Кабарда, Каборда.* СЛП *Кабарда*

КАБАРДЗЕЕЦ 'кабардзінец'? — *Кабардзейцаў*

КАБЁЛ, памянш. КАБЁЛКА рус. 'сухастоіна на беразе' (Фасм.).— *Кабёлка.* СЛП *Кабелка*

*КАБЕЛЬКА.— *Кабелька.* СЛП *Кабелка*

*КАБЕРНА.— *Каберна*

КАБЕРНІК параўн. бел. *каберац* 'дыванок' (БРС, Нас.), укр. *кобер* 'дыван' (Грынч.).— *Кабернік*

КАБЗАР.— *Кабзар.* СРП *Кобзарёв*

*КАБЗУН.— *Кабзун*

*КАБІШ, КАБЫШ, памянш. КАБЫШКА.— *Кабішаў; Кабыш, Кабышаў; Кабышка*

*КАБЛАШ.— *Каблаш*

*КАБОТ.— *Кабот*

КАБУШ, памянш. КАБУШКА рус. *кабушка, кабушек* 'круглы сырок, шарык з сыру ці тварагу' (Даль).— *Кабушаў; Кабушкін.* Параўн. СЛП *Кабушаітіс*

КАБЫЛА, памянш. КАБЫЛКА.— *Кабылка; Кабылянец; Кабылінскі, Кабыльскі.* Бел. у XVI ст. *Кобылец,* рус. у XIV—XVII стст. *Кобыла, Кобылка, Кобылица,* укр. у XVI ст. *Кобылка* (Туп.). СРП *Кобылин*

КАБЫЛЬНІК рэг. назва грыба (Нас.), зневаж. аб падростку, які паводзіць сябе як дзіця (Дзярж.— М.Б.).— *Кабыльнік.* СРП *Кобыльников*

*КАБЫЛЯК.— *Кабыляк.* Параўн. КАБЫЛЬНІК

КАБЫЛЯНЕЦ з в. Кабыляны.— *Кабылянец*

КАБЫРА, памянш. КАБЫРКА параўн. чув. *кабыр* 'модны, франтаваты, франт' (Залатн.), кірг. 'магіла' (КРС), тат., кірг. *кабырга* 'рабрына', 'схіл, касагор' (ТРС, КРС).— *Кабыркін*

*КАБЯК.— *Кабяк.* Бел. у XVI—XVII стст. *Кобяк* (Туп.). СРП *Кобякин*

КАВАДНЫ, КАВЭДНЫ параўн. рус. *ковадня, коваднн* 'нядаўна надоечы' (Даль).— *Каваднович*

*КАВАКА ад *каваць?*— *Кава́ка.* СРП *Ковако*

КАВАЛЕР.— *Кавале́раў.* СРП *Кавалераў*

КАВАЛЬ, памянш. КАВАЛІК, КАВАЛЕК, КАВАЛЕЦ.— *Кава́ль, Ко́валь* з пераносам націску, *Кавалёў, Кавале́віч; Кавалёнка, Кавалёнак, Кавале́ня; Кавалю́к; Кава́лік; Кавалёк, Кавалько́, Кавалько́ў; Кавальчу́к; Кавале́ц; Кавале́ўскі, Кава́льскі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Коваль* (БА, І, 221; Туп.), рус. у XVI ст., укр. у XVII ст. *Коваль* (Туп.). СРП *Коваль, Ковалёв, Коваленко, Коваленков, ?Ковалин, Ковалик, Ковальков, Ковальчик, Ковальчук, Ковальчуков, Ковалевский, Ковальский*

*КАВАЎКА.— *Кава́ўка*

КАВЕНЬКА гл. КАВЯНЯ

*КАВЕРА, памянш. КАВЕРЧЫК — *Каве́рын, Каве́рчык.* Рус. у XVI ст. *Коверя* (Туп.). СРП *Каверин.* СЛП *Кавера, Каверас, Каверіс*

КАВЕРЗНІК бел., рус., укр. 'той, хто робіць каверзы' (БРС, Даль, Грынч.), параўн. бел. рэг., *каверзні* 'лапці' (БРС), рус. *каверза* 'плётка, сплетня' (Дабр.), *коверзень* 'лапаць' (Даль, Дабр.).— *Каве́рзнікаў*

КАВЁР, памянш. КОЎРЫК.— *Каўро́ў, Ко́ўрык.* СРП *Ковров*

*КАВОКА.— *Каво́кін.* СРП *Кавокин*

КАВУЛЯ, памянш. КАВУЛЬКА укр. *кавулька* 'зязюля, кукушка' (Грынч.), параўн. бел. рэг. *кавуліць* 'адразаць вялікі кусок хлеба'(КСЧ).— *Каву́лькін*

КАВЯЗА рус. *кавяза* 'зборышча, шайка' (Дабр.), укр. *ковіза* 'інструмент для вырабу драўляных абручоў', *ковизка* 'палка з загнутым канцом' (Грынч.).— *Кавяза́.* Бел. у XVII ст. *Кавеза* (БА, І, 221).

КАВЯНЯ, памянш. КАВЕНЬКА рэг. *кавяня, камяня* 'качарга', *кавенька* 'палка з крывулькай' (Маз., Люб.), укр. *ковінька* тое ж (Грынч.).— *Кавяня́, Кавёнькін*

*КАГОЦЬКА.— *Каго́цька*

КАДАК тат. 'цвік' (ТРС), кірг. устар. 'фунт' (КРС).— *Када́ко́ў.* Чув. УІ *Кадакай* (Магн.). СРП *Кадакин.* СЛП *Кадакас*

КАДАШ рус. *кодаш* 'таварыш', *кадаш, кадыш,* 'бачар' (Даль), укр. *кодаш* 'фурман, візнік (у Букавіне) на вяселлі' (Грынч.), з цюрк., уйг. 'таварыш' (Фасм.), ст. тур. 'брат, блізкі чалавек' (Шынк.).— *Када́ш, Кадашэ́віч*

КАДЗЕТ 'кадэт'.— *Кадзе́т, Кадзе́таў, ?Кадзе́даў* пры [т]>[д]. СРП *Кадетов*

КАДЗЬ, памянш. КАДЗЬКА, КАДЗІК 'бочка, кадушка' (БРС, КСЧ).— *Кадзе́віч; Ка́дзька, Ка́дзькоў; Ка́дзік.* СРП *Кадин, Кадочкин*

КАДЛУБ ст. бел. *кадлуб* 'пасудзіна, зробленая з цэлага куска дрэва, кадоўб' (Гарб.), польск. *kadłub* тое ж (Гарб.), параўн. КАДОЎБА.— *Кадлубо́віч.* СРП *Кадлубцев*

*КАДЛУБАЙ.— *Кадлуба́й.* Параўн. *Катлабай*

КАДОЛ, КАДОЛА, памянш. КАДОЛКА рус. *кодола, кодол* 'вярыгі, ланцугі', 'жэрдка ці вяроўка пры студні', 'вужышча, канат, таўстая вяроўка' (Даль), укр. *кодола* 'канат', *кодолі* 'вяроўкі, прывязаныя да крылляў невада' (Грынч.).— *Кадо́л, Кадо́ла, Кадо́ліч; Кадо́лка*

КАДОЎБА рэг. *кадоўб* 'выдаўбленае дрэва, устаўленае ў зямлю для сцёку вады, асабліва крынічнай' (Нас.), *кадуўба* 'пасудзіна, выдаўбленая з камля дрэва' (Бяльк.), *кадолба* тое ж, што ў Нас., *кадолб, кадолбь* 'кадушка, выдаўбленая з дрэва' (Даль), укр. *кадівб* 'вялікая кадушка для захавання збожжа, мукі ці капусты', 'чан', тое ж, што ў Нас. (Грынч.).— *Кадо́ўба*

*КАДУН.— *Каду́н, Кадуно́ў,* відаць, у выніку асваення ЛП *Кадунас*

КАДУШКА.— *Каду́шка, Каду́шкін, Кадушке́віч*

КАДЫШ рус. *кадыш, кадаш* 'бачар, абручнік, бондар' (Даль).— *Ка́дыш.* СРП *Кадышев, Кадышевич*

*КАДЭШКА.— *Кадэ́шка.* Параўн. КАДЫШ

*КАЖА.— *Ка́жын*

КАЖАДУБ 'дубільшчык скур'.— *Кажаду́б.* СРП *Кожедуб*

КАЖАМЯКА ўстар. 'аўчыннік, майстар, які вырабляе шкуры' (БРС, КСЧ).— *Кажамя́ка, Кажымя́ка* пры [е]>>[ы], *Кажамякін, Кажамячанка.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Кожемяка, Кожамяка* (БА, I, 222; Туп.). СРП *Кожемякин*

КАЖАН 'лятучая мыш' (БРС, КСЧ), 'нізкага росту слабасільны чалавек' (Дзярж.— М. Б.).— *Кажа́н, Кажа́наў; Кажане́ўскі,* магчыма і ад польск. *korzeń* 'корань'. Бел. у XVIII ст. *Кажан* (БА, I, 218). СРП *?Кожанов, Кожанчиков*

КАЖАРА, памянш. КАЖАРКА рэг. *кажарка* 'кароткі кажух' (КСЧ).— *Кажа́ра; Кажа́рка, Кажарко́ў; Кажа́рскі.* У Туп. у XVI ст. *Кожара* СРП *Кожаров.* СЛП *Кажарас*

*КАЖДАН.— *Каждан*

КАЖУКАЛА ад *казаць?* — *Кажукала*

КАЖУН ад *казаць?* — *Кажун*

*КАЖУРА.— *Кажура.* СЛП *Кажюра.*

КАЖУХ.— *Кажух, Кожух; Кажушка, Кажушкевіч; Кажухоўскі.* Рус. у XV—XVI стст. *Кожух* (Туп.). СРП *Кожухов, Кожушкин*

КАЖЭКА ад *казаць?* — *Кажэка, Кажэкін; Кажэцкі*

КАЖЭЎНІК рэг., рус. *кожевник* 'гарбар'.— *Кажэўнік, Кажэўнікаў.* Рус. у XVI ст. *Кожевник* (Туп.). СРП *Кожевников*

КАЗА, памянш. КОЗІК.— *Каза, Козін, Козінаў, Козіч, Казенка, Казянкоў; Казюк, Казюкоў; Козік, ?Козык; Казінскі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Коза* (Туп., БА, I, 222). Рус. у XIV—XVII стст. *Коза, Козка* (Туп.). СРП *Козин, Козицкий*

КАЗАДОЙ назва птушкі.— *Казадой, Казадоеў.* СРП *Козодоев*

КАЗАК, памянш. КАЗАЧОК.— *Казак, Козак, Казакевіч, Казачэнка, Казачонак; Казачук; Казачок, Казачкоў; Казача; Казакоўскі, Казачэўскі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Казак* (БА, I, 218). Рус., укр. у XV—XVII стст. *Козак, Козачок* (Туп.). СРП *Козаков, Козакевич, Козачковский, Казаков, Казачков, Казаченко*

КАЗАЛУП.— *Казалуп.* СРП *Козолупов*

КАЗАН, памянш. КАЗАНІК, КАЗАНЕЦ 'казан, кацёл', рус. рэг. 'прылада для лоўлі рыбы' (Дабр.).— *Казан, Казаневіч; Казанікаў; Казанцэвіч; Казанскі* магчыма і ад Казань. Чув. УІ *Казан* (Магн.). Бел. у XVI—XVII стст. *Казан, Козан* (Туп., БА, I, 222). Рус. у XVI ст. *Казан* (Туп.). СРП *Казанов*

КАЗАРОВЕЦ з в. Казары, Казарова.— *Казаровец*

КАЗАРЭЗ.— *Казарэз, Казарэзаў.* Бел. у XV—XVI стст. *Козорез, Козарез* (БА, I, 223). СРП *Козорезов*

*КАЗБЕР.— *Казбярук, Казбірук* пры [е]>[і]. СРП *Казберов.* СЛП *Казберас*

КАЗЕЙ рус. *козей, казейка,* 'шчыкалатка, костачка нагі' (Даль).— *Казей, Казейка.* Чув. УІ *Казей* (Магн.). Укр. у XVI ст. *Казейко* (Туп.). СРП *Казеев*

КАЗЕКА рус. рэг. *казека* 'вош' (Дабр.), магчыма, ад *казаць* ці *казіць?* — *Казека, Казецкі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Казека, Козека* (БА, I, 218; Туп.). Укр. у XV—XVII ст. *Козека, Козика* (Туп.)

*КАЗЕЛА, памянш. ?КАЗЕЛЬКА.— *Казéла; Казéлька.* СЛП *Казела, Казеле, Козела*

*КАЗЕХА.— *Казéха.* Параўн. КАЗЕКА

*КАЗЕЦ.— *Казéц*

КАЗЁЛ.— *Казёл, Кóзел* з перастаноўкай націску, *Казлóў, Казлéвіч, Казлóвіч, Казлéнка, Казлёнак, Казлéня, Казлянóк; Казéльскі, Казлóўскі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Козел, Козёл* (БА, I, 222; Туп.). Рус. у XV—XVII стст., укр. у XVII ст. *Козел* (Туп.). СРП *Козлов, Козлевич, Козленков, Козлин, Козлинский, Козловский*

КАЗІНЕЦ 'падагра' (БРС), рус. *казинец* 'матэрыял, якім пакрываюць курткі' (Дабр.).— *Казінéц.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Козинец, Казинец* (БА, I, 222; Туп.)

КАЗЛЁНАК рэг. 'казляня'.— *Казлёнак.* Параўн. КАЗЁЛ

КАЗЛЯК назва грыба.— *Казля́к, Казлякéвіч*

КАЗНАДЗЕЙ ст. бел. *казнодей, казнодея* 'прапаведнік' (Нас., АУ), рэг. *казнадзея* тое ж (Нас.), рус. *казнодей* 'спрытны, працавіты чалавек' (Даль).— *Казнадзéй*

КАЗНАЧЭЙ.— *Казначэ́еў.* СРП *Казначеев*

*КАЗУБАЙ.— *Казубáй.* Параўн. Чув. УІ *Казыбай* (Магн.)

КАЗУЛЯ, памянш. КАЗУЛЬКА 'дзікая каза' (БРС). *Казýля; Казýлька.* Бел. у XVI ст. *Козуля* (Туп.). СРП *Козулин*

*КАЗУН, памянш. КАЗУНКА.— *Казýн, Казунóў; Казýнка.* Бел. у XVI ст. *Козун* (Туп.)

КАЗУРА ўкр. *козуря* памянш. і ласк. ад *казак* (Грынч.), параўн. бел. *казурка* 'казяўка', 'вош' (БРС).— *Казýра.* Бел. у XVIII ст. *Козурка* (БА, I, 223)

*КАЗУСЬ.— *Кáзусь, Казусёў, Казусёнак; ?Казýшчык*

*КАЗУТА.— *Казýцін*

*КАЗЮКА.— *Казю́ка*

КАЗЮЛЯ рус. *казюля* 'змяя', 'вош' (Дабр.), бел. *казюлька, казюля* 'казяўка' (БРС, Нас.).— *Казюлéвіч.* СРП *Козюлин, Казюлин*

*КАЗЮТА.— *Казю́цін, ?Казю́чыц*

*КАЗЯБА.— *Казя́ба*

*КАЗ'ЯНЯ.— *Каз'я́нін*

КАЙ, памянш. КАЙКО, КАЕШКА рус. 'зарок, дагавор, абяцанне' (Даль), тур. 'бура, вецер' (Будаг.), тат. 'які, каторы', 'іншы' (ТРС).— *Кáеў; Кáйка, Кайкó; Каéшка.* СРП *Каешков*

КАІН бел. лайл. 'пракляты, акаянны' (Нас.).— *Каінаў.* СРП *Каинов*

*КАЙДА тат., кірг. 'дзе' (ТРС, КРС).— *Кайдоў*

*КАЙДАН.— *Кайданаў.* СРП *Кайданов*

*КАЙДАНІК.— *Кайданікаў*

*КАЙСАР кірг. 'рашучы, смелы, дужы', 'легкадумны, дурнаваты' (КРС).— *Кайсарэнка.* Каз. УІ *Кайсар* (Жануз.). СРП *Кайсаров*

*КАКА(В)УЛЯ.— *Какавулін, Какаўлін.* Параўн. КАКОЎКА

*КАКОЙКА.— *Какойчанка*

КАКОРА, КОКАР рэг. *кокора* 'дэталь абшыўкі лодкі, шпангоўт' (Масл.), рус. *какора, кокорь, кокорыга* 'бервяно з карнявішчам, дрэва з коранем' (Даль, Дабр.).— *Какора, Какорын, Какорыч; ?Кокар* з пераносам націску. Рус. у XVI—XVII стст., укр. у XVII ст. *Кокора* (Туп.). СРП *Кокорин, Кокоринов, Какорин*

КАКОЎКА рус. *коковка* 'булдавешка, галоўка', 'палка-крывуля, кульба, кульбака' (Даль).— *Какоўка.* Бел. у XVI—XVII стст. *Коковка* (БА, І, 223). У Туп. у XVI ст. *Коковка.* СРП *Каковкин*

КАКУРА рус. *кокура, кокурка* 'вясельны праснак', 'абаранкі', *кокур* 'грош, грошы' (Даль), 'аржаны праснак' (Мельн.), *какурка* 'ватрушка' (Мірт.).—*Какура.* СРП *Кокурин, Кокуркин*

КАЛАДЗЕЙ ст. бел. *колодей* 'калеснік' (Нас., АУ), рус. *колодей* 'хто працуе абы-як', 'поварскі нож' (Даль), укр. *колодій* 'калеснік', 'вялікі нож' (Грынч.).— *Каладзей.* У Туп. у XVI ст. *Колодей.* СРП *Колодиев*

КАЛАКОЛЬНІК 'звоннік, той, хто робіць званы'?— *Калакольнікаў.* Рус. у XVII ст. *Колокольник* (Туп.). СРП *Колокольников*

*КАЛАЛА.— *Калала*

КАЛАМАР устар. *каламар* 'чарніліца' (Нас.), рус. *каламарь* тое ж (Даль), укр. *каламарь* тое ж (Грынч.).— *Каламар*

КАЛАМІЕЦ укр. *коломиець* 'жыхар Каламійскай акругі', 'хто здабывае соль' (Грынч.). — *Каламіец.* Бел. у XVII ст. *Коломиец,* укр. у XVI—XVII стст. *Коломиец, Коломыец* (Туп.). СРП *Коломийцев, Калломейцев*

КАЛАН тат. *колан* 'дзікі конь' (ТРС), алт. *калан* 'дань, подаць' (Будаг.).— *Каланчук.* Чув. УІ *Калан* (Магн.)

ҚАЛАНТАЙ параўн. цюрк. *кулунтай* 'жарабя', узб. *кулунтаі*, уйгур. *кулантаі* 'дзікі асёл' (гл. падрабязны разбор прозвішча ў Труб. Этимология, 1966, стр. 42—44).— *Қалантáй.* Бел. у XVI ст. *Қолонтай* (БА, I, 224)

ҚАЛАНЦАР ст. рус. *калантарь* 'безрукаўны панцыр' (Ср.), параўн. таксама бел. рэг. *калантырыць* 'прасіць, выпрошваць' (Нас.), укр. *калантарити* 'гучна гаварыць' (Грынч.).— *Қаланцáр.* Параўн. СРП *Қалантар, Қалантаров, ?Қалантыров*

ҚАЛАТУХА 'калатуша, жыдкая гразь' (Дзярж.— М. Б.).— *Қалатýхін.* СРП *Қолотухин*

ҚАЛАТУША.— *Қалатýша*

ҚАЛАУР рэг. *калавур* 'каравул' (Нас.).— *Қалаýр, Қалавýр.* Бел. у XVI—XVII стст. *Қалаур, Қалавур* (БА, I, 218; Туп.). Рус. у XVI ст. *Қалаур* (Туп.)

*ҚАЛАЦЕЙ ад *калаціць?*—*Қалацéй, Қалацэ́й*

ҚАЛАЧ, памянш. ҚАЛАЧЫҚ.— *Қалачóў; Қалачы́к; Қалачы́нскі.* СРП *Қалачов, Қалачёв, Қолачевский*

ҚАЛАЧНІҚ 'той, хто выпякае ці прадае калачы'.— *Қалáшнікаў* пры [чн]>[шн]. Бел. у XVI *Қолачник* (БА, I, 223). СРП *Қалашников*

ҚАЛАШ кірг. 'бедны, бездапаможны, сірата' (Будаг.).— *Қалáш; Қалашýк*

*ҚАЛАШЭЙН.— *Қалашэ́йнаў*

ҚАЛБЕҚА параўн. кірг. *келбек* 'балбатун' (ҚРС), параўн. літ. *kalberti* 'гаварыць' (Фрэнк.).—*Қалбéка.* Чув. УІ *Қалбекей* (Магн.)

*ҚАЛБУН.— *Қалбун.* Параўн. ҚАЛБЕҚА

ҚАЛГАН, ҚАЎГАН рэг. зневаж. *калган, каўган* 'дурная галава', 'дурань' (Дзярж.— М. Б.), рус. *калган* назва расліны, *колган, калган* 'грубая, непрыгожая пасуда' (Даль), укр. *калган* назва расліны (Грынч.), тат. *калган* 'адкладзены', 'астатні' (ТРС).— *Қалгáнаў; Қаўгáнаў; Қóўганаў; Қаўганчýк.* Чув. УІ *Қалган* (Магн.). Укр. у XVII ст. *Қовган* (Туп.). СРП *Қалганов, Қолганов*

ҚАЛДАЙ кірг. гіст. 'назва аднаго з чыноў адміністрацыі манголаў', 'маленькая перапечка' (ҚРС).— *Қалдáеў.* СРП *Қолдаев*

ҚАЛДУН.— *Қалдунóў*

*ҚАЛДУШҚА.— *Қалдýшка.* Параўн. ҚАЛДЭҚА

ҚАЛДЫБА рэг. 'кульгавы, крываногі' (Нас.), *колдыба, калдыбай* 'храмы, кульгавы' (Дабр.).— *Қалды́баў.* СРП *Қалдыбин*

ҚАЛДЭҚА параўн. рэг. *калдыка* 'кульгавы' (Маг.— В. Л.), *калдыга* 'кульгавы крываногі' (Нас.), рус. *колдыка* 'хто вымаўляе колды замест когда', 'храмы, кульгавы' (Даль), параўн. таксама кірг. *калдык* 'астатак, рэшта', 'патомак' (ҚРС).— *Қалдэ́ка*

ҚАЛЕГА, памянш. ҚАЛЕЖҚА.— *Қоле́шка* пры [ж]>[ш]. СРП *Колегов.* Параўн. ҚАЛІГА

*ҚАЛЕДНІК.—*Қале́днік*

ҚАЛЕЙ, памянш. ҚАЛЕЙҚА, ҚАЛЕЙЧЫҚ рэг. *калей, калея* 'чарга' (Нас.).— *Қале́й, Қале́еў; Қале́йка; Қале́йчык*

*ҚАЛЕЙНІҚ.— *Қале́йнік.* Бел. у XVI ст. *Қолейник* (БА, I, 223).

ҚАЛЕҚА, памянш. ҚАЛЕЧҚА.— *Қале́ка, Қале́чыц, Қале́чыч, ?Қале́чка,* якое магчыма і ад ҚАЛЬЦО (гл.). Бел. у XVIII ст. *Қалека* (БА, I, 218). Рус. у XIV—XVI стст., укр. у XVI ст. *Қалека* (Туп.). СРП *Қалекин*

ҚАЛЕНА, параўн. ҚАЛЕНҚА, ҚАЛЕНЬҚА, ҚАЛЕНІҚ.—*Қале́на, Қаляне́віч; Қале́нка, Қалянко́віч, Қале́нчыц, Қале́нчанка, Қаленціёнак; Қалянчу́к; Қале́нька; ?Қале́нік.* Бел. у XVI ст. *Қолено* (БА, I, 223). Рус. у XV—XVI стст., укр. у XVI—XVII стст. *Қолено, Қоленко* (Туп.). СРП *Қоленко, Қоленков*

ҚАЛЕНДА.— *Қале́нда*

*ҚАЛЕСНЫ ад кола?— *Қале́сны*

*ҚАЛЕТА параўн. кірг. *калет* 'памылка, няпраўда' (ҚРС).—*Қале́та.* СРП *Қалетин*

*ҚАЛЕТНІҚ.— *Қале́тнік.* СРП *Қолетников*

*ҚАЛЕХТО.— *Қале́хто*

ҚАЛІБЕР рэг. *калібір* 'калібр' (Нас.), рус. *калибер* тое ж (Даль).— *Қалі́бер, Қалі́бераў*

*ҚАЛІБЕРДА.— *Қалі́берда, Қалібярда́*

ҚАЛІВА.— *Қа́ліва*

ҚАЛІГА ст. рус. *калига* 'башмак' (Ср.), рус. *калига* 'калега, каляга', 'мокры снег, халепа', 'бручка' (Даль, Мельн.).— *Қалі́гін*; У Туп. у XVII ст. *Қалига*

ҚАЛІҚШТА параўн. літ. *kalikštyti* 'кляпаць касу, вастрыць нож' (Фрэнк.).— *Қалі́кшта*

ҚАЛІЛА рус. *калило* 'нагрэты металічны прут, якім прапальваюць дзіркі' (Даль), укр. *калило* 'гразь' (Грынч.).— *Қалі́лец,* магчыма, ад назвы н. п. Қаліла

*ҚАЛІМАС.— *Қаліма́саў*

ҚАЛІНА, памянш. ҚАЛІНКА, ҚАЛІНОҚ, ҚАЛІНІҚ, ҚАЛІНЕЙКА, ҚАЛІНЕЦ. — *Каліна, Калінін, Калінёнак; Калінка, Калінкін, Калінчанка; Калінкоў; Калінік, Калінічэнка; Калінейка; Калінец; Каліноўскі, ?Калінскі;* усе магчымы ад УІ *Каліна, Калінік*<*Калиник.* СРП *Калинин, Калиненко, Калинов, Калинович, Калиничев, Калинкин, Калиночкин, Калинцев, Калиничев, Калиновский, Калинский*

ҚАЛІННІҚ.— *Каліннікаў,* магчыма, з УІ *Калінік*< *Калиник.* СРП *Колинников*

*ҚАЛІНША.— *Калішын*

ҚАЛІТА ст. бел. 'сумка, мяшочак на грошы'.— *Каліта́.* Бел., рус. у XVI—XVII стст. *Калита* (Туп.). СРП *Калитин*

ҚАЛІТНІҚ рус. *калитник* 'валакіта, ухажор' (Даль). — *Калітнік.* Бел. у XVI ст. *Калитник* (БА, I, 218). Параўн. ҚАЛІТА

*ҚАЛІТУХА.— *Калітуха*

*ҚАЛІХ.— *Каліх, Калішэвіч; Калішчук*

*ҚАЛІШ.— *Калішэвіч.* СЛП *Калишюс*

ҚАЛМЫҚ 'калмык', рэг. 'касмыль' (Дзярж.—М. Б.), рус. *калмык* 'чорная ці чорна-бурая аўчына з кароткай воўнай' (Даль).— *Калмык, Калмычэнка.* Рус. у XVI—XVII стст. *Колмык, Калмык* (Туп.). СРП *Калмыков*

ҚАЛОДА, ҚАЛОДҚА.—*Калода; Калодка; Калодзька; Каладок; Каладзінскі, Каладзынскі, Каладніцкі.* Бел. у XVI—XVII стст. *Колодка, Колодко, Клода* (БА, I, 224; Туп.). Рус., укр. у XVI ст. *Колодка, Колотка* (Туп.). СРП *Колодин, Колодкин, Колодков*

ҚАЛОДЗЕЖНЫ.— *Калодзежны*

ҚАЛОДНІҚ устар. рэг. 'вязень, закаваны ў калодкі' (БРС).— *Калоднік; Каладніцкі*

ҚАЛОНЬ кірг. *колон* 'доўгая каса ў жанчыны' (ҚРС).— *Калонь.* СЛП *Калонас*

ҚАЛОША, памянш. ҚАЛОШҚА 'калоша, штаніна', рэг. устар. 'анучка, абмотка, якою жанчыны абмотвалі нагу' (ҚСЧ), 'панчоха без «ступака»' (Дзярж.—М. Б.).— *Калоша, Калошын, Калошыч; ?Калошк* пры апушчэнні канцавога [а] з мэтай адштурхоўвання ад апелятыва; *Калошка, Калошкін.* Бел. у XVII ст., укр. у XVI—XVII стст. *Калоша* (Туп.). СРП *Колошин, Калошин*

ҚАЛПАҚ гл. ҚАЎПАК

ҚАЛТАН рус. арх. *калтан* 'дробны плывучы лёд са

снегам, шарош' (Даль); параўн. кірг. 'вёрткі, мітуслівы' (КРС).— *Калта́н*

ҚАЛТУН гл. ҚАЎТУН

ҚАЛТЫГА рэг. *калтыга* 'скупы, суцяга, суцяжнік', 'абманшчык, карцёжнік' (Нас.), параўн. літ. *kaltas* 'вінаваты каму што-небудзь, даўжнік' (Фрэнк.).— *Қалты́га, Қалты́гін*

ҚАЛУГА параўн. *калюга* 'выбоіна на дарозе, лужа' (БРС, Нас.), рус. *калуга* 'багна, балота' (Даль).— *Қалу́га, Қалу́гін, Қалу́жанка, Қалужо́нак.* Чув. УІ *Қалуга* (Магн.). Бел. у XVIII ст. *Қалуга* (БА, I, 218). Рус. у XV—XVII стст. *Қалуга, Қолуга, Қалужка* (Туп.). СРП *Қалугин*

ҚАЛУЖНЫ.— *Қалужны.* Параўн. ҚАЛУГА

ҚАЛУН 'сякера, якою колюць дровы', рэг. 'тупая сякера', 'недалёкі чалавек' (Дзярж.— М. Б.), параўн. тат. *колун* 'дзікі конь' (ТРС).— *Қалу́н, Қалуно́ў*

ҚАЛУП(А) ад *калупаць?— Қалупо́віч.* Параўн. ҚАЛУПАЙ

ҚАЛУПАЙ рус. *колупай* 'капун, маруда, мяла' (Даль), параўн. бел. *калупацца* 'павольна рабіць'.— *Қалупа́й, Қалупа́еў, ?Қаўпа́еў.* Бел. у XVIII ст. *Қолупай* (БА, I, 224). Рус. у XV—XVI стст. *Қолупай* (Туп.). СРП *Қолупаев*

ҚАЛУПАХА ад *калупаць, калупацца.— Қалупа́ха, Қалупа́хін.* Параўн. ҚАЛУПАЙ

*ҚАЛХУТА.— *Қалху́та*

ҚАЛЫБА параўн. тат. *калыб* 'мерка' (Будаг.).— *Қалыбенка*

ҚАЛЫГА рус. *колыга* 'скупы, скупердзяй' (Даль).— *Қалы́га; Қалы́гін.* СРП *Қалыгин*

ҚАЛЫСҚА.— *Қалы́ска*

*ҚАЛЫХА, памянш. ҚАЛЫШҚА ад *калыхаць.— Қалы́шка,* параўн. ҚАЛЫХАН

ҚАЛЫХАН ад *калыхаць 'калыханы'?— Қалы́хан*

*ҚАЛЬ, *ҚАЛЯ, памянш. ҚАЛЬҚА.— *?Қалю́к, Қалько́, Қа́льчанка.* Рус. у XVII ст. *Қаля* (Туп.). СЛП *Қалюкас*

*ҚАЛЬВА.— *Қа́львін.* Параўн. СЛП *Қальвайтіс*

*ҚАЛЬМАҚ.— *Қальма́к, Қальмако́ў.* Бел. у XVIII ст. *Қальмак* (БА, I, 218)

ҚАЛЬНІҚ укр. *кальник* 'перапечка' (Грынч.).— *Қа́льнік; Қальніцкі.* СРП *Қальницкий*

КАЛЬЦО, памянш. КАЛЕЧКА рэг., рус. *кольцо* 'кольца', 'пярсцёнак'.— *Кальцо́ў, Кале́чкін; Кальчэ́ўскі.* СРП *Кольцов*

КАЛЮЖНЫ.— *Калю́жны.* Укр. *Колюжный.* Параўн. КАЛУГА, КАЛУЖНЫ

*КАЛЮПАН.— *Калюпа́наў*

КАЛЮЧЫ.— *Калю́чы*

*КАЛЯГА.— *Каля́га.* У Туп. у XVII ст. *Коляга.* СЛП *Калягa*

КАЛЯДА.— *Каляда́, Каля́дзін; Каля́дзіч, Калядзёнак; Калядзю́к; Каля́дка; Калядзінскі.* Бел., укр. у XVI—XVII стст. *Коляда, Коледа* (Туп.). СРП *Колядин, ?Колядов, Коледин*

КАЛЯК, КАЛЯКА, памянш. КАЛЯЧКА бел. *коляк* 'кол' (Нас.), укр. *коляка* тое ж (Грынч.), параўн. таксама бел. рэг. *калякаць* 'гаварыць, гутарыць' (Дзярж.— М. Б.).— *Калякóў; Калячóнак; Каля́чка.* СРП *Калякин*

*КАЛЯНЦЁН, памянш. КАЛЯНЦЁНАК.— *Калянцёнаў, Каленціёнак*

КАЛЯНЫ, памянш. КАЛЯНКО.— *Каляне́віч; Калянко́віч; Калянчу́к; Калянюк;* усе магчымы і ад КАЛЕНА (гл.)

*КАЛЯСЕНЬ, памянш. *КАЛЯСЕНЬКА 'каляснік'?— *Калясе́нь, Ко́лесень* з перастаноўкай націску, *Каляснёў; Калясе́нька.* СРП ?*Колеснев*

КАЛЯСНІК.— *Каляснік; Кале́снік* з перастаноўкай націску, *Кале́снікаў, Калеснікéвіч; Калеснікóвіч; Калясніцкі.* Бел у XVI—XVIII стст. *Колесник* (БА, I, 224). СРП *Колесник, Колесников*

КАЛЯСО 'кола'.— *Кóлесаў.* Укр. у XVII ст. *Колесо* (Туп.)

*КАМАДЗЕЙ.— *Камадзе́й*

КАМАЙ тат. *комай* бат. 'маннік' (ТРС), кірг. *кумай* 'спакойны конь', 'гончы сабака' (Будаг.).—*Кама́й.* Чув. УІ *Камай* (Магн.). У Казані ў XVII ст. *Камай* (Туп.)

КАМАНДА, памянш. ?КАМАНДЫШКА.— *Камандзе́нка; Каманды́шка.* СРП *Командин*

КАМАНДЗІР.— *Камандзíраў.* СРП *Командиров*

КАМАР.— *Кама́р, Ко́мар* з пераносам націску *Камарóў, Камарóвіч, Камарэ́нка; Камарóўскі, Камарэ́ўскі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Комар* (БА, I, 224; Туп.). Рус., укр. у XVI—XVII стст. *Комар, Комарко* (Туп.).

СРП *Комар, Комаров, Комаровский, Камаровский, Камаринский, Камарицкий*

КАМАЧ тат. *комач* 'кумач' (ТРС).— *Камáч, Камачóнак*

КАМАШКА рус. *комашка* 'камарык, мошка, казюлька' (Даль), укр. *комашка* памянш. ад *комаха* 'насякомае', 'муравей' (Грынч.).— *Камáшка; Камашы́нскі*

*КАМБАЙ параўн. кірг. *кембай* 'канвой' (КРС).— *Камбаёў*

*КАМЕДА.— *Камéда, Камéдзін*

*КАМЕЙКА.— *Камéйка*. СРП *Камейко*

*КАМЕЙША.— *Камéйша*

*КАМЕКА.— *Камéка*

КАМЕЛЬ, памянш. КОМЛІК.— *Камéль, Камлёў, Камлёнка, Камлянкóў, Камлёнак; Камлю́к; Кóмель* з перастаноўкай націску; *Кóмлік*. Бел. у XVII ст. *Комлик* (БА, I, 224). Рус. у XVI ст. *Комель* (Туп.). СРП *Комлев*

КАМЕННЫ, КАМЕНКА, КАМЁНКА.— *Камéнны, Камянны́; Кáменка, Камёнка, Камянкóў; Камянчу́к*. Бел. у XVIII ст. *Каменка* (БА, I, 218; Туп.). Рус. у XVII ст. *Каменной* (Туп.). СРП *Каменкин, Каменков*

КАМЕНЬ, памянш. КАМЯНЁК.— *Кáменеў; Камяню́к; Камянькóў; ?Камянчу́к; Камéнскі, Камéнскіх, Камянéцкі*. Рус. у XVII ст. *Камень* (Туп.). СРП *Каменев, Каменевич, Каменцев, Каменецкий, Каменский*

КАМЕРА.— *Кáмера*

*КАМЕШ.— *Камеш*

КАМЗОЛ.—*Камзóлаў*. СРП *Камзолов*

КАМІСАР, памянш. КАМІСАРЧЫК ст. бел. *комисар* 'чыноўнік для разгляду спрэчных спраў' (Нас., АУ).— *Камісáраў; Камісару́к; Камісáрчык; Камісарчу́к*. Бел. у XVII ст. *Комисар* (БА, I, 224). СРП *Комисаров, Комиссаров*

*КАМІШКА.— *Камі́шчанка*

КАМКАР кірг. 'снежныя крупы' (КРС).— *Камкáр*

КАМЛАЧ 'калмач, калматы'.— *Камлáч*

КАМЛЫК, памянш. КАМЛЫЧЫК рэг. 'касмыль'.— *Камлы́чык*

КАМЛЮК рэг. 'камель' (КСЧ) 'невысокі дзябёлы чалавек' (Дзярж.— М. Б.).— *Камлю́к*

КАМОДА.— *Камóдзін*

КАМОК рэг., рус. *комок* 'камяк'.— *Камóк; ?Камкó; Камóцкі?* У Туп. у XVI ст. *Комок*. СРП *Комков, Камков*

КАМОРА, памянш. КАМОРКА.— *Камо́рчанка*

КАМОРНІК.—*Камо́рнік, Камо́рнікаў*

*КАМОСА, памянш. *КАМОСКА.— *Камо́ска.* Бел. у XVI ст. *Комоса* (БА, I, 224)

КАМПАН.— *Кампа́н*

КАМПАНІЕЦ 'член кампаніі'?— *Кампаніец.* СРП *Компанеец*

КАМЧАТНЫ ст. рус. *камчатыи* 'зроблены з камкі' (Ср.)— *Камча́тны.* Рус. у XVII ст. *Камчатой* (Туп.)

*КАМШЫЛА.— *Камшы́лаў*

*КАМЫНЯ.— *Камы́нін.* СРП *Камынин*

КАМЫШ 'чарот'.— *Камы́ш; Камышко́, Камы́шкін.* СРП *Камышин, Камышков*

КАМЯГА ст. бел. 'лодка, выдаўбленая з калоды' (Нас., АУ), рэг. 'карыта' (Бяльк.), рус. *комяга* 'выдаўбленае з бервяна карыта' (Дабр.).— *Камя́га, Камя́гін.* СРП *Комягин*

КАМЯК.— *Камя́к, Камяко́віч*

КАНАВА, памянш. КАНАЎКА.— *Кана́ўка; Канаўчу́к.* СРП *Канавин*

КАНАВАЛ, памянш. КАНАВАЛІК, КАНАВАЛЬЧЫК.— *Канава́л, Канава́лаў, Канава́ленка, Канавалёнак; Канавалю́к; Канава́лік; Канавальчу́к; Канава́льчык.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Коновал* (БА, I, 224). Рус. у у XVII ст. *Коновал* (Туп.). СРП *Коновалов*

КАНАВОД.— *Канаво́д*

КАНАПЛЯ, памянш. КАНАПЕЛЬКА.— *Канапля́, Канаплёў, Канаплін, Кано́пліч; Канапе́лька, Канапе́лькін.* Бел. у XVI ст. *Конопелька* (БА, I, 224; Туп.). Укр. у XVI ст. *Конопля* (Туп.). СРП *Коноплин, Коноплёв*

КАНАПЛЯНІК.— *Канапля́нік, Канапля́ннік*

*КАНАТОП.— *Канато́паў*

КАНДАК рус. *кондак* рэліг. 'песня ў гонар Хрыста, Багародзіцы ці іншага святога' (Даль), укр. тое ж (Грынч.), тат., тур. *кондак* 'пялёнка' (Будаг.). –*Конда́к. Кандако́ў.* У Туп. у XV ст. *Кондак.* СРП *Кондаков, Кандаков*

КАНДАЛ параўн. кірг. *кандала* 'клоп' (КРС), магчыма, форма адз. л. ад *кандалы?— Ко́ндал, Ко́ндаль. Кандале́віч.* СРП *Кандалин, Кандалов*

КАНДЗЕР, КАНДЗЕРА, рэг. *кандзер* 'ячная ці пшанічная каша' (Бяльк.), рус. *кандёр* 'крупнік' (Дабр.), 'пахлёбка з пшана', 'нясмачная страва, баланда' (Ціх.),

укр. *кандьор* 'жыдкая кашка з круп ці пшана, кулеш' (Грынч.).— *Кандзе́р, Ко́ндзера, Кандзе́раў; Кандзярэ́шка.* Чув. УІ *Кондеряк* (Магн.). СРП *?Кондиров.* СЛП *Кандерас*

*КАНДЗІНЕР.—*Кандзі́нераў*

*КАНДЗІРАНДА.— *Кандзіра́нда*

*КАНДЗЮРА.— *Кандзю́рын*

КАНДЗЮХ рэг. 'трыбух', 'пузаты чалавек' (Мсцісл.), 'страўнік жывёліны' (Бяльк.), рус. *кандюх* 'кішкі жывёліны' (Дабр.).— *Кандзю́х, Кандзюхо́ў*

*КАНДУХ.— *Кандухо́віч.* Параўн. КАНДЗЮХ

КАНДЫБА 'кульгавы, храмы' (БРС, Нас., Бяльк.), 'маруда', 'павольны ў хадзе' (Нас.), укр. *кандыба* 'дрэнны конь, кляча' (Грынч.).— *Канды́ба, Кандыбо́віч.* Укр. у XVI—XVIII стст. *Кандиба, Кондиба* (Туп.). СРП *Кандыба*

КАНДЫБАЙЛА. — *Кандыба́йла.* Параўн. КАНДЫБА

КАНДЫДАТ.— *Кандыда́таў*

*КАНДЫЛЬ.— *Кандылёў*

КАНЕЦ.— *Кане́ц; Кане́цкі.* СРП *Концов*

*КАНОДА.— *Кано́да*

*КАНОЙКА.— *Кано́йка*

*КАНОКАР.— *Кано́караў*

КАНОНІК, памянш. ?КАНОНЧЫК, ?КАНОНАК.— *Кано́нік; Кано́нчык; Кано́нак,* усе магчымы і ад УІ *Конон*

КАНОПА, памянш. КАНОПКА параўн. літ. *kanopa* 'конскі капыт' (Фрэнк.), параўн. таксама рус. *коноль* 'каноплі' (Даль).— *Кано́пка.* СЛП *Конопа, Конопас*

КАНТАР 'бязмен', 'спявак у сінагозе' (БРС), рэг. 'фартух' (Камян.—Шат.), ст. рус. *контарь* 'бязмен' (Дзюверн.), рус. *кантар* тое ж (Дабр.).— *Ка́нтар; Кантару́к.* СРП *Кантор, Канторов, Канторович, Конторович*

КАНТОРШЧЫК.— *Канто́ршчыкаў*

*КАНТУЗОР.— *Кантузо́раў*

*КАНТЫЛЬ.— *Кантылёў*

*КАНУС.— *Канус*

КАНЦАВЫ.—*Канцавы́, Канцаве́нка*

КАНЦАН 'канцавы, канчанін'?—*Канца́н*

КАНЦЫЛЯРЧЫК.— *Канцыля́рчык*

*КАНЦЯВА.— *Канця́ва*

КАНЧАК параўн. кірг. *канчык* 'сука' (КРС).— *Канча́к*

КАНЧАНІН 'канцавы'.— *Канча́нін*

КАНЧЫНА рэг. 'смерць' (Дзярж.— М. Б.), рус. *кончина* тое ж (Даль), укр. 'край, канец', 'смерць' (Грынч.).— *Канчы́на*

*КАНЫГА.— *Каны́гін*. Рус. у XVII ст. *Коныга* (Туп.). СРП *Каныгин*

*КАНЫШ, памянш. КАНЫШКА.— *Ка́нышаў; Каны́шка*. Каз. УІ *Каныш* (Жануз.). У Туп. у XV ст. *Коныш*. СРП *Конышев*

*КАНЮЦКА.— *Каню́цка*

КАПА, памянш. КАПКА, КАПІЦА, КАПЧЫК.—*Капіч; Капко́* з пераносам націску; *Ка́піца; Ка́пчык; Ка́пскі, Капчы́нскі*. СРП *Капица, Капицин, ?Капкин*

КАПА, памянш. КАПІЦА.—*Капі́ца*

*КАПАНАЙКА.— *Капана́йка*. Параўн. КАПАНЫ

КАПАНЫ, памянш. КАПАНЕЦ, КАПАНОК.— рэг. *ка́паны* (ад *ка́пацъ*) 'вельмі падобны, як дзве каплі вады' (Нас.), укр. *капаний* 'вышыты, пакрыты вышыўкай' (Грынч.), магчыма, *капа́ны* (ад *капа́ць*).— *Капано́віч; Капане́ц, Капанцо́ў; Капано́к*. Параўн. каз. УІ *Капан* (Жануз.)

КАПАРЫХА параўн. укр. *капарити* 'дрэнна рабіць, капаць, пэцкаць', 'жыць у беднасці, у жабрацтве' (Грынч.).— *Капары́ха*

*КАПАРЭЙКА.— *Капарэ́йка*. Каз. УІ *Капар* (Жануз.). Параўн. КАПАРЫХА

КАПАЦІЛА ад *капацца* 'марудна рабіць'?—*Капаці́ла*. Параўн. КАПАШЫЛА, КАПАРЫХА

КАПАЧ, памянш. КАПАЧОК.— *Капа́ч, Капачо́ў, Капачэ́ня; ?Капацке́віч* пры [ч]>[ц]; *Капа́цкі, Капачэ́ўскі*. Бел. у XVI—XVIII стст. *Копач* (БА, І, 225). Укр. у XIV ст. *Копач* (Туп.)

*КАПАЧЭЛЬ.— *Капачэ́ль*

КАПАШЫЛА рэг. 'капун, маруда, чалавек, які павольна працуе', 'конь, што бяжыць дробнай рыссю' (Нас.).— *Капашы́ла, Капашы́лаў*

КАПЕЙКА.—*Капе́йка, Капе́йкін*. СРП *Копейко, Копейкин*

КАПЕКА ад *капацца* 'марудна рабіць'?— *Капе́ка*. Параўн. КАПАШЫЛА, КАПАРЫХА

КАПЕЦ.— *Капе́ц, Капцо́ў, Капцэ́віч*. Бел. у XVI—XVIII стст. *Копец* (Туп., БА, І, 225). СРП *Копцов*

КАПІТАН, памянш. КАПІТАНЧЫК.— *Капіта́н, Капіта́наў; Капіта́нчык.* Бел. у XVIII ст. *Капитан* (БА, I, 218). СРП *Капитанов, Капитанский*

КАПІТУЛА рус., бел. устар. 'капітул, калегія духоўных асоб у каталіцкай царкве' (СРЯ).— *Капіту́ла*

*КАПІТУРА, памянш. КАПІТУРКА.— *Капіту́рка*

КАПІЦА гл. КАПА

КАПКА, памянш. КАПЧЫК рэг. 'капля', укр. тое ж (Грынч.).— *Капко́* з пераносам націску; *Ка́пчык; Капчы́нскі;* магчыма і ад КАПА (гл.). Параўн. КАПЛЯ

КАПЛАН, КАПЯЛЯН рэг. 'капелан' (Нас.).— *Ка́план; Капяля́н, Капялья́н.* СРП *Каплан, Капланов, Капланский*

КАПЛУН бел., рус., укр. 'пакладаны певень' (Нас., Даль, Грынч.), бел. рэг. *каплун* 'ежа з вады і накрышаных кусочкаў хлеба, з соллю ці цукрам' (Вешт.), укр. назва хітрага вала (Грынч.).— *Каплу́н, Каплуно́ў.* СРП *Каплунов, Каплунцев, Каплуновский*

КАПЛУНАТ 'пакладаны', параўн. рус. *каплунить* 'пакладаць пеўняў' (Даль), укр. *каплунити* 'пакладаць' (Грынч.).— *Каплуна́т*

КАПЛЯ, памянш. КАПЕЛЬКА.— *Ка́пля, Ка́пліч, Каплёнак; Ка́пелька.* Бел. у XVI ст., рус. у XVII ст. *Капля,* укр. у XVII ст. *Каплюк* (Туп.). СРП *Каплин, Капелькин*

КАПНА рэг. 'капа'.— *Капнін.* СРП *Копнин.* Параўн. КАПА

КАПОТА, памянш. КАПОТКА жарт. 'хламіда' (БРС), рэг. 'верхняе адзенне дзяцей, пальто' (Дзярж.—М. Б.).— *Капатко́ў,* магчыма і ад КОПАТ (гл.)

*КАПОЦЯ 'капота'?— *Капо́ця*

КАПРАЛ, КАПРАЛЬ.— *Капра́лаў; Капралёў*

*КАПРОН.— *Капро́ненка*

*КАПРЭЦ.— *Капрацэ́віч*

КАПТАН гл. КАФТАН

КАПТУР 'жаночы і дзіцячы галаўны ўбор', рэг. 'самая высокая прэдняя частка печы', 'абажур' (Бяльк.).— *Капту́р, Каптуро́віч; Каптурэ́ўскі.* У Туп. у XVII ст. *Каптур*

КАПУЗА рэг. 'вялікая шапка' (Сцяшк.), магчыма, ад *капацца* 'марудна рабіць'?— *Капу́за.* Параўн. КАПАРЫХА, КАПАШЫЛА

*КАПУЛ.— *Капу́л*

*КАПУР.— *Капýр, Капýраў.* Бел. у XVIII ст. *Капур* (БА, І, 218)

КАПУРА 'капун, маруда'?— *Капýра*

КАПУСТА.— *Капýста, Капýсцін; Капусцю́к; Капусцінскі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Капуста* (БА, І, 218; Туп.). Укр. у XVI—XVII стст. *Капуста* (Туп.). СРП *Капуста; Капустин, Капусткин, Капустинский*

КАПУШ параўн. рус. *копуша* 'капун, маруда' (Даль), укр. *капуш* назва насякомага (Грынч.).— *Кáпуш, Кáпушаў*

*КАПЦЕЛЬ ад *капціць, капцець.*— *Капцялёў.* Бел. у XVI—XVII стст. *Коптель* (БА, І, 225). Рус. у XVII ст. *Коптел* (Туп.). СРП *Коптелин, Коптелов, Каптелин, Каптелов.* Параўн. КАПЦІЛА

КАПЦІЛА параўн. бел. рэг. *капцець* 'дымець, курыць', 'цяжка працаваць, многа працаваць' (Дзярж.— М. Б.), рус. *коптить* 'дыміць, курыць', 'вэндзіць' (Даль), укр. *коптити* 'збіраць грошы, скупіцца, скнарнічаць' (Грынч.).— *Капціла, Капцілóвіч.* СРП *Каптилин*

*КАПЦЮГ.— *Капцю́г, Капцю́х* пры [г]>[х], *Капцюгóў*

КАПШАЙ параўн. бел. *копша* міфал. 'магільны дух' (Нас.), рус. *капшивый* 'худы, маларослы, заморaны', *капшак* 'дажджавы чарвяк' (Даль), укр *капшивий* 'неахайны, брудны' (Грынч.), тат. *капшау* 'мацаць, абмацваць' (ТРС).— *Капшáй*

КАПШУК 'мяшочак для тытуню' (БРС, Бяльк.), рэг. насмешл. 'тоўсты мужчына' (КСЧ), рус. 'мяшочак для тытуню' (Дабр.), з цюрк., кірг. *капчык* 'мяшочак, кашалёк'. 'пуза' (КРС).— *Капшýк, Капшукóў*

*КАПШУЛЬ.— *Капшýль*

КАПЫЛ, памянш. КАПЫЛЕЦ. — *Капылóў, Капылéнка; Капылéц.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Копыл* (Туп., БА, І, 225). Рус., укр. у XVI—XVIII стст. *Копыл, Копылко* (Туп.). СРП *Копылов, Копыленко*

КАПЫР, памянш. КАПЫРКА ад *капацца* 'марудна рабіць'?, параўн. таксама рус. *копырять, копырнуть* 'піхнуць, штурхнуць' (Даль), укр. *копиряти* 'калупаць' (Грынч.), параўн. і кірг. *капыр* 'іншавер, паганец, немусульманін' (КРС).— *Капы́рка, Капыркін.* Рус. у XVI ст. *Копыря* (Туп.). СРП *Копырин, Капырин*

КАПЫТ, памянш. КАПЫТОК, КАПЫТКА.— *Капытóў; Капытóк, Капыткóў; Капы́тка; Капытóўскі, Капы́цкі.* Бел. у XVI ст. *Капытко,* рус. у XV—XVII стст. *Копы-*

*то*, укр. у XVI ст. *Копытко* (Туп.). СРП *Копытов, Копытин*

КАПЫТНІК бел., рус. *копытник*, укр. *копитник* назва расліны (БРС, Даль, Грынч.).— *Капы́тнік*

*КАПЫШ, памянш. КАПЫШКА ад *капацца* 'марудна рабіць'?, параўн. рус. *копошиться* 'шавяліцца, варушыцца, кішэць' (Даль), укр. *копиш* 'капачка' (Грынч.).— *Ка́пыш, Ка́пышаў; Капы́шка; ?Ко́піш.* СРП *Копышев*

КАПЯЛЮШ.— *Капялю́ш*

КАРА, КАРА.—*Карэ́нка,* магчыма ад КАРЫ (гл.); *Кары́цкі,* магчыма і ад КАРЫТА (гл.). Бел. у XVI ст. *Кора* (БА, І, 225). Рус. у XVI—XVII стст. *Кора, Корка* (Туп.)

КАРАБА параўн. рэг. *карабаць* 'браць непаслухмянымі пальцамі, перагортваць', *карабкацца* 'лезці, чапляцца' (БРС), рус. *карабить* 'баранаваць', *карабкаться* 'лезці, чапляцца' (Даль), укр. *карабуниться* 'карабкацца, лезці' (Грынч.), параўн. літ. *karabà* 'хвароба', з польск. *choroba* (Фрэнк.).— *Кара́ба; Карабі́цкі.* СЛП *Караба.* СРП *Карябкин, Корябочкин*

КАРАБАН ад *карабаць?* — *Караба́н, Караба́наў; Караба́нь; Карабаню́к.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Карабан, Коробан, Коробанко, Коробанько* (Туп.; БА, І, 225). СРП *Карабанов; Коробанов.* Параўн. КАРАБА

КАРАБАЧ параўн. тат. *карабаш* бат. 'рагоз' (ТРС), тур. 'манах' (ТБР).— *Караба́ч.* Укр. у XVII ст. *Коробач* (Туп.)

КАРАБЕЙНІК.— *Карабе́йнік.* Рус. у XV—XVII стст. *Коробейник* (Туп.). СРП *Коробейников*

КАРАБЕЛЬНІК.— *Карабе́льнікаў.* СРП *Карабельников*

КАРАБЕЦ гл. КОРАБ

КАРАБОК 'скрыначка для запалак'.— *Карабо́к, Карабко́ў; Карабчу́к.* СРП *Коробков*

КАРАВАЙ, памянш. КАРАВАЙКА, КАРАВАЙЧЫК.— *Карава́й, Карава́еў; Карава́йчанка; Карава́йчык; Карава́йскі.* Бел. у XVI ст. *Коровай* (БА, І, 226). Рус., укр. у XV—XVII стст. *Коровай* (Туп.). СРП *Короваев*

КАРАВЫ.— *Кара́вы, Кара́він; Карава́цкі.* СРП *Корявин*

КАРАВЯК бел. 'каровін гной' (БРС), рус. *коровяк* тое ж (Дабр.), 'дрэнны і непрыгожы чалавек'

(Мельн.).— *Каравякоў.* Рус. у XIII ст. *Коровьяк* (Туп.). СРП *Коровяков, Коровякин*

КАРАГА рэг. 'корч, карчага'.— *Карага.* СРП *Корягин*

КАРАГАЙ тат. 'лістоўніца', 'сасна' (ТРС), кірг. 'елка' (КРС), башк., каз. 'сасна'.— *Карагай.* СРП *Карагаев*

КАРАГОДА 'карагод'?— *Карагода, Карагодаў; Карагодскі.* СРП *Корогодов, Корогодский, Карагодский*

КАРАГОДНЫ.— *Карагодны*

КАРАЕД.— *Караед, Караедаў*

КАРАК тат. *карак* 'злодзей, жулік' (ТРС), чув. *корак* 'воран' (Залатн.).— *Каракоў.* Бел. у XVIII ст. *Корак* (БА, I, 225). СРП *Караков, Коряков*

КАРАКА рус. *каряка, коряка* 'раздвоенае дрэва, разvіліна', 'раскірака' (Даль), 'крывое дрэва', 'незгаворлівы чалавек' (Мельн.), укр. *караки* 'месца, дзе раздвойваецца ствол дрэва' (Грынч.).— *Карака, ?Каракоў.* Рус., укр. у XVI—XVII стст. *Карака, Коряка* (Туп.). СРП *Карякин, Корякин, Коряковский*

КАРАКУЛЬКА рус. *каракулька* 'крывуля, крывое дрэва' (Даль).— *Каракулька*

*КАРАКУШЭЙ тур. *каракуш* 'арол' (ТБР), параўн. тат. *каракош* тое ж (ТРС), кірг. *каракаш* 'баклан' (КРС), параўн. таксама рус. *каракушки, каракушком* 'карачкі, на карачках, на чацвярэньках' (Даль).— *Каракушэй, Каракушэеў*

*КАРАМЫШ.— *Карамыш, Карамышаў.* Рус. у XVI ст. *Карамыш* (Туп.)

КАРАНДЗЕЙ параўн. кірг. *карандай* 'чысты' (КРС).— *Карандзей.* Чув. УІ *Карандей* (Магн.). СРП *Карандеев*

КАРАНІК рэг. 'пчаліны вулей з кары' (Бяльк.).—*Каранік*

КАРАНІХА.— *Караніха*

КАРАНЯКА.— *Караняка.* Параўн. КОРАНЬ

*КАРАС.— *Карас.* Каз. УІ *Карас; Карасай* (Жануз.)

КАРАСЬ, памянш. КАРАСІК.— *Карась, Карасёў, Карасевіч; Карасюк; Карасік.* Рус. у XV ст., укр. у XVI—XVII стст. *Карась* (Туп.). СРП *Карась, Карасёв, Карасевіч, ?Карасин*

КАРАТАЙ рус. *коротай* 'кароткі кафтанчык', 'чалавек у кароткім адзенні' (Даль), цюрк. *кара* 'чорны' і *тай* 'жарабя' (Фасм.).— *Каратай, Каратаеў.* Каз УІ *Каратай* (Жануз.) У Туп. у XVI ст. *Коротай, Коротайко.* СРП *Коротаев, Каратаев*

КАРАТЫШ рэг. 'малы, нізкага росту чалавек' (Нас.), рус. *коротыш* тое ж, 'кароткая рэч' (Даль).— *Каратыш; Каратышэўскі*

*КАРАЦЕЦ.— *Каратцоў*. Параўн. КАРАТЫШ

КАРАЧ ст. бел. 'чыноўнік, саветнік пры татарскім хане' (Нас., АУ), параўн. рус. *карача, каряча* 'упарты, незгаворлівы чалавек' (Даль), параўн. тат. *карача* 'чорненькі' (ТРС), кірг. 'чорны', 'прасталюдзін' (КРС).— *Карач*. Бел. у XV ст., рус. у XVII ст. *Карач* (Туп.). СРП *Караченков*

*КАРАЧАН.— *Карачан*. Параўн. чув. УІ *Карачом* (Магн.). Параўн. КАРАЧ

КАРАЧУН рэг. 'курч, сутарча', 'нечаканая смерць у маладым веку', 'нядобры дух, які скарочвае жыццё' (Нас.), рус. *корочун* 'перадсмертныя сутаргі', 'смерць' (Дабр.), *карачун, карочун* 'канец, смерць, пагібель' (Даль).— *Карачун*

КАРАШОК рэг., рус. *корешок* 'каранёк, карэньчык'? — *Карашкоў*

*КАРБАЙ з цюрк. *кара* 'чорны' і *бай*?— *Карбаеў*

*КАРБАЛЬ.— *Карбалевіч*

КАРБАН рус. *карбан* 'малы, нізкаРослы чалавек, каратыш' (Даль), параўн. тат. *корбан* 'ахвяра' (ТРС).— *Карбан, Корбан, Карбановіч*

КАРБАНАР гіст. 'карбанар'.— *Карбунар* пры [о]>[у]

*КАРВЕЛЬ літ. *karvẽlis* 'глухі', 'голуб?' (Фрэнк.).— *Карвель* у выніку асваення ЛП *Карвеліс*

КАРВІГА рус. *корвига* 'булка хлеба' (Даль). *корвижка* 'булачка', 'пернік' (Дабр.).— *Карвіга*

КАРГА бел. зневаж. 'старая баба' (БРС, Нас.), рус. *корга, карга* тое ж 'пень у вадзе' (Даль), 'воран' (Мірт.), тат. *карга* 'варона', 'разява' (ТРС), башк., казах., кірг. *корга* 'варона' (КРС), кірг. 'дзіця' (КРС).— *Каргін; Каргальскі*. Рус. у XVII ст. *Карга* (Туп.). СРП *Каргин*

КАРДА, памянш. КАРДЗІК 'шчотка, на якой чэшуць воўну і бавоўну', *карда* 'загарода для скаціны ў полі', 'агарод у полі' (Даль), укр. *карда* 'шчотка, на якой чэшуць воўну ці лён' (Грынч.), параўн. літ. *kardà* (Фрэнк.), параўн. таксама каз. *кард* 'сварлівы чалавек, спаршчык' (Будаг.).— *Кардовіч; Кардзюк; Кардзюкоў, Кардзюкевіч; Кардзік*. Бел. у XVIII ст. *Корда* (БА, І,

225). СРП *Кардовский, Кордюков, Кордецкий.* Параўн. КОРДА

*КАРДАБЕНЬ.— *Кардабнёў*

*КАРДАС літ. *kárdas* 'меч, шашка, шпага', *kar̃das* 'эха' (Фрэнк.).— *Ка́рдас.* СЛП *Кардас*

КАРДАШ тат. *кордаш* 'равеснік, аднагодак' (ТРС), 'брат' (Будаг.), тур. тое ж (ТБР).— *Карда́ш.* СРП *Кардашёв*

*КАРДЗЮН, памянш. КАРДЗЮНОК.— *Кардзюнко́ў*

*КАРДЫМОН.— *Кардымо́н.* Параўн. СЛП *Кардімас*

КАРДЭЛЬ рус. *кардель* 'парусная снасць' (Фасм.).— *Кардэ́ль,* магчыма, у выніку асваення ЛП *Карделіс, Корделіс*

КАРЖАВЫ рус. *коржавый* 'іржавы, пакрыты асадкам, нягладкі, шурпаты', (аб пладах, чалавеку) 'заморaны, недарослы, вялы' (Даль), 'сухі, зморшчаны' (Фасм.), укр. *коржавий* (аб скуры) 'высахлы і цвёрды' (Грынч.), параўн. бел. рэг. *каржавіць* (аб хлебе) 'засушваць у печы, перапячы, прыпаліць' (Нас.).— *Каржа́він.* СРП *Коржавин*

КАРЖАК бел. 'карчага' (БРС), рэг. (аб чалавеку) 'заморак, недаростак' (Дзярж.— М. Б.), 'сухая перапечка' (КСЧ), рус. *коржак* 'малое дзіця з вялікім жыватом, рахіцік' (Дабр.).— *Каржа́к, Каржако́ў.* У Туп. у XV—XVI стст. *Коржак*

КАРЖОЎНІК 'той, хто выпякае ці прадае каржы'? — *Каржо́ўнік*

КАРЖУЙ параўн. кірг. *каржай* 'быць худым' (КРС).— *Каржу́еў.* СРП *Коржуев*

КАРЖЭНЬ рэг. 'сухар, засушаная перапечка' (Нас.), рус. *коржень* 'сухар' (Дабр.).— *Каржэ́нь, Каржане́віч; Каржане́ўскі,* магчыма таксама з польск. *korzeń* 'корань'

*КАРЗЕЙ.— *Карзяёнак.* Параўн. КОРЗА

*КАРЗОН.— *Карзо́н.* Параўн. КОРЗА, КОРЗУН

КАРК рэг. 'карак' (Дзярж.— М. Б.).— *Карко́, Ка́ркін*

*КАРКАНІЦА.— *Карканíца*

*КАРКАШУП.— *Каркашу́п*

*КАРКОЗ.— *Карко́з, Карко́заў*

КАРКОТА, памянш. КАРКОТКА рус. *коркота* 'курчы, сутаргі, спазмы', зневаж. 'старызна, старая карга' (Даль).— *Карко́та; Карко́тка; Карко́цкі*

*ҚАРҚОШ, памянш. ҚАРҚОШҚА параўн. кірг. *каркеш* 'помслівы, злаславы' (ҚРС).— *Карко́шка.* Укр. у XVI ст. *Каркошка, Каркушка* (Туп.)

*ҚАРМАЗ, *ҚАРМАЗА.— *Карма́з, Ко́рмаз, Карма́за.* СРП *Кармазин.* Параўн. ҚАРМАЗІН

ҚАРМАЗІН, рэг. ҚАРМАЗЫН 'ярка-чырвонае сукно' (Нас.), рус. *кармазин* тое ж (Даль), укр. *кармазин* тое ж (Грынч.), з араб. *кырмизи* тое ж (Ср.).— *Кармазі́н, Кармазі́наў; Кармазы́н.* СРП *Кармазинов*

ҚАРМАН рэг. 'кішэнь' (Мсцісл.— В. Л.).— *Карма́н, Карма́наў.* Чув. УІ *Карман* (Магн.). Каз. УІ *Карман* (Жануз.). Бел. у XVI ст. *Корман* (БА, І, 225; Туп.). Рус. у XIV—XVII стст. *Корман, Корманко, Корманец* (Туп.). СРП *Карманов*

ҚАРМАЧ 'той, хто корміць'?, параўн. рэг. *кармачык* 'нож з адламаным канцом' (Нас.), параўн. кірг. *кармаш* 'схватка' (ҚРС).— *Кармачоў*

ҚАРМЫЗ(А).— *Карм́ызаў.* Параўн. каз. УІ *Кармыс* (Жануз.). Параўн. ҚАРМАЗІН, ҚАРМАЗ

ҚАРНАВУХ, ҚАРНАУХ, памянш. ҚАРНАВУШҚА, ҚАРНАУШҚА рэг. 'карнавухі, з кароткімі вушамі' (ҚСЧ).—*Карнаву́х, Карнаву́хаў, Карнаву́шанка; Карна́ух, Карна́ушанка; Карнаву́шка; Карна́ушка.* Бел. у XV—XVIII стст. *Корноух, Карнаух* (БА, І, 225). Укр. у XVII ст. *Корноух* (Туп.). СРП *Карнаухов, Карнаушкин, Корнаухов, Корноухов*

ҚАРНАҚ рус. *корнак* 'пагоншчык слана' (Даль), параўн. таксама рэг. *карнаць* 'адразаць, рабіць кароткім'.— *Карнако́ў; Карна́цкі.* СРП *Корнаков.* Параўн. ҚАРНАЧ

ҚАРНАЧ рэг. 'нож з адламаным канцом' (Юрч.), параўн. рэг. *карнаць.*— *Карна́ч, Карнацэ́віч; Карна́цкі.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Корнач, Карнач* (Туп., БА, І, 225). У Туп. у XV—XVI стст. *Корнач.* СРП *Карначёв*

ҚАРНАШ параўн. рэг. *карнаць.*— *Карнашо́ў; Карнашэ́ўскі, Карнашы́цкі*

ҚАРОБҚА, памянш. ҚАРОБАЧҚА, ҚАРОБУШҚА.— *Каро́бка, Каро́бкін, Каро́бчыц; Каро́бачка; Каро́бушкін, Карабу́шчанка.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Коробка* (БА, І, 225). Рус. у XV ст., укр. у XV—XVII стст. *Коробка* (Туп.). СРП *Коробко, Коробкин*

ҚАРОВА, памянш. ҚАРОЎҚА.— *Каро́він; Каро́ўкін.* Бел. у XV ст. *Корова,* рус., укр. у XV—XVII стст.

*Корова, Коровка* (Туп.). СРП *Коровин, Коровкин, Коровушкин*

КАРОГВА, КАРОГАЎ ст. бел. *корогва* 'харугва' (Нас., АУ), рус. *корогва* тое ж (Даль), укр. *корогва, корогов* тое ж (Грынч.).— *Карóгвіч; Карóгавіч*

КАРОЗА рус. *корёза* 'соїка', 'задзіра, капрызны чалавек' (Дабр.).— *Карóза.* СЛП *Карозин*

КАРОЛЬ, памянш. КАРАЛЁК, КАРАЛЕЦ, КАРОЛІК, КАРОЛЬЧЫК, КАРОЛЬКА.— *Карóль, Каралёў, Карóліч, Каралéвіч, Каралéнка, Каралёнак, Каралéня; Каралю́к; Каралёк, Каралькóў; Каральчу́к; Каралéц; Карóлік; Карóльчык; Карóлька; Каралінскі;* усе магчымы ад УІ *Кароль* (БА, І, 94). СРП *Король, Королёв, Короленко, Королько, Корольков, Королюк, Корольчук, Королицкий*

*КАРОН, памянш. КАРОНЧЫК.— *Карóнчык.* СРП *Коронов*

КАРОСТА, памянш. КАРОСЦІК (хвароба) 'кароста', рэг. 'кастрыца' (Камян.— Шат.).— *Карóсцік*

КАРОТКІ, памянш. КАРОЦЬКА, КАРАЦЬКО, КАРОТЧЫК.— *Карóткі, Караткóў, Карóткін, Караткéвіч, Карóтчанка, Каратчэ́ня; Карóцька, Карацькó; Карóтчык.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Короткий, Коротки, Каротки* (БА, І, 226; Туп.). Рус. у XVI ст., укр. у XVI—XVII стст. *Короткий, Короткой* (Туп.). СРП *Короткий, Коротков, Короткин, Короткевич, Коротченко*

КАРП, памянш. КАРПІК.— *Карп, Кáрпаў, Карпóвіч, Карпіéвіч, Карпéнка, Карпянкóў, Карпіéня; Карпю́к; Карпу́к, Карпучóнак; Карпу́чык; Карпучóк; Кáрпік; Карпіцкі; Карпóўскі, Карпéцкі* — усе магчымы ад УІ *Карп* (БА, І, 94—95). СРП *Карпов, Карпин, Карпович, Карпенко, ?Карпичёв, Карпейский, Карпецкий, Карпинский, Карповский*

КАРПАВЕЦ з в. Карпава.— *Карпавéц*

КАРПАЧ разм. 'партач, капун' (БРС), рэг. 'рагач, якім скідаюць гноі з воза', 'лянівы работнік, маруда' (Нас.), 'кірпач' (Дзярж.— М. Б.).— *Карпáч, Карпачóў.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Карпач, Корпач* (БА, І, 218; Туп.). Укр. у XVI ст. *Корпач* (Туп.). СРП *Карпачёв*

КАРПАШ параўн. рэг. *карпаты,* 'кірпаты' (Дзярж.— М. Б.), параўн. таксама *корпацца* 'павольна рабіць што-небудзь'. — *Карпашэ́віч,* магчыма, ад УІ *Карп*

*КАРПЕЗА.— *Карпéза.* Параўн. КАРПАШ

*КАРПЕЙ, памянш. КАРПЕЙКА.—*Карпéй, Карпéйка.* СРП *Карпейский.* Параўн. КАРПАШ

КАРПЕКА, памянш. КАРПЕЧКА, рус. *корпека* 'той, хто карпее' (Даль).— *Карпéка, Карпéчанка; Карпéчкін.* Магчыма, ад УІ *Карп* (Нас.). Укр. у XVII ст. *Корпеко* (Туп.). СРП *Карпеко*

*КАРПІЗА, *КАРПЫЗА.— *Карпíза, Карпыза.* Параўн. КАРПАШ

*КАРПІЛА.— *Карпілаў, Карпілóвіч,* Параўн. КАРПАШ

*КАРПОЛЬ.— *Карпóль.* Параўн. КАРПАШ

*КАРПОТА, памянш. КАРПОТКА.— *Карпóтка*

КАРПУЗ тур. *капуз* 'кавун', 'шарападобны, круглы' (ТБР).— *Карпузóвіч*

КАРПУН рэг. 'лянівы работнік' (Нас.).— *Карпýнін, Карпунéнка.* СРП *Карпун.* Параўн. КАРПАШ

*КАРПУХА.— *Карпýхін.* СРП *Карпухин, Карпушин.* Параўн. КАРПАШ

*КАРПУЦЬ.— *Кáрпуць*

КАРСАК, КОРСАК рус. *корсак, корсук* 'ліса ў кіргізскіх стэпах', 'сялянская футравая шапка' (Даль), кірг. *карсак, корсак, хорсак* 'стэпавая лісіца' (Будаг., КРС), 'агульная назва звяроў — ваўкоў, лісіц' (КРС), тур. *карсак* 'стэпавая лісіца' (ТБР), тат. *карсак* тое ж 'каратыш, нізкарослы', *корсак* 'чэрава, вантроба, унутранасць' (ТБР).— *Карсáк, Карсакóў; Кóрсак, Кóрсакаў.* Бел. у XVI—XVII стст., рус. у XVIII ст. *Корсак* (Туп.). СРП *Корсак, Корсаков*

*КАРСЕКА.— *Карсéка.* СРП *Корсекин*

КАРСЮК гл. КОРС

*КАРТ.— *Карт*

КАРТАВЫ.— *Картáвы, Картáвенка.* Бел. у XVII ст. *Картавы* (БА, І, 218). Рус. у XVIII ст., укр. у XI ст. *Картавой* (Туп.). СРП *Картавов, Картавых*

КАРТОН рус. 'кардон'.— *Картанóвіч,* магчыма і ад УІ *Картон*<*Харитон*

КАРТОШКА рэг. 'бульба'.— *Картóшкін.* СРП *Картошкин*

КАРТУЗ.— *Картýзаў.* СРП *Картузов*

*КАРТУЛЬ 'картавы'? — *Картýль*

*КАРТУН 'картавы'? — *Картýн,* магчыма, у выніку асваення ЛП *Картунас.* СРП *Кортунов*

*ҚАРТЫЖ.— *Қартыжóў*

*ҚАРТЫННІҚ.— *Картыннік*

ҚАРТЭЛЬ гл. ҚАРЦЕЛЬ

*ҚАРУЖЭЛЬ.— *Қаружэ́ль.* Параўн. СЛП *Қаружа, Қаружас*

ҚАРУНА, памянш. ҚАРУНЕЦ, ҚАРУНЧЫҚ ст. бел. *коруна* 'карона', 'каралеўства' (Нас., АУ), параўн. польск. *koróna* 'карэнная Польшча'.— *Карунін; Қарунéц, Қарунцóў; Қарýнчык*

ҚАРУННЫ ст. бел. *корунный* 'які належыць каралеўству', 'польскі'.— *Қарýнны.* Параўн. ҚАРУНА

*ҚАРУСЕЙ 'карусель'? — *Қарусéеў*

ҚАРЦЕЛЬ, ҚАРТЭЛЬ рус. *кортель* 'летнік з футравай падшыўкай на зіму' (Даль).— *Карцéль, Картэ́ль.* Бел. у XVII ст. *Кортель* (Туп.)

ҚАРЧАГА, памянш. ҚАРЧАЖҚА рэг. 'вялікі корч' (Дзярж.— М. Б.), рус. *корчага, корчажка* 'частка сукацi кораня з кручком', 'скурчаная нага' (Дабр.).— *Қарчáгін; Қарчáжка.* Бел. у XVI—XVII стст. *Корчага* (Туп.). СРП *Корчагин, Карчагин*

ҚАРЧМАР.— *Қарчмáр.* СРП *Корчмарёв*

ҚАРЧМІТ ст. бел. *корчмит* 'карчмар' (Нас., АУ), ст. рус. тое ж (Дзюверн.).— *Карчмíт, Қарчмятóвіч* пры [і]>[я]. Бел. у XVI ст. *Корчмит* (БА, I, 226)

ҚАРЧНЫ 'які жыве ля карчоў'?, параўн. *корч* 'пень з каранямі', 'карчажына', рэг. *карчы* 'кусты' (Петр., Лельч.— М. Б.).— *Карчны́*

ҚАРЧЭЎНЫ.— *Қарчэ́ўны.* Параўн. ҚАРЧНЫ

ҚАРШАҚ гл. ҚОРШАҚ

ҚАРШУҚ рэг. 'коршак'.— *Қаршýк, Қóршук, Қаршукóў*

ҚАРШУН, ҚОРШУН.— *Қóршун, Қóршунаў, Қаршунóў.* Бел. у XV—XVII стст. *Коршун* (Туп., БА, I, 226). СРП *Коршунов*

ҚАРЫ прым. 'цёмна-каштанавы, цёмна-карычневы', магчыма, рэг. наз. (толькі мн. л.) 'параконная павозка з драбінамі' (Дзярж.— М. Б.), укр. *кари* 'вадавозныя дрогі' (Грынч.).— *Қáраў, Қарэ́нка; Қáраўскі, Қáрскі.* Бел. у XVII ст. *Қарей,* рус. у XVII ст. *Қарий,* укр. у XVI ст. *Қарой* (Туп.)

*ҚАРЫБА.— *Қары́ба.* Параўн. чув. УІ *Қарыбай* (Магн.)

*ҚАРЫЗНА.— *Қары́зна.* СЛП *Қарызна*

ҚАРЫНА рэг. *карына* 'кусок кары' (Дзярж.— М. Б.), укр. *корина* 'кара' (Грынч.).— *Қары́на*

ҚАРЫТА, памянш. ҚАРЫТКА, ҚАРЫЦЬКА.— *Қары́тка, Қары́ткін; Қары́цька; Қары́цкі*. Бел. у XVII ст. *Қорыто*, рус. у XVII ст., укр. у XVI ст. *Қорытко* (Туп.). СРП *Қорытов, Қорытин*

*ҚАРЭБА.— *Қарэ́ба*. Параўн. ҚАРЫБА

ҚАРЭВА, памянш. *ҚАРЭВІҚ.— *Қарэ́ва; Қарэ́вік*. СЛП *Қарева*. Параўн. ҚАРЭЙВА

*ҚАРЭЙ, памянш. ҚАРЭЙҚА.— *Қарэ́йка*. СЛП *Қарэйка*. СРП *Қорейко, Қареев*

ҚАРЭЙВА літ. *karéiva* неадабр. 'ваяка'. — *Қарэ́йва*. СЛП *Қарейва, Қарейвас*. СРП *Қорейво*

ҚАРЭЛЫ.— *Қарэ́лы, Қарэ́лін*. СРП *Қарелов, Қарелин, Қорелин*

*ҚАРЭНДА.— *Қарэ́нда*. СЛП *Қоренда*

ҚАРЭТА, памянш. ҚАРЭТҚА.— *Қарэ́тка*. СРП *Қаретин, Қареткин, Қаретов*

ҚАРЭЎҚА рэг. зневаж. 'каравы, брудны'.— *Қарэ́ўка*

ҚАРЭЦ ст. бел. *корец* 'мера збожжа ў 20 гарцаў' (Нас., АУ), бел. 'карец' (БРС).— *Қа́рцаў; Қарэ́цкі*. СРП *Қарцев, Қарцов, Қорцов*

ҚАСА, памянш. ҚОСҚА, ?ҚОСІҚ.— *Қаса́, Қо́саў, Қасе́віч, Қасе́нка; Қасяно́к, Қасянко́ў; Қасю́к; Қасянчу́к; Қо́ска, ?Қаско́, Қаске́віч; Қо́сік, Қо́сікаў; Қасі́нскі, Қаскаве́цкі* — усе прозвішчы магчымы і ад ҚОСЫ (гл.). СРП *Қосин, ?Қосинов, Қосенко, Қосенков, ?Қосиков, Қоскин, ?Қосков, Қасенков*

ҚАСАБОҚІ.— *Қасабо́ка, Қасабо́каў*. СРП *Қособоков*

*ҚАСАБУҚА параўн. рэг. насмешл. *касабуцкі* 'касавокі' (Нас.)— *Қасабу́ка; Қасабу́цкі*

ҚАСАВЕЦ з н. п. Қосава.— *Қасаве́ц*

ҚАСАЙ 'косы'?—*Қаса́й*. Қаз. УІ *Қосай* (Жануз.)

ҚАСАҚ укр. *косак* 'вялікі нож, якім сякуць капусту' (Грынч.).— *Қаса́к; Қасако́ўскі*

ҚАСАЛАПЫ.— *Қасала́паў. Қасала́пенка*. СРП *Қосолапов*

ҚАСАРУҚІ.— *Қасару́каў*. СРП *Қосоруков*

ҚАСАР рэг. 'касец', рус. *косарь* 'вялікі нож, якім шчапаюць лучыну' (Мельн.).— *Қасарэ́віч; Қасарэ́ўскі, Қасары́цкі*. У Туп. у XV ст. *Қосар*. СРП *Қосарев*

КАСАТКА рус. 'ластаўка касатка' (РБС).— *Касáткін.* Бел. у XVII ст. *Касатик* (Туп.). СРП *Касаткин, Касаточкин*

*КАСАТЫ.— *Касáтых.* Бел. у XVII ст. *Косатый* (Туп.)

КАСАЧ.— *Касáч, Касачóў; Касачýк.* СРП *Косачёв*

КАСІЕЦ з в. Касія.— *Касіéц*

*КАСІЛА, памянш. КАСІЛКА ад *касіць?— Касіла, Касілóвіч; Касілка.* Бел. у XVI—XVII стст. *Косило, Косилко* (Туп., БА, I, 226). СРП *Косилов, Косилин*

КАСІНЕЦ з в. Косіна.— *Касінéц*

КАСМАЧ.— *Касмáч, Касмачóў.* Бел. у XVI ст. *Космач* (БА, I, 226). СРП *Космачёв*

КАСМУЛЯ рэг. 'касматы, нястрыжаны чалавек', 'касматая жывёліна' (Дзярж.— М. Б.).— *Касмýля*

*КАСНАР.— *Каснарэ́віч*

*КАСТОРНЫ.— *Кастóрны*

КАСТРА рэг. 'кастрыца' (Нас., Бяльк.), 'прыдзірлівы чалавек' (Бяльк.), рус. *костра* 'кастрыца' (Даль, Дабр.).— *Каструкóў; Кастрóўскі*

КАСТРАМА рус. *кострома* 'нізкі гатунак мыла', 'абрадавае чучала з саломы і рагожы', 'розгі' (Даль).— *Кастрамá.* Чув. УІ *Кострома* (Магн.). Рус. у XIV ст. *Кострома* (Туп.)

КАСТРУБА параўн. *каструбаваты* 'шурпаты, шорсткі' (БРС, Нас.), рус. *кострубатый* 'шурпаты, шорсткі', 'упарты' (Даль), укр. *коструб* 'ястраб', 'веснавы дзявочы харавод', 'неахайны чалавек'; *каструбань* 'кудлаты, з лахматымі валасамі'; *кострубатий* 'кудлаты, касматы', 'шурпаты, шорсткі', *каструбач* 'кудлаты, узлахмачаны' (Грынч.).— *Каструбá, Каструбін*

КАСТРУБАВЕЦ з в. Каструбава, Каструбы.— *Кастрýбавéц*

КАСТРЫЦА.— *Кастрыца; Кастрыцкі.* Бел. у XVII ст. *Кострыца* (Туп.). СРП *Кострицын, Кастрицкий*

*КАСТЫКА.— *Кастыка.* СРП *Костыков*

КАСТЫЛЬ.— *Кастылёў; Кастылю́к.* СРП *Костылёв, Костыльков*

КАСУХА рус. *косуха* 'трохкутная палічка ці столік' (Даль).— *Касýха*

КАСЦЁР, КАСЦЕР, памянш. КОСТРЫК рэг. бат. 'каласоўнік' (Нас., Кісял.), 'мошка, з'яўленне якой служыць прыкмегай, што пара сеяць жыта' (Нас.), бел. *касцёр* 'укладка дроў', 'стажок бліноў' (БРС), назва раслі-

ны (Даль).— *Касцёр, Касцяроў; Кострык, Кострыкаў.* Укр. у XVII ст. *Костер* (Туп.). СРП *Костеров, Костерин*

*КАСЫН(А).— *Касынюк.* Каз. УІ *Косын* (Жануз.)

КАСЫНКА.— *Касынкін.* СРП *Косынкин*

*КАСЮДЗЕКА.— *Касюдзека*

КАСА.— *Касіч*

КАСЯК.— *Касяк, Касякоў.* У Туп. у XV ст. *Косяк*

*КАТАВОД 'хто даглядаў катоў'? — *Катаводаў.* Параўн. Бел. у XVII ст. *Кот Годовник* (БА, I. 227)

*КАТАВЫ.— *Катавы*

*КАТАЙ.— *Катаеў.* Каз. УІ *Катай* (Жануз.)

*КАТАКА.— *Катакін*

*КАТАСОН.— *Катасонаў.* СРП *Катасанов*

*КАТАШ параўн. бел. *каташок* памянш. ад *катахі* (на вярбе, бярозе) 'коцік' (БРС).— *Каташ, Каташэвіч,* Укр. у XIV—XV стст. *Коташ* (Туп.). СРП *Каташов*

*КАТГУН.— *Катгуноў*

КАТЛАБАЙ з тат. *котлы* 'шчасце' і *бай* 'багаты', тат. УІ *Котлыбай* (Сант. Ономастика Поволжья. Ульяновск, 1969, стр. 57). — *Катлабай*

*КАТЛАДАЙ.— *Катладай*

*КАТЛЯНІК 'катляр'? — *Катлянік*

КАТЛЯР ст. бел. 'майстар, які вырабляе катлы' (Нас., АУ), рэг. тое ж (Бяльк.).— *Катляр, Катляроў, Катлярэнка; Катлярчук.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Котляр* (Туп., БА, I, 227). Рус., укр. у XVII ст. *Котляр* (Туп.). СРП *Котляров, Котляренко, Котляревский.* Параўн. КАЦЕЛЬНІК

КАТОЛІК.— *Каталікаў*

КАТОМКА рус. *котомка* 'кайстра, клумак'.— *Катомкін.* СРП *Котомкин*

КАТУГА ст. рус. *котуга* 'хітон, рубашка, рыза' (Ср.).— *Катуга, Катугін*

*КАТУЛА, памянш. КАТУЛЬКА.— *Катулька.* СРП *Катулин, Катульский*

КАТУН ст. рус. 'воінскі стан, размяшчэнне войска' (Ср.).— *Катуноў.* СРП *Котунов*

КАТУНЯ рус. 'татарка' з цюрк., параўн. тур. *кадын* 'пані, гаспадыня' (Фасм.).— *Катунін.* У Туп. у XVII ст. *Катуня.* СРП *Катунин*

*КАТУШ.— *Катуш, Катушэнка, Катушонак.* СРП *Катушев, Катушин*

*КАТЫРЛА.— *Катырла*

КАЎБАСА, рэг. КАЛБАСА, КІЛБАСА, памянш. КАЎБАСКА, КАЛБАСКА.— *Каўбаса́, Каўбасю́к; Калбаса́, Калба́саў, Калба́січ, Калбасе́нка, Калбасе́нкаў; Калба́ска, Калба́скін.* Бел. у XVI—XVII стст. *Колбаси, Келбаса, Келбас* (БА, I, 223). СРП *Колбасин, Колбасов, Колбасьев.* Параўн. КЕЛБАС

КАЎБЕНЯ гл. КОЎБ

КАЎГАН гл. КАЛГАН

*КАЎЖУН.— *Каўжу́н*

КАЎЗУН, КОЎЗУН рэг. 'дзіця, якое лазіць, коўзаецца па каленях' (Нас.), укр. *ковзун* 'паўзун, малое дзіця, якое поўзае' (Грынч.).— *Ко́ўзун, Каўзуно́віч*

КАЎКА рэг. 'сівая варона, галка' (Нас., Бяльк.), рус. *кавка* 'лягушка, жаба' (Даль), 'галка' (Даль, Дабр.), параўн. і бел. рэг. *каўкаць* (пра ката), 'мяўкаць' (КСЧ).— *Ка́ўка, Каўко́, Каўко́ў, Каўцэ́віч, Ка́ўчанка.* Бел. у XVI—XVII стст. *Кавка* (БА, I, 217; Туп.)

*КАЎЛА літ. *káulas* 'костачка ў вішнях' і інш., *kaules* 'калючка, шып', *kaulŷs* 'надакучлівы чалавек', 'папрашайка' (Фрэнк.).— *Каўлю́к, Каўлюко́ў*

*КАЎПАЙ 'калупай, той, хто калупае'? — *Каўпа́еў*

КАЎПАК, рэг. КАЛПАК.— *Каўпа́к; Калпа́к, Калпако́ў.* Бел. у XVII ст., рус. у XV ст., укр. у XVI ст. *Колпак* (Туп.). СРП *Колпаков, Ковпак*

*КАЎРУС.— *Ка́ўрус*

КАЎРЫГА рэг. 'вялікая булка хлеба' (Нас.), 'акраец, скіба' (Бяльк.), *коврига* тое ж (Даль, Дабр.).— *Каўры́га.* Рус. у XVII ст. *Коврига* (Туп.). СРП *Ковригин, Коврижкин, Коврыжкин*

КАЎТУН 1. параўн. рэг. *коўтаць* 'глытаць з натугай', 'піць вялікімі глыткамі' (Дзярж.— М. Б.), укр. *ковтати* 'глытаць' (Грынч.) — *Каўтуно́ў.* Параўн. КАЎТУН 2, КОВТА, ?КОВТУР

КАЎТУН 2. рэг. КАЛТУН, памянш. КАЛТУНЧЫК.— *Каўтуно́ў; Калту́н, Калтуно́ў, Калтуно́віч; Калту́нчык.* Укр. у XVI—XVII стст. *Ковтун, Колтун* (Туп.). СРП *Кавтунов, Ковтунов, Ковтуненко, Колтунов*

*КАЎТУХА.— *Каўту́ха*

КАЎШАЙ.— *Каўша́енка.* Параўн. КАЎШАР

КАЎШАР, КАЎШЭР, КОЎШАР устар. бел. *ковшарь* 'майстар, які вырабляе каўшы' (Вяржб., 393).— *Каўша́р, Каўшаро́ў; Каўшэ́раў; Каўшы́рка* пры [е]>[ы]? СРП *Ковшаров*

КАЎШОВІК параўн. устар. бел. *ковшовник* 'майстар, які вырабляе каўшы' (Вяржб., 393).— *Каўшо́вік*. Бел. у XVI ст. *Ковшовик* (БА, I, 221)

*КАЎШЭЛЬ, КОЎШАЛЬ.— *Каўшэ́ль*, магчыма, у выніку асваення ЛП *Каўшеліс*.

КАФАН узб. 'саван' (УРС).— *Кафа́наў*. СРП *Кофанов*

КАФТАН, рэг. КАПТАН, памянш. КАПТАНЧЫК.— *Кафтанюк; Капта́нчык*. СРП *Кафтанов*

*КАХАЙ параўн. *кахаць* 'любіць' (БРС), рус. *кохать* тое ж (Даль), укр. *кохати* тое ж (Грынч.).— *Каха́еў*

КАХАНЫ, памянш. КАХАНЧЫК.—*Каха́ны, Кахано́віч; Каханю́к; Каха́нчык; Кахано́ўскі*, некаторыя магчымы і ад КОХАН (гл.). СРП *Каханов*

*КАХНО.— *Кахно́, Кахне́нка, Ко́хна, Кахню́к*. Параўн. КАХАНЫ, КОХАН

*КАХОЎКА.— *Кахо́ўка*

*КАХРО.— *Кахро́*

*КАЦАБ.— *Каца́баў*. Параўн. КАЦУБА

КАЦАЛАПЫ рэг. 'касалапы' (Дзярж.— М. Б.).— *Кацала́паў*. Параўн. КАСАЛАПЫ

*КАЦАН.— *Каца́наў*

КАЦАР, КАЦЕР, КАЦУР, КАЦОРА ст. бел. *кацер* 'ератык' (КСГБМ).— *Ка́цар, Ка́цараў; Ка́цер; Ка́цур, Кацу́ра; Кацо́ра; Кацуро́ўскі*. Бел. у XVIII ст. *Кацар* (БА, I, 218)

*КАЦЕЙКА.— *Каце́йка*. У Туп. у XV ст. *Котейко*. СЛП *Катейкіс*

КАЦЕЛЬНІК 'майстар, які робіць катлы'.— *Каце́льнікаў*. Бел. у XVI ст. *Котельник* (БА, I, 227). Рус. у XVII ст. *Котельник* (Туп.). СРП *Котельников, Котельницкий*

КАЦЕЛЯВЕЦ з в. Кацялі, Кацялёва.— *Кацелявец*

*КАЦЕНЬ.— *Катнёў*. Чув. УІ *Котень* (Магн.). СРП *Котенев, Котенин, Катенин*

КАЦЕР, параўн. ст. рус. *котера* 'сварка, спор' (Ср.).— *Ка́цер*. СРП *?Котеров, ?Катеров*, Параўн. КАЦАР

*КАЦЕЦ.— *Катцо́ў*

*КАЦЁБА.— *Кацёба*. Параўн. КАЦУБА

КАЦЁЛ.— *Кацёл, Катло́ў, Катло́віч; Катло́ўскі, Катлінскі*. Бел. у XVI—XVII стст. *Котел* (БА, I, 227; Туп.). СРП *Котлов, Котлович, Котликов*

*КАЦІЛА ад *каціць?* ці павеліч. ад наз. *кот?*, параўн. літ. *kātilas* 'кацёл, кацялок, чыгун' (Фрэнк.).— *Каціла, ?Кацяло́віч* пры [і]>[я]. СРП *Катилов, Катилин*

*КАЦІНЕЛЬ.— *Каціне́ль*

*КАЦКЕЛЬ.— *Кацке́ль*

КАЦОРА гл. КАЦАР

КАЦУБА рэг. 'качарга' (Камян.— Шат.), 'той, у каго з рук ўсё валіцца' (Стэц.).— *Кацуба́; Кацубінскі*

*КАЦУПЭРА.— *Кацупэ́ра*

КАЦУР гл. КАЦАР, КОЦУР

*КАЦЭМБА, відаць, польск. агласоўка рэг. КАЦУБА (гл.).— *Кацэ́мба́*

*КАЦЯН ад *каціць?* — *Каця́н*

*КАЦЯШ.— *Кацяшо́ў*

*КАЧАЙ.— *Качаеў.* Чув. УІ *Качай* (Магн.). СРП *Качаев.* Параўн. КАЧАЙЛА

КАЧАЙЛА ад *качаць, качацца.*— *Кача́йла*

КАЧАЛКА.— *Кача́лка.* СРП *Качалкин*

КАЧАЛА.— *Качалю́к.* Бел. у XVI ст. *Качало* (Туп.). СРП *Качалов, Качалин, Кочалов.* Параўн. КАЧАЙЛА

КАЧАН, памянш. КАЧАНОК.— *Кача́н, Кача́наў, Качано́ў, Качано́віч; Качано́к, Качанко́ў; Ко́чан* з пераносам націску; *Качано́ўскі.* Бел. у XVI—XVII стст., рус., укр. у XVII стст. *Качан* (Туп.). СРП *Качанов, Качановский, Кочанов, Кочановский*

КАЧАРГА.— *Качарга́, Качаргін; Качэ́рга* з пераносам націску. Бел. у XVIII ст. *Качерга, Качарга* (БА, І, 227). Укр. у XVI—XVII стст. *Кочерга, Кочережка* (Туп.). СРП *Кочерга, Кочергин, Кочергинский*

КАЧКАЛДА параўн. тат. *кашкалдак* 'лысуха, вадзяная курыца' (Даль), кірг. тое ж (КРС).— *Качкалда́*

КАЧКАН тат. *качкын* 'бягляк, дэзертыр, бадзяга' (ТРС), кірг. тое ж 'бежанец' (КРС).— *Качка́н,* магчыма, у выніку асваення ЛП *Качканас*

КАЧКАР, памянш. КАЧКАРЫК рус. *кочкарь* 'маркач, племянны непакладаны баран' (Даль), з тур. *кочкар* 'баран' (Шынк., Фасм.).— *Качка́р, Качка́рык.* Укр. у XVI ст. *Кочькарь* (Туп.). СРП *Кочкарёв, Кочкаринов*

*КАЧКО.— *Качко́, Качко́ў; Качко́ўскі.* У Туп. у XVI ст. *Качко.* СРП *Качков, Качковский*

КАЧУЛКА рэг. 'качалка, валёк' (Нас.), 'кацёлка, драўляны кружок' (БРС).— *Качу́лка*

КАЧУР, памянш. КАЧУРКА бел. рэг., рус. 'качар' (БРС, Даль), укр. *качур* тое ж, 'рабочы, які неравозіць груз на тачцы' (Грынч.).—*Качýр; Качýрка.* У Туп. у XV—XVI стст. *Кочур.* СРП *Кочуров*

КАЧУРА, памянш. КАЧУРКА рус. *качура, кочура* 'мэндлік, мэдлік', 'бамбіза' (Даль).— *Качýра.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Качура* (БА, I, 219). СРП *Качурин, Кочурин*

*КАЧЫНА.— *Качы́на; Качы́нскі*

КАЧЭНЯ рэг. 'качаня', рус., укр. *каченя* тое ж (Даль, Грынч.).— *Качэ́ня*

КАША, памянш. КАШКА.— *Кáшын, Кáшыц, Кашэ́ня; Кашкó, Кашкéвіч; Кашы́цкі, Кашы́нскі, Кашэ́ўскі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Каша, Кашка* (БА, I, 219; Туп.). СРП *Кашин, Кашкин, Кашков*

КАШАВАР.— *Кашавáр.* СРП *Кошеваров*

КАШАЕД.— *Кашаёд*

КАШАК рус. *кошак* 'рашотка з жэрдак упоперак ракі для затрымкі рыбы', 'жэрдкі' (Даль), параўн. тат. *кашык* 'лыжка', 'ядун', *кашак* 'узлессе, край лесу' (ТРС), кірг. 'сляпы', 'гультай, маруда' (КРС).— *Кашáк, Кашакóў*

*КАШКАН.— *Кашкáн.* Параўн. КАЧКАН

КАШКАР тат. *кашкар* 'зорачка на лбе жывёліны', 'астра' (ТРС).— *Кашкарóў, Кошкарэ́віч.* СРП *Кашкаров, Кошкарёв, Кошкаров*

КАШКУР кірг. (аб кані) 'храпці', *кашкыр* 'воўк' (КРС).— *Кашкурэ́віч*

*КАШЛАЧ параўн. бел. *кашлаты* 'махнаты, касматы' (БРС), укр. *кошлатий* тое ж (Грынч.).— *Кашлáч, Кашлачóў*

КАШЛЯВІК 'той, хто кашляе'?— *Кашлявíк*

КАШЛЯЙ.—*Кашля́еў.* СРП *Кошляев.* Параўн. КАШЛЯВІК

*КАШЛЯН.— *Кашля́н.* Параўн. КАШЛЯВІК

*КАШМЕЛЬ.— *Кашмéль*

*КАШНІР.— *Кашнірýк*

*КАШПАН.— *Кашпáнаў*

КАШТАЛЯН, памянш. КАШТАЛЯНЧЫК ст. бел. *каштелян* 'камендант цытадэлі' (Нас., АУ).— *Кашталья́н, Кашцелья́н; Каштаня́нчык*

КАШТАН.— *Каштáн, Каштáнаў.* СРП *Каштанов*

КАШУБА 'кашуб' (КСГБМ).— *Кашýба*

КАШУРА, памянш. КАШУРКА параўн. рус. *кошурка* 'кошка' (Даль, Дабр.).— *Кашу́ра; Кашу́рка.* Бел. у XVII ст. *Кошура, Кашура* (БА, I, 227). У Туп. у XVI ст. *Кошура, Кошурка.* СРП *Кашуричев*

КАШЧЭЙ ст. рус. *кощей* 'хлапчук, падростак', 'палонні́к, раб' (Ср.), усх. слав. 'казачны персанаж'.—*Кашчэ́й, Кашчэ́еў; Кашчы́й* пры [е]>[ы]. Рус. у XV ст. *Кощей* (Туп.). СРП *Кащеев*

КАШЭЛЬ.— *Кашэ́ль, Ко́шаль* пры пераносе націску, *Ко́шалеў, Кашалёвіч; Кашальчу́к.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Кошель, Кошиль* (БА, I, 227; Туп.). Рус., укр. у XV—XVII стст. *Кошель* (Туп.). СРП *Кошелёв*

КАШЭЛЬНІК 'той, хто робіць кашалі'.— *Кашэ́льнік*

*КАШЭРА.— *Кашэ́ра, Кашэ́рын.* СРП *Кашеренков.* Параўн. КАШЭРНЫ

КАШЭРНЫ з яўр. 'ачышчаны, чысты', параўн. рэг. *кошэрыць* 'ачышчаць розныя бытавыя прадметы' (Нас.), *кашэрыцца* кплівае 'старанна мыцца, ачышчацца' (КСЧ), рус. з яўр. *кошерный, коширный* 'ачышчаны, чысты' (Даль).— *Кашэ́рны*

*КАЮКАЛА параўн. *каюк* 'канец, смерць' (БРС, КСЧ), рус. тое ж (Дабр.), параўн. рус. *каюка* 'прастак, бядняк', *каюкать* 'калякаць, балбатаць' (Даль).— *Каю-ка́ла.* СРП *Каюков*

КАЯЛА параўн. *каяцца* 'шкадаваць, раскайвацца' (БРС), рус. *каять* 'ганіць, ганьбіць', 'прымушаць каяцца' (Даль).— *Кая́ла.* СРП *Каялов.* СЛП *Кояла, Кояліс*

КАЯН рус. *каян* 'сініца' (Даль).—*Кая́н*

*КАЯТ.— *Кая́т*

КВАКУХА рус. смал. 'курыца з куранятамі', 'сварлівая жанчына' (Дабр.), параўн. бел. *квакаць.*— *Кваку́ха, Кваку́хін*

КВАРТАЛЬНЫ ўстар. 'паліцэйскі чын'.— *Квар-та́льны*

КВАС, памянш. КВАСОК.— *Ква́саў; Кваско́ў.* СРП *Квасов, Квасков*

КВАСАВАР.— *Квасава́раў*

КВАСОЎКА рус. смал. *квасоўка* 'булка хлеба з прэснага цеста для вырабу квасу' (Дабр.).— *Квасо́ўка*

КВАЧ.—*Квач, Квачо́нак.* Бел. у XVI ст. *Квач* (БА, I, 219; Туп.)

КВАША рэг. 'кіслае малако', 'кісла-салодкая страва з мукі' (Вешт.), рус. 'што-небудзь заквашанае' (Даль),

МАШЭКА, памянш. МАШЭЧКА бел. 'мядзведзь' (Нас.).— *Машэ́чка*

*МАЯЙКА.— *Мая́йка*

*МЕДЗЕЛЬ.— *Ме́дзелеў.* Параўн. МЯДЗЕЛ

МЕДЗЬ.— *Ме́дзін; Мядзю́к*

МЕЗЕН 'мезены палец'.— *Ме́зен, Ме́зенін.* Бел. у XVI ст. *Мезин* (БА, I, 234). Укр. у XVII ст. *Мезиной* (Туп.). СРП *Мезин, Мезинов*

МЕЗЕНЕЦ. — *Ме́зенцаў.* Укр. у XVI ст. *Мызинец* (Туп.). СРП *Мезенцев, Мезенцов*

МЕЗЕНЬ, МЯЗЕНЯ.— *Ме́зенін.* Рус. у XVII ст. *Мезеня* (Туп.). Параўн. МЕЗЕН

*МЕЙЛАК.— *Ме́йлак*

*МЕЙСАК.— *Ме́йсак*

*МЕЙТА параўн. літ. *meĩtelis* 'парсюк'.— *Ме́йцін.* СРП *Мейтин*

МЕКА параўн. рус. *мекать* 'разумець, кумекаць, думаць, меркаваць' (Даль), г. зн. 'той, хто разумее, кумекае'? — *Ме́кін, Ме́кавіч*

*МЕЛАШУНАС.— *Мелашу́нас*

*МЕЛЕЖ.— *Ме́леж*

МЕЛЬНІК, памянш. МЕЛЬНІЧАК.— *Ме́льнік, Ме́льнікаў, Мельнічэ́нка, Мельнічо́нак; Мельнічу́к; Ме́льнічак; Мяльніцкі.* Бел. у XVII ст. *Мелник* (БА, I, 234). Укр. у XVII ст. *Мельник* (Туп.). СРП *Мельник, Мельников, Мельниковский, Мельниченко, Мельничук*

*МЕЛЬНЫ ад *малоць?* — *Мяльноў*

МЕЛЮХ рэг. *мелюх* 'хвост', 'балбатун' (Клімч.).— *Мелюхаў*

*МЕМУС.— *Ме́мус*

*МЕНДЗІЛА.— *Ме́ндзіла*

МЕНДЫК, параўн. кірг. *мендик* 'мой, які падтрымлівае мяне' (КРС).— *Ме́ндык*

*МЕНЗА, памянш. МЕНЗІК.— *Ме́нзік*

*МЕНКА, МЕНЬКА.— *Ме́нчыц; Ме́нька.* Параўн. *МЯНЕ́К*

МЕНЦЕЛЬ параўн. рэг. *мянцель* 'той, хто выпрошвае што-небудзь, прыставала' (Дзярж.— М. Б.).— *Ме́нцель*

*МЕРГЕС.— *Мерге́с*

*МЕРДА.— *Ме́рдзіч*

МЕРЗЛЫ.— *Мярзло́ў*

*МЕРКУЛЬ.— *Ме́ркуль,* магчыма, ад УІ *Меркурий*

МЕРНЫ.— *Мéрны.* СРП *Мернов*
*МЕРЦАН.— *Мéрцанаў*
МЕСЯЦ, памянш. МЕСЯЧЫК.— *Мéсячык.* СРП *Месяцев*
МЕХ, памянш. ?МЕШЫК.— *Мех, Мехаў, Мехавіч, Мяховіч; ?Мéшык.* у Туп. у XV ст. *Мех.* СРП *Мехов*
МЕХАНІК.— *Механікаў.* СРП *Механиков*
*МЕХТА.— *Мéхта*
*МЕЦЬКА ад *меціць?* — *Мéцька*
МЕЧНІК.— *Мéчнік.* У Вільна ў XVII ст. *Мечник* (Туп.). СРП *Мечников*
МЕШКАВЕЦ з в. Мяшкі, Мяшкова.— *Мешкавéц*
*МЕШКУЦЬ.— *Мéшкуць.* Бел. у XVI ст. *Мешкуць* (БА, I, 235)
МЕШЫК гл. МЕХ
МЁД. — *Мядзюк, Мядóўскі.* У Туп. у XVI ст. *Мед.* СРП *Мёдов, Медков*
МІГАЙ 'маргун'? — *Мігáй,* СРП *Мигай*
МІГАЛЬ 'маргун'? — *Мігáль, Мігалёў, Мігалéня.* Бел. у XVII ст. *Мигаль* (Туп.). СРП *?Мигалин*
МІГДАЛЬ рэг. *мигдаль* 'міндаль' (Нас.), укр. *мигдаль* тое ж (Грынч.).— *Мігдалёў*
*МІГЛАН.— *Міглáн*
МІГНО 'маргун'? — *Мігнó*
МІГУН, памянш. МІГУНЬКО рус. *мигун* 'маргун, той, хто часта моргае' (Даль).— *Мігýн; Мігунькó.* Рус. у XVII ст. *Мигун* (Туп.). У Туп. на неакрэсленай тэрыторыі адзначана і ў XV ст. СРП *Мигунов*
МІГУРА 'маргун'? — *Мігýра; Мігýрскі*
*МІДЛЯР.— *Мідляр*
*МІЖРЭХ(А).— *Міжрахóвіч*
*МІЖ(А).—*Міжэ́віч; Міжэ́ўскі*
МІЗГАЙЛА параўн. рус. *мизгать* 'плакаць' (Даль), укр. *мизгатися* 'заляцацца' (Грынч.).— *Мізгáйлаў*
МІЗГІР, МІЗГЕР рус., укр. *мизгирь* 'тарантул' (Даль, Грынч.), рус. ярасл. 'павук' (Мельн.), тат. 'тарантул' (ТРС).— *Мізгíр, Мізгéр.* Бел. у XVI ст. *Мизгир, Мизкгир* (БА, I, 235; Туп.)
МІЗЕР параўн. польск. *mezerak* 'худы чалавек', 'бядняк'.— *Мізер*
МІЗЕРНІК параўн. *мізэрны* 'бедны, убогі', 'худы', 'непрыглядны, несамавіты, нязграбны' (БРС, Нас.), *мізарняк* 'бядняк' (Нас.).— *Мізéрнік*

*МІЗУЛА.— *Мізу́ла*

МІЗЭРЫЯ укр. *мизерія* 'беднасць, убоства', 'маёмасць бедняка', 'рухомая маёмасць' (Грынч.).— *Мізэ́рыя*

*МІКШТА.— *Мікшта*

МІЛАН 'мілы'? — *Мілáн, Мілановіч*, магчыма, ад УІ *Милий* (БА, І, 120). СРП *Миланов, Милановский*

МІЛЕЙКА 'мілы'? — *Міле́йка*, магчыма, ад УІ *Милий* (БА, І, 120). СРП *Милейковский*

МІЛОШ 'мілы'? — *Міло́ш, Мілашэ́віч; Мілашэ́ўскі*, магчыма, ад УІ *Милий* (БА, І, 120)

*МІЛТО, МІЛЬТО.— *Мілто́, Мільто́*

МІЛЫ, памянш. МІЛЕНЬКІ.— *Мілы, Міле́віч; Міленькі; Міле́ўскі*. Бел. у XVI ст. *Миленький* (БА, І, 234)

МІЛЬКО 'мілы'? — *Мілько́, Мількéвіч, Мільчанка; Мілю́к*, магчыма, ад УІ *Милий* (БА, І, 120). СРП *Мильков*

*МІЛЬКОТА.— *Мілько́та*

МІЛЮН 'мілы'? — *Мілю́н*

*МІЛЮЦЬ.— *Мілюць*

МІНАЙЛА 'той, хто мінае'? — *Мінáйла, Мінáйлаў*

*МІНАК.— *Мінако́ў*. СРП *Минаков*

*МІНАЛТА.— *Міналта*

*МІНДА. — *Міндзюкéвіч*. Параўн. чув. УІ *Миндей* (Магн.). СРП *Миндин*

*МІНДЗЮЛЬ.— *Міндзю́ль*

*МІНЗЕР.— *Мінзер*

МІНУТА.— *Міну́цін*

МІРАНОС.— *Мірано́с, Мірано́саў*

МІРГАРАД.— *Міргарадаў*

МІСАР 'місачнік'? — *Місарэ́віч*

*МІСКЯЛОЙЦЬ.— *Міскяло́йць*

МІСНІК 'місачнік'? — *Міснік, Міснікаў*

*МІСУН, *МІСУНА.— *Місу́н, Місу́наў, Місу́на*

*МІТУН.— *Мітунéвіч*

*МІХАЛАП.— *Міхалáп*

*МІЦІЛА.— *Міціло́віч*

*МІЦЦЕР.— *Міццер*

*МІЧКО.— *Мічко́, Мічко́ў*. Укр. у XIV ст. *Мичко* (Туп.)

*МІЧУК.— *Мічуко́ў*

*МІЧУРА.— *Мічурэ́нка*. У Туп. у XV—XVII стст. СРП *Мичурин*

МЛЕКА, памянш. МЛЕЧКА польск. *mleko* 'малако'.— *Млечка.* Укр. у XV ст., на Падляшшы і ў Літве ў XVI ст. *Млечко* (Туп.). СРП *?Млечин*

*МЛЁВА.— *Млёва*

МЛЫН, памянш. МЛЫНОК.— *Млынóк; Млынкóўскі*

МНІШКА рэг. 'манашка' (Нас.), укр. *мнишки* 'ляпёшкі з сыру і мукі, сырнікі' (Грынч.).—*Мнішка, Мнішкó* з пераносам націску

МОЖАР гл. МАЖАР

*МОКАТ.—*Мóкат.* Каз. УІ *Макат* (Жануз.)

МОКЛЫ, памянш. МАКЛЕЦ.— *Мóклы; Макляцóў.* Параўн. МАКЛА

*МОКРУСЬ.— *Мóкрусеў*

МОКРЫ.— *Мóкры, Макрóў, Мóкраў; Макрыцкі, Макрэцкі.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Мокрой, Мокры* (Туп., БА, І, 236)

*МОЛАК.— *Мóлакаў.* СРП *Молоков*

МОЛАТ.— *Мóлат.* СРП *Молотов*

МОЛАХ.— *Мóлахаў.* СРП *Молохов*

МОЛАЧ укр. *молоч* назва расліны (Грынч.).— *Малачóў*

*МОЛІС.— *Мóліс*

МОЛЧАН гл. МАЎЧАН

МОЛЬ, памянш. МОЛІК.— *Мóлікаў.* СРП *Молин, ?Молин, Моликов*

МОМАНТ.— *Мóмант*

МОМАТ, МАМАТ, памянш. МАМОТКА, МАМОЦЬКА ст. рус. *момот* 'заіка, гугнявы', *мом* 'паднябенне' (Ср.), 'заіка', 'марматун', *момати* 'невыразна гаварыць, мармытаць' (Грынч.).— *Мамáт; Мамацюк; Мамóтка; Мамóцька.* Укр. у XVII ст. *Момот* (Туп.). СРП *Момотов*

МОМАЧ.— *Мамачóў.* Параўн. МОМАТ

*МОНАС.— *Мóнасаў*

*МОНІД.— *Мóнід*

*МОНТ, памянш. МОНЦІК.— *Монт; Мантýк; Мóнцік; ?Мóнчык.* Параўн. каз. УІ *Мантай* (Жануз.)

*МОНЧАК гл. *МАНЧАК

МОНЯ рус. 'чэрава, пуза, бруха', дзіцяч. 'малако' (Даль), укр. дзіцяч. 'малако' (Грынч.), параўн. рэг. *мо-ніць* 'клікаць, заклікаць' (Бяльк.).— *Мóнін, Мóніч; Мóнскі*

МОР.— *Мóраў.* СРП *Морев*

*МОРАХ, памянш. МАРОШАК, МАРАХОНЬКА.— *Марóшак, Марахóнька.* Туп. у XV ст. *Морох.* СРП *?Морохин, ?Морошкин*

МОРГА.— *Маргéвіч, Маргóвіч.* Параўн. МАРГУН

МОРДА.— *Мóрда, Мардóвіч, Мардзёнак; Мардзíла, Мардзілóвіч; Мардáшка, Мардáшкін*

МОРДАС гл. МАРДАС

*МОРЖ(А).— *Мóржыц*

МОРЗА параўн. рэг. *морзаць, морзнуць* 'шморгаць носам' (Нас.).— *Мóрза, Марзá* з пераносам націску

*МОРТУС.— *Мóртус*

МОРХ, памянш. МАРХОНЬКА ст. рус. *морх* 'ворс на тканіне' (Ср.)— *Мархóнька.* Туп. у XV ст. *Морх*

*МОРЧЫК.— *Мóрчык*

МОРШЧ ад *моршчыць.*—*Маршчэ́нка.* СРП *Морщиков*

*МОСКА.— *Маскéвіч.* СРП *Москович, Московенко*

МОСТ.— *Мастóвіч; Мастóўскі, ?Масціцкі.* Бел. у XVIII ст. *Мосток* (БА, I, 237). СРП *Мостович, Мостицкий, Мостинский*

МОСТЭК польск. *mostek* 'мосцік, масток'.— *Мóстэк*

МОСЬКА рус. 'мопс' (Даль).— *Мóськін*

*МОСЯР.— *Мóсяр*

МОТ 'марнатраўца'.— *Матóвіч*

МОТАЛЬ, памянш. МАТОЛЬКА 'марнатраўца'? — *Мóталь; Матóлька*

*МОТУЖ.— *Мóтуж*

МОТУЗ гл. МАТУЗ

МОЎКА, памянш. МОЎЧЫК 'гаварун'?—*Моўка; Моўчык, Мóўчыкаў*

МОЎЛЯ параўн. *нямоўля* 'дзяця, якое яшчэ не гаворыць'.—*Мóўля.* Бел. у XVIII ст. *Мовля.* СРП *Мовлев*

МОЎЧАН гл. МАЎЧАН

МОХ.— *Мóхін; Машýк; Машы́нскі, Машы́цкі, Машэ́ўскі.* Бел. у XVII ст. *Мох* (Туп.). СРП *Мохов, Мохин, Мошинский*

МОХАНЬ гл. МАХАНЬ

МОХАР гл. МАХОР

*МОХАРТ, *МАХОРТ.— *Мóхарт, Махóрт.* СРП *Мохортов.* Параўн. МУХАРТ

*МОЦЬКАЛА.— *Мóцькала*

МОШКА.— *Мóшка.* Параўн. бел. у XVIII ст. *Мошко* (БА, I, 237). СРП *Мошкин*

МРАК рус. 'змрок, цемната' (Даль).— *Мрáкаў*

МРОК, памянш. МРОЧАК рэг. 'змрок, цемната' (Нас.).— *Мро́чак.* Бел. у XVII ст., укр. у XV—XVII стст. *Мрочек* (Туп.). СРП *Мрочков*

МРУКАЛА параўн. укр. *мрук* 'буркун, бурклівы чалавек', *мрука* 'мурлыка' (Грынч.).— *Мру́кала*

*МРЫХА.— *Мры́хін*

*МУГА, *МУГАКА.— *Му́га, Муга́ка*

МУДЗЕЛЬ.— *Мудзе́ль*

МУДРАГЕЛЬ.— *Мудраге́ль*

МУДРАК укр. 'кемлівы, здатны, разумны чалавек, мудрагель' (Грынч.).— *Мудрако́ў*

МУДРЫ.— *Му́дры; Мудрэ́ўскі.* СРП *Мудров*

МУДРЫК укр. *мудрык* 'кемлівы, здатны, разумны чалавек, мудрагель' (Грынч.), параўн. рэг. *мудрыкі* 'хітрыкі, хітрасць' (Юрч.).—*Му́дрык*

МУЖ.— *Му́жаў, Мужэ́нка*

МУЖЧЫНСКІ.— *Мужчы́нскі*

МУЖЫК.— *Мужы́к, Мужыко́ў*

*МУЖЭЙКА.— *Мужэ́йка*

МУЗЫКА, памянш. МУЗЫЧКА 'музыкант'.— *Музы́ка, Музычэ́нка; Музы́чка, Музы́чкін.* Бел. у XVIII ст. *Музыка* (БА, I, 237). Рус. у XVII ст. *Музыка* (Туп.). СРП *Музыкин, Музыченко, Музычкин*

МУЗЫКАНТ.— *Музыка́нт, Музыка́нтаў.* СРП *Музыкантов*

МУЗЫКАР 'музыкант'?— *Музыкарэ́нка*

*МУЙВІД.— *Му́йвід*

МУКАВОЗ, памянш. МУКАВОЗЧЫК.— *Мукаво́зчык.* Рус. у XVI—XVII стст. *Муковоз* (Туп.)

МУКАМОЛ.— *Мукамо́л, Мукамо́лаў.* СРП *Мукомолов*

МУКАСЕЙ.— *Мукасе́й.* Бел. у XVI ст. *Мукосей*, укр. у XV ст. *Мукосей* (Туп.). СРП *Мукасеев*

*МУКЕЛЬ.— *Муке́ль*

*МУЛІМА.— *Муліме́нка*

*МУЛІЦА.— *Му́ліца*

МУЛЬ, МУЛЯ, памянш. МУЛЬКА рус. *муль* 'мута, мутная вада' (Даль).— *Муль, Муле́нка, Мулянко́ў; Мулю́к; Мульке́віч.* СРП *Мулин, Мулькин*

МУЛЬКА рус. 'мазоль', 'малёк, маляўка' (Даль), укр. 'дробная рыба' (Грынч.), параўн. бел. *муляць.*—*Мульке́віч.* СРП *Мулькин*

МУЛЬТАН.— *Мульта́н.* СРП *Мультанов*

МУЛЬЦ.— *Мульц*

МУЛЯР, памянш. МУЛЯРЧЫК, МУЛЯРОК.— *Му́ляр, Мулярóў, Мулярэ́нка; Му́лярчык; Мулярчу́к.* Бел. у XVII ст. *Муляр* (БА, I, 237). СРП *Мулярчик*

МУНДЗІР.— *Мундзярóў* пры [і]>[я]

*МУНДЗЯЛА.— *Мундзя́ла*

*МУНДУЦЬ.— *Му́ндуць*

МУРА, памянш. МУРОЧАК рус. смал. *мура* ежа 'хлеб з вадой і алей' (Дабр.).— *Муры́н, Мурэ́нка, Муранкóў; Мурóчак*

МУРАВЕЙ, памянш. МУРАВЕЙКА.— *Муравéй, Мураўёў; Муравéйка.* У Туп. у XV—XVI стст. *Муравей.* СРП *Муравей, Муравьёв*

МУРАЛ ст. бел. 'муляр' (Нас., АУ).— *Мура́лаў.* Чув. УІ *Мурал* (Магн.). СРП *Муралов*

МУРАЛЬ рэг. 'муляр' (Нас.).— *Мура́ль, Муралéвіч.* Бел. у XVII ст. *Мураль* (БА, I, 238)

МУРАТ кірг. 'мэта, жаданне' (КРС).— *Мура́т, Мура́таў.* Чув., каз., тат., башк. УІ *Мурат* (Магн., Жануз., СЛІ, 74, 164). Рус. у XVI—XVII стст. *Мурат, Муратец* (Туп.). СРП *Муратов*

МУРАЧ 'муляр'?— *Мура́ч.* Бел. у XVIII ст. *Мурач* (БА, I, 238). СРП *Мурачёв*

МУРАШ 'мурашка'?— *Мурашóў.* Рус. у XVII ст. *Мураш* (Туп.). СРП *Мурашев, Мурашин, Мурашов*

МУРАШКА.— *Мура́шка, Мура́шкаў, Мурашкóў, Мура́шкін, Мурашкéвіч.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Мурашка. Мурашко* (БА, I, 237; Туп.). Укр. у XVII ст. *Мурашко* (Туп.). СРП *Мурашко, Мурашкин*

МУРГА, МУРГО параўн. рус. *мургать* 'моргаць' (Даль), укр. *мурга* 'мера паверхні ў тры маргі', *мургій* 'вол амаль чорнай масці' (Грынч.).— *Мургá, Мургó*

МУРЗА, памянш. МУРЗІК 'мурзаты, запэцканы чалавек' (БРС), магчыма, цюрк. *мурза,* рус. смал. 'запэцканае дзіця' (Дабр.).— *Му́рза, Му́рзін, Му́рзіч; Мурзó* з пераносам націску; *Мурзóўскі.* Чув. УІ *Мурза, Мурзик* (Магн.). Бел. у XVII ст. *Мурза* (БА, I, 232). Рус. у XV—XVII стст. *Мурза, Мурзишко* (Туп.). СРП *Мурзин*

МУРМАНЕЦ.— *Му́рманец*

МУРОГ.— *Мурóг*

МУС, памянш. МУСІК, МУСЬКО ст. бел. 'прымус' (Нас., АУ), рэг. тое ж, карт. 'абавязковы ўдзел у гульні' (Нас.), укр. 'прымус' (Грынч.).—*Мусéвіч, Мусіéвіч, Му-*

*сіёнка; Мýсік; Муськó; Мýскі.* Чув. УІ *Муса* (Магн.). Каз. УІ *Муса* (Жануз.). СРП *Мусиенко, ?Мусин, Мусиков, Мусинский, Мусинов*

МУСІЯКА.— *Мусія́ка.* Параўн. МУСЬКО

*МУСІЯЛА, памянш. МУСІЯЛКА.— *Мусія́лка*

МУСЬКО 'той, хто мусіць нешта рабіць'?— *Муськó.* Параўн. МУС

*МУСЯК, МУСЬЯК.— *Муся́к; Мусьякóў.* СРП *Мусьяков.* Параўн. МУСЬКО, МУСІЯКА

МУТАР рэг. *мутар* 'труд, клопаты' (Нас.), магчыма, ад *муціць,* г. зн. 'той, хто муціць', ці 'прылада, якою муцяць'— *Мутáр*

МУХА, памянш. МУШКА.— *Мýха, Мýхін; Мушýк; Мýшка, Мýшкін; Мушы́нскі, Мухавéцкі, ?Мушчы́нскі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Муха* (БА, І, 238; Туп.). Рус. у XVI—XVII стст. *Муха* (Туп.). СРП *Мухин, Мушенков, Мушкин, Мушинский*

МУХАРТ рус. *мухорт* 'несамавіты, нязграбны, непрыгожы чалавек' (Мельн.), параўн. рус. *мухорный* (аб кані) 'гняды з жаўтаватымі падпалінамі', (аб чалавеку) 'слабы, худы, маларослы' (Даль).— *Мýхарт, Мýхартаў*

МУХЛЯ параўн. рус. *мухлевать* 'махляваць, ашукваць, круціць' (Даль).— *Мýхля*

*МУХЛЯДА.— *Мухля́да*

*МУЦ.— *Муц*

*МУША, памянш. МУШКА.— *Мýша; Мушýк, Мýшка, Мýшкін*

МУШКАТ рэг. 'назва пакаёвай кветкі, вазона'.— *Мушкáт*

*МУШНЫ.— *Мушéнка*

МУШТУК.— *Муштукóў*

МШАР параўн. рэг. *мшара* 'балотнае месца, пакрытае мохам, купінамі' (Нас.), бел. *імшара* тое ж (БРС).— *Мшар*

*МЫЗЕНЬ.— *Мызнёў*

*МЫЗНІК.— *Мы́знікаў.* СРП *Мызников*

МЫЛА.— *Мы́ла, Мы́лаў.* У Туп. у XVI ст. *Мыло, Мылко* (Туп.)

МЫСЛЕЙКА ад *мысліць,* г. зн. 'той, хто думае' ці памянш. ад МЫСЛІВЫ (гл.).— *Мыслéйка*

МЫСЛІВЕЦ ст. бел. рэг. 'паляўнічы з гончымі сабакамі' (Нас., АУ; Нас.), укр. *мисливець* 'паляўнічы', 'аматар, любіцель', 'разумнік' (Грынч.).— *Мыслíвéц, Мысля-*

*вéц* пры [і]>[я]. Бел. у XVI—XVII стст. *Мысливец* (БА, I, 238; Туп.). Укр. у XVI ст. *Мысливец* (Туп.)

МЫСЛІВЫ, памянш. МЫСЛІЎЧЫК 'паляўнічы, егер'.— *Мыслíўчык*

*МЫСЬКО.— *Мыськó*

МЫТНІК ст. бел. 'зборшчык таможнай пошліны, таможнік' (Нас., АУ), рус., укр. *мытник* 'зборшчык таможнай пошліны' (Даль, Грынч.).— *Мы́тнік*

*МЫЦ.— *Мыц*

*МЫЦЬКО.— *Мыцько*

МЫЧКА бел. рэг. 'скручаная жменя льновалакна' (Юрч., Бяльк.), 'трава сівец' (Бяльк.), укр. *мичка* 'звязак ільну ці пянькі', 'пасма валасоў' (Грынч.).— *Мы́чка, Мычкó* з пераносам націску, *Мычкóў*. Бел. у XVIII ст. *Мычко, Мычка* (БА, I, 238)

МЫШ, памянш. МЫШКА, МЫШЧЫК.— *Мы́шка, Мышкó* з пераносам націску; *Мышýк; Мы́шчык, Мышкóўскі*. Бел. у XVI ст. *Мышка,* укр. у XVI—XVII стст. *Мыш, Мышка, Мышко* (Туп.). СРП *Мыш, Мышев, Мышенков, Мышко, Мышков, Мышкин, Мышковский*

*МЫШАЛ(А).— *Мышáлаў,* магчыма, ад МЫШАЛОЎ

МЫШАЛОЎ.— *Мышалóў*

МЫШАПУД.— *Мышапýд*

МЫШКАВЕЦ. з в. Мышкі, Мышкова.— *Мышкавéц*

*МЫШЛЕН.— *Мышлéн, Мышлён*

МЭНДАЛЬ параўн. бел. *мэндлік.— Мэ́ндаль.* СРП *Мендель, Менделев, Менделевич*

*МЯГЕЛЬ.— *Мя́гель*

МЯДЗВЕДЗЬ, памянш. МЯДЗВЕДЗІК.— *Мядзвéдзь, Мядзвéдзеў, Медзвядзёў; Медзвядзю́к; Мядзвéдзік; Мядзвéдзкі, Мядзвéдскі, Мядзвéцкі*. Бел. у XVI—XVII стст. *Медведь, Медведко* (БА, I, 234; Туп.), Рус., укр. у XVI—XVII стст. *Медведь, Медведко* (Туп.). СРП *Медведь, Медведев, Медведенко, Медведов, Медведкин, Медведовский, Медведский*

МЯДЗВЕДНІК.— *Мядзвéднік*

*МЯДЗЕЙША.— *Мядзéйша*

*МЯДЗЕЛ, памянш. МЯДЗЕЛКА.— *Мя́дзел, Мя́дзель; Мя́дзелка*

МЯДЗЕЛЕЦ з н. п. Мядзель. — *Мя́дзелец*. Бел. у XVIII ст. *Мяделец*

*МЯДЗЕЯ.— *Мядзéя*

*МЯДЗЮТА.— *Мядзю́та*
*МЯДЗЮХА, памянш. МЯДЗЮШКА.— *Мядзю́ха; Мядзю́шка*
МЯДЗЯК.— *Медзяко́ў*
*МЯДЭЙША.— *Мядэ́йша*
МЯЖА.— *Мяжэ́віч, Мяжэ́ня, Мяжэ́нін.* СРП *Межин, ?Межов*
МЯЖЭННЫ рус. *меженный* 'зроблены ў добрую пагоду' (Даль, Дабр.), бел. рэг. *мяжэнінны* тое ж (Нас.).— *Мяжэ́нны.* СРП *Меженный.* Параўн. МЯЖЭНЬ
МЯЖЭНЬ параўн. бел. *мяжэніна* 'гарачая пара ў сярэдзіне лета' (Нас.), рус. смал. *межань* 'летні час, час сенакосу', *меженина* 'самы гарачы час летам' (Дабр.), укр. *межінь лета* 'сярэдзіна лета' (Грынч.).— *Мяжэнін.* Параўн. каз. УІ *Мяжень* (Жануз.)
МЯЗГІР гл. МІЗГІР
*МЯКЕКА.— *Мяке́ка*
МЯКІНА, памянш. МЯКІНЧЫК.— *Мякі́нчык*
МЯКІННІК рэг. зневаж. 'бядняк, той, хто есць мякіну' (Нас.), рус. *мякинник* 'месца, дзе ссыпаюць мякіну', 'той, хто есць мякіну' (Даль).— *Мякі́ннік.* СРП *Мякинник*
МЯКІШ.— *Мя́кіш.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Мякиш* (БА, І, 238). У Туп. у XVI ст. *Мякиш.* СРП *Мякишев*
МЯККІ, памянш. МЯКЕНЬКІ.— *Мя́ккі; Мя́кенькі.* Рус. у XV—XVII стст., укр. у XVI ст. *Мягкой* (Туп.). СРП *Мягкий, Мягков, Мягченко*
МЯКОТА 'мякаць, мяккая частка чаго-небудзь'?— *Мяко́та.* Бел. у XVIII ст. *Мякота* (БА, І, 238). У Туп. у XV ст. *Мякота.* СРП *Мякотин*
МЯКШУН 'той, хто робіць што-небудзь мяккім'?— *Мякшу́н*
МЯКШЫЛА.— *Мякшы́ла.* Параўн. МЯКШУН
МЯЛА.— *Мя́ла; Мялю́к*
*МЯЛЬГУЙ.— *Мяльгу́й*
МЯНЁК.— *Мянёк, Мянько́ў, ?Ме́нчыц, Мянько́віч, Мяньчэ́ня; Мянько́ўскі, Мяне́цкі.* СРП *Меньков*
МЯНТА рэг. 'мянташка'.— *Мянцю́к*
*МЯНЮТА, памянш. МЯНЮТКА.— *Мяню́тка*
МЯНЯЙЛА 'той, хто мяняе'?— *Міня́йла* пры [е]>[і]
*МЯРКО.— *Мярко́*
МЯРЛО рэг. 'непаседлівы чалавек', 'пражора' (Чавус.— В. Л.).— *Мярло́.* СРП *Мерлин*

*МЯРЭКА, памянш. МЯРЭЧКА.— *Мярэ́чка.*

МЯСАЕД.— *Мясае́даў.* Бел. у XVII ст. *Месоед* (БА, I, 238). Рус. у XVI—XVII стст. *Мясоед* (Туп.). СРП *Мясоедов*

МЯСНІК.— *Мясні́к, Мяснiко́ў, Мяснiко́віч.* Бел. у XVI ст. *Месник* (БА, I, 238). Рус. у XVII ст. *Мясник* (Туп.). СРП *Мясников, Мясницкий*

МЯСНЫ.— *Мясно́ў.* Рус. у XVI—XVII стст. *Мясной* (Туп.). СРП *Мяснов*

МЯТЛА.— *Мятла́, Мятло́ў, Мятлёнак; Мятлю́к; ?Мятлі́цкі.* Бел. у XVIII ст. *Мятла* (БА, I, 235). У Туп. у XVII ст. *Метла, Метелка.* СРП *Метлин, Метлов, Метлицкий*

МЯТЛУШКА.— *Мятлу́шка*

МЯТЛЮК рэг. 'мятліца' (КСЧ).— *Мятлю́к*

*МЯТНІК.— *Мя́тнікаў*

МЯХЕД, МЯХЕДА, памянш. МЯХЕДКА, МЯХЕДЗЬКА рэг. 'непаваротлівы чалавек, таўсцяк' (Нас.).— *Мяхе́д, Мяхе́да; Мяхе́дка; Мяхе́дзькін; Міхе́д* пры [я]>[і] *Міхе́дзенка*

МЯЦЕЛІЦА.— *Мяце́ліца.* СРП *Метелицын*

МЯЦЕЛЬ рэг. 'мяцеліца'.— *Мяце́лін; Мяце́льскі.* СРП *Метельков*

МЯЦЁЛКА.— *Мяцёлка, Мяцёлкін.* СРП *Метёлкин*

*МЯЦЮЛЬ.— *Мяцю́ль*

*МЯЧКО.— *Мячко́ў; Мячко́ўскі.* СРП *Мячков*

МЯЧЫК.— *Мя́чыкаў.* СРП *Мячиков*

МЯШАЛКА рэг. 'мешалка' (Чавус.— В. Л.).— *Мяша́лкін.* СРП *Мешалкин*

МЯШОК, памянш. МЯШЭЧАК.— *Мяшо́к, Мяшко́ў, Мяшке́віч, Мяшчэ́ня; Мяшэ́чак; Мяшко́ўскі.* Бел. у XVIII ст. *Мяшок* (БА, I, 235). Рус. у XV—XVII стст. *Мешок* (Туп.). СРП *Мешков, Мешковский*

МЯШЧАН.— *Мяшча́наў. Мешчанчу́к.* Рус. у XVI—XVII стст. *Мещанин* (Туп.). СРП *Мещанинов, Мещанчиков, Мещанский*

НАБЕДА.—*На́беда*

НАБЕЖКА параўн. укр. *набіжка* 'прыбытак, барыш' (Грынч.).— *Набе́шка* пры [ж]>[ш]

НАБЗДАР назва асобы па дзеянню, выражанаму коранем *бзд,* параўн. таксама рус. *набздавать пару* 'наддаваць пары ў бані' (Даль).— *Набзда́раў*

НАБОЙШЧЫК.— *Набойшчык*

НАБОКІ рус. *набокий* 'крывабокі, касабокі, нахілены на адзін бок' (Даль). — *Набокі, Набок, Набокаў, Набокін.* СРП *Набоков*

*НАВАГРАН.— *Навагран*

НАВАДВОРАЦ з в. Новы Двор.— *Навадворац*

НАВАЖЫЛ 'новы жылец, перасяленец з другой мясцовасці'.— *Наважылаў.* Рус. у XVII ст. *Новожил* (Туп.). СРП *Новожилов*

НАВАК, НОВАК 'новы чалавек у сяле', 'новы член сям'і', укр. *новак* 'навічок', (аб месяцы) 'маладзік' (Грынч.).— *Навак, Новак; Наваковускі, Навацкі.* Бел. у XVII ст. *Новак* (БА, I, 240; Туп.). Укр. у XVI—XVII стст. *Новак* (Туп.). СРП *Новаков, Новаковский, Новацкий*

*НАВАКАС.— *Навакас*

НАВАЛОЧКА 'навалачка'?— *Навалочка*

НАВАРА, памянш. НАВАРКА рэг. 'навар' (БРС).— *Навара, Наварыч; Наварка.* Бел. у XVII ст. *Навара* (Туп.)

НАВАСАД 'новы пасяленец, перасяленец з другой мясцовасці'?— *Навасад.* СРП *Новосадов, Новосадский*

НАВАСЁЛ.— *Навасёл, Навасёлаў; ?Навасельскі.* СРП *Новоселов, Новосельский*

НАВАХРОСТ параўн. бел. *навакшчэнец* 'новаахрышчаны, той, хто прыняў хрышчэнне дарослым' (Нас.), рус. *новокрещенец, новокрещен* тое ж (Даль), укр. *новохрещенець* тое ж (Грынч.). — *Навахрост, Новахрост*

НАВАШ гл. НОВАШ

НАВЕЦ 'новы чалавек у сяле, новы член сям'і'?— *Наўцэвіч, Наўцэня; ?Наўчук*

НАВІК, НОВІК, памянш. НАВІЧОК рэг. 'новы чалавек у сяле', 'новы член сям'і', рус. *новик* 'усё новае, свежае' (Даль), укр. *новик* (аб месяцы) 'маладзік' (Грынч.).— *Навік, Новік, Новікаў, Навічэнка, Навічонак; Навічук; Навічок, Навічкоў; Навіцкі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Новик* (БА, I, 240; Туп.), рус. у XV—XVII стст. *Новик, Новичок* (Туп.). СРП *Новик, Новиков, Новичков, Новицкий*

НАВОЗ рэг. 'гной'. – *Навозаў, Навозенка*

НАВОЙ, памянш. НАВОЙЧЫК.— *Навой, Навоенка, Наваенка; Навойчык; Наваеўскі*

НАВЫШНЫ 'хто жыве на высокім месцы'? параўн. НАГОРНЫ.—*Навышны*

НАГА, памянш. НОЖКА.— *Нóжка, Нажкó* з пераносам націску. Бел. у XVI ст. *Нога* (БА, І, 240), *Ножка* (Туп.). Рус. у XV—XVI стст. *Нога* (Туп.). СРП *Ногин, ?Ногинов, Ножкин*

НАГАР.— *Нагáр.* СРП *Нагаров*

НАГІБА ад рэг. *нагібаць* 'нагінаць', г. зн. 'той, хто нагінае што-небудзь ці сам нагінаецца'?, магчыма, 'той, каго знайшлі, знаходка', параўн. укр. *нагибати* 'знайсці', *нагибка* 'знаходка' (Грынч.).— *Нагібóвіч.* Рус. у XV—XVII стст. *Нагиба* (Туп.). СРП *Нагибин*

НАГЛЫ ст. бел. *наглый* 'нечаканы, раптоўны, неадкладны' (Нас., АУ), рэг. тое ж (КСЧ) з польск. *nagły* тое ж.— *Нáглы.* Бел. у XVI ст. *Наглый* (БА, І, 238)

НАГОРНЫ.— *Нагóрны, Нагурны* пры [о]>[у]. Укр. у XVII ст. *Нагорной* (Туп.). СРП *Нагорный, Нагорнов, Нагурный*

НАГОТКА бат. 'наготкі'.— *Нагóтка*

*НАГУЙ.— *Нагýй*

НАГУЛА рэг. 'гуляка, гультай' (Нас.), магчыма, 'тое, што здабыта нагулам, адкормам: сытасць, тлустасць, паўната', 'тое, што здабыта гульбою: няшлюбнае дзіця', параўн. рус. *нагулок, нагулыш* тое ж (Даль).— *Нагýла, Нагулéвіч*

НАГУЛЬ 'які мае доўгія ногі'?— *Нагýль.* Параўн. таксама НАГУЛА

НАДА 'прынада'?— *Нáдаў.* Параўн. НЯНАДА

НАДАБА, памянш. НАДОБКА рус., укр. 'патрэба, неабходнасць' (Даль, Грынч.), параўн. бел. рэг. *надабе* 'трэба, патрэбна' (Нас.).— *Надóбка*

НАДЗЕЙ 'надзейны'?— *Надзéй.* Бел., рус. у XVII ст. *Надей* (Туп.)

НАДЗЕЙНЫ.— *Надзéйны*

НАДЗЕЖДА, НАДЗЁЖА, памянш. НАДЗЕЖКА, НАДЗЁЖКА рус. 'надзея, спадзяванне' (Даль).— *Надзéжка, Надзёжка.* Рус. у XVII ст. *Надзежа* (Туп.). СРП *Надеждин*

НАДЗЕЯ, памянш. НАДЗЕЙКА.— *Надзéйка.* Рус. у XVII ст. *Надейко* (Туп.). СРП *Надеин*

НАДТАЧАЙ, НАДТАЧЭЙ параўн. бел. *надтачыць* 'падоўжыць што-небудзь, зрабіць даўжэйшым'.— *Надтачáеў, Надтачэ́еў.* СРП *Надточеев*

НАДУДА, памянш. НАДУДЗІК 'той, хто надзімае губы, крыўдзіцца', параўн. бел. *надудурываць* (аб адзен-

ні) 'адтапырваць, натапырваць', 'надзімаць губы' (Нас.).— *Надўдзік*

НАДУЙ ад *надуваць* 'абманваць'?— *Надуёў*

*НАДУНЬКА.— *Надўнька*

НАЖКО гл. НАГА

НАЗДРА рэг. 'ноздра'.— *Наздрын*. Рус. у XV—XVI стст. *Ноздря* (Туп.). СРП *Ноздрин, Ноздрёв*

НАЗДРАЧ ад *ноздры*.— *Наздрачоў*. СРП *Ноздрячёв*

НАЙБА.— *Найба*

*НАЙБАРТ.— *Найбарт*

НАЙДА рэг. 'непаседа, назола' (Бяльк.), 'знайдыш' (Дзярж.— М. Б.), укр. 'знайдыш' (Грынч.); данск. 'знайдзенае', 'незаконнанароджаны' (Мірт.).— *Найда, Найдовіч, Найдзіч, Найдзенка, Найдзёнак; Найдзюк*. Укр. у XVII ст. *Найда, Найдзюшка* (Туп.). СРП *Найдин, Найденко, Найденков*. Параўн. НАЙДЗЁН

НАЙДЗЁН, памянш. НАЙДЗЁНІК рус. смал. *найдён* 'падкідыш' (Дабр.), параўн. бел. *знайдзён* 'знайдыш'.— *Найдзён; Найдзёнаў; Найдзен, Найдзіён; ?Найдзёнак; Найдзёнік*. Бел. у XVI—XVIII стст. *Найден* (Туп., БА, I, 239). Рус. у XV—XVII стст. *Найден, Найденко*, укр. у XVI ст. *Найден* (Туп.). СРП *Найдёнов*. Параўн. НАЙДА

НАЙМА ад *наймаць*, г. зн. 'наняты, той, каго нанялі'?— *Наймовіч*

НАКАНЕЧНІК 'той, хто жыве на канцы сяла, вуліцы'?— *Наканечнік, Наканечнікаў*

НАКАНЕЧНЫ.— *Наканечны*. Параўн. НАКАНЕЧНІК

НАКВАС рус. *наквас* 'плесень, цвіль', *накваса* 'закваска, кіслае цеста' (Даль).— *Наквас*

НАКЛАД рэг. 'нявыгада, лішні расход' (КСЧ).— *Накладовіч*

НАЛЕГА ад *налягаць*?— *Налєговіч*. Параўн. НАЛЯГАЧ

НАЛЕЙКА.— *Налейка*. Параўн. НАЛІВАЙКА

*НАЛЕТКА.— *Налетка*

НАЛЕТ.— *Налётаў*. СРП *Налётов*

НАЛІВАЙКА укр. *наливайко* 'налівальшчык, той, хто налівае' (Грынч.).— *Налівайка*. Бел. у XVII ст., укр. у XVI—XVII стст. *Наливайко* (Туп.). СРП *Наливайко*

НАЛІВАШКА.— *Наліва́шка*

НАЛІЎКА.— *Наліўка*. СРП *Наливкин*

НАЛОЙ рус., укр. 'аналой' (Даль, Грынч.), параўн. бел. *налоец* 'аналой' (Нас.).— *Налóеў*. СРП *Налоев*

НАЛЯГАЧ ад *налягаць*, г. зн. 'той, хто налягае'— *Налягáч*. Укр. у XVI ст. *Налегач* (Туп.). Параўн. НАЛЕГА

*НАМЕЙКА.— *Намéйка*

НАМОЧАНЫ.— *Намóчанка*

НАПОРКА.— *Напóрка*

НАРА, памянш. НОРКА.— *Нарýк; Нóрка, Наркéвіч; Нарчýк*

НАРАВЕЦ з в. Нарова. *Наравéц*.

*НАРАЛА.— *Нарал́енка*

НАРБУТ ст. літ. складанае імя *Norbutas* (Атр., II, 14).— *Нáрбут, Нарбутóвіч*

НАРВІШ ст. літ. складанае імя *Norváišis*.— *Нáрвіш*

*НАРМІЛА.— *Нармíлаў*

*НАРОН.— *Наранóвіч*

НАРУБА.— *Нарýбін*

*НАРУТА.— *Нáрут*

*НАРУЦЬ.— *Нáруць*

*НАРУШ.— *Нáруш, Нарушэ́віч*. Бел. у XVI ст. *Наруш* (БА, I, 239)

*НАРЫШКА.— *Нарышкін*. СРП *Нарышкин*

*НАРЭЙКА.— *Нарэ́йка*

*НАРЭКА.— *Нарэ́ка*

*НАРЭЛЬ.— *Нарэ́ль*

НАСАДА.— *Насадóвіч*

НАСАЛЬ, НОСАЛЬ 'насаты, насач'.— *Насáль, Нóсаль, Насалéвіч*. У Туп. у XVI ст. *Носаль*

НАСЕДКА 'квактуха'.— *Насéдкін*. СРП *Наседка, Наседкин*

НАСЕКА 'зарубка'.— *Насéка*

НАСЕННІК.— *Насéннік*

НАСКАВЕЦ з в. Наскі, Наскова. — *Наскавéц*

НАСКО гл. НОС

НАСТ рэг. 'шарон'.— *Насцéнка*, магчыма, ад УІ *Наста*<*Анастасия*

НАСТОЙ.— *Настóй*

НАСУРА, памянш. ад *нос?*— *Насýра*

НАСУТА, памянш. ад *нос?*— *Насýта*

НАСЫР, НОСЫР.— *Насыр; Нóсыраў*. Тат. УІ *Насыр* (СЛІ, 165). СРП *Носырев*. Параўн. НАСАЛЬ

НАСЫТКА, памянш. ад *нос?*— *Насытка*

НАСЯКАЙЛА 'той, хто насякае'.— *Насякайла*

НАТЫКАНЕЦ з в. Натыканы.— *Натыканец*

*НАЎНЫКА.— *Наўныка*

НАЎРОЗ ст. бел. *навруз* 'мужчынскі галаўны ўбор' (Ср.).— *Наўрозаў*. Башк. УІ *Навруз* (СЛІ, 74)

*НАЎРОТ.— *Наўрот; Наўроцкі*

*НАХАЙ.— *Нахай, Нахаеў*. СРП *Нахаев*

*НАХВАТ.— *Нахват*

*НАЦІРУХА.— *Націруха*

НАЧАЛА рэг. і рус. *начало* 'пачатак'.— *Началаў*

НАЧЫНА.— *Начына*. Рус. у XVI ст. *Начинка* (Туп.)

*НАШКО.— *Нашко, Нашкевіч*

НЕБАРАК, НЕБАРАКА.— *Небарак, Небарака*

НЕБРА з *не браць*?— *Небрын*

НЕБЫЛІЦА.— *Небыліца*

НЕБЫШ параўн. ст. рус. *небышный* 'неіснуючы, немагчымы' (Ср.).— *Небыш*

НЕБЫШЫНЕЦ з в. Небышы, Небышына.— *Небышынец*

НЕВАР.— *Невар*

НЕВІД 'нябачаны, якога не бачылі'. — *Невідовіч*

НЕГРА рэг. 'негр', магчыма, з *не граць*.— *Негра*. СРП *Негров*

НЕДАБОЙ 'недабіты'.— *Недабой*

НЕДАПЫТАЛА з *не дапытаць, не дапытацца*.— *Недапытала; Недапытальскі*

НЕДАРЭЗ 'недарэзаны'.— *Недарэз, Недарэзаў*. Рус. у XVI ст. *Недорез* (Туп.)

НЕДАТЫКА.— *Недатыкін*

НЕДАЧЫШЧАНЫ.— *Недачышчаны*

НЕДЗЯЛЮЙ 'не аддзелены ад сям'і'?— *Недзялюеў*

НЕЖАВЕЦ з в. Нежава.— *Нежавец*

НЕЖЫВЫ.— *Нежывы, Нежывёнак*

НЕЗАВЕЦ з в. Незава.— *Незавец*

НЕКАЛА 'той, хто часта гаворыць не'.— *Некала*

НЕКРАС рус. *некраса* 'непрыгожы чалавек ці жывёліна' (Даль).— *Някрасаў*. Бел. у XV ст. *Некрас*, рус. вельмі папулярнае ў XV—XVI стст. — *Некрас, Некраско, Некрасец*, укр. у XV—XVI стст. *Некрас* (Туп.). СРП *Некрасов*

НЕКРАШ.— *Некраш, Някраш, Некрашэвіч*. Бел. у XV—XVII стст. *Некраш* (Туп., БА, I, 239). Укр. у XV—XVI стст. *Некраш* (Туп.). Параўн. НЕКРАС

*НЕЛІНДЗЕР.— *Нелі́ндзер*

НЕЛЬГА.— *Не́льга*

НЕЛЮБ, НЯЛЮБ рус. смал. *нелюб* 'нелюбімы, нямілы' (Дабр.), укр. тое ж (Грынч.).— *Не́люб, Ялю́б, Ялю́бін*. Бел. у XVI—XVII стст. *Нелюб* (БА, I, 239; Туп.). Рус. у XV—XVII стст. *Нелюб* (Туп.). У Туп. у XVI—XVII стст. яшчэ *Нелюбец, Нелюбка*. СРП *Нелюбов, Нелюбин*

НЕМАГАЙ 'той, хто не можа'? — *Немага́й*

НЕМЕЦ.— *Не́мец, Не́мцаў, Нямцо́ў, Нямцэвіч, Не́мчанка, Нямчо́нак, Нямчэ́ня*. СРП *Немец, Немцев, Немцов, Немченко*

НЕМКАЛА 'нямы'?— *Немкало́віч*

НЕПАКУПНЫ.— *Непаку́пны*

НЕПАЧАЛА.— *Непачало́віч*

НЕПРАЗВАНЫ.— *Непразва́наў*

*НЕПША параўн. ст. рус. *непыщати* 'сумнявацца', *непыщь* 'повад, зачэпка' (Ср.).— *Не́пша*

НЕРАД.— *Не́рад*. Бел. у XVII ст. *Нерадек*, укр. у XVII ст. *Нерада* (Туп.)

НЕРАТ, памянш. НЕРАТОК.— *Нератко́ў*

НЕРУШ.— *Не́руш*

НЕСКАРОМНЫ.— *Нескаро́мны*

НЕСМЕХ 'той, хто не смяецца'.— *Не́сміх* пры [е]>[і]

НЕЎДАК 'няўдалы', 'няўдачнік'.— *Не́ўдак*

НЕЎДАХ.— *Не́ўдах*. Укр. у XVII ст. *Невдах* (Туп.). Параўн. НЕЎДАК

НЕЎМЫВАНЫ.— *Неўмыва́ны*

НЕЎПАКОЙ ст. бел. *неўпокой* 'неспакой' (Нас., АУ).— *Неўпако́еў*. Рус. у XVI—XVII стст. *Неупокой, Неупокоец, Неупокойко*, укр. у XVII ст. *Неупокой* (Туп.)

НЕХУЖ 'нядрэнны, не горшы'?— *Нехужэ́нка*

НЕЦВЯТАЙ.— *Нецвя́тай*. СРП *Нецветаев*

НЕЦЕЛЬ.— *Не́цель; Няце́льскі*

НЁМАН 'які не маніць?—*Нёманаў* пры [е]>[ё] пад уплывам назвы ракі Нёман? СРП *Неманов*

НІВА.— *Нівіч; Ніўскі*. Рус. у XVI ст. *Нива* (Туп.). СРП *Нивин*

*НІВАН.— *Ні́ван*

*НІГІРЫШ.— *Нігі́рыш*

*НІГУРАЙ.— *Нігура́й*

НІЖ польск. *niz* 'ніз, нізіна'. -— *Ніжэ́віч*

НІЖКО 'нізкі' ці 'ніжні'.— *Ніжко́*

НІЖНІК бел. устар. 'валет' (Нас.).— *Ніжнік, Ніжнікаў*. Бел. у XVII ст. *Нижник* (БА, I, 240)

НІЗАВЕЦ 'хто жыве на нізкім месцы'? ці з в. Нізы, Нізава?—*Нізавец, Нізаўцоў*. Укр. у XVII *Низовец* (Туп.). СРП *Низовцев*

НІЗКІ.—*Нізкі, Нізкіх*. Бел. у XVII ст. *Низкой* (Туп.)

НІЗЮЛЬКА 'нізкі, маленькі'?— *Нізюлька*

НІХТО.— *Ніхтó*

*НІЦАН, памянш. НІЦАНОК. — *Ніцанкóў*. Параўн. НІЦЫ

НІЦЫ, памянш. НІЦКО рэг. 'скрыты, нябачны', 'хітры' (Нас.), укр. *ниций* 'подлы, нізкі' (Грынч.).— *Ніцы; Ніцкó; Ніцыéўскі, Ніціéўскі*

*НІШРЫШ.— *Нішрыш*

*НІШТ, памянш. ?НІШЧЫК.— *Нішт, Нішчанка; Нішчык*

НІШЧЫ, памянш. НІШЧЫК рэг. 'жабрак' (Нас.), рус., укр. *нищий* тое ж (Даль, Грынч.). *Нішчанка; Нішчык*. СРП *Нищев, Нищин*

НІШЧЫМ(А) параўн. *нішчымніца* 'посная яда' (БРС).— *Нішчымéнка*

НОВАК гл. НАВАК

НОВАМІР.— *Новамір*

НОВАШ, 'новы чалавек у сяле, новы член сям'і'?— *Нóваш, Навáш, Навашы́нскі*. Укр. у XVI ст. *Новаша* (Туп.)

НОВІК гл. НАВІК

НОЖКА гл. НАГА

*НОР, памянш. НОРЫК.— *Нор; Нóрык*. СРП *Норов*

НОРКА заал. 'норка', магчыма, памянш. ад *нара*.— *Нóрка*

НОС, памянш. НОСІК, НАСУЛЬКА, НОСКА, НАСКО.— *Нос, Нóсаў, Насéвіч, Насóвіч, Носéнка; Нóсік, Нóсікаў; Насýлька; Нóска, Наскó, Наскéвіч, Наскóвіч*. Бел. у XVII ст. *Носка* (БА, I, 240). Рус. у XVII ст. *Нос, Носок*, укр. у XV—XVII стст. *Нос, Носко, Носка* (Туп.). СРП *Носов, Носович, Носенков, Носков, Носкин, Носкович, Носаль* гл. НАСАЛЬ, *Носовский, Носовицкий*

НОСАР 'насаты, насаль'?— *Нóсар, Нóсыраў* пры [а]>[ы]. СРП *Носарёв, Носарев*

НОСКА гл. НОС

НУЖДА рус. 'беднасць, галеча, нястача'.— *Нуждóў, Нуждзін*. СРП *Нуждин*

НЫРОК.— *Ыркоў*. СРП *Нырков*

НЯБОСЬКА параўн. бел. *нябось* пабочнае слова, выклічнік 'ага' (Нас.).— *Нябоська*

НЯВЕЙКА рус. *невейка* 'нявеенае збожжа з мякінай', 'ссыпная, зборная мука' (Даль).— *Нявейка, Нявейкаў*

НЯВЕНЧАНЫ.— *Нявенчаны*

НЯВЕРА, памянш. НЯВЕРКА, НЯВЕРЧЫК ст. бел. *невера* 'недавер' (Нас., АУ), магчыма, 'той, хто не верыць'.— *Нявера, Нявераў, Невяровіч; Няверка, Невяркевіч, Невярковіч; Няверчык; Невяроўскі*. Рус. у XIV—XVII стст. *Невер, Неверко, Неверец,* укр. у XV ст. *Невер* (Туп.). СРП *Неверов*

НЯГОДА 'нягодны, непрыдатны', ці 'нягодны, злосны'? — *Нягодзін*. СРП *Негодин*

НЯГРЭЙ 'той, хто не грэе'? — *Нягрэй*. СРП *Негреев*

НЯДБАЙЛА, памянш. НЯДБАЙЛІК.— *Нядбайла, Нядбайлаў; Нядбайлік*

НЯДБАЙНІК рэг. 'нядбайла' (КСЧ).— *Нядбайнік*

НЯДБАЛА, НЯДБАЛЬ 'нядбайла'.— *Нядбала, Нядбаль; Нядбальскі*

НЯДЗВЕДЗЬ рэг. 'мядзведзь'.— *Нядзведзь; Нядзведскі, Нядзвецкі, Нядвецкі*

НЯДЗЕЛЯ, памянш. НЯДЗЕЛЬКА.— *Недзялюк; Нядзелька* (Туп.). *Нядзельчанка; Нядзельскі*. Рус. у XVI ст. *Неделя*. СРП *Неделин, Недельский*

НЯЗНАЙ 'той, хто не знае, не ведае', параўн. бел. *нязнайка* (БРС, Нас.).— *Нязнаеў*. Рус. у XVII ст. *Незнай* (Туп.)

НЯЗНАМ 'незнаёмы чалавек'?, параўн. бел. *нязнама* 'невядома' (Нас.), рус. *незнамо* тое ж, *незнам*, незнаёмы чалавек' (Даль).— *Нязнамаў*. СРП *Незнамов*

НЯКРАШ гл. НЕКРАШ

НЯКРОЕНЫ.— *Някроенка*

НЯЛЕЗА 'той, хто не лезе'? — *Нялезеў*

НЯЛЕП, памянш. НЯЛЕПКА 'непрыгожы'? — *Неліповіч* пры [е]>[і], *Нялепка*. Бел. у XVI ст. *Нелеп* (БА, І, 239). У Туп. у XVI ст. *Нелеп*. СРП *Нелепов*

НЯЛЮБ гл. НЕЛЮБ

НЯМАРА 'той, хто не марае, не мараецца'? — *Нямара; Нямарскі*

НЯМЕНЬ 'нямы'.— *Немянёнак*

НЯМЕРА 'той, хто не мерае'? — *Нямера*. Бел. у

XVI ст. *Немера* (БА, І, 239; Туп.). Укр. у XV—XVI стст. *Немера, Немерко* (Туп.)

НЯМІЛЕНЕЦ з в. Нямілы.— *Няміленцаў*

НЯМІРА 'той, хто не можа мірна жыць, задзіра'? — *Няміра; Нямірскі*. Бел. у XV—XVI стст. *Немир, Немира* (Туп., БА, І, 239). Рус. у XVI ст. *Немир*, укр. у XV—XVI стст. *Немира, Немиря, Немирко* (Туп.). СРП *Немиров, Немирович, Немировский*

НЯМКО 'нямы' (БРС), рус. *немко* тое ж (Даль).— *Нямкéвіч, Нямкóвіч, Німкóвіч* пры [е]>[і], *Нямчóнак*. У Туп. у XV ст. *Немко*. СРП *Немков, Немковский*

НЯМЧЫН 'немец'.— *Нямчы́н, Нямчы́наў; Нямчы́нскі*. Рус. у XV—XVI стст. *Немчин* (Туп.). СРП *Немчинов, Немчинский*

НЯМЫ.— *Нéміч*. Бел. у XVIII ст. *Немы* (БА, І, 239). Укр. у XIII—XVII стст. *Немой* (Туп.). СРП *Немов*

НЯМЫЦЬКА рэг. 'той, хто не любіць мыцца' (Нас.). рус. *немытька* тое ж (Даль, Дабр.).— *Нямы́цька, Нямы́цькаў*

НЯНАДАВЕЦ з в. Нянады, Нянадава.— *Нянáдавец*

НЯНАД, памянш. НЯНАДЗІК ад *не нада*, г. зн. 'той, якога бацькі не хацелі'? — *Нянáдзік*. Бел. у XVI ст. *Ненад* (БА, І, 239; Туп.). СРП *?Ненадкевич*

НЯПОМНЯШЧЫ рус. *непомнящий* 'бяспамятны, так называлі бадзяг, якія гаварылі, што не памятаюць радзімы і бацькоў' (Даль).— *Няпóмняшчы*

НЯПРАЎДА.— *Няпрáўда*

НЯПЭЎНЫ.— *Няпэ́ўны*

НЯРАЗ, памянш. НЯРАЗІК 'той, якога нельга стукнуць, паразіць, у якога нельга трапіць'?, параўн. бел. *разіць, паразіць* (Нас.), параўн. таксама рус. *нераз* 'не адзін раз, больш аднаго разу' (Даль).— *Нярáзік*

НЯРОД 'які цяжка радзіўся' ці 'няродны'? — *Нярóд*

НЯРОН ад рон 'раняць'.— *Нярóнаў, Нярóнскі*. Бел. у XVI ст. *Нерон* (БА, І, 239). СРП *Неронов*

НЯСОН 'той, хто не спіць'? — *Нясóн, Нясóнаў*. СРП *Несонов*

*НЯСТА.— *Нясцю́к*

НЯСТРАТ, памянш. НЯСТРАЦІК 'той, якога не страцілі'? — *Нястрáцік*. СРП *Нестратов*

НЯТЫЛ, памянш. НЯТЫЛЬКА параўн. рэг. *атылы* 'поўны' (Нас.), г. зн. 'няпоўны, худы'? — *Нятьі́лька, Нятьі́лькін, Нітьі́лькін* пры [е]>[і]

*НЯЎГЕНЬ.— *Няўге́нь*

НЯЎРУЙ 'той, хто не лжэ, не хлусіць'?, параўн. рус. *врать*.— *Няўру́ей*. Параўн. СРП *Неврев, Невров*

НЯХАЙ, памянш. НЯХАЙЧЫК 'той, хто не ахайвае, не абгаворвае людзей'?, параўн. таксама бел. *няхай* насмешл. 'той, хто любіць адкладваць справу на пасля' (Нас.).— *Няха́й, Няха́йчык*. У Туп. у XVI ст. *Нехай*. СРП *Нехаев*

НЯХЛЕБ.— *Няхле́баў*. Укр. у XVI ст. *Нехлеб* (Туп.)

НЯЦВЕТ.— *Няцве́т*. Параўн. НЕЦВЯТАЙ

НЯЦЕКА, памянш. НЯЦЕЧКА.— *Няце́чка*. Укр. у XVI ст. *Нетечка* (Туп.)

НЯЧАЙ ст. рус. *нечай* 'сумненне, адчай' (Ср.), магчыма, 'той, хто не спадзяваўся, не чакаў' ці 'той, каго не спадзяваліся, не чакалі', параўн. рус. *чаять* 'спадзявацца, чакаць'.— *Нячáй, Нячáеў*. Бел. у XVI—XVIII стст. *Нечай, Ничай* (БА, I, 239; Туп.). Рус. у XV—XVII стст. *Нечай, Нечаец, Нечайко* надзвычай пашыраны, укр. у XVI—XVII стст. *Нечай* (Туп.). СРП *Нечаев. Нечаенко*

НЯЧОСА рус. *нечеса* 'чалавек з узлахмачанымі валасамі, непрычэсаны, неахайны' (Даль), укр. *нечоса* тое ж (Грынч.).— *Нячóса*

ОБАД гл. ВОБАД

ОБУХ гл. АБУХ

ОКАРАК рус. *окорок* 'шынка, кумпяк'. — *Óкаракаў*. Укр. у XVI ст., рус. у XVII ст. *Окорок* (Туп.). СРП *Окороков, Окороченков*

ОКРУГ рус. 'акруга'.— *Óкруг*

ОКУНЬ гл. АКУНЬ

ОМУТНЫ параўн. рус. *омут* 'вір, яма'. — *Óмутных*

*ОРСА, памянш. ОРСІК.— *Óрсіч; Óрсік*

ПАБАЖАК параўн. укр. *побажати* 'пажадаць' (Грынч.).— *Пабажáк*

ПАБЕДА рэг. і рус. 'перамога'.— *Пабе́дзенка; Пабядзінскі*. СРП *Победин, Победов, Побединский*

*ПАБЛАГУЙ.— *Паблагу́еў*

ПАБОЙНЯ рэг. 'даўбешка' (Ветр.—Баханьк.). — *Пабóйнеў*

*ПАБОКА.— *Пабóка*

ПАБОРАЦ, ПАБОРЦА бел. 'зборшчык падаткаў, выбарны' (Нас.), укр. *поборець, побірець* тое ж (Грынч.).— *Пабóрцаў*

ПАБРЫЗГАЙ.— *Пабрызгáеў*

ПАБУДЗЕЙ 'той, хто будзіць'? — *Пабудзéй*

ПАБЯГАЙЛА 'той, хто бегае, непаседа'. — *Пабягáйла*

ПАБЯРЖЫ бел. устар. *побержа, побіржа* 'малады бярэзнік' з літ. *paberže, pabiržiai* тое ж (Вяржб. 568—570), літ. *pabéržis* 'грыб ваўнянка'.— *Пабяржы́*

ПАВА.— *Пáвіч; Павíніч; Павýк*

ПАВАГА.— *Павáга*

ПАВАРОТНЫ 'спрытны, паваротлівы' — *Паварóтны*

ПАВАРЭХА.— *Паварэ́ха*

ПАВАРЭНЬ параўн. ст. рус. *поварня* 'істопка' (Дзюверн.), рус. 'апалонік, вялікая разліўная лыжка' (Даль).— *Паварэ́нь, Паварнёў.* Параўн. СРП *Поварнин*

ПАВАСАР, ПАВАСЕР літ. *pavãsaris* 'вясна'.— *Павáсар, Павáсер*

ПАВЕРАНЫ 'даверaная асоба'.— *Павéраны.* СРП *Поверенный*

ПАВЕТКА.— *Павéтка.* У Туп. у XVI ст. *Певетко.* СРП *Поветкин*

ПАВІДАЙЛА 'той, хто ўсё бачыць, відзіць'? — *Павідáйла*

ПАВУК.— *Павýк.* Ст. рус. у XII ст. *Паук* (Туп.). Бел. у XVII ст. *Паук* (БА, I, 243; Туп.). Рус. у XVI—XVII стст. *Паук* (Туп.)

ПАВУЛЯ.— *Павýля*

ПАВЯДАЙКА.— *Павядáйка.* Параўн. ПАВЯДАЙЛА

ПАВЯДАЙЛА 'той, хто любіць апавядаць, расказчык'? — *Павядáйла, ?Павідáйла* пры [е]>[і]. Параўн. ПАВІДАЙЛА

ПАГАДА параўн. рэг. *пагадлівы, пагадны* 'спагадлівы, памяркоўны' (Нас.), г. зн. 'спагадлівы чалавек'?, магчыма, 'гаварун'?, параўн. польск *gadać* 'гаварыць', *pogadać* 'пагаварыць', магчыма і ад *гадаць* 'варажыць, угадваць лёс'.— *Пагáда*

ПАГАДАЙ.— *Пагадáеў.* Рус. у XVII ст. *Пагадай* (Туп.). Параўн. ПАГАДА

*ПАГАЙ.— *Пагаéнка*

ПАГАРАЦ укр. *погарець* 'птушка ўдод' (Грынч.). — *Пагáрцаў*

ПАГАРЭЛЫ.— *Пагарэ́лаў.* Рус. у XVI ст., укр. у XVII ст. *Погорелой* (Туп.). СРП *Погорелов, Погорельский*

ПАГІБ(А) 'пагібель, гібель'?, параўн. рэг. *пагіна* 'пагібель' (Нас.), рус. *погиб* 'бяда' (Даль).— *Пагіба, Пагібе́нка*

ПАГІРА, памянш. ПАГІРЭЙЧЫК параўн. літ. *pagyrà* 'пахвала' — *Пагірэ́йчык; Пагірскі*

ПАГОДА 'пагода, стан надвор'я', магчыма, 'той, які пагаджаецца, згаджаецца', магчыма, 'той, які чакае ці просіць пачакаць', параўн. рэг. *пагадзіць* 'пачакаць', *пагадзя* 'пасля, крыху пазней' (Нас.).— *Паго́дзін; Паго́дскі, Паго́цкі.* СРП *Погодин*

ПАГРАБЕЦ гл. ПОГРАБ

ПАГРАБНЫ.— *Паграбны́*

ПАГРАНІЧНЫ.— *Пагранічны*

ПАГУДА параўн. рэг. *пагудка* 'ганьбаванне, ганьба' (Нас.), *пагудзіць* 'ганьбаваць, ганьбіць' (КСЧ), укр. *погудка* 'ганьбаванне' (Грынч.), параўн. таксама рус. *погудка* 'напеў, матыў' (Даль).— *Пагу́да.* У Туп. у XV—XVI стст. *Погудка.* СРП *Погудин, Погудко*

ПАГУЛЯЙ 'той, хто любіць пагуляць, гуляка'?, параўн. таксама рус. *погуляй* 'вясёлае месца, кабак, харчэўня і інш.' (Даль).— *Пагуля́еў.* Бел. у XVII ст. *Погуляй* (БА, I, 245). СРП *Погуляев*

ПАДАБЕД 'другое снеданне звычайна ў перыяд летніх палявых работ, калі на поле выходзяць вельмі рана' (БРС, Бяльк.).— *Падабе́д, Падабе́даў.* Бел. у XVI—XVII стст. *Подобед* (Туп., БА, I, 246). СРП *Подобед, Подобедов*

ПАДАЛЯК, ПАДАЛЯКА ўкр. *подоляк* 'жыхар Падолля' (Грынч.).— *Падаля́к, Падаля́ка, Падаля́кін.* Укр. у XVII ст. *Подоляк* (Туп.)

ПАДАЛЯНІН, памянш. ПАДАЛЯНЧЫК укр. *подолянин* 'жыхар Падолля' (Грынч.), магчыма, 'той, хто жыве на Падоле, на нізкім месцы'.— *Падаля́нчык*

*ПАДАМАЦЬКА, *ПАДАМОЦЬКА.— *Падама́цька, Падамо́цька*

ПАДАРВАНЫ.— *Падарва́наў*

ПАДАСІНАВІК.— *Падасінавік.* СРП *Подосиновиков*

ПАДАХВАЛ 'той, хто падхвальвае, хваліць' ці 'той, хто хваліцца'.— *Падафа́лаў* пры [хв]>[ф]

ПАДАШВА.— *Падашвá; Падашэ́ўскі.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Подошовка, Падашевка* (БА, I, 246). У Туп. у XVII ст. *Подошва.* СРП *Подошвин*

*ПАДАШВЕЛЬ, *ПАДАШВЯЛЬ.— *Падашвя́леў*

ПАДБАЛОТ(Ы) 'які жыве пры балоце'? — *Падбалóтаў*

ПАДБЕЛА 'забелка, прыправа да стравы'? — *Падбéла.* СРП *?Падбельскі*

ПАДБЯРОЗКА, ПАДБЯРЭЗКА бел. бат. (Кіс.).— *Падбярóзка, Падбярэ́зка, Падбярóзкін; Падбярэ́зкі*

ПАДБЯРОЗНЫ, ПАДБЯРЭЗНЫ 'які жыве ля бяроз, пры бярэзніку, пад бярозамі'.— *Падбярóзны, Падбярэ́зны*

ПАДВЕРБНЫ 'які жыве ля вербаў, пад вербамі'.— *Падвéрбны*

ПАДВІГА.— *Падві́жанка*

ПАДВОЙСКІ ст. бел. 'чын польскай арміі ці адміністрацыі ў XVI—XVII стст.' (Нас.) з польск. *podwojski* — *Падвóйскі.* СРП *Подвойский*

ПАДВОРНЫ.— *Падвóрны*

*ПАДГОЛ.— *Падгóл, Падгóлін*

ПАДГОРНЫ 'які жыве каля гары, пад гарою'? — *Падгóрны.* СРП *Подгорный, Подгорнов*

ПАДДАНІК параўн. устар. бел. *падданы* 'прыгонны' (Нас.).— *Паддáнік*

ПАДДУБНЫ 'які жыве ля дубоў, пад дубамі'.— *Паддýбны; Паддýбецкі, Паддýбенскі*

ПАДЖАРЫ рус. *поджарый* 'сухарлявы, хударлявы' (Даль, РБС).— *Паджáры.* У Туп. у XVI ст. *Поджар.* СРП *Поджаров*

*ПАДЗЕНЬ ці *ПАДНЫ.— *Паднéвіч.* Параўн. ПАДЗІЛА

ПАДЗІЛА ад *падаць,* г. зн. 'які падае'? — *Падзі́ла.* Параўн. ПАДЗЕНЬ

*ПАДЗЯРНЯ.— *Падзярня́, Падзярнёў.* Бел. у XVI ст. *Падерня* (БА, I, 242)

ПАДКАПАЙ ад *падкапаць.*— *Падкапáеў.* СРП *Подкопаев*

ПАДКІДЫШ.— *Падкі́дыш*

ПАДКОВА 'падкова' ці 'той, хто падкоўвае'? — *Падкóва, Падкóвіч.* У Туп. у XVI ст. *Подкова*

ПАДКУР(А) 'той, хто падкурвае'.— *Падкýраў*

ПАДЛА ці ПАДЛЫ рэг. 'заняпалы'? — *Падлóў; Падлéцкі*

ПАДЛЕПА 'падліза, падліпала'?, параўн. укр. *падлепливый, підлепний* 'падліза, падліпала' (Грынч.). - *Падлéпенка, Падляпéнкін*

ПАДЛЕСНЫ 'які жыве ля лесу'.— *Падлéсны.* СРП *Подлеснов*

ПАДЛОБКА 'той, хто глядзіць з-пад ілба'? — *Падлóбка, Падлóбкін.* Бел. у XVIII ст. *Подлобка, Падлобка* (БА, І, 246)

ПАДЛОБНІК.— *Падлóбнікаў.* Параўн. ПАДЛОБКА

ПАДЛОЗНЫ 'які жыве каля лазовых зарасляў'? — *Падлóзны*

ПАДЛУЖНЫ 'які жыве каля луга'? — *Падлýжны*

ПАДМОСТКА рэг. 'падстаўка, падмосткі'.— *Падмóстка*

ПАДНЫ гл. ПАДЗЕНЬ

ПАДОБА ўкр. *подоба* 'вобраз, від, знешні выгляд', 'падабенства' (Грынч.).— *Падóба*

ПАДОБРЫ параўн. бел. *па-добраму.*— *Падóбры*

ПАДОЛ бел. 'ніжняя частка адзення' (БРС), 'прыбярэжжа, нізкае месца каля ракі' (Нас.), рус. *подол* 'перадгор'е, раўніна пад гарой' (Даль), укр. 'нізіна, нізкае месца', 'ніжняя частка жаночай сарочкі' (Грынч.).— *Падалéвіч; Падалінскі, Падóльскі*

ПАДПАВЕТНЫ 'які мае адносіны да падпаветкі, павеці'? — *Падпавéтны*

ПАДРЭЗ.— *Падрэ́з, Падрэ́зенка.* Рус. у XVII ст. *Подрез* (Туп.). СРП *Подрезов, Подрезков*

*ПАДСКОЧЫ.— *Падскóчы*

*ПАДСКРЭПНІК.— *Падскрэ́пнік*

ПАДСТРАКАЧ параўн. рус. *подстрекатель, подстрекала* 'падбухторшчык' (Даль).-- *Падстракáч*

ПАДУН.— *Падунóвіч.* Параўн. ПАДЗІЛА

ПАДУРАЖНЫ з *падаўражны* г. зн. 'які жыве каля «аўрага», каля яра, рова'? — *Падурáжны*

*ПАДУТА.— *Падýта*

ПАДХАЛЮЗА рус. *падхалюза, подхолюза* 'пралаза, праныра, прайдзісвет, прайдоха, хітры, скрытны чалавек' (Даль).— *Падхалю́зін*

ПАДЦЁЛАК.— *Падцёлкаў.* У Туп. у XV—XVI стст. *Подтелок.* СРП *Подтёлков*

ПАДЦЯРОБ гл. ПОДЦЕРАБ

ПАДШЫБЯКА параўн. рус. *подшибать* 'падбіваць', *падшибала, подшибатель* 'той, хто падбівае' (Даль.) — *Падшыбякін*

ПАДЫМКА ад *падымаць* 'той, хто падымае'.— *Падымака*

*ПАДЭЛІС.— *Падэліс*

ПАДЭРА рус. *падера, падора* 'мяцеліца з ветрам, завіруха, завея' (Даль), параўн. літ. *padẽrti* 'стаць невясёлым, асавець'.— *Падэра*

ПАЖАР, ПАЖАРКА.— *Пажарка; Пажарскі, Пажарыцкі.* У Туп. у XVI ст. *Пожарко.* СРП *Пожаров, Пожарский*

ПАЖЫВІЛА, памянш. ПАЖЫВІЛКА 'той, хто любіць ці ўмее пажывіцца'?— *Пажывілка*

ПАЖЫГАНЫ рэг. аб збанках, місках і інш. 'абпалены' (Дзярж.— М. Б.).— *Пажыган*

ПАЗ, памянш. ПАЗІК.— *Пазік.* СРП *Пазиков, Пазовский*

ПАЗАК.— *Пазакоў*

ПАЗНЯК рус. *поздняк* 'апошняе дзіця ў старых бацькоў ці дзіця, якое нарадзілася праз доўгі час пасля папярэдняга' (Даль).— *Пазняк, Позняк, Пазнякоў, Пазняковіч; Паздняк, Паздякоў.* Бел. у XVI—XVII стст. *Позняк* (БА, I, 246; Туп.). Рус. у XVI—XVII стст. *Позняк, Познячко,* укр. у XVI ст. *Позняк, Позньк* (Туп.). СРП *Поздняк, Поздняков, Позняк, Позняков*

ПАЗУХА.— *Пазуха.* СРП *Пазухин*

*ПАЗЫР.— *Пазыраў*

ПАЙ.— *Пай*

ПАЙКА ўкр. 'пай, паёк, частка' (Грынч.).— *Пайкін; Пайкоўскі.* Бел. у XVII ст. *Пайко* (Туп.). СРП *Пайкин, Пайков*

*ПАКАМЕДА.— *Пакамеда*

ПАКАЦІЛА ад *пакаціць* 'пакаціць', 'паваліць, асіліць'.— *Пакацілаў.* Укр. у XV ст. *Покотило* (Туп.). СРП *Покатилов*

*ПАКЕЎШЧЫК.— *Пакеўшчык*

ПАКЛОН.— *Паклонаў; Паклонскі.* СРП *Поклонов*

ПАКЛЯК польск. *paklak* 'грубае нізкага гатунку сукно' (Гарб.), параўн. укр. *покляк(ну)ти* 'схіліцца, нагнуцца' (Грынч.).— *Пакляк*

ПАКОРНЫ.— *Пакорны.* СРП *Покорнов*

ПАКРЫШКА.— *Пакрышка, По́крышка.* СРП *Покрышкин*

ПАКУЛА ад *куляць?* — *Паку́лаў*

ПАКУЛЬНЯ, ПАКУЛЕНЬ літ. *pakulnis* 'каблук', *pakulinis* 'зроблены з паклі'.— *Пакульне́віч*

ПАКУРА літ. *pakurà* 'топка', магчыма, ад *пакурыць*.— *Паку́ра*

ПАКУША рэг. 'проба на смак якой-небудзь ежы, каштаванне' (Нас.), ад 'паспрабаваць, пакаштаваць'.— *Паку́шка*

ПАЛАВІНА, памянш. ПАЛАВІНКА.— *Палавінка, Палаві́нкін; Палаві́нскі.* СРП *Половинкин*

ПАЛАВЫ, памянш. ПАЛАВОК, ПАЛАВЕЦ бел. (аб масці каня, каровы) 'жаўтаваты са светлымі лапінамі, светлабуры' (БРС), укр. *половий* тое ж (Грынч.). — *Палавы́; Палаўко́ў; Палаве́ц, Палаўцо́ў.* Бел. у XVI ст., укр. у XVII ст. *Половец* (Туп.)

*ПАЛАГУТА. — *Палагу́та.* СРП *Палагутин, Полагутин*

*ПАЛАЖАЙ.— *Палажа́й*

ПАЛАЖЭНЕЦ.— *Палажэ́нец*

ПАЛАЗНІК рэг. рус. *полозник* 'той, хто робіць палазы' (Даль).— *Палазні́к*

ПАЛАЗНЯК рус. *полозняк* 'матэрыял, прыгодны на палазы' (Даль).— *Палазня́к*

ПАЛАМАР рэг. 'панамар' (Нас.), укр. *паламарь* тое ж, *паламарчук* 'малады панамар' (Грынч.).— *Паламарчу́к.* Бел. у XVIII ст. *Паламар* (БА, I, 246). Параўн. ПАНАМАР

ПАЛАТКА.— *Пала́тка*

ПАЛАШАВЕЦ з в. Палашава.— *Палашаве́ц*

ПАЛАЧАНІН з г. Полацка.— *Палача́нін.* Бел. у XVI ст. *Полочанин* (БА, I, 247)

ПАЛЕЙ рус. назва расліны.— *Пале́й, Пале́енка.* Бел. у XVII ст. *Палейко* (Туп.). СРП *Палеев*

ПАЛЕНІК ад *пале́на* ці *па́лены?* — *Пале́нік.* СРП *Поленов, Поленин* і *Пален, Паленов*

*ПАЛЕР.— *Па́лер*

ПАЛЕСКІ.— *Пале́скі*

*ПАЛЕХ.— *Пале́х.* Бел. у XVI—XVII стст. *Палешко, Полешка* (Туп.). СРП *Полехов, Полехин*

ПАЛЕЦ, памянш. ПАЛЬЧЫК.— *Пальчо́нак; Па́льчык; Пальчэ́ўскі.* Бел. у XVI—XVII стст. *Пальчик* (Туп.,

БА, I, 242). Укр. у XVI—XVII стст. *Пальчик* (Туп.). СРП *Пальчик, Пальчиков, Пальцев, Пальчук*

ПАЛІВАНЫ.— *Палівáнаў*. СРП *Поливанов, Поливановский*

ПАЛІВАЧ 'той, хто палівае'.— *Палівáч, ?Палявáч* пры [і]>[я]

ПАЛІВОДА ўкр. *паливода* 'сарві-галава, вісус, гарэза' (Грынч.)— *Палівóда, ?Палявóда* пры [і]>[я]. СРП *Поливод*

*ПАЛІТЫКА.— *Палітыка, Паліціка* пры [т]>[ц'], *Палетыка* пры [і]>[е]. Бел. у XVIII ст. *Политыка* (БА, I, 247). Укр. у XVII ст. *Политыка* (Туп.). СРП *Политыкин*

ПАЛІЦА.— *Палíцын*. Бел. у XVI ст. *Палица* (Туп.). СРП *Палицын, Полицын*

*ПАЛІЦЕНЬ.— *Палітнёў*

*ПАЛІКША.— *Палíкша*

*ПАЛІША.— *Палíшын*

ПАЛКА.— *Пáлкін*. СРП *Палкин, Палочкин*

ПАЛОВІК параўн. рэг. *палавік* 'нявеянае збожжа, збожжа з мякінай' (Нас.), рус. *половик* 'палавіна' (Даль), укр. *половик* 'парода ястраба' (Грынч.).— *Палóвікаў*. СРП *Половиков*

ПАЛОЙКА рэг. 'жменя часанага льну' (Сл.— М. Б.), 'ручайка льну' (Стэц.). — *Палóйка*. Параўн. ПАЛУЙКА

ПАЛОНІК.— *Палóнік*

ПАЛОННІК.— *Палóннікаў*. СРП *Полонников*

ПАЛОСА, памянш. ПАЛОСІК.— *Палóсін; Палóсікаў*. СРП *Палосин, Полоскин*

ПАЛОЎНІК рус. *половник* 'апалонік, разліўная лыжка' (Даль), укр. *половник* 'месца, дзе ссыпаюць палову, мякіну' (Грынч.).— *Палóўнік, Палóўнікаў*. СРП *Половников*

ПАЛТАВЕЦ з Палтавы.—*Палтáвец, Палтáўцаў*. СРП *Полтавцев*

*ПАЛТО.— *Палтó*

ПАЛУБА бел., рус., укр. 'карабельная палуба', рус. 'страха, столь, насціл' (Даль), укр. 'павозка са стрэшкай, з будай', 'стрэшка, крышка вулля', 'крыты столік на базары', 'дуплісты пень', 'пустата, упадзіна' (Грынч.).— *Палубéнка*

ПАЛУБЕЦ укр. 'павозка са стрэшкай', 'стрэшка, крышка вулля', 'крыты столік на базары' (Грынч.).— *Палубéц*

ПАЛУБІСАК параўн. укр. *полубіс* 'паўчорт, паўчалавек' (Грынч.).— *Палубісак*

*ПАЛУВОРАК.—*Палувóрчанка*

ПАЛУГОДАК 'паўгодак'.— *Палугóдкаў*

ПАЛУДА.— *Палýда.* Бел. у XVII ст. *Палуда* (БА, I, 247). СРП *Полудин*

ПАЛУЙКА, памянш. ПАЛУЙЧЫК рэг. 'жменя льну пасля пярвічнай апрацоўкі' (Нас.), 'палавіна квашанай капуснай галоўкі' (КСЧ), рус. *палуйка* 'дубовая загатоўка для дна бочкі' (Даль).— *Палýйка, Палýйчык,* магчыма, ад УІ *Полиевкт,* параўн. рус. смал. *Полýйко<Полиевкт* (Дабр.). Бел. у XVI—XVII стст. *Полуйко, Полуй* (БА, I, 247). Параўн. ПАЛОЙКА

ПАЛУКА ўкр. *палука* 'заліўны луг, поплаў', 'паўастравок, утвораны загібамі ракі' (Грынч.).— *Палýчанка, Палýчанкін*

ПАЛУКАР.—*Палукáраў,* магчыма, ад УІ *Палукар<Поликарп.* СРП *Полукаров*

ПАЛУКОШКА 'палукашак'.— *Палукóшка*

*ПАЛУЛЕГА.— *Палулéга*

*ПАЛУЛЕХ.— *Палулéх*

ПАЛУПА ад *палупіць, палупіцца.*— *Палупéнка*

ПАЛУХА 'палавіна'? — *Палýха, Палýхін.* СРП *Палухин*

ПАЛЦІННІК рус. *полтинник* 'паўрубель'.— *Палцінікаў*

ПАЛЫКА 'той, хто многа п'е'?, параўн. рэг. *палыкаць* 'выпіць, выхлябтаць', *лыкаць* 'піць' (Нас.).— *Палы́ка*

ПАЛЫН, ПАЛЫНЬ.— *Палы́н, Палы́нь; Палы́нскі.* СРП *Полынов*

*ПАЛЬЧЭХ.— *Пальчэ́х*

ПАЛЮТА параўн. рэг. *палютка* 'палавіна капуснай галоўкі' (Вешт.).— *Палю́цін*

ПАЛЮХ, памянш. ПАЛЮШЫК бел. *палюхі* 'клёцкі з дранай бульбы', 'клёцкі з грэцкай мукі' (Вешт.), укр. *палюх* 'палец', 'вялікі палец' (Грынч.).— *Палю́х, Пóлюх* пры пераносе націску, *Палюховіч; Палюшык*

ПАЛЯВАЧ ад *паляваць?* — *Палявáч.* Параўн. ПАЛІВАЧ

ПАЛЯВЕЦ рэг. 'палявы сторож' (КСЧ).— *Палявéц, Паляўцóў; Паляўчýк*

ПАЛЯВОДА.— *Палявóда.* Параўн. ПАЛІВОДА

ПАЛЯВОК.— *Паляўкóў*

ПАЛЯВЫ, памянш. ПАЛЯВОК, ПАЛЯВЕЦ.— *Палявы́; Паляўкóў; Палявéц, Паляўцóў, Паляўчýк.* Бел. у XVIII ст. *Полевой.* (БА, I, 247). СРП *Полевой, Полевов.* Параўн. ПАЛЯВЕЦ, ПАЛЯКОЎ

*ПАЛЯВЭЧКА.— *Палявэ́чка*

ПАЛЯГОШКА 'палягчэнне, аблягчэнне'?, параўн. *палёга* 'аблягчэнне' (Нас.), магчыма, таксама 'той, хто любіць паляжаць'.— *Палягóшка, Паліго́шка* пры [я]>>[і]

ПАЛЯК, памянш. ПАЛЯЧОК.— *Паля́к, Палякóў, Палякéвіч, Палячэ́нка; По́ляк; Палячóк; Палячкóў.* Бел. у XVII ст. *Поляк* (БА, I, 247). Рус. у XVII ст. *Поляк* (Туп.). СРП *Поляк, Поляков, Полякович, Полякин, Поляковский, Поляченко, Полячков, Поляцкий*

ПАЛЯКШАНЫ з *палягчаны.*— *Палякшáнаў*

*ПАЛЯЛЕЙ.— *Палялéй.* Бел. у XVII ст. *Полелей* (БА, I, 247)

ПАЛЯНІН, памянш. ПАЛЯНОК 'той, хто пражываў у палявой бязлеснай мясцовасці'? — *Паля́нін; Палянóк; Паля́нскі.* Рус. у XVI—XVII стст. *Полянин, Полянинко* (Туп.). СРП *Полянин, Полянинов, Полянский*

ПАЛЯНІЦА рэг. *паляніца* 'булачка з яравой мукі' (Нас.), 'невялікая прадаўгаватая булка белага хлеба' (Бяльк.), 'перапечка з хлебнага цеста' (Вешт.), укр. *паляниця* 'прэсная перапечка' (Грынч.).— *Паляні́цын*

ПАЛЯТАЙ рус. *полетай* 'жвавы, быстры, рухавы' (Даль.).—*Палятáй. ?Паліта́й* пры [я]>[і]. Рус. у XVII ст. *Полетай* (Туп.). СРП *Полетаев*

ПАЛЯЦІЛА.— *Паляці́ла.* Параўн. ПОЛЕТАЙ

ПАЛЯШУК, ПАЛЯШЧУК 'жыхар Палесся'.— *Паляшýк; Паляшчýк.* Бел. у XVI ст. *Полешук* (Туп.)

ПАМАГАЙ 'той, хто памагае'?— *Памагáеў.* У Туп. у XVI ст. *Помогайко.* СРП *Помогаев*

ПАМАЗОК.— *Памазкóў.* СРП *Помазков*

*ПАМАЛЕЙКА.— *Памалéйка*

ПАМЕТА, памянш. ПАМЕЦЬКА.— *Памéцька*

ПАМІЛА ад *памілаваць?— Памі́ла.* У Туп. у XVII ст. *Помилко*

ПАМІН рэг. 'памінанне' (Нас.), рус. і ўкр. *помин* тое ж (Даль, Грынч.).— *Памінéнка*. СРП *Поминов*

ПАМЫТЫ, памянш. ПАМЫТКА ад *памыць?— Памы́тка*

*ПАМЯЛА.— *Памя́лаў*. СРП *Помялов, Помяловский*

ПАМЯЦІХА.— *Памяціха*

ПАН, памянш. ПАНОК, ПАНЬКО.— *Па́наў, Панóў, ?Па́нін; Панóк, Панкóў, Панкéвіч, Па́нчанка; Панькó, Панькóў*. Бел., рус., укр. у XV—XVII стст. *Пан, Панок* (Туп.). СРП *Панов, Панин, Панкевич, Панков, Панченко, Панченков, Паньков, Панчук*

ПАНАМАР, памянш. ПАНАМАРЭЦ, ПАНАМАРОК.— *Панамарóў, Панамарэ́нка; Панама́рцаў; Панамарчу́к*. Рус. у XVII ст. *Пономарек* (Туп.). СРП *Понамарёв, Панамарёв, Пономарёв, Пономаренко, Пономарьков*

ПАНАРАД.— *Панара́д*

*ПАНГЛІШ.— *Пангліш*

*ПАНЕДА, памянш. ПАНЕДЗЬКА.— *Панéдзька*

ПАНІ.— *Па́нін*

*ПАНІЗА.— *Панізóвіч*

*ПАНІЗНІК.— *Пані́знік*

ПАНІМАТКА ўкр. *паніматка* 'маці, пані матка' — ветлівы зварот да старэйшых жанчын (Грынч.). — *Паніма́тка*

ПАНІШКА 'дачка пана'?, параўн. *каваль — кавалішка*.— *Пані́шка*

ПАНКАВЕЦ з в. Панкі, Панкова.— *Панкавéц*

ПАНОВА 'абноўка, нешта новае', параўн. рус. *поновка* 'абноўка' (Даль).— *Панóвіч*. Параўн. СРП *Пановкин*

*ПАНОТА, памянш. ПАНОТЧЫК.— *Панóтчык*

*ПАНТАК.— *Панта́к*, магчыма, ад УІ *Пантелей*

ПАНТАЛОНЫ.— *Панталóнаў*

ПАНТОПЕЛЬ рэг. *пантофель* 'туфель' (Нас.).—*Пантаплёў*

*ПАНТУС, *ПОНТУС, *ПУНТУС.— *Па́нтус; Пóнтус; Пу́нтус*

*ПАНУШКА.— *Па́нушкін*, магчыма ад УІ *Пантелей*. Рус. у XVII ст. *Панушко* (Туп.)

ПАНЫШ, памянш. ад *пан?— Па́ныш*. СРП *Панышев*

ПАНЬКО параўн. укр. *панькати* 'няньчыць' (Грынч.).— *Панькó, Панькóў*. Параўн. ПАН

ПАНЯК.— *Панякоў.* Параўн. ПАНЫШ, ПАНЬКО

ПАНЯТЫ.— *Паняты; Панятоўскі*

*ПАПАКУЛЬ.— *Папакуль*

*ПАПЕЙКА.— *Папейка*

ПАПЕРНЫ ад *папера?— Паперны.* СРП *Папернов*

ПАПІХА рэг. 'пападдзя', магчыма, 'той, хто папіхае ці той, каго трэба папіхаць, застаўляць што-небудзь рабіць'.— *Папішын*

ПАПЛАЎНЫ ст. рус. *паплавьныи* 'які плавае, не тоне' (Ср.), магчыма, 'які мае адносіны да поплава, жыў на поплаве'?— *Паплаўны*

ПАПЛЁЎКА рус. *поплёвка* 'вялікая пакаёвая муха', 'дробная рыба, асабліва ёрш' (Даль), смал. 'плотка' (Дабр.).— *Паплёўка*

ПАПЛЫКА параўн. рэг. *папліць* 'марудна, павольна працаваць', *папля* 'маруда' (Нас.), укр. *папляти* 'невыразна гаварыць, мямліць' (Грынч.).— *Паплыка*

ПАПРУГА.— *Папруга, Папружанка.* СРП *Папружук*

ПАПСУЙ 'той, хто псуе'?— *Папсуй, Папсуеў, Папсуевіч*

ПАПУША.— *Папуша.* СРП *Папушин*

*ПАПЦЮХ.— *Папцюх*

ПАПЫРКА рус. *попырка* '(аб карове) баданне', 'бегатня, беганіна', 'штуршкі, тумакі' (Даль).— *Папырка*

ПАРА, памянш. ПАРЫК.— *Парыч; ?Парык.* Бел. у XVII ст. *Пара* (Туп.)

ПАРАБАК.— *Парабковіч*

ПАРАДА.— *Парада*

ПАРАДНІК 'той, хто дае парады'?— *Параднік*

*ПАРАДНЯ.— *Парадня*

*ПАРАЙ.— *Парай*

*ПАРАК.— *Паракевіч*

*ПАРАСЕЙ.— *Парасей*

*ПАРАСКУН.— *Параскун*

ПАРАХАЎНІК.— *Парахаўнік, Парахоўнік*

ПАРАХНЯ.— *Парахня, Парахневіч*

ПАРАХОНЬ, памянш. ПАРАХОНЬКА рэг. 'парахня' (Бяльк.).— *Парахонька.* Параўн. ПОРАХАНЬ

ПАРАШОК.— *Парашкоў.* СРП *Порошков*

ПАРКАЛА 'той, хто поркае, поркаецца'? — *Паркалаў*

ПАРНЫ 'які ўваходзіць у пару, парны да чаго'.— *Парневіч; Парніцкі, Парноўскі.* СРП *Парнов*

ПАРОМ, памянш. ПАРОМЧЫК. — *Паро́мчык.* СРП *Паромов*

ПАРОША.— *Паро́шын.* Рус. у XVI ст. *Пороша* (Туп.). СРП *Порошин*

ПАРТА 'школьная лаўка' укр. 'жаночы галаўны ўбор' (Грынч.).— *Па́рцін.* СРП *Партин*

ПАРТАЧ.— *Парта́ч*

*ПАРТУС.— *Па́ртус*

ПАРТНЫ рэг. 'кравец'.— *Партны́, Партно́ў; Партно́ўскі.* Бел. у XVIII ст. *Партны* (БА, I, 248). СРП *Портнов, ?Портный*

ПАРТЫКА параўн. бел. рэг. *партычка* 'вялікі кусок хлеба' (Вешт.), польск. *partyka* тое ж (Карл.).— *Парты́ка.* Параўн. бел. у XVI ст. *Партека* (БА, I, 242)

ПАРУБАЙ ад рэг. *парубаць* 'пасекчы' (Нас.), рус. *порубать* (Даль), укр. *порубати* (Грынч.).— *Паруба́й*

ПАРУКА рус. смал. *порука* 'паручыцельства' (Дабр.).— *Пару́каў*

*ПАРУЛЬ 'той, хто пора ці порацца'?— *Пару́ль*

ПАРУС.— *Па́русаў.* У Туп. у XV ст. *Парус,* у XVI ст. *Паруска*

ПАРХ, ПАРША, памянш. ПАРШЫК параўн. рэг. *пархі* 'парша', 'усякая нечыстота', 'пэйсы, доўгія валасы на вісках', перан. 'беднасць, жабрацтва' (Нас.).— *Паршо́нак; Паршу́к; Па́ршыкаў; Паршуко́ўскі.* Бел. у XVII ст. *Парша* (БА, I, 243). Туп. у XVII ст. *Парша.* СРП *Паршин, Паршенков, Паршиков*

ПАРХАТЫ, памянш. ПАРХАТОК, ПАРХОЦІК.— *Пархато́к; Пархо́цік.* Параўн. ПАРХ

*ПАРХАЦ.— *Парха́ц*

ПАРХУН ад рус. *пархать?— Парху́н.* СРП *Пархунов.* Параўн. ПАРХУДЬ

ПАРХУТА.— *Парху́та, Парху́ціч; Парху́цкі.* Параўн. ПАРХУЦЬ

ПАРХУЦЬ параўн. рэг. *пархуцька* 'паршывец' (КСЧ).—*Парху́ць, Парху́ціч; Парху́цкі*

ПАРЦЯНКА рэг. 'ануча' (Дзярж. М. Б.), рус. *портянка* тое ж (Даль), укр. *портянка* 'сукно з асновай з пяньковых нітак' (Грынч.).— *Парця́нка, Парця́нкін.* Бел. і ўкр. у XVII ст. *Портянка* (Туп.). СРП *Портянкин*

ПАРЦЯННІК.— *Парця́ннікаў.* СРП *Портянников*

ПАРЦЯНЫ.— *Парця́ны, Парця́наў*

ПАРШУК рэг. 'парсюк', літ. *paršiùkas* 'парася', рус.

*паршук* 'паршывец' (Даль).— *Паршу́к; Паршуко́ўскі.* Параўн. ПАРХ

ПАРШУТА 'той, хто мае паршы, паршывы'?— *Паршу́та.* Параўн. ПАРХ

ПАРЭЙКА параўн. літ. *pareigá* 'доўг, абавязак'.— *Парэ́йка*

ПАРЭКА.— *Парэ́чын*

ПАРЭПКА параўн. бел. *парэпацца* 'патрэскацца', *парэпаны* 'патрэсканы' (БРС).— *Парэ́пка*

ПАС, памянш. ПАСІК 'папруга' (Нас., БРС).— *Пасе́віч; Па́сікаў.* СРП *Пасов, Пасенков*

ПАСАВЕЦ з в. Пасы, Пасава.— *Пасаве́ц*

ПАСАГ.— *Паса́х* пры [г]>[х]

ПАСЕДА, памянш. ПАСЕДЗЬКА 'той, хто любіць пасядзець, сядун'?— *Пасе́дзька*

ПАСЕКА.— *Па́сека, Па́секін.* Укр. у XVI ст. *Пасека* (Туп.)

ПАСКА рэг. 'вялікдзень, пасха' (КСЧ).— *Па́ска.* Бел. у XVII ст. *Паска* (Туп.)

ПАСКАЛЬ параўн. літ. *paskalá* 'чутка, плётка'.— *Паска́ль*

*ПАСКАР.— *Паскарэ́нка*

ПАСКОННЫ рус. *посконный* 'зрэбны, з канапель' параўн. рэг. *пасканніна* 'зрэбнае палатно' (Нас.).— *Пасуко́нны*

ПАСКРОБКА параўн. рэг. *паскрэбак* 'булачка хлеба ці праснак з астаткаў цеста', 'апошняе дзіця ў сям'і (Дзярж.— М. Б.).— *Паскро́бка*

ПАСЛЕД.— *Пасле́д, Паслядо́віч*

ПАСЛЕДНІ рус. *последний* 'апошні'.— *Пасле́дні*

*ПАСМІЦЮХА.— *Пасміцю́ха*

ПАСМУРАЦ параўн. рус. *пасмурный* 'пахмурны, хмуры'— *Па́смурцаў*

ПАСПЕЛЫ.— *Паспе́лаў.* Рус. у XVI—XVII стст. *Поспелой, Поспел, Поспелко* (Туп.). СРП *Поспелов*

ПАСРЭДНІК.— *Пасрэ́днікаў*

ПАСТАЛЫ бел. 'скураныя лапці' (БРС), рус. *постолы* тое ж (Даль), укр. *постіл* тое ж (Грынч.).— *Пасто́л; Пасталю́к.* СРП *Постолов, Постоловский*

ПАСТАРНАК, ПАСТАРНЯК, ПАСЦЯРНАК.— *Пастарна́к; Пастарня́к.— Пасцернако́віч; Пасцярна́цкі.* Бел. у XVIII ст. *Пастарнак* (БА, I, 243). СРП *Пастернак, Пастернацкий*

ПАСТАЯЛКА рэг. 'прэснае малако' (Нас.), рус. смал. *постоялка* тое ж (Дабр.), 'пастаялец, наймальнік памяшкання' (Даль).— *Пастая́лка.* Бел. у XVII ст. *Постоялко* (БА, I, 248; Туп.)

ПАСТОЙ.— *Пасто́еў.* У Туп. у XVI ст. *Постой.* СРП *Пастоеў*

*ПАСТРОН.— *Пастро́н*

ПАСТУХ, памянш. ПАСТУШОК.— *Пастухо́ў, Пастухо́віч, Пастушэ́нка; Пастушу́к; Пастушык; Пастухоўскі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Пастух* (БА, I, 243). СРП *Пастухов, Пастушков, Пастуховский*

*ПАСЦЕР літ. *pasterti* 'акамянець, змяртвець', 'адубець, змерзнуць'.— *Пасцяру́к*

ПАТАЙ рэг. *патай* 'тайна' (Нас.), рус., укр. *потай* тое ж (Даль, Грынч.).— *Патае́нкаў.* СРП *Потаюк*

*ПАТАЛЕЙ.— *Патале́й*

*ПАТАЛЕТА.— *Патале́та*

*ПАТАЛУЙ.— *Паталу́еў*

ПАТАРОЧА.— *Патаро́ча.* Бел. у XVII ст. *Поторочa* (БА, I, 248). СРП *Поторочин*

ПАТАСКАЙ ад рус. *потаскать, потаскаться* 'пацягаць, пацягацца'.— *Патаска́еў*

ПАТАШ, памянш. ПАТАШОК, ПАТАШКА.— *Паташо́ў; Паташко́ў; Пата́шка.* СРП *Поташев, Поташов, Поташин*

ПАТАШНІК 'той, хто робіць паташ ці патаку'.— *Па́ташнікаў.* СРП *Поташник, Поташников*

*ПАТЛІС.— *Па́тліс*

*ПАТОНЯ.— *Пато́ня*

*ПАТРУБЕЙКА.— *Патрубе́йка*

ПАТРЫМАЙЛА ад *патрымаць.*— *Патрыма́йла*

ПАТРЭБА, памянш. ПАТРЭБКА.— *Патрэ́бка.* Бел., укр. у XVII ст. *Потреба* (Туп.)

ПАТУПЧЫК ад *патупіць?*— *Пату́пчык*

ПАТУРАЙ 'той, хто патурае'?—*Патура́й*

ПАТЫК.— *Патычу́к*

ПАТЫЛКА рус. смал. *потылка* 'патыліца' (Дабр.).— *Паты́лка, Паты́лкін*

ПАЎЗА.— *Па́ўза*

ПАЎКША параўн. літ. *paũksti* 'грызці'.— *Па́ўкшын*

ПАЎНІЦА бел. *поўніца* 'усякая поўная мера' (Нас.), укр. *повница* 'поўная пасудзіна' (Грынч.)— *Паўніца*

*ПАЎРАК.— *Паўрако́ў*

*ПАУС.— *Паўс*

ПАЎТАРАК, ПАЎТАРАКА, ПАЛТАРАКА бел. *паўтарак* 'прадмет у паўтара памеры' (БРС), укр. *півторак* 'усё мераю ў паўтара' (Грынч.), магчыма, таксама ад *паўтараць*, г. зн. 'той, хто паўтарае'.— *Паўтара́к; Паўтара́ка; Палтара́ка; Паўтара́цкі, Палтара́цкі*

ПАЎТАРАН.— *Паўтара́н.* У Туп. у XVI ст. *Полторан.* Параўн. ПАЎТАРАК

ПАЎХЛЕБ.— *Паўхлёб, Паўхлёбаў*

ПАЎШОК, ПАЎШЭЦ гл. ПОЎХ

ПАХАДНЯ параўн. *паходня* 'факел' (БРС).— *Пахадня́*

ПАХАЛКА рус. жарт. 'саха ці плуг' (Даль).— *Паха́лка*

*ПАХАН.— Паха́наў

*ПАХАПЕНЬ.— *Пахапе́нь*

*ПАХІЛКА.— *Пахі́лка.* Бел. у XVI ст. *Пахилко* (Туп.)

*ПАХІРКА.— *Пахі́рка*

ПАХНО рэг. 'непрыемны пах; тое, што непрыемна пахне' (Нас.).— *Пахнёвіч*

ПАХОД.— *Пахо́даў*

ПАХОЛАК бел. (часцей у мове шляхты) 'сялянскі хлопец' (Нас.), рус. заходн., укр. *пахолок* 'хлопец', 'батрак, работнік, слуга' (Даль, Грынч.), польск *pachołek* 'слуга' (Карл.).— *Пахо́лак, ?Пахо́лка, Пахо́лкін*

ПАХУН ад *пахаць* 'араць'?— *Пахуно́ў*

*ПАХУТА, памянш. ПАХУТКА.— *Паху́та, Паху́тка,* магчыма, ад УІ *Пахомий* (БА, I, 135)

ПАЦ рэг. 'пацук' (Дзярж.— М. Б.), рус. тое ж (Даль).— *Пац, Пацэ́віч, Пацэ́нка; Пацо́ўскі,* магчыма, ад УІ *Ипатий* (БА, I, 90)

ПАЦАЙ, памянш. ПАЦАЙКА.— *Паца́й; Пацайко́віч.* Параўн. ПАЦ

ПАЦАЛУЙ рэг. 'пацалунак'.— *Пацалуёнак.* Бел. у XVI ст. *Поцелуй* (БА, I, 248). СРП *Поцелуев*

ПАЦАЛУЙКА рэг. 'той, хто любіць цалавацца' (Нас.), укр. *поцілуйко* тое ж (Грынч.).— *Пацалу́йка*

ПАЦАПНЯ.— *Пацапня́*

ПАЦЕХА.— *Паце́хін, Паце́шанка.* Бел. у XVI ст. *Потеха* (БА, I, 248). Рус. у XVI—XVII стст. *Потеха, Потешка* (Туп.). СРП *Потехин, Потешкин*

ПАЦЁМКА рэг. *пацёмкі* 'цемната, цемра' (Дзярж.— М. Б.).—*Пацёмкін*. Бел. у XVIII ст. *Пацёмка* (БА, I, 248). СРП *Потёмкин*

ПАЦЁС, памянш. ПАЦЯСОК рэг. 'столь' (ДАБМ, Карта № 228), рус. *потес* 'меткі на дрэвах, засечкі' (Даль).— *Пацяско́ў*

*ПАЦІПА, памянш. ПАЦІПКА параўн. рус. *потипать* 'пашчыпаць, пакусаць, падзяўбці каго' (Даль).— *Паціпка*

ПАЦКА. — *Па́цка, Пацке́віч*. СРП *Пацкин*. Параўн. ПАЦ, ПАЦАЙ

ПАЦУК.— *Пацу́к, Пацуке́віч, Пацучэ́нка*. Бел. у XVI ст. *Пацук* (БА, I, 243). СРП *Пацук*

*ПАЦУЛЯН.— *Пацуля́н*

*ПАЦЫКАЙЛА, памянш. ПАЦЫКАЙЛІК 'той, хто цыкае на другіх'?— *Пацыка́йлік*

*ПАЦЫЛА.— *Пацы́ла*

*ПАЦЫНА, памянш. ПАЦЫНКА.— *Пацы́на; Пацы́нка*. Бел. у XVII ст. *Пацынка* (Туп.)

*ПАЦЭЙ, памянш. ПАЦЭЙКА.— *Пацэ́й, ?Пацые́нка, ?Пацыёнак, ?Пацые́нак; Пацэ́йка*. Параўн. ПАЦ, ПАЦАЙ

ПАЦЯРАЙЛА 'той, хто губляе'— *Пацяра́йла*

ПАЦЯРУХА.— *Пацяру́ха, Пацяру́хін*

*ПАЦЯЦЮНЬКА параўн. рус. *патетюй* 'неразгаворлівы чалавек' (Мельн.).— *Пацяцю́нькін*

*ПАЧАБУТ, *ПАЧАБЫТ.— *Пачабу́т, Пачыбу́т; Пачабы́т*

*ПАЧАСУЙ.— *Пачасу́й*

ПАЧАТУХА.— *Пачату́хін*

ПАЧКАЙ ад *пачкаць* 'пэцкаць', г. зн. 'той, хто пэцкае' ці 'пэцкаль, дрэнны работнік'.— *Па́чкай*

ПАЧКО. — *Пачко́, Пачко́ўскі*. Параўн. ПАЧКАЙ. СРП *Пачковский*

ПАЧОПКА параўн. *почапка* 'вяровачка для падвешвання' (БРС), 'дужка вядра' (Дзярж.— М. Б.), рус. *почепка* 'вяровачка для падвешвання' (Даль), укр. *почіпка* 'вяровачка пры калысцы' (Грынч.).— *Пачо́пка*

ПАЧУЙКА ад *пачуць*, г. зн. 'той, хто ўсё чуе, ведае ўсе навіны'?— *Пачу́йка*. Бел. у XVI—XVII стст. *Почуйко* (БА, I, 248)

ПАЧЫНАК.— *Пачы́нак*. СРП *Починков*

ПАЧЫНАЛА рэг. 'пачынальнік велікоднай песні ў валачобнікаў' (Дзярж.— М. Б.).— *Пачына́лаў*

ПАШНІК рус. *пашник* 'селянін, земляроб' (Даль).— *Па́шнікаў*. Бел. у XVII—XVIII стст. *Пашник* (БА, I, 243)

ПАШТОВЕЦ 'той, хто служыць на пошце'.— *Паштаўцо́ў*

ПАШУН ад *пахаць* 'араць'?— *Пашу́н*, магчыма, ад УІ *Павел*

ПАШЫВАЧ укр. *пошивач* 'майстар, які крые стрэхі саломай' (Грынч.), магчыма, 'той, хто шые, кравец'?— *Пашыва́ч*

*ПАШЭКА, памянш. ПАШЭЧКА.— *Пашэ́чка*, магчыма, ад УІ *Павел*

*ПАШЭРСНІК.— *Пашэ́рснік*

*ПАШЭТКА.— *Пашэ́ткін*

ПЕВЕНЬ.— *Пе́вень, Пе́ўнеў, Пяўнёў; Пі́вень; Пі́венскі*. Бел. у XVII ст. *Певень* (БА, I, 243). У Вільні ў XVI ст. *Певень* (Туп.). СРП *Певнев*

*ПЕДАШ літ. *pėdas* 'сноп'.— *Пе́даш*

*ПЕДЗЬ.— *Педзь*

*ПЕЗА, памянш. ПЕЗІК.— *Пе́зік*. Бел. у XVIII ст. *Пезик* (БА, I, 243)

*ПЕЙГАН.— *Пейгано́віч*

ПЕКАР, памянш. ПЯКАРЧЫК.— *Пе́кар, Пекарэ́віч; Пяка́рчык; Пяка́рскі*. Бел. у XVII—XVIII стст. *Пекар* (БА, I, 243). СРП *Пекарь, Пекарев, Пекарский*

ПЕКЛА.— *Пяклёнак*, магчыма, ад жан. УІ *Пёкла*<<*Фёкла*

*ПЕКУН.— *Пе́кун*

ПЕНТАЛЬ, ПЕНТЛЯ параўн. польск. *pętal* 'вузел', *pętla* 'пятля, пецелька' (Карл.).— *Пе́нталь, Пе́нтлін*

ПЕНЦЮХ рэг. *пянцюх* 'цурбан, кусок бервяна', 'таўстун' (Нас.), рус. *пентюх* 'жывот, бруха, пуза, страўнік' (Даль).— *Пе́нцюх*

ПЕНЬ, памянш. ПЯНЁК, ПЯНЬКО, ПЕНЧЫК.— *Пянько́ў; ?Пянко́* пры [н']>[н]; *Пе́нчык; Пянько́ўскі*. Бел., укр. у XVI ст. *Пенько* (Туп.). СРП *Пеньков, Пеньковский*

ПЕНЯЗЬ, памянш. ПЕНЯЗЁК, ПЕНЯЗІК устар. 'набойка' (Нас.), рус. 'шэляг, чаканеная бляшка, грошы' (Даль), укр. *пінязь* 'манета ў 1/2 крэйцэра', мн. 'грошы' (Грынч.).— *Пе́нязь, Пе́нясь* пры [з']>[с']; *Пенязько́ў;*

*Піня́зік* пры [е]>[і]. Укр. у XV—XVII стст. *Пинязко, Пенязек* (Туп.). СРП *Пенязев*

ПЕРАБЕЙНОС.— *Перабейно́с.* Укр. у XVII ст. *Перебейнос* (Туп.)

ПЕРАВАЛ.— *Перава́лаў.* СРП *Перевалов*

ПЕРАВОЗНІК 'перавозчык'. — *Перавóзнікаў.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Перевозник* (БА, I, 243). У Туп. у XV ст. *Перевозник.* СРП *Перевозников*

*ПЕРАВЫША.— *Перавы́шын*

ПЕРАГОДА параўн. рэг. *перагадзіць* 'перачакаць' (Нас.), укр. *перегодити* тое ж (Грынч.).— *Перагóда*

ПЕРАГОНЕЦ з в. Перагоны.— *Перагóнцаў*

ПЕРАГУД ад *перагусці, перагудзець?*— *Перагу́д, Перагу́т* пры [д]>[т]. Бел. у XVII ст. *Перегуд* (Туп.). СРП *Перегудов*

ПЕРАД, памянш. ПЕРАДОК.— *Перадкóў*

ПЕРАДНЯ гл. ПЯРЭДНЯ

ПЕРАЛОМ.— *Паралóмаў*

*ПЕРАМАТКА.— *Перама́тка*

ПЕРАПЕЧА 'перапечка'. — *Перапе́чка; Перапе́цкі.* Бел. у XVI ст. *Перапеча* (БА, I, 244). Рус. у XV ст. *Перапеча* (Туп.). СРП *Перепечин, Перепеченко*

ПЕРАПЕЧКА.— *Перапе́чка.* Бел. у XVIII ст. *Перапечка* (БА, I, 244)

ПЕРАПЁЛКА.—*Перапёлка, Перапёлкін.* Бел., укр. у XVII ст. *Перапелка* (БА, I, 244; Туп.). СРП *Перепёлкин*

*ПЕРАПЯНДЗЮЛЬКА.— *Перапяндзю́лькін.* Параўн. СРП *Перепендев*

ПЕРАПЯЧАЙ 'перапечаны' ці 'падобны на перапечку'?— *Перапяча́еў.* СРП *Перепечаев*

ПЕРАСАДЗЬКА 'той, хто перасаджвае'? — *Перасáдзька*

ПЕРАСВЕТ рус. *пересвет* 'перагаворы'? (Даль).— *Перасве́таў.* У Туп. у XV—XVI стст. *Пересвет.* СРП *Пересветов*

ПЕРАСЯЛЯК 'перасяленец'?— *Перасяля́к*

*ПЕРАСЯТНІК.—*Перася́тнік*

ПЕРАХОД.—*Пераход*

ПЕРАШУК параўн. рэг. *перашука* 'паўторнае шуканне, абшукванне' (Нас.), параўн. бел. *перашукаць.*— *Перашу́к*

ПЕРВЫ 'першы ў сям'і, першынец'? — *Пе́рвых.* Бел. у XVIII ст. *Первый* (БА, I, 243). Рус. вельмі папулярнае

ў XV—XVII стст. *Первой, Первуня, Первуша, Первушка, Первыш, Первышка* (Туп.) СРП *Первов, Первых*

ПЕРЛ.— *Пярло́ў, Пярло́віч*

ПЕРНАЧ укр. *пернач, пірнач* ’булава, знак улады палкоўніка’ (Грынч.).— *Пе́рнач*. Бел. у XVI ст. *Пернач* (БА, I, 244)

ПЕРХА ’той, хто перхае, пярхун’?—*Пе́ршын*. СРП *Першин*

ПЕРШЫ ’першы ў сям’і, першынец’?—*Пяршо́ў; ?Пе́ршын; Першуке́віч*. Параўн. СРП *Першиков*

*ПЕРЫК.— *Пе́рык*

ПЕСКАВЫ.— *Пескавы́*

ПЕСЛЯ літ. *peslys* ’каршун’ ці *pęslas* ’адкормак, кормнік’, параўн. бел. рэг. *песлівы* ’пястун, той, хто любіць песціцца’ (Дзярж.— М. Б.).— *Пе́сля, Пі́слевіч* пры [е]>[і]

ПЕСЛЯК. — *Пе́сляк, Пясляк* пры [е]>[я], *Пі́сляк, Пі́слякоў* пры [е]>[і]. Бел. у XVI—XVII стст. *Песляк* (БА, I, 244; Туп.). Параўн. ПЕСЛЯ

ПЕСНЯ, памянш. ПЕСЕНЬКА.— *Пе́сенка, Пе́сенька*

ПЕСТРЫК ад бел. рэг. і рус. *пёстры* ’стракаты, яркі’.— *Пе́стрыкаў*. Рус. у XV—XVI стст. *Пестрик* (Туп.). СРП *Пестриков*

ПЕХ польск. *pech* ’нешанцаванне’ (Карл.).— *Пех, Пе́хаў, ?Пяшэ́віч? ?Пяшу́к*. СРП *Пехов*

*ПЕХНІК.— *Пе́хнік*

ПЕХЦЕР рэг. ’пяхцер’ (Грынч.).— *Пе́хцер, Пе́хцераў*. СРП *Пехтерев*

*ПЕЦКЯЛЮН ’няўмелы работнік, пэцкаль’?— *Пецкялю́н*

ПЕЧ, памянш. ПЕЧКА.— *Пе́чка; Пячко́ў* пры пераносе націску; *Пячкоўскі*. Бел. у XVII ст. *Печка* (БА, I, 244). У Туп. у XVI ст. *Печка*. СРП *Печко, Печковский*

ПЕЧАНЫ, памянш. ПЕЧАНКО, ПЕЧАНЬКО ’чалавек з апечаным тварам ці рукамі’? — *Пе́чаны, ?Пячо́нін; Печанко́, Печанько́, Печанько́ў; Печано́ўскі*. СРП *Печёный, Печенин*

ПЕЧАНЬ.— *Пе́чань, ?Пячо́нін*

*ПЕЧУР.— *Пе́чур, Печуро́ў*. СРП *Печуроў*

ПЕШКА.— *Пе́шка*

ПЕШКУР параўн. рэг. *пяшкур, пячкур* (Дзярж.— М. Б.).— *Пе́шкур*. Параўн. ПЯЧКУР

*ПЕШТА.— *Пе́шта*

*ПЕШЧУР.— *Пе́шчур*

ПЕШЫ, памянш. ПЯШКО.— *Пяшэ́віч; Пяшу́к; Пяшко́, Пяшке́віч.* Бел. у XVI—XVII стст., рус. у XVII ст., укр. у XV—XVII стст. *Пешко* (Туп.). СРП *Пешков, Пешковский*

ПІВА.— *Пі́ва.* Укр. у XVI ст. *Пиво* (Туп.)

ПІВАВАР, памянш. ПІВАВАРЧЫК.— *Півава́р, Півава́раў, Піваваро́нак; Піваварчу́к; Піваварчык; Півава́рскі.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Пивовар* (БА, І, 244; Туп.). СРП *Пивоваров*

*ПІВАН, памянш. ПІВАНОК.— *Півано́віч; Піванко́ў*

*ПІВАРУН.— *Півару́н*

*ПІВУЛА, *ПІУЛА. — *Піву́ла; Піу́ла; Піву́льскі, Піу́льскі*

*ПІГАС.— *Пі́гас*

*ПІГАЧ.— *Пі́гач*

ПІГУЛА рэг. *пігулка* 'пілюлька' (Нясв.— М. Б.) з польск. *pigułka* тое ж.— *Пігу́ла; Пігуле́ўскі.* У Туп. у XVI ст. *Пигулька.* СРП *Пигулевский*

*ПІГУЛЬ.— *Пігу́ль.* Параўн. ПІГУЛА

*ПІГУН.— *Пігуно́ў*

*ПІДАР.— *Пі́дар*

ПІЗА рус. *пиза* 'лапша, локшына' (Даль), параўн. укр. *пизитися* 'надзімацца, важнічаць' (Грынч.).— *Пізю́к*

ПІК.— *Пік*

ПІКАН рус. бат. 'сібірскі баршчэўнік' (Даль).— *Піка́наў*

*ПІКАС.— *Пі́кас*

*ПІКЛУН.— *Піклу́н*

ПІКТА літ. *piktas* 'злосны'.— *Пі́кта*

*ПІКУЗА.— *Піку́за*

*ПІКУЛА, ПІКУЛЬ, памянш. ПІКУЛІК.— *Піку́ла; Піку́ль; Піку́лік.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Пикула, Пикуля* (БА, І, 244). СРП *Пикулин, Пикулёв*

*ПІКУРА.— *Піку́рэвіч.* СРП *Пикурин*

*ПІКУС.— *Пі́кус*

*ПІЛАТ.— *Піла́т, Піла́таў, Пілато́віч.* Хутчэй ад УІ *Филарет* (БА, І, 167). Бел., укр. у XVI ст. *Пилат* (Туп.)

*ПІЛЕЙКА.— *Піле́йка*

ПІЛУЙ 'той, хто пілуе'?—*Пілу́й*

ПІЛУН.— *Пілуно́ў.* Параўн. ПІЛУЙ

ПІЛЬГАН параўн. укр. *пильга* (у гарбароў) 'прыла-

да, якою прымацоўваюць шкуру, калі вырабляюць' (Грынч.).— *Пільганчўк*

ПІЛЬНІК ад *пільны*, г. зн. 'старанны, уважлівы', магчыма, ад *піла*, г. зн. 'пільшчык, які пілы ладзіць'?— *Пільнік, Пільнікаў*. Бел. у XVIII ст. *Пильник* (БА, І, 245)

ПІЛЬСЦЬ.— *Пільсць*

*ПІНДА, памянш. ПІНДЗІК.— *Піндзік*

*ПІНЗУР.— *Пінзур*

*ПІНУЗА— *Пінўза*

ПІНЧУК 'выхадзец з г. Пінска'.— *Пінчўк, Пінчукóў; Піньчўк*. Укр. у XVII ст. *Пинчюк* (Туп.). СРП *Пинчук*

ПІОН рэг. 'півоня'.— *Піóнаў*

*ПІПЕЦЬ.— *Піпець*

*ПІПІР.— *Піпір*

*ПІПІТА.— *Піпіта, Піпіціч*

ПІПКА рэг. 'пепін', 'невялікая люлька' (Дзярж.— М. Б.).— *Піпка, Піпчанка, Піпчэ́нка*

ПІРАВЫ 'які мае адносіны да піра, бала'?— *Піравы́*

ПІРОГ.— *Пірóг, Пірагóў; Пірагóўскі*. У Туп. у XV—XVII стст. *Пирог, Пирожок*. СРП *Пирог, Пирогов, Пирожков*

ПІРОЖНІК.— *Піро́жнік, Піро́жнікаў*. Бел. у XVI ст. *Пирожник* (Туп.)

ПІРТАНЬ, ПІРТАНЯ параўн. літ. *pirtinis* 'банны'.— *Піртань, Піртаня*

*ПІРУТА, памянш. ПІРУТКА.— *Пірўтка*

*ПІС.—*Пісéвіч; Пісянкóў; Пісюк; Пісюкóў; Пісéцкі*

ПІСАР, памянш. ПІСАРЫК, ПІСАРЧЫК.— *Пісар, Пісараў, Пісарэ́нка, Пісарóнак; Пісарык; Пісарчык*. СРП *Писарев, Писаренко, Писаревский, Писарский*

ПІСАРЧУК смал. 'памочнік пісара' (Дабр.).—*Пісарчўк*

ПІСКЛЯК рэг. 'піскун', 'слабы, худы чалавек' (Дзярж.— М. Б.).— *Піскляча́нка*

ПІСКУН.— *Піскўн, Піскунóў, Піскунóвіч*. Бел. у XVII ст. *Пискун* (БА, І, 245; Туп.). Рус. у XVII ст. *Пискун* (Туп.). СРП *Пискунов*

*ПІСКУР.— *Піскўр*. Параўн. ПІСКУН

ПІСЛЯ гл. ПЕСЛЯ, ПІСКЛЯК

ПІСЛЯК гл. ПЕСЛЯК, ПІСКЛЯК

ПІСТАЛЕТ.— *Пісталéтаў*

ПІСТОЛЬ.— *Пісталéнка*

*ПІСТУН.— *Пістунóў*

ПІСЬМЕННЫ.— *Пісьменны.* СРП *Письменный*

*ПІТ, памянш. ПІТКО, ПІЦЬКО *ад піць?,* 'той, хто п'е'?— *Пітовіч; Піцюк, Піцюкоў; Піткевіч, Піцько.* СРП *Питенко*

*ПІТАЛЬ.— *Піталёнка*

ПІУЛА гл. ПІВУЛА

*ПІЎРА, памянш. ПІЎРЫК.— *Піўрык*

*ПІЎТА.— *Піўта*

ПІХЕЙ, памянш. ПІХЕЙЧЫК 'той, хто піхае'?— *Піхейчык*

ПІХУН 'той, хто піхае'.— *Піхун*

*ПІЦ параўн. рэг. *піцаваць* 'многа браць, многа накладаць' (Стэц.).— *Піцэвіч; Піцук*

*ПІЦІШКА.— *Піцішчук*

*ПІЦУН, памянш. ПІЦУНІК.— *Піцунік.* Параўн. ПІЦ

*ПІЦУХА.— *Піцуха.* Параўн. ПІЦ

ПІЧУГА рус. *пичуга* 'птушка'.— *Пічугін.* Бел. у XVII ст. *Пичуга* (Туп.). СРП *Пичугин*

*ПІЧУЙ.— *Пічуей.* СРП *Пичуев*

*ПІЧУК.— *Пічукоў.* СРП *Пичуков*

*ПІЧУХА.— *Пічуха.* СРП *?Пичушкин*

*ПІШ(А), памянш. ПІШОК.— *Пішкоў.* СРП *Пишин*

ПІШЧ, памянш. ПІШЧЫК ад *пішчаць?* г. зн. 'той, хто пішчыць'.—*Пішч, Пішчаў, Пішчоў, Пішчын, Пішчынаў, Пішчанка; Пішчук, Пішчык, Пішчыкаў, Пішчыкевіч.* Бел. у XVI ст. *Пищик* (БА, І, 245). СРП *Пищик*

ПІШЧАК.— *Пішчак.* Параўн. ПІШЧ

ПІШЧАЛА ўкр. *пищало* 'свісток' (Грынч.), магчыма, таксама 'той, хто пішчыць'.— *Пішчала, Пішчалаў*

ПІШЧУЛА ці ПІШЧУЛЯ.— *Пішчулёнак.* СРП *Пищулин.* Параўн. ПІШЧАЛА

ПІШЧЫК рэг. 'свісток' (Нас.), 'дудачка з пяра' (КСЧ), рус. *пищик* 'свісток, дудачка' (Даль), укр. *пищик* 'род жалейкі' (Грынч.).— *Пішчык, Пішчыкаў, Пішчыкевіч.* Бел. у XVI ст. *Пищик* (БА, І, 245). Параўн. ПІШЧ

*ПІШЧЫТА.— *Пішчыта*

*ПІШЭНЯ.— *Пішэнін.* СРП *Пишенин*

*ПІЯРА.— *Піяра*

ПЛАДУН 'які добра пладзіцца'?— *Пладуноў*

ПЛАКСА.— *Плакса, Плаксенка, Плаксёнак.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Плакса* (БА, І, 246). Рус. у XVI ст. *Плакса* (Туп.). СРП *Плаксин*

ПЛАКСІВЫ.— *Плаксівы*

ПЛАНКА.— *Планкó* з пераносам націску. СРП *Планкин*

ПЛАСКАНОСЫ, ПЛАСКАНОС са спалучэння *плоскі нос, з плоскім носам.— Пласканóсаў*

ПЛАСКОННЫ рэг. 'зроблены з палатна, вытканага з валакна пласконей, канапель' (Пол.— А. Б.).— *Пласкóнны*

ПЛАТ.— *Плáтаў.* СРП *Платов*

ПЛАТАК польск. *płatek* 'шматок, абрэзак' (Карл.).— *Плáтак*

ПЛАТАН.— *Платанéнка,* магчыма, ад УІ *Платон* (БА, І, 137)

ПЛАТНЕР польск. *płatnerz* 'рамеснік, які рабіў панцыры і зброю' (Карл.).— *Плáтнер*

*ПЛАТУН.— *Платýн*

*ПЛАЎС(А).—*Плаўсю́к; Плáўскі*

*ПЛАЎХ.— *Плаўх*

ПЛАХОТА параўн. польск. *płachta* 'кавалак грубага палатна', 'хустка ці абрус з палатна' (Карл.).— *Плахóцін; Плахóцкі.* СРП *Плахотин*

ПЛАХОТНЫ.— *Плахатню́к.* Параўн. ПЛАХОТА

ПЛАШКА.— *Плашкéвіч; ?Плашчы́нскі*

ПЛЕЙКА літ. *plėikė* 'лысіна'. — *Плéйка*

*ПЛЕКА, памянш. ПЛЕЧКА.— *Плéчка.* СРП *Плечков*

ПЛЕНКА рэг. 'тонкая шчарбінка на метале, напрыклад, на касе', 'пенка; плеўка на малацэ' (Нас.), рус. 'пленка, плеўка' (Даль).— *Плéнка.* СРП *Пленкович, Пленкин*

ПЛЕЎКА.— *Плеўка.* Бел. у XVI ст. *Плевка* (Туп.)

ПЛЕХ.— *Плех.* Бел. у XVII ст. *Плеха* (БА, І, 245)

*ПЛЕХАДАН.— *Плехадáнаў*

ПЛЕХАН 'лысы, пляшывы'?— *Пляхáн, Пляхáнаў.* Бел. у XVIII ст. *Плехан* (БА, І, 245). Рус. у XVII ст. *Плехан* (Туп.). СРП *Плеханов*

ПЛЕХАЦЬ параўн. рэг. *пляхотка, пляхоцце* 'рвань, парванае адзенне' (Нас.), рус. *плехоть* тое ж (Даль).— *Плéхаць*

ПЛЕШ.— *Пляшэ́віч*

ПЛІГАЎКА параўн. рэг. *плігаць, плíганне* (аб дзецях) 'хварэць паносам' (Нас.).— *Плíгаўка, ?Плы́гаўка* пры ['л]>[л]

ПЛІКУС літ. *plikas* 'лысы', 'голы, неадзеты', *plikti* 'лысець'.— *Плікус*

*ПЛІНДА.— *Пліндa; Пліндукóў*

ПЛІС.— *Пліс, Плісаў; Плісю́к.* У Туп. у XVII ст. *Плис.* СРП *Плисов*

ПЛІСІЦА рэг. заал. 'пліска' (Нас., Бяльк.).— *Плісіца*

ПЛІСКА.— *Пліска, Плісkó* з пераносам націску, *Плiскéвiч*

*ПЛІТКО.— *Плітkó*

ПЛІТНІК.— *Плітнік*

ПЛІШЧ рус. *плищ* 'крык, гоман, гам' (Даль).— *Плішч*

ПЛОСКІ.— *Плóскі, Плаcкóвіч; Пласкавіцкі.* У Туп. у XV—XVI стст. *Плоской*

ПЛОТКА.— *Плóтка, Плóткін.* СРП *Плоткин*

ПЛОТНІК рэг. 'цясляр'.— *Плóтнік, Плóтнікаў.* Рус. у XVII—XVIII стст. *Плотник* (Туп.). СРП *Плотник, Плотников*

ПЛУГАТАР, ПЛУГАТЫР рус. паўдн. *плугаторь* 'багаты селянін' (Даль), данск. *плугатор* 'араты' (Мірт.), укр. *плугатарь, плугатирь* 'араты, работнік, які арэ' (Грынч.).— *Плугатáр, Плугаты́р.* Укр. у XVI ст. *Плугатар* (Туп.)

ПЛЫГАЎКА параўн. рус. паўдн. *плыгаць* 'прыгаць, скакаць, сігаць' (Даль), укр. *плигати* тое ж (Грынч.).— *Плы́гаўка.* Параўн. ПЛІГАЎКА

ПЛЮСКА рэг. 'шалупіна, у якой паспявае плод арэха, жолуда і інш.', 'скурка на зярнятах збожжа' (Нас.), рус. 'кветкавая талерачка, семянная талерачка' (Даль).— *Плюскóў.* Параўн. у Туп. у XVII ст. *Плюско*

ПЛЮТ, ПЛЮТА рэг. *плюта* 'дрэнная пагода, слота' (Стэц.), укр. *плюта* 'дождж, дажджлівая пагода' (Грынч.), параўн. таксама літ. *pliutà* 'скрынка (хлеба)'.— *Плют, Плютá; Плюцінскі.* СРП *Плютов*

ПЛЮХАЙ, памянш. ПЛЮШКО ад *плюхаць, плюхацца,* г. зн. 'той, хто плюхае, плюхаецца' ці ад рэг. *плюха* 'поўха'.— *Плюхаёў, Плюшкéвіч.* Параўн. СРП *Плюхин, Плюшкин*

ПЛЮШЧ, памянш. ПЛЮШЧЫК 'паўзучая расліна' (БРС), рэг. 'вадзянка, вадзяны пухір на целе' (Нас.), рус. *плющ* 'паўзучая расліна', 'плоскі гузік' (Даль), укр. *плющ* 'паўзучая расліна' (Грынч.).— *Плю́шчык, Плю-*

*шчыкаў*. Бел. у XVIII ст. *Плющ*, *Плющик* (БА, I, 245). СРП *Плющ*, *Плющев*

ПЛЮШЧАЙ.— *Плюшчàй*. Параўн. ПЛЮШЧ

ПЛЮШЧАК.— *Плюшчакóў*. Параўн. ПЛЮШЧ

ПЛЯВАКА рус. *плевака* 'у каго прывычка пляваць' (Даль), смал. *плювака* тое ж (Дабр.), укр. *плювака* тое ж (Грынч.). — *Пляву́ка*. Бел. у XVI—XVII стст. *Плевака* (БА, I, 245; Туп.). СРП *Плевако*

ПЛЯНТА ўкр. 'роўнае месца'? (Грынч.), польск. *planta* 'насып'.— *Пля́нта*

ПЛЯСКАЧ.— *Пляскàч*, *Плескачóў*, *Плескацэ́віч*, *Плескачэ́віч*. СРП *Плескачёв*

ПЛЯСКУН рус. 'той, хто пялешчацца ў вадзе ці плюхае вадою' (Даль).— *Плескунóў*

ПЛЯСУН рэг. і рус. 'танцор' (Бяльк.).—*Плясу́н*, *Плясунóў*. Укр. у XV—XVII стст. *Плясун* (Туп.). СРП *Плясунов*, *Плясунков*

ПЛЯЦ.— *Пляц*

ПЛЯЦЕНЬ.— *Плятнёў*. Рус. у XVI ст. *Плетень* (Туп.). СРП *Плетнёв*

ПЛЯЦЯГА 'плётка'?— *Пляця́га*

ПЛЯШАК рус. *плешак* 'лысы, пляшывы чалавек' (Даль).— *Пляша́к*, *Плешакóў*. СРП *Плешаков*

ПЛЯШКУН.— *Плешкунóў*. Параўн. ПЛЯШАК

ПЛЯШЫВЫ, памянш. ПЛЯШКО.—*Пляшы́ваў*, *Плешаве́ня*; *Пляшкó*, *Пляшкóў*, *Пляшке́віч*. Бел. у XVI—XVIII стст. *Плешивый*, *Плешко* (БА, I, 245; Туп.). Рус. у XV ст. *Плешивой*, *Плешко*, *Плешков*, *Пляшкевич*

*ПНЮХА, памянш. ПНЮШКА. ад *пяцца*, г. зн. 'той, хто пнецца'?—*Пнюшкóў*

*ПОБКА.— *Пóбчанка*

ПОВАР.— *Пóвар*, *Пóвараў*, *Пава́рыч*. СРП *Повар*, *Поваров*, *Поваренков*

ПОВАРГА параўн. літ. *pavar̃gti* 'змарыцца', 'збяднець', *pavar̃gilis* 'бядняк'.— *Пóварга*

ПОГРАБ, памянш. ПАГРАБЕЦ.— *Паграбе́ц*; *Паграбе́цкі*, *Паграбіцкі*

ПОДУСТ бел. заал. 'рыба подуст'.— *Пóдуст*. Бел. у XVII ст. *Подуста* (БА, I, 246)

ПОДЦЕРАБ, ПАДЦЯРОБ, памянш. ПАДЦЕРАБОК рэг. *подцераб* 'поцераб, усякія рэшткі пры цerabленні' (Дзярж.— М. Б.).— *Пóдцераб*, *Падцярóб*; *Падцерабкóў*

ПОЗА.— *Пóзін*. СРП *Позин*

ПОЗДЗЕР рэг. 'кастрыца' з польск. *paździerz* тое ж.— *По́здзер;* магчыма і ад *поздно* пры [дн]>[д], параўн. у сувязі з гэтым СРП *Познер,* дзе, відаць, [дн]>[н].

ПОЙДАК параўн. рэг. *пайдаць* 'есці, наесціся, пад'-есці' (Нас.).—*По́йдак*

ПОЙМА.— *По́йміч*

*ПОЙТА.— *По́йта*

ПОКА.— *По́ка.* Параўн. ПОКАЛА

ПОКАЛА рэг. *покала* 'пражора' (Бяльк.), параўн. рэг. *покаць* неадабр. 'есці, піць, лопаць', 'смяяцца, надрывацца ад смеху' (Нас.).— *По́кала; Пакалю́к.* СРП *Покалов*

ПОКЛАД, памянш. ПАКЛАДОК.— *По́клад, Пакладо́к.* Бел. у XVII ст. *Поклад* (БА, I, 246)

ПОКРЫШКА гл. ПАКРЫШКА

ПОЛАЗ.— *По́лаз, По́лазаў.* Бел. у XVI ст. *Полоз* (БА, I, 247). У Туп. у XVI ст. *Полоз.* СРП *Полозов, Полозков*

ПОЛУДЗЕНЬ.— *По́лудзень*

ПОЛЬСКІ.— *По́льскі.* Бел. у XVI ст. *Польский* (БА, I, 247)

ПОМАЗ рэг. 'падмазка' (Нас.).— *По́мазаў.* СРП *Помазов, Помазенков*

*ПОМАЧТ.— *По́мачтаў*

ПОНТА.— *По́нта.* Параўн. СРП *Понтиков*

ПОНТУС гл. ПАНТУС

ПОП, памянш. ПАПОК, ПАПКО, ПОПКА, ПАПЕЦ.— *Папо́ў, Папо́віч, По́піч, По́пічаў, Папе́нка, Папе́нчанка, Папёнак; Папо́к, Папко́, По́пка, Папко́ў, Папко́віч, По́пчанка, Папчэ́ня; Папцо́ў, Папо́ўскі, Папко́ўскі.* Бел. у XVI—XVII стст. *Попко, Попка,* рус. у XV—XVI стст. *Поп, Попок, Попко* (Туп.). СРП *Попов, Попович, Попиков, Попок, Поповский, Попичевский*

ПОПЕЛ, ПОПЕЛЬ данск. *попель* 'пыл', 'попел' (Мірт.).— *По́пель, Папе́ленка; Папе́льскі, Папялко́ўскі.* Бел. у XVIII ст. *Попелка* (БА, I, 247). Укр. у XVII ст. *Попил* (Туп.)

*ПОПЕНЬ.— *По́пень*

ПОРАХАНЬ, памянш. ПАРАХОНЬКА ўкр. *порохонь* 'гніляк, гнілое дрэва' (Грынч.). — *Парахо́нька.* Параўн. ПАРАХОНЬ

*ПОРГЕН.— *По́рген*

ПОРС(А), памянш. ПОРСІК параўн. рэг. *порскаць* (аб кані) 'фыркаць', 'наравіцца, натурыцца, упірацца', 'чхаць', 'пырскаць смехам' (Нас.), параўн. таксама польск. *forsa 'грошы'*, адкуль пры [ф]>[п] *порса.— Пóрсік*

ПОРХАЎКА.— *Пóрхаўка, Пархóўчанка*

*ПОРШ.— *Порш.* СРП *Поршик*

ПОСАХ.— *Пóсах.* СРП *?Посохин, Посошков*

ПОСНІК.— *Пóснік.* Бел. у XVI ст. *Посник* (БА, I, 248; Туп.). Рус. вельмі папулярнае ў XVI—XVII стст. *Посник, Постник, Посничко,* укр. у XVI ст. *Посник* (Туп.). СРП *Посников, Постников*

ПОСТ.— *Пост*

*ПОСТЫК.— *Пóстык*

*ПОЎЖЫК.— *Пóўжык*

ПОЎСТЬ, памянш. ПОЎСЦІК.— *Пóўсцік*

ПОЎХ, памянш. ПАЎШОК, ПАЎШЭЦ параўн. *поўха* 'аплявуха', рус. смал. *повх, полх* 'птушка каралёк' (Дабр.), укр. *повх, пільх* 'палявая мыш' (Грынч.).— *Поўх, Паўхóвіч: Паўшóк; Паўшэ́цiч.* Бел. у XVI ст. *Повх* (БА, I, 245)

*ПОЦЬКА.— *Пóцька*

ПОЧАПЕНЬ смал. *почапня* 'вялікі кош, карзіна' (Дабр.), параўн. таксама рэг. *почап* 'жэрдка з кручком, якою дастаюць ваду са студні' (Дзярж.— М. Б.), рус. *почеп* тое ж, 'жэрдка, да якой прывязана калыска' (Даль).— *Пóчапéнь.* Параўн. яшчэ ПАЧОПКА

ПОШВА рэг. 'навалачка на падушку' (Стэц., Дзярж.— М. Б.).— *Пашвéнка; Пашвянчýк, Пашвінчýк* пры [е]||[я]>[і]

ПРАВАЛ.— *Правáленка, Правалёнак; Правалінскі.* СРП *Провалов*

ПРАВАСУД рус. *правосуд* 'справядлівы суд, суд па сумленню', 'член вотчыннага (памешчыцкага) праўлення' (Даль).— *Правасýд*

ПРАВІЛА рэг. сапожн. 'правідла' (Дзярж.—М. Б.), рус. *правило* 'усё, чым правяць' (Даль), укр. *правило* 'руль', сапожн. 'частка сапожнаї калодкі' (Грынч.).— *Правіла, Правілаў*

ПРАВОРНЫ рэг 'борзды, жвавы, спрытны', рус. *проворный* тое ж (Даль), укр. *проворний* тое ж (Грынч.).— *Правóрны.* СРП *Проворнов*

*ПРАДАЛАДКА.— *Прадалэ́дка, Прадалáдчанка*

ПРАДАЛЯК(А) параўн. рэг. *прадаляты* толькі мн. л. 'затрымка, зацяжка, валакіта' (Нас.), г. зн. 'той, хто адкладвае на далей якую-небудзь справу'?— *Прадаля́кін*

ПРАДВЕЧНЫ рус. *предвечный* 'спрадвечны' (Даль), укр. *предвічний, передвічній* тое ж (Грынч.).— *Прадве́чны*

ПРАДЗЕД.— *Пра́дзед, Пра́дзедаў, Прадзядо́віч*

ПРАДЗЮХ 'прадзільшчык'? — *Прадзю́х.* Параўн. ПРАДУН

ПРАДКА рэг. 'прасніца', рус. *прядка* 'пасма валасоў ці ільну' (Даль), укр. *прядка* 'калаўрот', 'прадзільшчыца' (Грынч.).— *Пра́дка.* СРП *Прядкин*

ПРАДУН укр. *прядун* 'прадзільшчык' (Грынч.).— *Праду́н*

ПРАДУХА рэг. 'прадзільшчыца' (Дзярж.— М. Б.), рус. *прядуха* 'попрадкі, пасядзелкі, вячоркі' (Даль), укр. *прядуха* 'прадзільшчыца' (Грынч.); параўн. таксама 'аддушына, душнік' (БРС), рэг. 'перадышка, змена дыхання', 'адпачынак' (Нас.), рус. *продух* 'аддушына, душнік' (Даль).— *Праду́ха.* Параўн. СРП *Прядеха;* да *продух* паралелей няма

ПРАЖОНІК гл. ПРАЖЭНІК

ПРАЖОГА параўн. рус. *прожега, прожига* 'прайдзісвет, прайдоха' (Даль), укр. *прожог* 'імклівасць, імкненне' (Грынч.).— *Пражо́га*

ПРАЖЭЙ 'той, хто пражыць'?— *Пражэ́еў*

ПРАЖЭНІК рэг. страва 'пражаніна, смажаніна'.— *Пражэ́нік*

ПРАКАЗ(А) параўн. рус. *проказить, проказничать* 'сваволіць, гарэзнічаць' (Даль), г. зн. 'свавольнік, гарэзнік, дураслівец, пракуда'?— *Прака́заў*

*ПРАКАС.— *Пракас*

ПРАКАЦЕНЬ.— *Пракацéнь*

ПРАКУДА 'свавольнік, гарэзнік' (БРС), рэг. 'праныра' (Мсцісл.— Крыв.). Рус. смал. *прокуда* 'злодзей' (Дабр.). — *Праку́да, Пракудо́віч.* У Туп. у XVI—XVII стст. *Прокуда*

ПРАКУРАТ рэг. 'хітрун' (Нас.), рус. смал. *прокурат* тое ж (Дабр.), 'свавольнік, гарэзнік, пракуда, жартаўнік, штукар', 'абманшчык, ашуканец, махляр, круцель' (Даль), відаць з польск. *prokurator* 'кіраўнік правінцыі', 'судовы чыноўнік' (Гарб.).— *Пракура́т*

ПРАЛАТ 'прэлат'?— *Пралáт*

ПРАЛЫГА рус. *пролыга* 'ілгун, хлус, абманшчык' (Даль), параўн. таксама бел. *пралыгваць* 'працягваць праз што-небудзь' (БРС).— *Пралы́гін,* СРП *Пролыгин*

ПРАЛЯ, ПРАЛЬ 'прадзільшчыца, прадзільшчык'.— *Прáліч.* Параўн. ПРАДУН

*ПРАНУЗА.— *Прану́за*

ПРАНЫРА.— *Праны́ра*

ПРАСВІРА рэг. 'просвіра'.— *Прасвірын.* СРП *Просвирин, Просвиренков, Просвиров*

ПРАСКА ўкр. 'прас' (Грынч.).— *Прáскін*

*ПРАСКАЛ(А).— *Праскалóвіч*

ПРАСКАЧЫЛА ад *скакаць, праскакаць.— Праскачы́лаў*

ПРАСКУРА рэг. 'просвіра' (Нас.), рус., укр. *проскура* тое ж (Даль, Грынч.).—*Праску́ра, Праску́раў.* Укр. у XV—XVII стст. *Проскура* (Туп.). СРП *Проскура, Проскуров*

ПРАСКУРНІЧЫ 'той, хто робіць ці прадае праскуру, прасвіру'? — *Праскурні́чы*

ПРАСЛА.— *Прáслаў*

ПРАСНЯК бел. рэг. *прасняк* 'праснак', 'недастатковa кіслы хлеб' (Вешт.), рус. *пресняк* 'праснак, прэсны хлеб' (Даль), укр. *прісняк* тое ж (Грынч.).— *Прасня́к, Праснякóў.* СРП *Пресняков*

ПРАСОЛ рус., укр., рэг. бел. 'скупшчык мяса і рыбы для продажу ў розніцу' (Даль, РБС, Грынч.).— *Прасóлаў, Прасалóў, Прасалóвіч.* Бел. у XVII ст. *Прасол* (БА, I, 248). СРП *Прасолов*

ПРАСТАК рэг. 'прасцяк, просты чалавек' (Дзярж.— М. Б.), рус., укр. *простак* тое ж (Даль, Грынч.).— *Прасτáк, Прóстак* з пераносам націску, *Прастакóў.* СРП *Простаков*

ПРАТАПОП.— *Пратапóпаў, ?Пратапóвіч* з *Пратапаповіч.* СРП *Протопопов*

ПРАТОК(А).— *Пратакóвіч*

ПРАЎДА.— *Прáўдзін.* Укр. у XVII ст. *Правда* (Туп.). СРП *Правдин*

*ПРАХІРА.— *Прахіра*

ПРАХОЖЫ.— *Прахóжы*

ПРАЦЭЎНІК 'працаўнік'?— *Працэ́ўнікаў*

ПРАЧ бел., рэг. рус., укр. 'пранік' (ДАБМ, карта № 252, Даль, Грынч.).— *Прач*

ПРАЧКА.— *Пра́чкін*

ПРАЧУХАН параўн. бел. *прачухацца* 'апамятацца', 'працверазіцца' (БРС, КСЧ), рэг. *прачуханка* 'наганяй, нагонка' (Нас.), рус. *прочуханка* тое ж (Даль), укр. *прочухан, прочуханка* 'патасоўка, лупцоўка', 'наганяй, нагонка' (Грынч.).— *Прачуха́наў.* Параўн. СРП *Прочухай*

ПРАШЧАЙ ад рэг. *прашчаць* 'прабаваць'.— *Прашча́еў.* СРП *Прощаев*

ПРОБАШЧ польск *proboszcz* 'парафіяльны ксёндз'.— *Про́башч*

ПРОВАР ад рус. *проворный?— Про́вараў.* СРП *Проворов*

ПРОЗ(А).— *Про́заў.* СРП *Прозин*

ПРОЗАР параўн. рус. *прозор* 'адкрыты від, месца з добрым абзорам', *прозора* 'празорца, празорлівец' (Даль), укр. *прозір* 'адтуліна, прасвет', 'дрэннае вока, ад якога бываюць сурокі' (Грынч.).— *Про́зараў.* СРП *Прозоров, Прозоровский*

ПРОКУС 'пракус, пракушанае месца', параўн. рус. *прокус* тое ж (Даль), параўн. літ. *prakùsti* 'паправіцца', 'разжыцца'.— *Про́кусаў*

ПРОКША рус. (на Пячоры) 'нячысты дух' (Даль).— *Про́кша*

ПРОРВА.— *Про́рвіч*

ПРОСТАК гл. ПРАСТАК

ПРОШАК польск. *proszek, proszek* 'проська, папрашайка', 'шафер на вяселлі', *proszek,* 'парашок' (Карл.).— *Про́шак*

ПРУД рэг. 'вадзяны млын' (Нас.), рус. 'запруда, плаціна', 'штучнае возера', 'вадзяны млын' (Даль), укр. 'хуткая плынь, быстрыня' (Грынч.).— *Пру́даў.* СРП *Прудков, Прудовский, Пруденский*

ПРУДЗЕНІЦА жыхар в. Пруды, Прудзяні.— *Прудзе́ніца*

*ПРУДЗІННІК.— *Прудзіннік*

ПРУДНІК рэг. 'мельнік на вадзяным млыне' (Нас.), рус. *прудник* тое ж (Даль, Дабр.).— *Пру́днік, Пру́днікаў, Прудніко́віч, Прудніча́нка, Пруднячэ́нка* пры [і]>[я], *Пруднічо́нак.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Прудник* (БА, I, 249; Туп.). СРП *Прудников*

ПРУС, памянш. ПРУСОК.— *Прус, Пру́саў, Прусе́віч, Прусяно́к; Пру́скін.* СРП *Прусов, Пруссов*

ПРУСАК.— *Руса́к.* СРП *Прусаков, Пруссаков*

ПРУТ, памянш. ПРУТОК.— *Прут; Прутко́ў.* СРП *Прутков*

ПРЫБОР, памянш. ПРЫБАРЭЦ рэг. 'прылада', 'прыбіранне, упрыгожванне', 'падрыхтоўка ў дарогу, зборы', 'набор прылад' (Нас.).— *Прыбо́р; Прыбарэ́ц*

ПРЫБЫЛЬ рэг. 'прыбытак' (Дзярж.— М. Б.), рус. тое ж (Даль).— *Пры́быль; Прыбы́льскі*

ПРЫБЫТАК, ПРЫБЫТКА.— *Прыбы́так; Прыбытко́ў; Прыбы́тка; Прыбытко́ўскі.* Бел. у XVII ст. *Прибыток*, рус. у XIII—XVI стст. *Прибыток, Прибытко* (Туп.). СРП *Прибытков, Прибыткин*

ПРЫБЫШ 'новы чалавек з іншай мясцовасці'.— *Пры́быш*

ПРЫВАЛ(А) параўн. рус. *привал* 'прымак' (Даль).— *Прыва́лаў.* Укр. у XVII ст. *Привало* (Туп.). СРП *Привалов*

*ПРЫВІЦЕНЬ ад прывіць? — *Прывіце́нь*

ПРЫГАЖАЙ параўн. рус. *пригожайка* 'прыгажуня, красуня' (Даль).— *Прыгажа́еў*

ПРЫГАЖУН.— *Прыгажу́н*

ПРЫГАРА параўн. рэг. прыгарка 'прыгарэлае месца, прыгарак, гарэлік' (Шат.), укр. *пригара* 'прыгарэлая частка яды' (Грынч.).— *Прыга́ра; Прыгаро́ўскі*

ПРЫГОДА.— *Прыго́дзін, Прыго́дзіч.* У Туп. у XVI ст. *Пригода*

ПРЫГОЖЫ.— *Прыго́жы, Прыго́жанка.* СРП *Пригожин*

ПРЫГОН.— *Прыго́н*

ПРЫГУН рэг. 'скакун' (Дзярж.— М. Б.), рус. *прыгун* тое ж.— *Прыгу́н.* Бел. у XVIII ст. *Прыгун* (БА, I, 249)

ПРЫДЫБАЙЛА параўн. *прыдыбаць* 'прыйсці, прыхрамаць' (БРС), укр. *придибати* тое ж (Грынч.).—*Прыдыба́йла.* Бел. у XVI ст. *Прыдыбайло* (БА, I, 248)

ПРЫЁМКА.— *Прыёмка*

*ПРЫЖНЯ ці *ПРЫЖЭНЬ.— *Прыжне́віч*

ПРЫЗБА.— *Пры́зба*

*ПРЫЗЬ.— *Прызь.*

*ПРЫКА.— *Пры́ка*

ПРЫКОТА ад *прыкаціцца* 'новы чалавек з іншай мясцовасці' ці 'прымак'? — *Прыко́та.* Параўн. ПРЫВАЛА

*ПРЫЛА.— *Прылю́к*

ПРЫЛЕПА, памянш. ПРЫЛЕПКА параўн. рус. *прилепок* 'тое, што прылеплена' (Даль), магчыма, 'прымак'.— *Прыле́па, Прыле́пін; Прыле́пка.* Бел. у XVI ст. *Прилепа* (Туп.)

*ПРЫЛЕПША ад *прыляпіць?* — **Прылепша*→Прыле́пшых. Параўн. ПРЫЛЕПА

*ПРЫЛІШЧ.— *Прылі́шч*

ПРЫМА ад *прымаць* 'прымак'?—*Пры́ма, Пры́мін, Пры́міч.* Бел. у XVI—XVII стст. *Прима, Прийма,* укр. у XVI—XVII стст. *Прима, Прейма* (Туп.)

ПРЫМАК, рэг. ПРЫМАКА, памянш. ПРЫМАЧОК.— *Прыма́к, Прыма́ка, Прымако́ў, Прымачо́нак; Прымачо́к.* СРП *Приймак*

ПРЫМХА параўн. бел. *прымхі* 'забабоны, вера ў прыкметы' (БРС), укр. *примха* 'капрыз, выдумка, нораў', 'забабоны, вера ў прыкметы' (Грынч.).— *Пры́мшыц* пры [ч]>[ц]

ПРЫМЯЧАЙ ад *прымячаць* 'прыкмячаць, заўважаць', г. зн. 'той, хто прыкмячае'.— *Прымяча́еў*

ПРЫНЕСЛІК 'той, якога прынеслі, прынесены'.— *Прыне́слік*

ПРЫНЦ 'прынц'? рус. данск. *прынц, принц* з тур. 'рыс' (Мірт.).— *Прынц*

*ПРЫПУТ(А) ці *ПРЫПУЦЬ.— *Прыпуце́нка*

*ПРЫПЯЦЕНЬ.— *Пры́пяцень*

*ПРЫС, ПРЫСЬ.— *Прыс, Прысь.* СРП *Прысич*

ПРЫСАДА рэг. 'чаранок, ручка нажа, мяча і інш.', 'ложа стрэльбы' (Нас.), 'алея' (КСЧ), рус. *присада* 'нанос зямлі да аднаго берага' (Даль), укр. *присада* 'сядзіба', 'прышчэпа' (Грынч.).— *Прыса́да*

ПРЫСТАЎКА.— *Прыста́ўка.* СРП *Приставкин*

*ПРЫСТРОМ.— *Прыстро́м, Прыстро́маў.* Параўн. бел. у XVII ст. *Прыстрон* (БА, I, 248)

ПРЫСТУПА, памянш. ПРЫСТУПЧЫК 'прыступка, прыступак'?— *Прысту́па; Прысту́пчык.* Бел. у XVI—XVII стст. *Приступа, Приступка* (БА, I, 249; Туп.). Укр. у XVII ст. *Приступа* (Туп.). СРП *Приступин*

ПРЫСЯЖНЫ.— *Прыся́жны.* СРП *Присяжный*

ПРЫТУКА параўн. рэг. *прытуканы* 'аглушаны лаянкай, затуканы', 'сілай прымушаны да працы' (Нас.).— *Прыту́ка*

ПРЫТУЛ, памянш. ПРЫТУЛІК рэг. 'прытулак'

(Дзярж.— М. Б.), рус. смал. *притул* тое ж (Дабр.).— *Прытýленка; Прытýлік*

ПРЫТЫКА рус. *притыка* 'запірка, загваздка', 'лішні чалавек, непатрэбны чалавек' (Даль), укр. *притика* 'затычка, запірка, загваздка' (Грынч.).— *Прытычанка; Прытыцкі.* СРП *Притыкин*

ПРЫХАЖАН параўн. бел. *прыхажанін.— Прыхажáн*

*ПРЫХАЧ.— *Прыхáч*

ПРЫХОДЗЬКА 'той, хто прыйшоў, прышлы'?— *Прыхóдзька.* Укр. у XVII ст. *Приходько* (Туп.). СРП *Приходько, Приходко, Приходченко*

ПРЫХОЖЫ рэг. 'прышлы' (Дзярж.— М. Б.), рус. прихожий тое ж (Даль).— *Прыхóжы.* Бел. у XVI—XVII стст. *Прихожий* (БА, I, 249; Туп.). Укр. у XVI—XVII стст. *Прихожий* (Туп.)

ПРЫШЛА 'прышлы'?— *Прышла*

ПРЫШЧ.— *Прышчыц.* Укр. у XVII ст. *Прищик* (Туп.). СРП *Прищенко*

ПРЫШЧЭП, ПРЫШЧЭПА, памянш. ПРЫШЧЭПЧЫК.— *Прышчэ́п, Прышчэ́па, Прышчэ́паў; Прышчэ́пчык.* СРП *Прищепов*

ПРЫШЫВАЛКА рэг. спец. 'тонкая палоска сырамятнай скуры, якою сшываюць скураныя часткі вупражы' (Дзярж.— М. Б.).— *Прышывáлка*

*ПРЭДА, памянш. ПРЭДКА.— *Прэ́да; Прэ́дка*

*ПРЭДКЕЛЬ.— *Прэ́дкель*

*ПРЭДНЕЛЬ.— *Прэ́днель*

*ПРЭНЗ.— *Прэнз, Прэ́нзаў*

ПРЭСНЫ.— *Прэ́сны, Праснóў.* СРП *Преснов*

*ПСЕЎКА.— *Псéўкін*

*ПСТЫГА.— *Пстыга*

ПСЫШЧАНІЦА жыхар в. Псышча, Псышчы? — *Псышчаніца*

ПТАХ ці ПТАХА.— *Птáшыц; Пташýк; Пташынскі.* Бел. у XVII ст. Птах (БА, I, 249). СРП *Пташин.*

ПТАШНІК рэг. 'птушнік' (Дзярж.— М. Б.), укр. *пташнік* 'птушнік', 'птушкалоў' (Грынч.).— *Птáшнік*

ПТУХА рэг. 'птушка', рус. *птуха* тое ж (Даль).— *Птýха.* Укр. у XVII ст. *Птуха* (Туп.). СРП *Птуха*

ПУГАЎКА 'гузік', 'п'яўка' (Нас.), рус. *пуговка* 'гузік'.— *Пýгаўка.* Бел. у XVII ст. *Пуговка* (Туп.). СРП *Пуговкин*

ПУГАЧ. — *Пугáч, Пугачóў, Пугачэ́віч, Пугацэ́віч.* Бел. у XV—XVII стст. *Пугач* (БА, I, 249; Туп.). Укр. у XVI ст. *Пугач* (Туп.). СРП *Пугачёв, Пугачевский*

ПУД.— *Пуд, Пýдаў.* У Туп. у XVII ст. *Пуд.* СРП *Пудов*

*ПУДАК.— *Пудакéвіч.*

ПУЖАЛЬ ад *пужаць,* г. зн. 'той, хто пужае'?— *Пужáль*

ПУЖАН 'пужаны'.— *Пужáн*

ПУЗА.— *Пузéвіч; Пýзік, Пýзікаў.* Бел. у XVI ст. *Пуз, Пузо* (БА, I, 249). СРП *Пузин, Пузиков*

ПУЗАК, ПУЗАКА 'пузаты, пузан'?—*Пузáк, Пузáка.* СРП *Пузаков*

ПУЗАН, памянш. ПУЗАНОК.— *Пузáн, Пузáнаў; Пузанкéвіч.* Бел. у XVI ст. *Пузан* (БА, I, 249). У Туп. у XV ст. *Пузан.* СРП *Пузанов, Пузаненков, Пузанков*

ПУЗАТЫ, памянш. ПУЗАТКА.— *Пузáтка; Пузáткін.* СРП *Пузатов, Пузатиков*

ПУЗЫНА, ПУЗЫНЯ, памянш. ПУЗЫНКА 'пузаты, пузан'?— *Пузы́на, Пузынóвіч; Пузы́ня; Пузы́нка*

ПУЗЫР.— *Пузырóў, Пузы́рын, Пузырэ́нка; Пузырэ́ўскі.* СРП *Пузырёв; Пузырьков, Пузыревский*

*ПУЙДАК. — *Пуйдáк*

*ПУЙТА.— *Пýйта*

*ПУЙША.— *Пýйша*

ПУК, памянш. ПУЧОК, ПУЧКО, ПУЧАК.— *Пукóвіч; Пучóк, Пучкóў; ?Пучкó; ?Пучáк; ?Пýчык; Пучы́нскі, Пучкóўскі.* Рус. у XV—XVI стст. *Пучок, Пучко* (Туп.). СРП *Пучков*

ПУКАЛА, памянш. ПУКЕЛЬЧЫК параўн. рэг. *пукаць* 'лопацца', (Дзярж. —М. Б.), 'стукаць у дзверы'.— *Пукáла; Пукáльчык.* Бел. у XVII ст. *Пукало* (Туп.)

ПУКАЧ ад *пукаты* ці *пукаць* (гл. ПУКАЛА).—*Пукáч.* Бел. у XVII ст. *Пукач* (Туп.)

ПУКЕЛА параўн. літ. *pũkẽliai* 'пушок, варсінкі'.— *Пукéла.* Параўн. ПУКАЛА, ПУКАЧ

*ПУКІТА.— *Пукíта*

*ПУЛКО.— *Пулкó*

*ПУЛЯК.— *Пуля́к*

*ПУНЕТА.— *Пунéта*

ПУНЯ, памянш. ПУНЬКА, ПУНЧЫК, ПУНІК.— *Пýня; Пýнька, Пунькó* з пераносам націску, *Пýнчанка; Пун-*

*чык; Пýнік; Пунінскі.* Рус. у XVI ст. *Пунька* (Туп.). СРП *Пунин, Пунько*

ПУНТУС гл. ПАНТУС

ПУП, памянш. ПУПКО.— *Пуп; Пупкó, Пýпка, Пупкóў, Пупкéвіч; Пупінскі.* Рус. у XVI ст. *Пуп, Пупок* (Туп.). СРП *Пупко, Пупкевич*

ПУПА літ. *pupà* 'боб'.— *Пýпа, Пýпін; Пупінскі*

*ПУПАЧ.— *Пупáч*

*ПУПЕЙКА.— *Пупéйка*

ПУПЕЛЬ, памянш. ПУПЛІК рус. смал. *пупель* 'нізкарослы' (Дабр.), параўн. і літ. *pupẽle* 'фасоль'.— *Пупéль; Пýплікаў.* Параўн. укр. у XVII ст. *Пупляк* (Туп.)

ПУПКА, ПУПКО гл. ПУП

ПУРА рэг. 'павозка з высокімі драбінамі для перавозкі сена' (Пол.— М. Б.).— *Пýра: Пуранóк.* СРП *Пурин*

ПУРКО параўн. літ. *purkúoti* 'мурлыкаць'.— *Пуркó*

ПУРСАЛЬ параўн. літ. *pur̃slai* 'бурбалкі, пырскі, пена'.— *Пурсáль*

ПУРТ рус. сіб. 'павозачны кузаў, скрынка, лубянка' (Даль), параўн. літ. *pùrtyti* 'трэсці'.— *Пýртаў.* СРП *Пурто, Пуртов*

*ПУРЫГА, памянш. ПУРЫЖКА.— *Пурыжóнак; ?Пуры́шка* пры [ж]>[ш]

*ПУСТАВАЛ.— *Пуставáл.* СРП *Пустовалов*

*ПУСТАВІК.— *Пуставік*

ПУСТАГВАР параўн. рус. *пустаговоря* 'ілгун, хлус' (Даль).— *Пустагвáр*

ПУСТАСЕЛ рус. бат. 'смежнік', параўн. таксама *пустоселье* 'запусцелае, спустошанае сяло' (Даль).— *Пустасéлаў.* Бел. у XVI ст. *Пустосел* (БА, I, 249)

ПУСТАХОД.— *Пустахóдаў*

ПУСТАШЫЛА 'той, хто пустошыць, разбурае, руйнуе'?— *Пусташы́ла*

*ПУСТУЛ.— *Пустýл*

ПУСЦЕЛЬНІК параўн. бел. *пустэльнік.*— *Пусцéльнік*

ПУСЦЯК рэг. 'дробязь, пусцяковіна' (Дзярж.— М. Б.), рус. *пустяк* тое ж.— *Пусця́к.* СРП *Пустяков*

ПУТА, памянш. ПУЦІК.— *Пýтаў, ?Пýцік, Пýцікаў.* СРП *Путин*

ПУТНІК ст. бел. *путник* 'прышлы чалавек, які пасяліўся на зямлі памешчыка', 'чалавек, абавязкам якога было даваць падводу' (Нас., АУ), рус. *путник* 'падарожны'.— *Пýтнік, Пýтнікаў*

*ПУТНЯ.— *Пўтнін*

ПУТРА, ПУТРО, памянш. ПУТРЫК рэг. *путра* 'кіслая каша' (Бяльк.), 'каша з жытняй мукі', 'нясмачная, дрэнна падрыхтаваная страва' (Вешт.), рус. *путра* 'пойла з мукі', 'праборка, наганяй' (Дабр.), 'поліўка з рознай агародніны' (Даль), *путря* 'пшонная каша ў масле' (Даль), *путро* 'пойла з мукі для скаціны' (Даль), укр. *путря* 'страва з варанага ячменю і салодкага квасу' (Грынч.), польск. *putra* 'каша з жытняй мукі ці ячнай мукі' (Карл.), літ. *putrà* 'пахлёбка, пойла'.— *Пўтра, Путро́, Путр, Путро́ў, Пўтрыч, Путрэ́нка, Путро́нак, Путранко́ў; Пўтрык.* СРП *Путрин*

*ПУТРОН.— *Путро́н.* Параўн. ПУТРА

ПУХ, памянш. ПУШКО.— *Пух, Пухо́віч; Пушко́, Пушко́ў; Пухо́ўскі, Пухавіцкі, Пушы́нскі.* Рус. у XV—XVI стст., укр. у XVII ст. *Пух* (Туп.). СРП *Пухов*

*ПУХАЛЬ.— *Пухале́нка, Пуха́льскі*

ПУХЛЯК рус. смал. 'адутлаваты чалавек' (Дабр.).— *Пухля́к.* СРП *Пухляков*

ПУХНАВЕЦ з в. *Пухнава.*— *Пўхнаўцаў.* Параўн. бел. у XVI ст. *Пухнечка* (БА, І, 250)

*ПУХТУН.— *Пухтуно́ў*

ПУЦА, памянш. ПУЦЫК 'пухлашчокі твар, тоўстая морда'?, параўн. рэг. *пуцойла, пуцук* 'таўстаморды' (Нас.).— *Пуц; Пўцык*

*ПУЦЕЙКА, *ПУЦЭЙКА.— *Пуце́йка, Пуцэ́йка*

ПУЦІК рус. *путик* 'след звярка ці птушкі', 'пастка на звяркоў і птушак' (Даль).— *Пўцік, Пўцікаў*

*ПУЦІЛА.— *Пуціла, ?Пуцы́ла, Пўцылеў.* Бел. у XVI ст. *Путило* (БА, І, 249). Рус. у XV—XVII стст. *Путило, Путилко* (Туп.). СРП *Путилов, Путилин, Путиловский*

*ПУЦЮЛЬ.— *Пуцю́ль*

ПУЦЯТА.— *Путя́та.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Путята* (БА, І, 249). СРП *Путято, Путятов, Путятин*

ПУЧАК, ПУЧКО, ПУЧЫК гл. ПУК

ПУЧКА рэг. 'тупы канец яйца' (Дзярж.— М. Б.).— *Пўчка, Пучко́, Пучко́ў, Пўчкін; Пучко́ўскі.* Рус. у XV—XVI стст. *Пучко, Пучок,* укр. у XVI ст. *Пучка* (Туп.). СРП *Пучкин*

ПУЧЫНА, памянш. ПУЧЫНЕЦ рус. *пучина* 'бяздонне, дрыгва'.— *Пучы́нін; Пучыне́ц,* магчыма, жыхар в. Пучына; *Пучынскі*

*ПУШ.— *Пуш; Пушынскі.* Параўн. ПУХ

ПУША рус. 'звярыны пух', 'адыходы пры трапанні воўны' (Даль).— *Пушын; Пушынскі.* Параўн. ПУХ

ПУШКА 'пушка', 'скрыначка з дрэва ці картону' (БРС), рэг. 'тупы канец яйца' (Нас.).— *Пушкін, Пушчанка.* СРП *Пушкин*

ПУШКАР.— *Пушкар, Пушкароў; Пушкарчук.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Пушкар* (БА, I, 250). Укр. у XVII ст. *Пушкар* (Туп.). СРП *Пушкарь, Пушкарёв, Пушкарский*

*ПУШКЕЛЬ.— *Пушкель*

ПУШКО гл. ПУХ

*ПУШЛЯК.— *Пушляк.* Бел. у XVII ст. *Пушляк* (БА, I, 250)

*ПУШНЕГА.— *Пушнегін*

ПУШНЫ.— *Пушноў.* Бел. у XVII ст. *Пушной* (БА, I, 250). СРП *Пушнов, Пушнин*

ПЦІЦА, памянш. ПЦІЧКА рус. *птица* 'птушка'.— *Пціцын; Пцічкін.* Бел. у XVI ст. *Птица* (БА, I, 249). СРП *Птицын, Птичкин*

ПЧАЛА, памянш. ПЧОЛКА.— *Пчалоў, Пчаленка, Пчалянкоў; Пчолка.* Бел. у XVII ст. *Пчелка* (Туп.). СРП *Пчелин, Пчёлин, Пчелко, Пчёлкин*

ПЧАЛАВОД.— *Пчалавод.* СРП *Пчеловодов*

ПЧЭЛЬНІК рэг. 'пчальнік'. — *Пчэльнікаў.* СРП *Пчельников*

*ПШАНАЙ.— *Пшанай*

ПШАНІЧНІК рэг. 'піраг, блін і інш. з пшанічнай мукі' (Дзярж.— М. Б.), рус. *пшеничник* тое ж (Даль), укр. *пшенишник* 'белы пшанічны хлеб' (Грынч.).— *Пшанічнік, Пшанічнікаў.* СРП *Пшеничников*

ПШОНКА рэг. 'каша з пшана', рус. рэг. *пшенка* 'кукуруза' (Даль), укр. *пшінка* тое ж (Грынч.).—*Пшонка; ?Пшанко* з пераносам націску. Бел. у XVII ст. *Пшенко* (БА, I, 250). СРП *Пшёнкин*

*ПШЫРОК ці *ПШЫРКО.— *Пшыркоў*

ПЫЖ, памянш. ПЫЖЫК 'пыж', рэг. 'нізкарослы чалавек, карапуз' (Бяльк.).— *Пыж, Пыжоў; Пыжык, Пыжкоў.* СРП *Пыжов, Пыжиков, Пыжевский*

*ПЫЗА.— *Пыза.* СРП *Пызин*

ПЫКА рэг. 'твар, морда' (Нас.), параўн. бел. *пыкаць* 'нясkладна гаварыць, запінацца'.— *Пыка, Пыкаў, Пыкін.* Параўн. ПЫКАЛА

ПЫКАЛА рэг. 'заіка', 'заядлы курэц, які курыць люльку' (Нас.).— *Пыкала, Пыкалаў*

ПЫЛІЛА параўн. рэг. *пыліць* 'гарачыцца, злаваць' (Нас.).— *Пыліла*

*ПЫЛЬКА.— *Пыльчанка.* Параўн. ПЫЛІЛА

*ПЫЛЬНІК.— *Пыльнікаў.* СРП *Пыльнікаў*

*ПЫНКУЛЬ.— *Пынкуль*

*ПЫНТО.— *Пынтó*

*ПЫНЬ, памянш. ПЫНЬКО.— *Пынькін.* СРП *Пыненков*

ПЫРКО параўн. рэг. *пырка* 'курачка' (Нас.), рус. усх. *пырка* 'індык' (Даль), параўн. таксама рус. наўг. *пыра* 'разява' (Даль).— *Пыркó; Пырачка, Пырачкін.* Параўн. бел. у XVII ст. *Пыркун* (БА, I, 250). СРП *Пырков, Пыркин, Пыриков*

*ПЫРС, памянш. ПЫРСІК.— *Пырсікаў.* СРП *Пырсов*

ПЫРХ ад *пырхаць,* г. зн. 'той, хто пырхае, непаседлівы чалавек'?— *Пырх, Пыршын*

ПЫСК, памянш. ПЫСКА 'шчака разам з віском' (Нас.), рус. *пыск* 'рыла, морда' (Даль), укр. *писк* тое ж (Грынч.).— *Пыск; Пыскó* з пераносам націску

ПЫТАЛЬ рэг. 'вышэйшага гатунку памол', 'праборка, наганяй' (КСЧ), 'млын, у якім пытлююць' (Дзярж.— М. Б.), укр. *питель* 'млын, у якім пытлююць', 'пытляваная мука' (Грынч.).— *Пытэль, Пыталёў*

ПЫТЛЯК ад пытляваць? — *Пытляк.* Бел. у XVIII ст. *Пытляк*

ПЫХА, ПЫШКА *пыха* 'ганарыстасць' (БРС, Нас.), *пышка* 'ганарлівец', 'пястун' (Нас.), укр. *пиха* 'ганарыстасць' (Грынч.).— *Пыхаў; Пышка, Пышкоў.* У Туп. у XVI—XVII стст. *Пыха, Пых, Пышко*

ПЫЦЬКО 'той, хто пытае'?— *Пыцькó, Пыцькін.* Параўн. СРП *Пытченко*

ПЫШНІК.— *Пышнік.* Параўн. ПЫХА, ПЫШНЫ

ПЫШНЫ.— *Пышны.* СРП *Пышнов*

ПЫШНЯК.— *Пышняк.* Параўн. ПЫШНІК

*ПЭК.— *Пэк*

ПЭР укр. назва рыбы (Грынч.).— *Пэр*

П'ЯВАЧНІК.— *П'явашнікаў* пры [чн]>[шн]

ПЯГАН ці ПЕГАН 'рабаценісты, той, хто мае пегі'?.— *Пяганаў.* СРП *Пеганов.* Параўн. ПЯГО

ПЯГО параўн. рэг. *пегі* 'рабаценне' (Нясв.— Г. А.), польск. *piegi* тое ж.— *Пягó.* СРП *Пегов*

СЕЛЬСКІ.— *Се́льскі*

СЕЛЯДЗЕЦ, памянш. СЯЛЕДЧЫК.— *Селядцо́ў; Сяле́дчык.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Селедец* (Туп., БА, I, 254). СРП *Селедцев*

СЕЛЕХ укр. 'качур' (Грынч.).— *Се́лях; Селяхо́ўскі*

СЕМАК 'сямак, сямёрка'? — *Се́мак*

*СЕМЕЖ.— *Се́меж; ?Се́меш* пры [ж]>[ш]; *Семежаве́ц,* магчыма, ад назвы жыхара н. п. Семежава

СЕМІЖОН.— *Семіжо́н, Сяміжо́н; Сямежо́н* пры [і]>[е]. Бел. у XVIII ст. *Семижон* (БА, I, 255)

СЕМІЛЕТЫ.— *Семіле́таў, Сяміле́таў.* СРП *Семилетов*

*СЕМІТУРКА.— *Семіту́ркін, Сяміту́ркін*

СЕМКА, памянш. СЕМАЧКА, СЕМЧЫК рэг. 'зерне сланечніку'.— *Се́мчын, Се́мчанка; Се́мачкін; Се́мчык*

СЕМЯ, памянш. СЕМЕЧКА.— *Се́мечка.* СРП *Семечкин, Семячкин*

СЕМЯРЫК.— *Семярыко́ў.* СРП *Семериков*

СЕМЯРЫХА.— *Семяры́ха*

СЕНАКОС.— *Сенако́саў*

СЕНАТ.— *Сена́таў.* СРП *Сенатов*

СЕРАБАБА.— *Сераба́ба.* СРП *Серобабов*

СЕРАБРАК рус. *серебряк* 'сярэбраных спраў майстар, сярэбранік' (Даль). — *Серабрако́ў.* СРП *Серебряков*

СЕРАБРО.—*Серабро́, Серабро́ў.* СРП *Серебров, Серебровский*

СЕРАВІК рус. *серовик* 'цёмна-шэрая гліна; шэры пясчанік' (Даль).— *Серавіко́ў*

СЕРАВОКІ.— *Сераво́кі*

СЕРАВУХІ.— *Серावу́хі, Серaву́хаў.* СРП *Сероухов*

СЕРАДА, памянш. СЯРЭДЗІК.— *Серада́, Серадо́ў, Серадо́віч, Сярэ́дзіч; Сярэ́дзік; Серадзі́нскі.* Бел. у XVI—XVII стст. *Середа* (Туп., БА, I, 255). Рус. у XVI ст., укр. у XVI—XVII стст. *Серада* (Туп.). СРП *Середа, Середин, Серединский*

СЕРБА 'серб' ці 'сярбун'? — *Се́рбін, Се́рбенка, Сербянко́ў*

СЕРБІН 'серб'.— *Се́рбін.* Рус., укр. у XVI—XVII стст. *Сербин* (Туп.). СРП *Сербин, Сербинов*

СЕРЖАНТ. — *Сержа́нт, Сержа́нтаў, Се́ржа́н* пры спрашчэнні групы [нт]. СРП *Сержантов*

СЕРЖАНЫ 'той, якога выклікалі на злосць, сярдзілі'? — *Се́ржа́н, Сяржа́нін,* апошняе магчыма і ад УІ *Сержаня<Сергей*

СЕРКА.— *Се́ркін. Се́рчанка.* СРП *Серкин.* Параўн. СЕРА

СЕРН, СЕРАН, памянш. СЕРАНОК рэг. *серан* 'абледзянелы пасля адлігі верхні пласт снегу, наст' (Нас.), укр. *серен* тое ж (Грынч.).— *Сярно́ў; Серанко́ў.* СРП *Серенков*

СЕРП, памянш. СЕРПІК.— *Се́рпікаў.* СРП *Серпков*

СЕРЫ, памянш. СЕРЫК рэг. 'шэры, шары' (Дзярж.— М. Б.), рус. *серий* тое ж (Даль).— *Се́ры, Сяро́ў, Се́рых, Се́рэнка, Серанко́ў; Се́рык, Се́рыкаў; Сяро́ўскі.* Бел. у XVIII ст. *Серик, Серок* (БА, I, 255). Рус., укр. у XVI—XVII стст. *Серой* (Туп.). СРП *Сериков, Серов, Серый.* Параўн. СЯРКО, СЕРКА

СЕСЛА, памянш. СЕСЛІК рэг. 'матня ў штанах' (Бяльк.), параўн. таксама літ. *seslùs* 'аседлы'.— *Се́слікаў*

*СЕТА.— *Се́та.* СРП *Сетов*

СЕТКА.— *Се́тка; Сятко́ўскі.* СРП *Сеткин, Сеточкин*

СЕЎКА рус. *севка* 'сяўня, сявенька' (Даль).— *Се́ўка;? Сяўко*

СЕЎРУК гл. СЯЎРУК

СЕЧКА.— *Се́чка, Сячко́* з пераносам націску. *Сячко́ў.* Бел. у XVII ст. *Сечка, Сечька* (БА, I, 255; Туп.)

СЁМУХА.— *Сёмуха*

СІБІРСКІ.— *Сібі́рскі*

СІВАДЗЕД са спалучэння *сівы дзед.— Сівадзе́даў*

СІВАЙ 'сівы, сівак'.— *Сіва́еў.* СРП *Сиваев*

СІВАК 'сівой масці конь' (БРС), 'чалавек з сівымі валасамі', (Нас.); рус. смал. 'сівы стары чалавек' (Дабр.), 'хлебная слабая гарэлка, сівуха' (Даль).— *Сіва́к, Сівако́ў, Сівачэ́нка.* СРП *Сивак*

СІВАКА 'сівы'.— *Сіва́ка.* Параўн. СІВАК

СІВАЛАПЫ рус. лайл. *сиволап, сиволапый* 'няскладны, нязграбны мужчына' (Даль).— *Сівала́п.* Бел. у XVIII ст. *Сиволап* (БА, I, 256). СРП *Сиволапов*

СІВАЛОБЫ са спалучэння *сівы лоб.— Сівало́баў.* СРП *Сиволобов*

СІВАН, памянш. СІВАНОК 'сівы'.— *Сіванко́ў*

СІВАПЛЯС рус. *сивопляс* 'хлебная слабая гарэлка, сівуха' (Даль).— *Сівапля́с*

СІВАШ укр. *сиваш* 'конь-сіўка' (Грынч.).— *Сіва́ш; Сівашы́нскі.* СРП *Сивашев*

СІВЕЦ бел. бат. 'белавус звычайны' (КСЧ, Даль), укр. *сивец* 'конь-сіўка' (Грынч.). — *Сіве́ц, Сіўцо́ў.* Бел. у XVI ст. *Сивец* (БА, I, 256). У Туп. у XV—XVI стст. *Сивец.* СРП *Сивцов, Сивцев*

СІВОХА 'сівы, сівак'.— *Сіво́ха*

СІВУГА 'сівы, сівак'.— *Сіву́га*

СІВУДА 'сівы, сівак'.— *Сіву́да*

СІВУН рэг. 'сівы' (Дзярж.— М. Б.), рус. сіб. *сивун* 'сівер, халодны паўночны вецер' (Даль).— *Сіву́н*

СІВУХА 'гарэлка-сівуха'.— *Сіву́ха, Сіву́хін*

СІВЫ. — *Сівы́, Сіве́нка, Сівянко́ў, Сіве́ня; Сіві́цкі.* Бел. у XVIII ст. *Сивый* (БА, I, 256). Укр. у XVI—XVII стст. *Сивой* (Туп.). Параўн. СІЎКО

*СІВЯРЗАН.— *Сівярза́наў*

СІГ бел., рус. 'рыба сіг' (БРС); бел. рэг. 'крок, шаг' (Нас., Бяльк.).— *Сіг, Сі́гаў, Сіго́ў, Сіжу́к.* СРП *Сигов*

СІГАЙ ад *сігаць* 'скакаць цераз што-небудзь', 'ісці шырокім шагам' (БРС), параўн. рус. *сигала, сигун, сигач* 'скакун, прыгун' (Даль).— *Сіга́еў.* СРП *Сигаев*

*СІГЕЛЬ.— *Сігель.* Параўн. СІГЕНЬ

СІГЕНЬ рэг. 'крок, шаг' (Бяльк.).— *Сігіне́віч* пры [e]>[i]

СІГНАЛ.— *Сігна́лаў*

СІДА гл. СЕДА

СІДЛА польск. *sidło* 'сіло'.— *Сі́дла*

*СІДЛЕР.— *Сі́длер*

СІЗЫ бел. рэг. 'шызы', рус. *сизый* тое ж (Даль), укр. *сизий, сиз* тое ж (Грынч.).— *Сі́зы, Сізо́ў, Сізе́нка.* Бел. у XVII ст. *Сиз,* рус. у XVII ст. *Сизой* (Туп.). СРП *Сизов, Сизиков*

*СІКІЛІНДА.— *Сікілі́нда*

СІКОРА, СІКОР укр. *сикір* м. р., *сикорка* ж. р. 'сініца' (Грынч.), польск. *sikora* тое ж (Карл.).— *Сіко́ра, Сіко́рын; Сіко́р; Сіко́рскі.* СРП *Сикорский*

СІЛА, памянш. СІЛІК, СІЛКО, СІЛЬКО.— *Сі́лін, Сі́ліч; Сілю́к, Сілюко́ў; Сі́лік; Сілко́, Сілко́ў, ?Сі́лкаў, Сі́лкін, Сілко́віч; Сілько́, Сільке́віч, Сі́льчанка, Сільчо́нак. Сіле́цкі, Сілі́цкі;* большасць магчыма і ад УІ *Сила.* Бел. у XVI ст. *Сила* (БА, I, 256). СРП *Силин, Силкин, Сильченков*

СІЛАЙ 'сілач, асілак; дужы чалавек'? — *Сіла́еў*. СРП *Силаев*

СІЛЬНЫ рэг. 'дужы', рус. *сильный* тое ж (Даль). — *Сільно́ў; Сільніцкі*. СРП *Сильнов*

СІМАК гл. СЯМАК

СІНДЗІК рус. *синдик* 'страпчы ці пракурор' у былых Прыбалтыйскіх губернях, 'ахоўнік законаў' (Даль).— *Сіндзік, Сіндзіке́віч*

СІНЕКА.— *Сіне́ка*

СІНЕЦ бел. рэг. 'сіняк', укр. *синець* тое ж (Грынч.).— *Сінцо́ў*. Рус. у XIV—XVI стст. *Синец* (Туп.). СРП *Синцов, Синецкий*

СІНІ, памянш. СІНЬКО.— *Сіне́віч; Сіню́к; Сінько́; Сінькéвіч; Сіньчу́к; Сінчу́к*. Рус. у XV—XVII стст. *Синей*, укр. у XVI ст. *Синько* (Туп.). СРП *Синёв, Синьков*

СІНЕЛЬНІК, СІНІЛЬНІК рэг. *сінельнік* 'фарбавальшчык, той, хто фарбуе ткані' (Нас., Бяльк.), рус. *синильник* 'фарбавальшчык' (Даль).— *Сіне́льнік, Сіне́льнікаў, Сіні́льнікаў*. Бел. у XVIII ст. *Синельник* (БА, I, 256). СРП *Синельников*

СІНІК укр. *синик* 'сініца' (Грынч.).— *Сініко́ў*

СІНІЛА 'рэчыва, якім сіняць'?, параўн. рус. *синило* 'сінька' (Даль), укр. *синило* 'сіняя фарба' (Грынч.).— *Сініла, Сіні́лаў, Сініле́віч*. СРП *Синилов, Синилкин*

СІНІЦА, памянш. СІНІЧКА.—*Сініца, Сініцын; Сіні́чка; Сініцкі*. Бел. у XVII—XVIII стст. *Синица, Синичка* (Туп., БА, I, 256). Рус. у XV ст. *Синица* (Туп.). СРП *Синицын, Синичкин, Синицкий*

СІНКАВЕЦ з в. Сінкі, Сінкава.— *Сінкаве́ц*

*СІНЦЫЛА.— *Сінцы́лін*

СІНЬКО гл. СІНІ

СІНЮТА 'сіні'? — *Сіню́та*

СІНЯВА, памянш. СІНЯВЕЦ.— *Сіняве́ц*. Параўн. бел. у XVIII ст. *Синявка* (БА, I, 256). СРП *Синявин, Синявич, Синявский*

СІНЯВОКІ. — *Сіняо́ка* без пратэзы [в]. СРП *Синеоков*

СІНЯГ(А).— *Сіняго́ў*. СРП *Синягин*

СІНЯГРЫБЫ са спалучэння з *сінімі грыбамі* (губамі).— *Сінягры́баў*

СІНЯГУБЫ са спалучэння з *сінімі губамі*, параўн. таксама укр. *синьогуб* 'назва рыбы' (Грынч.).— *Сінягу́б*. СРП *Синегуб, Синегубов*

СІНЯК.— *Сіня́к, Сінякóў, Сінякóвіч, Сінякéвіч.* СРП *Синяков*

СІП ці СІПА памянш. СІПКО 'сіпаты, той, хто сіпае'? — *Сіпóвіч; Сіпкó.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Сипко* (Туп., БА, I, 256). Рус. у XVI ст. *Сипа* (Туп.). СРП *Сипин*

СІПАЙЛА 'сіпаты'.— *Сіпа́йла.* Бел. у XVII ст. *Сипайло* (БА, I, 256). СРП *Сипайлов*

СІПАК 'сіпаты'.— *Сіпакóў.* Бел. у XVII ст. *Сипак* (БА, I, 256)

СІПАЧ 'сіпаты'.— *Сіпа́ч.* СРП *Сипачёв*

СІПКО гл. СІП

СІПЛІВЫ рэг. 'сіплы, сіпаты' (Дзярж.—М. Б.).— *Сіплівы, Сіплівéня*

*СІРАЖ.— *Сіраж; Сіраш* пры [ж]>[ш]. Бел. у XVI ст. *Сирош* (Туп.)

СІРАТА, памянш. СІРОТКА. — *Сіратá, Сірóтаў, Сірóцін, Сірацёнак; Сірацю́к, Сірóтка, Сірóткін.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Сирота, Сирот* (Туп., БА, I, 256). СРП *Сиротин, Сиротенко, Сиротов, Сироткин, Сиротинский*

СІРАШ гл. СІРАЖ

*СІРУЦЬ.— *Сіруць*

СІРЫ, памянш. СІРЫК рус. *сирый* 'асірацелы, сірата' (Даль).— *Сірыч; Сірык.* СРП *Сирин, Сиренко*

*СІРЫСЬ, памянш. СІРЫСЬКА.— *Сіры́ська*

СІСЬКО *сіська* 'грудзі, сасок'.— *Сіськó, Сіськéвіч*

СІСЯ 'грудзі, сасок'.— *Сісін; Сісіцкі*

СІТ.— *Сітоў*

СІТА, памянш. СІТЦА, СІТКО, СІЦЬКО.— *Сітцóў; Сіткó, Сіткéвіч; Сіцькó*

СІТНІК рэг. 'той, хто робіць ці прадае сіты', рус. *ситник* 'камыш, чарот' (Дабр.), 'сітніца' (Даль), укр. *ситник* 'той, хто робіць, ці прадае сіты' (Грынч.).— *Сітнік, Сітнікаў.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Ситник* (БА, I, 256). Укр. у XVI ст. *Ситник* (Туп.). СРП *Ситник, Ситников*

СІТНІЦА.— *Сітніца*

СІЎКО *сіўка* 'конь сівой масці' (БРС), рус. *сивка, сивко* тое ж (Даль).— *Сіўкó, Сіўкóў.* СРП *Сивков*

СІЎЧАК 'сівы, сівак'.— *Сіўча́к*

СІЎЧЫК 'сівы, сівак'.— *Сіўчык*

*СІЧКАР.— *Січка́р; Січкару́к*

СКАБА, памянш. СКАБЕЦ 'рабрына' (БРС).— *Скабе́ц; Скабіцкі*

СКАБЕЙ, СКАБЕЙКА параўн. літ. *skabýti'* 'рваць, зрываць'.— *Скабе́й, Скабе́йка.* СРП *Скобеев*

СКАВАРАДА рэг. СКВАРАДА, памянш. СКАВАРОДКА, СКВАРОДКА. — *Скаварада́, Скаваро́дзін; Скаваро́дка, Скваро́дка.* Бел. у XVII ст., укр. у XVI ст. *Сковородка* (Туп.). СРП *Сковорода, Сковородин*

СКАВЫРКА 'той, хто скавырвае' ці 'тое, чым скавырваюць'.— *Скавы́рка*

СКАВЫШ.— *Скавы́ш, Ско́выш* з пераносам націску

*СКАДОРВА.—*Скадо́рва*

СКАДЫНЕЦ з в. Скадынь, Скадыні.— *Скадыне́ц*

СКАЗКА бел., рэг. і рус. 'казка'.— *Ска́зкін, ?Скаске́віч* пры [з]>[с]. СРП *Сказкин*

СКАКУН.— *Скаку́н. Скакуно́ў.* Бел. у XVIII ст. *Скокун* (БА, I, 257)

*СКАЛАБА.— *Скала́ба.* Параўн. СКАЛУБА

*СКАЛАБАН.— *Скалаба́н.* Параўн. СКАЛАБА

СКАЛКА.— *Скалко́віч.* СРП *Скалкин*

СКАЛУБА параўн. укр. *скалубина* 'скважына, трэшчына' (Грынч.).— *Скалу́ба.* Бел. у XVI ст. *Сколуба* (БА, I, 256)

*СКАЛЬ.— *Скаль*

СКАМАРОХ, памянш. СКАМАРОШКА.— *Скамаро́х; Скамаро́шка.* Бел. у XVI ст. *Скоморох* (БА, I, 257). У Туп. у XV—XVI стст. *Скоморох.* СРП *Скоморохов, Скоморошкин*

СКАМЕЙКА бел. рэг. і рус. 'лаўка'.— *Скаме́йкін.* СРП *Скамейкин*

СКАПЕЦ.— *Скапе́ц, Скапцо́ў.* СРП *Скопцов*

СКАРАБАГАТЫ, памянш. СКАРАБАГАЦЬКА рус. *скоробогат* 'хто скора разбагацеў' (Даль), укр. *скоробогатько* тое ж (Грынч.).— *Скарабага́ты, Скарабага́таў; Скарабага́цька.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Скоробогатый, Скоробогаты, Скоробогатко* (БА, I, 257; Туп.). Рус у XVII ст. *Скоробогатой,* укр. у XVII ст. *Скоробогатко* (Туп.). СРП *Скоробогатов*

СКАРАД, памянш. СКАРОДЗЬКА рэг. *скарада* 'нягодны, сквалыга' (Бяльк.), рус. *скаред* 'скупец, скрага' (Даль).— *Ска́рад, Скарадзёнак, Скаро́дзенка; Скаро́дзька, ?Скаро́цька* пры [дз]>[ц]

СКАРАДУЛЯ.— *Скараду́ля, Скараду́лін*

СКАРАХОД, памянш. СКАРАХОДКА.— *Скарахóд. Скарахóдаў; Скарахóдка.* Бел. у XVI—XVII стст. *Скороход* (Туп.). СРП *Скороход, Скороходов*
*СКАРБЕЖ.— *Скáрбеж*
СКАРБОВАНКА рэг. 'кружка для збору падання̌ў у царкве, скарбонка' (Дзярж.— М. Б.).— *Скарбóванка*
СКАРГА.— *Скáрга; Скаргóўскі.* Бел. у XVI ст. *Скарга* (БА, I, 256). СРП *Скаргин*
СКАРЖЫНЕЦ з в. Скаргі, Скаргіна.— *Скаржынéц*
*СКАРМАХ.— *Скармáх, Скармахóвіч*
СКАРНЯК рус. *скорняк* 'кушнер'.— *Скарнякóў.* Рус. у XVI—XVII стст. *Скорняк* (Туп.). СРП *Скорняк, Скорняков*
СКАРОМНІК рэг. 'той, хто ў пост есць скаромнае' (Нас.), рус. *скоромник* 'мясны ці малочны стол' (Даль).— *Скарóмнік*
СКАРОМНЫ.— *Скарóмны*
*СКАРУБАН.— *Скарубáн.* Параўн. укр. у XVI ст. *Скоруба* (Туп.)
*СКАРУЛІС.— *Скарýліс*
СКАРУПА рэг. 'кара', 'шкарлупіна' (Нас.).— *Скарýпа.* Бел. у XVII ст. *Скорупа* (Туп.)
СКАРЫНА, СКАРЫНКА.— *Скары́на, Скары́нка.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Скорина, Скорына, Скорынка* (БА, I, 257; Туп.). Укр. у XVII ст. *Скорина, Скорына* (Туп.)
*СКАЦЕЛА.— *Скацéлаў*
СКАЧКО 'той, хто скача, падскоквае, прыгае'? — *Скачкó, Скачкóў.* Бел. у XVIII ст. *Скачко* (БА, I, 257). Укр. у XVI ст. *Скочко* (Туп.). СРП *Скачко, Скачков*
СКАЧОК.— *Скачóк, Скачкóў*
СКАЧЫХА рэг. 'блыха' (БРС).— *Скачы́ха*
*СКАЧЭЛЯС.— *Скачэля́с*
*СКВАЖ.— *Скваж*
СКВАРКО параўн. рус. *скворка* 'шпак' (Даль), магчыма, ад бел. *скварыць,* г. зн. 'той, хто скварыць'? — *Скваркó.* На Падляшшы ў XVI ст. *Скварко* (Туп.)
СКВАРЭЦ рус. *скворец* 'шпак' (Даль).— *Скварцóў; Скварчэ́ўскі.* Бел. у XVII ст. *Скворец* (Туп.). У Туп. і ў XV ст. *Скворец.* СРП *Скворцов*
СКВЯРНЮК 'той, хто брыдка лаецца, брыдкаслоў'? — *Сквярню́к*
*СКЕРСЬ.— *Скерсь*

СКІБА.— *Скіба, Скібін; Скібіцкі, Скібскі.* Бел. у XVI ст. *Скиба* (БА, I, 256). Укр. у XVI—XVII стст. *Скиба, Скибка* (Туп.). СРП *Скибин*

*СКІБАР, памянш. СКІБАРКА.— *Скіба́рка*

СКІГ(А) укр. *скиг* 'піск, вішчанне' (Грынч.), параўн. бел. *скігаць* 'вішчэць, як парасята ці як дзеці' (Нас.).— *Скігін, Скіжано́к.* СРП *Скигин*

СКІДАНЫ.— *Скі́дан.* Укр. у XVII ст. *Скидан* (Туп.)

СКІЛАНДЗЬ бел. устар. *скилондь* кулін. 'надзяваны страўнік', з літ. *skilándis* тое ж (Вяржб., 697).— *Скіландзь*

СКІНДЗЕР параўн. араб. УІ *Іскіендер-Аляксандр* (Шынк.).— *Скі́ндзер, Скі́ндэр*

СКІПАР параўн. рус. смал. *скипать* 'ламаць' (Дабр.).— *Скіпар*

СКІР, памянш. СКІРКО параўн. літ. *skìrti* 'аддзяляць, вылучаць'.—*Скіру́к; Скірко́*

СКІРМАНТ са ст. літ. двухчленнага УІ *Skirmantas*— *Скірмант, Скірман*

*СКІРУХА.— *Скіру́ха.* Параўн. СКІР

*СКІРУЦЬ.— *Скіруць.* Параўн. СКІР

*СКІРЦА.— *Скірца*

СКІТ.— *Скітаў, Скіто́віч*

СКЛЕМА рэг. неадабр. *скліма* 'плакса' (Юрч.). Параўн. рус. ярасл. *склёмный* 'спешны, які адносіцца да часу ўборкі' (Мельн.).— *Склёма.* СРП *Склемин*

СКЛЕП.— *Скляпо́віч*

СКЛЯР укр. 'шкляр' (Грынч.).— *Скляро́ў.* СРП *Скляров, Скляренко, Склярский*

*СКОБ.— *Скоб*

СКОБЕЛЬ, памянш. СКОБЛІК рус. 'скобля' (Даль, РБС), укр. 'прабоі' (Грынч.).— *Ско́белеў; Ско́блікаў.* Бел. у XVII ст. *Скобель,* рус. у XV ст. *Скобель,* укр. у XVII ст. *Скоблик* (Туп.). СРП *Скобелев, Скобликов*

СКОБЛЯ.— *Ско́бля.* СРП *Скоблин*

СКОБНІК 'той, хто мае адносіны да скабяных тавараў— рамеснік, гандляр'? — *Ско́бнікаў.* СРП *Скобников*

СКОК.— *Скок, Ско́каў.* Бел. у XVII ст. *Скок* (БА, I, 257). Укр. у XVII ст. *Скок* (Туп.). СРП *Скоков*

СКОЛЬЗКІ рус. *скользкий* 'слізкі'.— *Скальзко́ў*

СКОП(А) укр. *скоп* 'пакладаны баран' (Грынч.).— *Скапо́віч.* Бел. у XVI—XVII стст. *Скопа, Скопик, Скоп-*

*ка* (БА, I, 257; Туп.). У Туп. у XVI ст. *Скоп.* СРП *Скопин*

СКОПЕНЬ.— *Ско́пнеў.* Параўн. СКАПЕЦ, СКОП(А)

*СКОРБА.— *Ско́рба*

*СКОРБЕЖ.— *Ско́рбеж*

СКОРЫ, памянш. СКОРЫК.— *Ско́ры, Ско́раў, Ско́рын, Ско́рынаў; Ско́рык.* СРП *Скориков*

СКОСАК рэг. 'старая вузкая каса'.— *Скаске́віч*

СКОСАР рус. усх. *скосырь* 'ганарысты, фанабэрысты, крыху нахабны чалавек' (Даль).— *Ско́сар.* СРП *Скосырев*

СКОТНІК рэг. устар. лайл. 'скаціна, жывёліна' (Нас.), новае 'будынак для кароў у калгасе', 'даглядчык жывёлы' (Дзярж.— М. Б.).— *Ско́тнікаў.* СРП *Скотников*

*СКОЎБЕЛЬ.— *Ско́ўбель*

СКРАБА ад *скрабаць, скрэбці,* магчыма, 'той, хто шоргае нагамі пры хадзе'? — *Скра́ба, Скра́баў, Скра́бін; Скрабо́ўскі.* Бел. у XVII ст. *Скряба* (БА, I, 257). Рус. у XV—XVI стст. *Скряба* (Туп.). СРП *Скрябин.* Параўн. СКРАБАТУН

СКРАБАТУН рэг. 'той, хто шоргае нагамі пры хадзе' (Дзярж.— М. Б.).—*Скрабату́н.* Параўн. СКРОБАТ

СКРАБЕЦ рэг. 'той, хто на церніцы начыста апрацоўвае льновалакно' (Дзярж.— М. Б.), магчыма, памянш. СКРАБА (гл.).— *Скрабе́ц.* Укр. у XVII ст. *Скребец* (Туп.)

СКРАБЛО.— *Скрабло́*

СКРАБОК.— *Скрабко́ў*

СКРАБУН.— *Скрабу́н, Скрабуно́ў.* Бел. у XVI ст. *Скребун* (Туп.). Параўн. СКРАБА, СКРАБАТУН

СКРАГА рэг. 'скнара, жмінда', рус. *скряга* тое ж (Даль).— *Скра́жанка.* Бел. у XVI ст. *Скрага* (БА, I, 257; Туп.). СРП *Скрягин*

СКРОБА.— *Скро́ба; Скрабо́ўскі.* Бел. у XVII ст. *Скроб* (Туп.). СРП *Скробов.* Параўн. СКРАБА

СКРОБАТ.— *Скро́бат.* Бел. у XVI ст. *Скробот* (БА, I, 257). СРП *Скроботов.* Параўн. СКРАБАТУН

*СКРОШКА.— *Скро́шчанка*

*СКРУНДА, *СКРУНДЗЬ.— *Скру́нда, Скрундзь*

*СКРЫБА.— *Скры́ба*

СКРЫГАН.— *Скры́га́н, Скрыга́наў*

СКРЫГУН рэг. 'той, хто скрыгае, скрыгоча чым-небудзь' (Дзярж.— М. Б.).— *Скрыгуно́ў*

СКРЫНІК, памянш. ад *скрыня;* магчыма, са *скрыннік* пры [нн]>[н].— *Скры́нік.* Параўн. бел. у XVIII ст. *Скрынник* (БА, I, 257). СРП *Скрынник, Скрынников*

СКРЫПКА, памянш. СКРЫПЧЫК.— *Скры́пка, Скрыпко́* з пераносам націску, *Скры́пкін, Скрыпко́віч, Скры́пчанка; Скры́пчык.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Скрипка, Скрыпка* (БА, I, 257; Туп.). Укр. у XVI ст. *Скрипка, Скрипица* (Туп.). СРП *Скрипко, Скрипкин, Скрипицын*

СКРЫПКО, памянш. СКРЫПЧЫК.— *Скрыпко́; Скры́пчык.* Параўн. СКРЫПЛЯ

СКРЫПЛЯ 'той, хто скрыпіць'? — *Скрыплёнак*

СКРЫПНІК рус., укр. *скрипник* 'скрыпач' (Даль, Грынч.).— *Скры́пнік.* СРП *Скрипник*

*СКРЫПУТ.— *Скры́пут.* Параўн. СКРЫПЛЯ

СКРЭБЕЛЬ ад *скрэбці,* г. зн. 'той, хто скрабе' ці 'тое, чым скрабуць'? — *Скрэ́бель*

СКРЭБЕНЬ.— *Скрэ́бень.* Параўн. СКРЭБЕЛЬ

*СКРЭПАЛЬ.— *Скрэ́паль*

СКУБА ад *скубці,* г. зн. 'той, хто скубе, тузае, цягне да сябе'.— *Ску́ба*

СКУБАК.— *Скубако́ў.* Параўн. СКУБА

СКУБІЛА.— *Скубі́ла, Скубі́лаў.* У Туп. у XV ст. *Скубило.* Параўн. СКУБА

СКУГАР рус. данск. *скугар* 'скупы' (Мірт.), параўн. бел. рэг. *скугорыць* 'плакаць, скуголіць' (Нас.), рус. *скугорить* тое ж (Даль).— *Ску́гар, Ску́гараў.* Рус. у XVII ст. *Скугор* (Туп.). СРП *Скугаров*

СКУДНЫ рус. *скудный* 'бедны' (Даль), укр. *скудний* тое ж (Грынч.).— *Ску́дны.* СРП *Скуднов*

СКУЛАВЕЦ з в. Скулы, Скулава.— *Скулаве́ц*

СКУЛЬБЕДА са спалучэння *скуль* (адкуль) *бяда* ці *скуліць бяду?— Скульбе́даў*

СКУМАТ рэг. 'шматок, палоска тканіны', 'пасма, шматок' (Нас.).— *Ску́матаў*

*СКУМС.— *Скумс*

СКУРАНЫ, памянш. СКУРАНОК.— *?Скуруно́віч* пры [а]>[у]; *Скурано́к*

СКУРАТ.— *Скура́т, Скура́таў, Скурато́віч; ?Скур'я́т.* Бел. у XVI ст. *Скурат* (БА, I, 257; Туп.). Рус. у XV—XVI стст., укр. у XVI ст. *Скурат* (Туп.). СРП *Скуратов*

СКУРКА.— *Скуркó* з пераносам націску, *Скурковіч.* У Туп. у XVI ст. *Скурко*

*СКУРУН.— *Скурунóвіч*

СКУРЧ, памянш. СКУРЧЫК, параўн. бел. *скурчыць* 'сагнуць, скруціць' (БРС).— *Скýрчык*

СКУРЧАЙ.— *Скурчáеў.* Параўн. СКУРЧ

*СКУТ.— *Скýтаў.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Скут, Скута* (БА, I, 257; Туп.)

СЛАБАДА, памянш. СЛАБОДКА, СЛАБОДЧЫК рэг. 'свабода', 'рагатая жывёла' (Ганц.— М. Б.).— *Слабадá, Слóбадаў, Слабóдзін, Слабóдзіч; Слабóдка; Слабадчýк, Слабадчукóў; Слабóдчыкаў; Слабадскі, ?Слабóцкі, Слабадкóўскі.* Рус. у XVI ст. *Слобода* (Туп.). СРП *Слободин, Слободкин, Слободской, Слободчиков*

*СЛАБАДЭР.— *Слабадэ́р*

СЛАБЕЙКА 'слабы'? — *Слабéйка*

СЛАБОДНІК 'свабодны'? — *Слабóднік*

СЛАБУХА 'слабы'.— *Слабýха*

СЛАБЫ, памянш. СЛАБІК, СЛАБКО.— *Слáбікаў; Слабкó, Слабкóвіч.* СРП *Слабов*

СЛАБЫНЯ 'слабы'? — *Слабы́ня*

СЛАВА, памянш. СЛАВІК. — *Слáвін; Славýк; Слáвік; Славінскі, Слáўскі, Славікóўскі.* Бел. у XVI ст. *Слава* (Туп.). СРП *Славин, Славинский, Славицкий, Славинецкий*

СЛАВАШ 'слаўны'? — *Славашэ́віч*

СЛАВЕТ параўн. ст. бел. *славетны* 'вядомы, славуты, выдатны, паважаны' (Нас., АУ), укр. *славетний* тое ж, *славетник* 'славуты чалавек', устар. 'мешчанін' (Грынч.).— *Славéт; Славéцкі.* Укр. у XI ст. *Славята* (Туп.)

СЛАВУТА параўн. бел. *славуты* 'слаўны' (БРС, Нас.), рус. паўдн. *славутник, славутин* 'слаўны, добры жаніх, багаты жаніх' (Даль).— *Славýта, Славýціч.* Бел. у XVII ст., укр. у XVI ст. *Славута* (Туп.)

СЛАГАДА параўн. бел. *злагада* 'згода, добрыя адносіны' (БРС).— *Слáгада*

СЛАСЦЁНА рус. *сластена* 'ласун, ахвотнік да салодкага' (Даль).— *Сласцёнаў.* СРП *Сластенин*

СЛАСЦЬ рус. *сласць* 'салодкасць, салодкая яда' (Даль).— *Сласцéнка, Сласцянкóў*

СЛАЎНІК 'слаўны, славуты чалавек'? — *Слáўнікаў*

СЛАШЧ(А) параўн. рус. арханг. *слаща* 'бручка' (Даль).— *Слашчо́ў*. СРП *Слащев*

СЛЕЗЕНЬ 'той, хто плача'?— *Сле́зень*. СРП *Слезнев*

СЛЕСАР, памянш. СЛЕСАРЧЫК, СЛЕСАРКА; СЛЮСАР з польск. *ślusarz* 'слесар'.— *Сле́сар, Сле́сараў, Слесарэ́віч, Слесаро́нак; Сле́сарчык; Слесарчу́к; Слю́сар*. Бел. у XVII—XVIII стст. *Слесар, Слюсарь* (БА, I, 258; Туп.). Укр. у XVII ст. *Слюсар* (Туп.). СРП *Слесарев, Слесарэнка; Слюсарёв, Слюсаренко*

СЛІВА, памянш. СЛІЎКА.— *Сліва; Сліўко́* з пераносам націску. Укр. у XVII ст. *Слива* (Туп.). СРП *Сливин, Сливкин, Сливинский*

СЛІЖ, памянш. СЛІЖЫК рэг. 'рыба галец' (Дзярж.— М. Б.), укр. *слиж* тое ж (Грынч.).— *Сліж, Сліжо́ў; Слі́жык; Сліжэ́ўскі*. Бел. у XVII—XVIII стст. *Слиж, Слижик, Слижык* (БА, I, 258; Туп.)

СЛІЗЕНЬ бел. рэг., рус. 'слізняк', укр. *слизень* 'селязёнка' (Грынч.).— *Слі́зень*. Бел. у XVI—XVII стст. *Слизень, Слизен* (БА, I, 258; Туп.). Рус. у XV ст. *Слизень* (Туп.)

СЛІЗКІ.— *Слі́зкі*. СРП *Слизков, Слизский*

СЛІЗЬ.— *Слізе́віч*

СЛІНА, рэг. СЛЮНА, памянш. СЛІНЬКА, СЛЮНЬКА.— *Слі́нка; Слінько́* з пераносам націску, *Слінько́ў; Слынко́* пры [л']>[л]; *Слю́нчанка; Слюнько́ў, Слю́нькін*. Рус. у XVII ст. *Слинька* (Туп.)

*СЛІС.— *Слі́саў*

*СЛОБЫШ.— *Сло́быш*

СЛОТА.— *Сло́тыч*

*СЛОЎШ.— *Сло́ўш*

*СЛОЎШАР.— *Сло́ўшар*

СЛУГА.— *Служэ́нка*. Бел. у XVI ст. *Служка* (БА, I, 258; Туп.). Укр. у XVI ст. *Служка* (Туп.). СРП *Слугин*

СЛУКА рус. *слука* 'птушка вальдшнеп, слонка' (Даль).— *Слука́, Слукі́н, Слу́чанка; Слук*

СЛУЧАК з г. Слуцк.— *Случак*

СЛУШКО ад *слухаць*, г. зн. 'той, хто слухаецца, паслухмяны'? — *Слушко́*

СЛУШНІК ад *слушны*, г. зн. 'той, хто робіць слушна'? — *Слу́шнік*

СЛЫШ 'той, хто ў размове часта ўжывае слова слыш'? — *Слыш, Слышо́ў, Слы́шанка, Слышанко́ў*

СЛЮНА гл. СЛІНА

СЛЮНЬКАЧ 'слімак, слюнявы'? — *Слюнькачо́ў*

СЛЯЗА, памянш. СЛЁЗКА.— *Слёзаў, Слёзін, Слёзкін.* Бел. у XVI ст. *Слоза* (БА, I, 257). Укр. у XVII ст. *Слезка* (Туп.). СРП *Слёзин, Слёзов, Слёзкин*

СЛЯПЕЦ рэг. 'сляпы чалавек, сляпак' (Дзярж.— М. Б.), рус. *слепец* тое ж (Даль), укр. *сліпець* тое ж (Грынч.).— *Сляпцо́ў.* Бел. у XVI ст. *Слепец* (БА, I, 257; Туп.). Рус. у XV ст. *Слепец* (Туп.). СРП *Слепцов*

СЛЯПІЦА рэг. 'сляпень' (БРС).— *Сляпіца*

СЛЯПУХА рэг. лайл. 'сляпая' (Нас.).— *Сляпу́ха, ?Слепухо́ў, Сляпу́хін.* СРП *Слепухин, Слепушкин*

СЛЯПЫ, памянш. СЛЯПКО.— *Сле́паў, Сляпе́нка, Слепянко́ў; Сле́пчанка; Сляпчу́к.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Слепой, Сляпый, Слепы* (Туп., БА, I, 258). Рус., укр. у XVII ст. *Слепой* (Туп.). СРП *Слепой, Слепов, Слепченко*

СМАГА.— *Сма́гін; ?Смажэ́ўскі.* Рус. у XV ст., укр. у XVI ст. *Смага* (Туп.). СРП *Смагин*

СМАГЛЕЙ 'той, хто смагне, заўсёды хоча піць'?, параўн. бел. *смаглы.*— *Смагле́й*

СМАГУР параўн. літ. *smagùris* 'лакамка, салодкаежка', 'указальны палец'.— *Смагу́р.* Параўн. таксама СМАГЛЕЙ

СМАЛА, памянш. СМОЛКА, СМОЛІК.— *Смо́лаў, Смо́ліч; Смале́нка, Смалянко́ў; Смалю́к; Смо́лкін; Смо́лік, Смо́лікаў; Смо́льскі.* Бел. у XVI ст. *Смола* (БА, I, 258). Рус. у XVI—XVII стст. *Смола, Смолко* (Туп.). СРП *Смолин, Смолич, Смолкин, Смоликов, Смольский*

СМАЛЕЙ укр. *смалій* 'чалавек, які рэжа і смаліць, апальвае свіней' (Грынч.).— *Смале́й*

СМАЛЬ бел. 'гар, пах гару, пах якой-небудзь ткані, якая гарыць' (БРС, Нас.), рус. данск. тое ж (Мірт.).— *Смаль; Смалю́к.* Параўн. СМАЛЕЙ

СМАЛЮГА рэг. 'смалісты кусок дрэва' (Дзярж.— М. Б.).— *Смалюго́ў*

СМАЛЯГА.— *Смаля́га.* Укр. у XVI ст. *Смоляга* (Туп.). Параўн. СМАЛЮГА.

СМАЛЯК, памянш. СМАЛЯЧОК.— *Смаля́к, Смалякo ́ў; Смалячко́ў.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Смоляк* (БА, I, 258). СРП *Смоляк, Смоляков*

СМАЛЯНЫ, памянш. СМАЛЯНОК 'падобны на смоль, чарнамазы, чарнявы'? — *Смаля́н; Смаляно́к, Сма-*

*лянкоў.* СРП *Смолян, Смолянов, Смолянков*

СМАЛЯР, памянш. СМАЛЯРЧЫК рэг. 'той, хто працуе ў смалярні, смалакур', рус., укр. *смоляр* тое ж, 'той, хто смоліць, пакрывае смалой' (Даль, Грынч.).— *Смаля́р, Смаляро́ў; Смо́ляр* з пераносам націску; *Смаля́рчык.* СРП *Смоляр, Смоляров*

СМАРГОНЕЦ з н. п. Смаргонь.— *Смарго́нец*

СМАРГУН рэг. 'смаркаты хлапчук, смаркач', 'той, хто неспакойна сядзіць' (Нас.), 'той, хто шморгае носам' (Дзярж.— М. Б.).— *Смаргу́н.* СРП *Сморгунов*

СМАРЖОК.— *Смаржко́ў*

СМАРШЧОК рэг. 'смаржок', укр. *сморщок* тое ж (Грынч.).— *Смаршчо́к.* СРП *Сморчков*

*СМАРЫГ, *СМАРЫГА.— *Смары́г, Смары́гін.* Параўн. СРП *Смарагов*

СМАЧНЫ.— *Сма́чны*

СМАЧНІК.— *Сма́шнікаў* пры [чн]>[шн]

СМЕЛЫ.— *Сме́лы.* СРП *Смелов, Смелков*

СМЕРЦЬ.— *Сме́рцаў, Сме́рцін.* СРП *Смертин*

СМЕХ.— *Смех, Смяхо́віч; Смяхо́ўскі.* СРП *Смехов*

СМЕЦЮК.— *Сме́цюк*

СМЕШНЫ.— *Сме́шны*

СМЕЯН 'смяюн, той, хто часта смяецца'? — *Сме́ян, Смя́ян.* Бел. у XVI ст. *Смиян* (Туп.)

*СМІРДАН.— *Смірда́н*

СМІРНЫ.— *Смірно́ў.* Рус. у XVI—XVII стст. *Смирной, Смирко, Смирка, Смирнушко* (Туп.). СРП *Смирнов, Смирновский, Смирницкий*

*СМОКАТ.—*Смо́кат*

СМОЛЬНІК рус. *смольник* назва расліны (Даль).— *Смо́льнік.* Параўн. СМОЛЯР. СРП *Смольников*

СМОРГА, памянш. СМОРЖЫК.—*Смарго́віч; ?Смо́ржыкаў; ?Смаржэ́ўскі.* У Туп. у XV ст. *Сморга.* Параўн. СМАРГУН

СМОРЖ, памянш. СМОРЖЫК укр. *сморж, сморжій* 'грыб смаржок' (Грынч.).— *Смо́ржыкаў; Смаржэ́ўскі*

СМОТРА, памянш. СМОТРЫК ад бел. рэг. ці рус. *смотреть,* г. зн. 'той, хто ўважліва ці як-небудзь своеасабліва глядзіць'? — *Смо́трын; Смо́трыкаў; Сматры́цкі.* СРП *Смотрицкий*

СМУЛЬКА, СМУЛЬКО параўн. рус. смал. *смулить* 'турбаваць, непакоіць', 'слаба гарэць, тлець' (Дабр.),

літ. *smulkėti* 'драбнець', *smùlkus* 'дробны'.— *Смýлька, Смулькó*

*СМУНЬ.— *Смунёў*

СМУРАГА параўн. бел. рэг. *смурыжыць* 'церці, працягваючы праз крук ці што іншае вяроўку, рабіць больш мяккай' (Юрч.).—*Смурáга*

СМУРГА літ. *smùrgas* 'смаркач'.— *Смурговіч.* Параўн. СМУРАГА

*СМУСЬ.— *Смусянóк*

СМУТНЫ.— *Смýтны*

СМУШКА рус. 'смушак' (Даль).— *Смýшкін*

СМЫК, памянш. СМЫЧОК 'смык', рэг. 'худы чалавек' (КСЧ).— *Смык; Смычóк; Смыкóўскі; Смычкóўскі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Смык, Смычек* (БА, I, 258). Укр. у XVII ст. *Смык* (Туп.). СРП *Смыков*

СМЫЛЬ, памянш. СМЫЛІК рэг. 'гар, пах гару' (Нас.).— *Смы́лікаў.* Параўн. СМАЛЬ

СМЫСЛ рэг. 'розум' (Нас.), рус. 'сэнс' (Даль).— *Смыслóў.* СРП *Смыслов*

СМЫЧНІК 'той, хто робіць смыкі'? — *Смы́чнік.* Бел. у XVI ст. *Смычник* (БА, I, 258). У Туп. у XV—XVI стст. *Смычник*

СМЯКАЙЛА 'кемлівы чалавек'? — параўн. рус. *смекать* 'кеміць, цяміць' (Даль, РБС). — *Смякáйла.* Параўн. СРП *Смекалов*

СМЯЛЯК рэг. 'смяльчак' (Нас.).— *Смелякóў.* СРП *Смеляков*

СМЯТАНА, памянш. СМЯТАНКА.— *Смятáнін; Смятáнка.* Бел. у XV—XVII стст. *Сметана, Сметанка* (БА, I, 258; Туп.). Рус. у XIV ст., укр. у XVI ст. *Сметанка* (Туп.). СРП *Сметанин, Сметанкин, Сметанов*

СМЯТАННІК.— *Смятáннік, ?Смятáнік* пры [нн]>[н]. Укр. у XVII ст. *Сметанник* (Туп.). СРП *Сметанников*

*СНАР.— *Снáраў.* СРП *Снарский*

СНЕЖКА.— *Снéжка; Сняжкó* з пераносам націску, *Сняжкóў.* Бел. у XVI ст. *Снежко* (БА, I, 258; Туп.). Рус. у XV ст. *Снежко* (Туп.). СРП *Снежко, Снежков, Снежкин*

СНІГІР гл. СНЯГІР

СНІП укр. 'сноп', 'звязаны пучок лучыны' (Грынч.).— *Сніпіч*

СНІТКА, СНЫТКА ст. бел. бат. *снітка* 'дзягіль' (ИЮМ XXI, стар. 4), рэг. *сныткa* тое ж (Нас., Бяльк.),

рус. ярасл. *снитка* тое ж (Мельн.), укр. *снитка* тое ж (Грынч.). — *Сніткa, Сньiтка, Сныткóў, Сньiткін; Сніткó* з пераносам націску, *Сныткó*. Бел. у XVII ст. *Снитка, Сныткa* (БА, I, 258). Укр. у XVI—XVII стст. *Снитко, Снытка* (Туп.). СРП *Сниткин, Снитковский*

СНІЦАР бел. 'гравёр'? (Нас.). 'разбяр, рэзчык' (ИЮМ XXI, стр. 18), укр. *сницарь, сніцарь* 'разбяр, скульптар', 'каляснік, карэтнік' (Грынч.).— *Сніцар, Сніцараў, Сніцарэ́нка*. Бел. у XVII—XVIII стст. *Сницар, Сницер* (БА, I, 258)

СНОП, памянш. СНАПОК, СНАПКО.— *Снóпаў; Снапóк, Снапкóў; Снапкó; Снапкóўскі*. Бел. у XVII ст. *Сноп* (БА, I, 258). СРП *Снопов, Снопков*

СНЯГІР, СНІГІР.— *Снягíр, Снігíр*. У Туп. у XVI ст. *Снегир*. СРП *Снегирёв*

СОБАЛЬ, памянш. САБОЛЬКА.— *Сóбаль, Сóбалеў, Сабалéнка; Сабóлька; Сабалéўскі*. Бел. у XVI—XVII стст. *Соболь* (БА, I, 259; Туп.). Рус. у XV—XVI стст. *Соболь* (Туп.). СРП *Соболь, Соболев, Собольков, Соболевский*

*СОДАЛЬ.— *Сóдаль*

*СОЗА.— *Сóза, Сóзін, Сóзінаў*. СРП *Созинов*

*СОЗДАЛЬ.— *Сóздалеў*

СОЙКА, памянш. СОЙЧЫК.— *Сóйка, Сайкó* з пераносам націску, *Сайкóвіч, Сайкéвіч; Сóйчык; Сайкóўскі*

СОКАЛ, памянш. САКОЛЬЧЫК, САКОЛКА.— *Сóкал, Сакóл* з пераносам націску, *Сóкалаў, Сакалóў, Сакалóвіч, Сакалéнка; Сакóльчык; Сакóлка; Сакалю́к; Сакалóўскі, Сакалíнскі*. Бел. у XVI—XVII стст. *Сокол* (БА, I, 259; Туп.). Рус. у XV—XVI стст., укр. у XVIII ст. *Сокол* (Туп.). СРП *Сокол, Соколов, Соколенко, Соколин, Соколик, Соколиков, Соколинский, Соколовский, Сокольский*

СОКАР, СОКУР параўн. рус. бат. *сокорица* 'увярэднік' (Даль), укр. *сокір, осокір* 'ясакар, род топаля' (Грынч.).— *Сóкар, Сóкур* пры [о] || [а]>[у]. Бел., укр. у XVI ст. *Сокор* (Туп.)

СОЛАП 'той, хто выстаўляе, высалопліває язык'?, параўн. бел. *высалапіць, салапяка* (БРС), параўн. укр. *солопати* 'высоўваць язык' (Грынч.).— *Сóлап*. СРП *Солопов*. Параўн. САЛАПАЙ

*СОЛДЗЕНЬ.— *Сóлдзень*

СОЛНЦА гл. СОНЦА

СОЛТАН тат. 'султан' (ТРС).— *Со́лтан, Со́лтанаў, Са́лтано́віч*. Бел. у XV—XVII стст. *Солтан, Солтанок*, рус. у XVI—XVII стст. *Солтан, Салтан, Салтанко*, укр. у XVI—XVII стст. *Солтан, Салтан, Салтанец* (Туп.). СРП *Салтанов, Салтановский*

*СОЛУБ.— *Со́луб*

СОМ, памянш. САМОК, САМЕЦ.— *Сом, Со́маў, Со́мін, Само́віч; Самко́ў, Самко́віч; Саме́ц, Самцо́ў, Самцэ́віч*. Рус. у XV—XVI стст. *Сом* (Туп.). СРП *Сомов, Сомин, Соминский*

СОН, памянш. СОНЕЦ, СОНЧЫК. — *Со́ніч; Со́нец; Со́нчык*

*СОНД.— *Сандо́віч*

*СОНДАК.—*Со́ндак*

СОНЦА, СОЛНЦА, памянш. СОНЧЫК, СОЛНЫШКА.— *Со́нцаў; Со́нчык; Со́лнышкін*. СРП *Солнцев, Солнышкин*

СОПАТ, памянш. САПОЦЬКА рэг. 'сапенне', 'густы дым' (Нас.), рус. *сопот* 'моцная цяга пры гарэнні' (Даль).— *Со́пат; Сапо́цька*. Бел. у XVI ст. *Сопотко, Сопотько, Сапоцка* (БА, I, 260), укр. у XVII ст. *Сопотко* (Туп.). СРП *Сопотов*

СОРАГ параўн. рус. ярасл. *сорога* 'рыба' (Мельн.).— *Со́раг*

СОС, памянш. СОСІК 'нікатынавая смала' (БРС), магчыма, 'той, хто ссе, сысун'.— *Со́сік*. СРП *?Сосин*

СОТ, СОТА, 'соты'? — *Со́таў*. СРП *Сотин*

СОТНІК.— *Со́тнікаў, Сатнячэ́нка* пры [і]>[я], магчыма, ад *сатняк*. Рус. у XVI ст. *Сотник* (Туп.). СРП *Сотник, Сотников, Сотничевский*

*СОЎПЕЛЬ.— *Со́ўпель*

*СОЎЦА.— *Соўца*

СОХАР параўн. укр. *сохур* 'вілкі для зімовай лоўлі рыбы' (Грынч.), параўн. таксама рус. *сохарь* 'араты, той, хто арэ сахою' (Даль), параўн. бел. *сахор* 'вілкі для гною' (БРС).— *Со́хар*

*СОЦ.— *Соц*

СОЦКІ.— *Со́цкі*. СРП *Соцкий, Соцков*

СОЯ.— *Со́я*. Бел. у XVIII ст. *Соя* (БА, I, 260). СРП *Соин, ?Соинов*

СПАДАБАЙ 'той, хто падабаецца'? параўн. бел. *спадабаць*.— *Спадаба́еў*. Параўн. рус. у XVII ст. *Сподоба* (Туп.)

СПАРЫШ.— *Спарыш.* Рус. у XVII ст. *Спорыш* (Туп.). Параўн. СРП *Спорыш*

СПАС.— *Спасюк; Спаскі.* СРП *Спасов, Спасович, Спасский*

СПАСЁНЫ 'выратаваны, уратаваны' (Дзярж.— М. Б.), 'святы' (Нас.).— *Спасёнаў*

СПАСІБА рэг. 'дзякуй' (Нас.), рус. *спасибо* тое ж (Даль).— *Спасібёнак.* СРП *Спасибин, Спасибкин*

СПАТКАЙ 'той, хто спаткаў' ці 'той, якога спаткалі'? — *Спаткай*

*СПЕТАЛЮН.— *Спеталюн*

*СПЕЦІУС.— *Спеціус*

*СПЕЦЫЯН.— *Спецыян*

СПЕХА 'соня' ці 'той, хто спяшаецца'? — *Спешын.* Параўн. СРП *Спехов*

СПІЖАРНЫ параўн. бел. *спіжарня* 'кладоўка, каморка для харчовых запасаў' (БРС, Нас.), укр. *спижарня* тое ж (Грынч.).— *Спіжарны; Спіжарскі.* СРП *Спижарный*

СПІЦА.— *Спіца, Спічонак.* Бел. у XVI—XVII стст. *Спица* (БА, I, 260; Туп.). Рус. у XVI ст. *Спица* (Туп.). СРП *Спицын*

СПІЧАК.— *Спічакоў*

СПЛАШНЫ рэг. 'суцэльны', рус. *сплошной* тое ж.— *Сплашноў*

*СПОДРА.— *Сподрын*

СПОР, памянш. СПОРЫК рэг. 'спорнасць', 'прыбытак', 'сварка' (Нас.).— *Спорык.* СРП *Спорев*

*СПРУГА.— *Спругін; Спружук*

*СПРУЖ.— *Спруж; Спружук*

*СПРУНЖАК.— *Спрунжак*

*СПРЫНДЖА.— *Спрынджук*

СПЯКОТНЫ.— *Спякотны*

*СРЭК.— *Срэк*

СТАБУЛЯНЕЦ з в. Стабулы.— *Стабулянец*

*СТАВАШ.— *Ставаш*

*СТАВЕР.— *Ставер.* Параўн. СТАЎР

*СТАГУР.— *Стагураў*

СТАДЗЕЛЬНІК.— *Стадзельнік.* Параўн. СТАДНІК

СТАДНІК рэг. 'той, хто даглядае статак' (Нас.), рус. смал. 'пастух' (Дабр.), 'наглядчык над статкам і пастухамі, гаспадар статка' (Даль), укр. *стадник* 'па-

стух коней' (Грынч.).— *Ста́днік*. У Туп. у XVII ст. *Стадник*. СРП *Стадников, Стадницкий*

СТАДОЛЬНІК рэг. 'сторож пры стадоле, пры заезджым доме' (Нас.).— *Стадо́льнік*

СТАЙНЫ ад *стая?* — *Стайно́ў*

СТАКАН, памянш. СТАКАНОК бел. рэг., рус. 'шклянка'.— *Стаканко́ў*. СРП *Стаканов*

*СТАКАС.— *Ста́кас*

*СТАКУН.— *Стаку́н*

*СТАЛЫБА, памянш. СТАЛЫБКА.— *Сталы́бка, Сталы́пка* пры [б]>[п]

*СТАЛЫГА.— *Сталы́га*

СТАЛЬМАХ, СТЭЛЬМАХ, памянш. СТАЛЬМАШКА.— *Стэ́льмах, Стэ́льмахаў, Стальмахо́ў, Стэльмашо́нак, Стальмашо́нак, Сцельмашэ́нка* пры [т]>[ц'], *Стальмашу́к; Стальма́шка; Стэ́льмак* пры [х]>[к], *Стальмачо́нак*. Бел. у XVII ст. *Стельмах, Стелмах* (БА, I, 260; Туп.). Укр. у XVII ст. *Стельмах* (Туп.). СРП *Стельмах, Стельмаков*

СТАЛЮГА.— *Сталю́га*

СТАЛЯР, СТОЛЯР, памянш. СТАЛЯРЭЦ.— *Сталя́р, Сталяро́ў, Сталярэ́нка, Сталяро́нак; Сталярэ́ц, Сталярцо́ў; Сталярчу́к, Сто́лярaў*. Бел. у XVII ст. *Столяр, Столер* (БА, I, 261). СРП *Столяр, Столяров, Столярчук, Столярский, Столяревский*

СТАН, памянш. СТАНІК, СТАНЧЫК, СТАНКО.— *Стане́віч; Ста́нік; Ста́нчык; Станко́ў, Станке́віч, Ста́нчыц; Станчу́к* — усе магчымы і ад УІ *Станіслаў* (гл. БА, I, 155—156). СРП *Станков, Станкевич, Станюкович*

СТАНАВЫ.— *Станавы́, Станаве́нка*. СРП *Становов*

*СТАНІБУЛА.— *Станібу́ла*

СТАРАВЕР.— *Стараве́раў*. СРП *Староверов*

СТАРАВОЙТ са спалучэння *стары войт*.— *Старaво́йт, Старaво́йтаў*

СТАРАВЫБАРНЫ 'даўно выбраны, многа раз выбіраны'? — *Старавы́барны*

СТАРАДУБ, памянш. СТАРАДУБЕЦ рус. *стародуб* 'стары дуб', назва расліны (Даль), укр. назва расліны (Грынч.).—*Стараду́бец*, якое магчыма і ад назвы н. п. *Старадуб*. Бел. у XVI ст. *Стародубец* (БА, I, 260). Рус., укр. у XVII ст. *Стародуб, Стародубец* (Туп.). СРП *Стародубов, Стародубцев*

*СТАРАДЫН.— *Старады́наў*

СТАРАЖЫЛ.— *Старажы́л.* У Туп. у XVII ст. на Доне *Старожил.* СРП *Старожилов*

СТАРАМЕЛЬНІК са спалучэння *стары мельнік.— Старамéльнікаў*

СТАРАННІК 'старанны чалавек'.— *Стара́ннік*

СТАРАСЕЛЕЦ з в. Старое Сяло.— *Старасéлец; Старасéльскі.* СРП *Старосельцев, Старосельский*

СТАРАСТА.— *Ста́растаў, Ста́расцін, Старасцéнка.* У Туп. у XVII ст. *Староста.* СРП *Старостин, Старостенко*

СТАРАЦ.—*Ста́рцаў, Ста́рчанка.* Бел. у XVIII ст. *Старец* (БА, I, 260). У Туп. у XVI ст. *Старец.* СРП *Старцев, ?Старцов, Старченко*

*СТАРЛО.— *Старло́віч*

СТАРОБІНЕЦ з н. п. Старобін (зараз г. Салігорск).— *Старо́бінец.* Параўн. СРП *Старобин*

СТАРУН рэг. 'той, хто стараецца' (Дзярж.— М. Б.), укр. 'той, хто разважае як стары' (Грынч.).— *Стару́н.* У Туп. у XVII ст. *Старун.* Параўн. СРП *Старунин*

СТАРУХА бел. рэг., рус. 'старая жанчына'.— *Старушэ́нка.* Бел. у XVI ст. *Старуха* (БА, I, 260; Туп.). Укр. у XVII ст. *Старуха* (Туп.). СРП *Старухин*

СТАРУШАК рэг. 'стары чалавек' (Нас.).— *Старушко́ў*

СТАРЫК бел. 'старое рэчышча' (БРС), рэг. 'стары чалавек', рус., укр. *старик* тое ж (Даль, Грынч.).— *Стары́к, Ста́рыкаў, Старыкéвіч, Старыко́віч, Старычо́нак.* Бел. у XVII ст., рус. у XVI ст. *Старик* (Туп.). СРП *Стариков*

СТАРЫНА, памянш. СТАРЫНЧЫК бел. 'старое паселішча'.— *Стары́нчык; Стары́нскі; Старжы́нскі* з польск. [рж], магчыма, ад назвы н. п. Старына. СРП *Старинин*

СТАТАК.— *Статкéвіч*

СТАЎ.— *Ста́вінаў; Ста́ўскі, Ставі́цкі.* Укр. у XVII ст. *Ставко* (Туп.). СРП *Ставенков, Ставицкий, Ставский.* Укр. у XVII ст. *Ставко* (Туп.)

СТАЎБУН, памянш. СТАЎБУНІК 'высокі конусападобны прадмет' (БРС), рэг. 'гліняная банка' (КСЧ), 'высокі тонкі чалавек' (Стэц.).— *Стаўбу́нік.* Бел. у XVIII ст. *Сталбун* (БА, I, 261). СРП *Столбунов*

СТАЎПЕЦ рэг. 'частка грабель, у якую насаджаны зубы', 'стоўбікі ў варотах' (Дзярж.— М. Б.), укр. 'нізкі слупок, тумба' (Грынч.).— *Стаўпе́ц*

*СТАЎР.— *Стаўро́ў, Стаўро́віч; Стаўро́ўскі.* Рус. у XII ст. *Ставр,* у былінах *Ставр Годионович* (Туп.). СРП *Ставров, Ставровский*

СТАЯ бел., рэг. рус. аб птушках 'чарада', аб ваўках, сабаках 'гайня'.— *Ста́ін; Стае́цкі*

*СТАЦІНА.— *Стаці́на.* Параўн. СТОТА

СТАЯЧКА рус. *стоячка* 'стаячае становішча' (Даль), укр. 'прылада на трох ножках, на якой падбіваюць боты' (Грынч.).— *Ста́ячка*

СТОГ, памянш. СТАЖОК.— *Сто́гаў; Стажо́к.* СРП *Стогов*

СТОЙБА 'стойбішча'?—*Сто́йба*

СТОЙЛА, памянш. СТОЙЛІК.— *Сто́йлік*

СТОКА 'сцёк, месца сцёку'? — *Сто́ка, Сто́цкі.* СРП *Стоковский*

СТОКАЛАС укр. *стоколос* м. р., *стоколоса* ж. р. бат. 'каласоўнік' (Грынч.).— *Сто́калас*

СТОЛ, памянш. СТОЛІК.— *Стало́віч; Сто́лік; Сто́льскі.* СРП *Столов, ?Столин*

СТОЛБ бел., рэг. рус. 'слуп'.—*Сталбо́ў.* Бел. у XVII ст. *Стовп* (БА, І, 261). СРП *Столбов, ?Столбин*

СТОЛЯР гл. СТАЛЯР

СТОМА, ІСТОМА рэг. *стома* 'стамленне, стомленасць' (Бяльк.), ст. рус. *истома* 'прыгнёт', 'стомленасць', 'труд, забота' (Ср.).— *Сто́ма, Стаме́нка, Стамянко́ў; Істо́мін, Істо́мінаў; Істаміно́к.* Бел. у XV—XVII стст. *Стома, Истома, Истомка* (БА, І, 261; Туп.). Рус. у XIV—XVII стст. *Истома, Истомка, Истомица,* укр. у XVII ст. *Стома* (Туп.). СРП *Истома, Истомин, Истомов*

СТОН, памянш. СТОНЬКА рус. 'стогн', 'той, хто стогне'? — *Сто́нька.* СРП *Стонов*

СТОРАЖ, памянш. СТАРАЖОК.— *Сто́ражаў, Старажэ́нка; Старажо́к.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Сторож* (БА, І, 261). Укр. у XVII ст. *Сторож* (Туп.). СРП *Сторожев, Стороженко*

СТОТА, памянш. СТОЦІК, СТОЦЬКА укр. *стота* 'істота', 'характар, натура' (Грынч.).— *Стаце́віч; Стацю́к; Сто́цік; Сто́цька; Сто́цкі*

СТОЎБА укр. 'частка плуга', 'корань дрэва, які вертыкальна ідзе ў зямлю' (Грынч.).— *Сто́ўба*

СТРАЖ рус. 'ахоўнік' (Даль).— *Стражэ́віч.* Параўн. бел у XVI ст. *Стреж* (БА, I, 261). Укр. у XVII ст. *Страж* (Туп.)

СТРАЖНІК.— *Стра́жнік, Стра́жнікаў.* СРП *Стражников*

СТРАЗДЫНЬ параўн. літ. *strãzdas* 'дрозд', *strãzdana* 'вяснушка'.— *Страздьі́нь*

СТРАКАТЫ.— *Страка́ты.* СРП *Строкатенко*

СТРАКАЧ рус. *стрекач* 'той, хто апякае, жаліць, жыгае', 'уцёк' (Даль), параўн. бел. рэг. *стрыкаць* 'апякаць крапівою', 'кусаць, жыгаць' (Нас.).— *Страка́ч.* СРП *Стрекачёв*

СТРАКУН рус. бат. *стрекун* 'лужайнік вадзяны' (Даль).— *Страку́н.* Параўн. і СТРАКАЧ

СТРАЛА.— *Страле́нка; Стралю́к.* Укр. у XVII ст. *Стрела* (Туп.). СРП *Стрелов*

СТРАЛЕЦ, памянш. СТРЭЛЬЧЫК 'стралок' (БРС), рэг. 'паляўнічы' (Дзярж.— М. Б.).— *Страле́ц, Стральцо́ў, ?Стрэ́льчанка, Стральчо́нак, Стральчэ́ня; ?Стрэ́льчань; Стрэ́льчык; Страле́цкі.* Бел. у XVI—XVII стст. *Стрелец* (БА, I, 261; Туп.). СРП *Стрельцов, Стрелецкий*

СТРАЛОК.— *Стралко́ў, Стралко́віч; Стралко́ўскі.* СРП *Стрелков, Стрелковский*

*СТРАЎЯ.— *Страўя*

СТРАХ.— *Страх, Страхо́віч; Страшьі́нскі.* Рус. у XV ст., укр. у XVI—XVII стст. *Страх* (Туп.). СРП *Страх, Страшко, Страшкевич*

СТРАХА, памянш. СТРЭШКА.— *Страха́, Страхо́віч; Стрьі́шка* пры [э]>[ы]; *Страшынскі.* СРП *Стрехин*

СТРАШНЫ.— *Страшно́ў.* СРП *Страшнов*

СТРОГАЛЬ рус. 'стругаль' (РБС), 'абманшчык, ашуканец' (Даль).— *Стро́галеў.* СРП *Строгалёв*

СТРОГІ.— *Стро́гі, Стро́гаў, Стро́гін.* СРП *Строгов, Строгович*

СТРОЙ.— *Страе́нка.* Туп. у XV—XVI стст. *Строй.* СРП *Строев, ?Стройков*

СТРОК рэг. 'авадзень' (КСЧ), магчыма, 'апёк (крапівы), укус (мухі, камара)'.— *Строк, Стро́каў, Страко́віч; Страчу́к; Страко́ўскі.* Параўн. бел. у XVIII ст. *Страк* (БА, I, 261). СРП *Строков, Строкин*

СТРОМ укр. 'фруктовае дрэва', 'стромкае месца' (Грынч), польск. *strom* тое ж (Карл.).— *Стром.* У Туп. у XVI ст. *Стром*

*СТРОТ, *СТРОЦ, памянш. СТРАЦКО. — *Строт; Страцкéвіч; ?Струт* пры [о]>[у]; *Стрóцкі, Страцэўскі, ?Струцінскі*

СТРОЧКА.— *Стрóчка*

СТРУГ.— *Струг.* Бел. у XVI ст. *Струга* (Туп.). СРП *Стругов, Стругин*

СТРУЙ польск. *strój* 'строй, убор' (Карл.), магчыма, 'струмень'? — *Струй.* СРП *Струев, Струенков*

СТРУК, памянш. СТРУЧОК.— *Струк, Стрýкаў; Стручкóў; Стручкó; Струкóўскі.* Бел. у XVI—XVII стст. *Струк, Стручко* (БА, I, 261; Туп.). СРП *Струков, Стручков, Стрюков, Стрючков*

*СТРУМІЛА.— *Струміла*

СТРУПАВЕЦ з в. Струпава.— *Струпавéц*

СТРЫБУК параўн. рус. паўдн.-зах. *стрибать* 'сігаць, скакаць' (Даль), укр. *стрибати* тое ж, *стрибун* 'скакун' (Грынч.), параўн. літ. *striūbanti* 'усхліпваць'.— *Стрыбýк*

СТРЫБУЛЬ.— *Стрыбýль; Стрыбýльскі.* Бел. у XVI—XVII стст. *Стрыбуль, Стрибыль, Стрыбель,* укр. у XVI ст. *Стрыбыль, Стрибель* (Туп.). Параўн. СТРЫБУК

СТРЫБУЦЬ.— *Стрыбуць.* Укр. у XVII ст. *Стрыбуць* (Туп.). Параўн. СТРЫБУК

СТРЫВАЛЬ 'цярплівы, вытрыманы чалавек'?, параўн. бел. *стрываць* 'выцерпець, вытрымаць' (БРС), укр. *стривати* 'пачакаць' (Грынч.).— *Стрывáль*

СТРЫГА, памянш. СТРЫЖКА рус. яраcл. *стрига* 'конь' (Мельн.), укр. *стрига* 'нізка пастрыжаны чалавек' (Грынч.).— *Стрыга, Стрыжэвіч, Стрыжэнка, Стрыжанкóў, Стрыжóнак; Стрыжка; Стрыжкó* з пераносам націску; *Стрыгóцкі;* усе вытворныя магчымы і ад СТРЫЖ (гл.). Бел. у XVI—XVII стст. *Стрыга, Стрижка,* рус. у XV—XVI стст. *Стрига* (Туп.). СРП *Стригин, ?Стрижин, Стрижков, Стрыгин*

СТРЫГАЛЬ, СТРЫГЕЛЬ 'той, хто стрыжэ'? — *Стрыгалеў, Стрыгéльскі*

СТРЫГУН бел. 'жарабя-аднагодак' (БРС), рус. яраcл. *стригун* 'конь, якому другі год' (Мельн.), тамб. 'чалавек з кароткай стрыжкай' (Даль), укр. 'аднагадовае жарабя' (Грынч.).— *Стрыгýн.* СРП *Стригунов*

СТРЫЖ.— *Стрыж, Стрыжэвіч, Стрыжэнка, Стрыжанкóў; Стрыжóнак,* магчымы і ад СТРЫГА (гл.). Бел. у XVI ст. *Стрыж* (БА, I, 261). СРП *Стриж, Стрижёв, Стрижов, Стрижевский*

СТРЫЖАК рус. *стрижак* 'чалавек з кароткай стрыжкай' (Даль), укр. 'аднагадовае жарабя', 'салдат (з-за пастрыжанай галавы)' (Грынч.).— *Стрыжа́к.* СРП *Стрижаков*

СТРЫЖАНЬ.— *Стры́жань.* СРП *Стрижнев*

СТРЫЖКА бел. 'падстрыганне, стрыжэнне' (БРС), рэг. 'прычоска' (Дзярж.— М. Б.), рус. смал. *стрижка* 'каротка падстрыжаны' (Дабр.), 'астрыжаная авечка' (Грынч.).— *Стры́жка, Стрыжко́* з пераносам націску. Бел. у XVI—XVII стст. *Стрижка, Стрыжка* (БА, I, 261; Туп.). СРП *Стрижков*

СТРЫЖОНІК 'чалавек з пастрыжанай галавой'.— *Стрыжо́нікаў*

СТРЫЙ рэг. 'дзядзя па бацьку' (Нас.), укр. *стрий* 'дзядзя' (Грынч.), польск *stryj* тое ж.— *Стрые́віч*

СТРЫК 'апёк (крапівы), укус (мухі, камара)'?, параўн. рэг. *стрыкаць* 'апякаць крапівою', 'кусаць, жыгаць' (Нас.).— *Стрык, Стры́каў*

СТРЫКЕЛЬ. — *Стры́ке́ль, Стры́келеў.* Параўн. СТРЫК

СТРЫНА, памянш. СТРЫНКА, польск. *stryna* 'цётка (сястра бацькі, жонка брата бацькі); (Карл.).— *Стрыно́віч; Стрынке́віч*

СТРЫНАДКА рэг. *стрынатка* 'сінічка' (Дзярж.— М. Б.), рус. *стринадка* 'птушка з роду сінічак' (Даль).— *Стрына́дка; ?Страгна́ткін* пры [ы]>[а] і ўстаўцы [г]

*СТРЫНГАЛА.— *Стрынгало́віч*

*СТРЫНГЕЛЬ.— *Стрынгель*

СТРЫНК польск. *strynk* 'струк' (Карл.). — *Стрынке́віч*

*СТРЫХАП.— *Стрыха̀паў*

СТРЫХАР польск. *strycharz* 'работнік цагельні' (Карл.), магчыма, 'той, хто крые стрэхі'? — *Стры́ха́р; Стрыхарчу́к*

СТРЫЦШКА гл. СТРАХА

СТРЭЖ рус. *стреж* 'самае глыбокае месца рэчкі з хуткай плынню' (Даль), ярасл. 'мелкае месца ў рэчцы, дзе вада бяжыць на камені' (Мельн.).— *Стрэж*

СТРЭЛЬНІК польск. *strzelnik* 'порхаўка' (Карл.), магчыма, 'стралец' ці 'стралок'? — *Стрэ́льнікаў.* У Туп. у XV ст. *Стрельник.* Бел. у XVI—XVII стст. *Стрельник. Стрельник* (БА, I, 261). СРП *Стрельников*

СТРЭМКА.— *Стрэ́мка*

СТРЭХ параўн. польск. *strzecha* 'страха' (Карл.).— *Стрэх*

*СТУБАЙЛА.—*Стуба́йла*

*СТУГАР.— *Стуга̀рай*

СТУДЗЁНЫ, памянш. СТУДЗЁНКА рус. *студенка* 'халодная крынічная вада' (Даль).— *Студзёнка.* СРП *Студёнкин*

СТУДЗЯНІЧНІК 'той, хто робіць ці прадае студзень, квашаніну'? — *Студзянічнік, Студзянішнік* пры [чн]>>[шн]. СРП *Студеничник*

СТУК.—*Стук, Сту́кін.* СРП *Стуков, Стукин*

СТУКАВІЛА 'той, хто стукае'? — *Стукаві́лаў*

СТУКАЛА рус., укр. *стукало* 'тое, чым стукаюць, малаток' (Даль, Грынч.), магчыма, 'той, хто стукае'.— *Сту́ка́ла, Сту́ка́лаў.* СРП *Стукалов, Стукалин*

СТУКАН 'той, хто стукае'? — *Сту́ка́н.* Бел. у XVII ст. *Стукан* (БА, I, 262). СРП *Стукан*

СТУКАЧ.— *Стука́ч.* СРП *Стукачёв.* Параўн. СТУКАН

СТУКУН.— *Стуку́н.* Параўн. СТУКАН

СТУЛ, памянш. СТУЛЬКО.— *Стуле́віч; Стульке́віч.* СРП *Стулов*

СТУЛЬБА параўн. літ. *stulbinti* 'ашаламляць, азадачваць', *stulbti* 'паражацца, слупянець'.—*Сту́льба*

СТУПА.— *Сту́пін.* Бел. у XV—XVII стст. *Ступа, Ступка* (БА, I, 262). Рус. у XVI ст. *Ступа* (Туп.). СРП *Ступин, Ступкин*

СТУПАК рэг. 'ступня нагі', 'частка панчохі ці шкарпэткі, якая адзяваецца на ступню' (Дзярж.— М. Б.), укр. 'конны млын', 'конь, які добра ідзе шагам', 'край лапаты, на які наступаюць нагой пры капанні' (Грынч.).— *Ступа́к, Ступако́ў.* Бел. у XVIII ст *Ступак* (БА, I, 262). СРП *Ступак*

*СТУПАН(Ь).— *Ступане́віч*

СТУПЕНЬ, памянш. СТУПЕНЬКА.— *Ступе́нь; Ступе́нька*

СТУПНІК 'той, хто робіць ступы'? — *Сту́пнік*

*СТУР, памянш. СТУРКО.— *Стурке́віч*

*СТУРЛІС.— *Сту́рліс*

*СТУРЭЙКА.— *Стурэ́йка*

*СТУТ, памянш. СТУТКО.— *Стутко́*

*СТЫЗА, памянш. СТЫЗІК.— *Сты́зік*

*СТЫЛБА.— *Сты́лба*

СТЫР, памянш. СТЫРЫК рус. 'сардэчнік, шворан і наогул вось, на якой што-небудзь паварочваецца', 'затычка, гвозд у бочцы, чане' (Даль).— *Стырыковіч.* СРП *Стыров, Стыриков*

СТЭЛЬМАХ гл. СТАЛЬМАХ

СУБАТ 'чалавек, які чым-небудзь у суботу стаў вядомы', параўн. рус. смал. *суббот* 'карова, якая ацялілася ў суботу' (Дабр.).— *Субат, Субатовіч.* Бел. у XVI—XVII стст. *Субот* (Туп.)

СУБАЦЕЙ.— *Субацей.* Параўн. СУБОТА

СУБАЧ, СУБОЧ укр. *субіч* 'побач, каля'.— *Субач, Субоч.* СРП *Субботчев*

*СУБКО.— *Субко*

СУБОТА, памянш. СУБОТКА.— *Субота, Субоцін, Субатовіч; Субаткевіч; Субаткоўскі; ?Сабаткоўскі.* Бел. у XVII ст. *Субота, Собота* (БА, I, 262; Туп.). Рус. у XV—XVI стст. *Субота, Суботка,* укр. у XVII ст. *Собота* (Туп.). СРП *Суббота, Субботин, Субботовский*

СУВАЛ, памянш. СУВАЛКА рэг. *сувалка* 'кіёк, палена' (Бяльк.), *сувалка* 'пакулле' (Юрч.), рус. смал. 'кастрыца' (Дабр.).— *Сувалаў; Сувалка*

*СУВЕЙ.— *Сувеей*

*СУВІГА — *Сувіга*

*СУВІК.— *Сувік*

СУВОРЫ рус. *суворый* 'суровы, бурклівы, злосны', 'рабы, аспаваты', *сувор* 'нелюдзім, сугней' (Даль), укр. *суворий* 'суровы, строгі' (Грынч.), параўн. бел. *суворына* 'упарты чалавек' (Нас.).— *Суворaў.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Сувор, Суворка* (БА, I, 262; Туп.). Рус. у XVI ст. *Сувор, Суворик, Суворко* (Туп.). СРП *Суворов, Суворин*

СУГАК, СУГАКА рэг. 'касцяное ці драўлянае плоскае шыла для падплятання лапцей', 'тонкі, худы чалавек' (Бяльк.), укр. 'сайгак', 'плоское шыла' (Грынч.).—*Сугак Сугака.* Укр. у XV—XVI стст. *Сугак* (Туп.)

СУГАНЯКА параўн. рус. *сугонять* 'даваць, нагонку, ганяць, лаяць, дакараць' (Даль), параўн. кірг. *суганак* 'абжора' (Будаг.).— *Суганяка.* Параўн. у Туп. у XV ст. *Сугоняй.* СРП *Сугоняев*

СУГЛОБ рэг. 'гарбаты чалавек' (Бяльк.), рус. *суглобы, суглоба* 'той, хто глядзіць з-пад ілба, непрыветлівы чалавек, нелюдзім, сугней' (Даль), смал. *суглобный*

'сур'ёзны, упарты' (Дабр.).— *Суглóб.* Бел. у XVI ст. *Суглоба* (БА, I, 262)

СУДАК.— *Судáк, Судакéвіч.* СРП *Судак, Судакевич, ?Судакин, Судаковский*

*СУДАЛЬ.— *Судалёнка*

СУДАР, памянш. СУДАРЫК рус. устар. ветлівая форма звароту 'васпан, шаноўны пан' (Даль).— *Судáраў, Сударэ́нка; Судáрыкаў.* СРП *Сударев, Сударенков, Судариков*

*СУДАС.— *Сýдас*

СУДЗІЛА.— *Судзіла; Судзілóўскі.* Рус. у XVII ст. *Судило* (Туп.)

СУДЗІНА, памянш. СУДЗІНКА 'пасудзіна' (БРС), рэг. 'рачное судна, вялікая лодка' (Нас.), укр. *судина* 'пасудзіна', 'судна' (Грынч.).— *Судзінка.* СРП *Судинин*

СУДНІК рэг. 'шафа для кухоннай пасуды' (Бяльк.), 'шафка, скрынка, у якой захоўваюць харчовыя запасы' (Нас.), рус. паўдн.-заходн. *судник* тое ж (Даль, Дабр.).— *Сýднік, Сýднікаў, Суднікéвіч, Суднікóвіч.* Бел. у XVII ст. *Судник* (БА, I, 262)

СУДОК.— *Судчэ́нкаў.* Рус. у XV—XVI стст. *Судок* (Туп.). СРП *Судковский*

СУЕТА рэг. *суята* 'неспакой, клопат, турбота', 'мітуслівы чалавек, непаседлівы', 'надаедлівы чалавек, які ўмешваецца ў кожную справу' (Нас.).— *Суéта.* Рус. у XV—XVI стст., укр. у XVI ст. *Суета* (Туп.). СРП *Суетин, Суетов, Суетенков*

*СУЗА, памянш. СУЗЬКО.— *Сузькó.* Укр. у XVI ст. *Сузик* (Туп.)

СУЗДАЛЬ рэг. 'сухі, танклявы чалавек' (Бяльк.), параўн. рэг. *суздоліць* 'асіліць, перамагчы, пераадолець', 'здолець, быць у сілах зрабіць што-небудзь' (Нас.).— *Сýздалеў.* Рус. у XVII ст. *Суздал* (Туп.). У Туп. у XVI—XVII стст. *Суздалец.* СРП *Суздалев, Суздальцев*

СУК, памянш. СУЧОК.— *Сучóк, Сучкóў; ?Сучкó.* Рус. у XVI—XVII стст. *Сук, Сучек* (Туп.). СРП *Сук, Суков, Сучков*

СУКАВАТЫ.— *Сукавáты.* СРП *Суковатов*

СУКАЛА.— *Сукáла*

СУКАЧ рэг. 'ссуканая (не звітая) з пянькі ці льну вяровачка' (Дзярж. — М. Б.).— *Сукáч.* СРП *Сукач, Сукачёв*

СУКОНКА.— *Сукóнка*

СУКОНЯ.— *Сукóнін.* СРП *Суконик*

СУКОРА параўн. бел. *сукаратка* 'вузялок ці пятля на крута ссуканай нітцы' (БРС), *сукарка, сукаратка* тое ж (Нас.), рус. заходн. *сукоротка, сукороть* тое ж (Даль), смал. *сукурат* 'упарты чалавек' (Дабр.).— *Сукóра*

СУКРЫСТЫ рэг. 'кучаравы' (Слуцк.— М. Б.).— *Сукры́сты*

СУКУПА 'сукупны'?— *Сукýпа*

СУЛА, памянш. СУЛІК параўн. рэг. 'абяцанка, абяцанне', 'пажаданне', рус. 'той, хто суліць, абяцае' (Даль), укр. 'судак' (Грынч.). — *Сулá, Сýлін, Сулóвіч; Сýлік; Сулкóўскі.* СРП *Сулин*

СУЛІМ, СУЛІМА з араб. УІ *Сулейман* (Шынк.).— *Сулім, Суліма, Сулімаў, Суліме́нка.* Бел. у XVII ст. *Сулим* (БА, І, 262; Туп.). Укр. у XVII ст. *Сулима, Сулимко* (Туп.). СРП *Сулимовский*

СУЛТАН гл. СОЛТАН

*СУЛЬГА.— *Сýльжыч; Сульжы́нскі, Сульжы́цкі*

*СУЛЬТЫН.— *Сульты́н*

СУЛЯЯ, памянш. СУЛЕЙКА 'вялікая бутылка' (Бяльк.), рус. *сулея* 'вінная бутылка; фляжка, плоская бутылка' (Даль), смал. *сулейка* 'бутылка', 'лейка' (Дабр.), укр. *сулія* 'вялікая бутылка' (Грынч.). — *Суле́йка*

*СУЛЮТА.— *Сулю́та*

СУМА, СУМКА. — *Сумá, Сýмін, Сýміч; Сýмкін.* Бел. у XVI—XVII стст. *Сума* (Туп.). СРП *Сумин, Сумкин*

*СУМАН.— *Сумáн, Сумáнаў*

СУМАР рус. *сумарь* 'хлеб', *сумарь* 'жабрак з сумою' (Даль).— *Сумáр, Сумарэ́віч*

СУМАРОКІ рэг. 'строгі з віду, суровы, сугней, неразгаворлівы, нелюдзім' (Слуцк.— М. Б.).— *Сумарóкі, Сумарóк, Сумарóкаў.* Бел у XVI ст. *Суморок* (БА, І, 262). Рус. у XV—XVI стст. *Суморок, Сумарок* (Туп.). СРП *Сумороков, ?Сумарков*

*СУМЕРА.— *Суме́рын*

СУМКА гл. СУМА

СУНДУК.— *Сундукóў*

СУНЕЦ укр. *сунець* 'кусок бервяна, адрубак' (Грынч.).— *Суне́ц, Сунцóў.* СРП *Сунцов*

СУНІЦА.— *Суніцын*

*СУНКО.— *Сункó*

СУП, памянш. СУПІК.— *Супічэ́нка; ?Супінскі*

ЧЫШКА укр. *чишка* 'цэшка', 'кончык пальца' (Грынч.).— *Чы́шчанка, Чышчэ́ня*

ЧЭБ, памянш. ЧАБОК.— *Чэб; Чэ́бук, Чабу́к; Чабо́к*

ЧЭВІДАЙ гл. ЧАВІДАЙ

ЧЭГЛ(А), памянш. ЧЭГЛІК рус. *чеглик, чеглок* 'малы сокал', 'сокал самец' (Даль).— *Чаглі́н; Чэ́глік.* Рус. у XI—XVI стст. *Чьгьле, Чеглок* (Туп.). СРП *Чеглов.* СЛП *Чегліс*

ЧЭКАВЫ.— *Чэ́кавы*

ЧЭКАН гл. ЧАКАН

*ЧЭКЕЛЬ.— *Чэ́кель,* відаць, у выніку, асваення ЛП *Чекеліс*

*ЧЭКЛЯ.— *Чэ́клін.* СРП *Чеклецов*

ЧЭКМАН польск. *czekman* 'чэкмень, кунтуш татарскага фасону' (Гарб.).—*Чэ́кман*

*ЧЭКСТАР.— *Чэ́кстар*

ЧЭЛЯДЗЬ.— *Чэлядзю́к*

*ЧЭМАХУД.— *Чэмаху́д*

ЧЭНЧЫК бел. рэг. памянш. ад *чарнец* 'манах' (Нас.), укр. *ченчик* тое ж (Грынч.).— *Чэ́нчык*

ЧЭПА, памянш. ЧАПКО, ЧЭПІК 'той, хто чапае'?, параўн. укр. *чепа* 'прадмет на дне ракі, за які чапляюцца рыбалоўныя снасці' (Грынч.), параўн. і бел. *чэп* 'клямка на дзвярах' (Нас.).— *Чэ́па; Чапу́к; Чапко́, Чапко́віч; Чапке́віч; Чэ́пік, Чэ́пікаў; Чапко́ўскі.* СРП *Чепиков*

ЧЭПЕЛЬ тур. *чепель* 'брудны, нячысты', 'буры, цёмны', 'мутны, з прымессю' (ТБР). — *Чэ́пель, Чапялёў.* Укр. у XVII ст. *Чепель* (Туп.). У Туп. у XV ст. *Чепель, Чепел.* СРП *Чепелёв*

ЧЭПІК 'птушка бакас' (БРС, Бяльк.), рэг. 'чапец'.— *Чэ́пік, Чэ́пікаў.* Параўн. ЧЭПА

ЧЭРАВА, памянш. ЧАРЭЎКА 'жывот, бруха' (БРС, Нас.), рус., укр. *черево* тое ж (Даль, Грынч.).— *Чарэ́він; Чарэ́ўка.* Бел. у XVI ст. *Черевко* (Туп.). СРП *Черевин*

*ЧЭРАНДА.— *Чэ́ранда*

ЧЭРАП, памянш. ЧАРАПОК, ЧАРАПКО.— *Чэ́рап, Чарапо́віч; Чарапо́к; Чарапко́; Чарапаві́цкі, Чарапко́ўскі.* У Туп. у XVI ст. *Череп.* СРП *Черепов, Черепков*

ЧЭРАТ гл. ЧАРОТ

ЧЭРКЕС гл. ЧАРКЕС

ЧЭРНІК 'той, хто чэрніць, фарбуе ў чорны колер тканіʼ?, магчыма, 'чорны, чарнявы чалавек'. — *Чэ́рнікаў, Чэ́рнік.* Бел. у XVI—XVII стст. *Черник* (БА, I, 271;

Туп.). Рус., укр. у XVII ст. *Черник* (Туп.). СРП *Черников*

ЧЕРНЯ параўн. рэг. *чэрнь* 'афарбоўка ў чорны колер', 'чорнае адзенне, жалобнае ці ў манахаў' (Нас.), магчыма, 'чорны, чарнявы чалавек'. — *Чэ́рня, Чэ́рнін.* СРП *?Чернин*

ЧЭСНЫ рэг. 'сумленны'.— *Часно́віч; Часню́к; Часнавіцкі.* Рус. у XVI—XVII стст. *Честной* (Туп.). СРП *Честнов, Чеснов, Честных*

ЧЭХ, памянш. ЧЭШЫК, ЧЭШКА.— *Чэх, Чахо́віч; Чэ́шык; Чэ́шка; Чэ́шскі, Чахо́ўскі. Чахо́льскі.* Бел. у XVII ст. *Чешко,* укр. у XVI ст. *Чех,* рус. у XIV ст. *Чешко* (Туп.). СРП *Чехов, Чеховский*

ЧЭЧА, памянш. ЧЭЧКА, ЧЭЧЫК рус. *чеча, чечя* 'дзіцячая цацка', 'песта, распешчанае дзіця' (Даль), параўн. таксама бел. рэг. *чачэніцца* 'хваліцца, выхваляцца' (Нас.).— *Чэ́ча, Чэ́чын; Чэ́чка; Чэ́чык, Чэ́чыкаў.* Бел. у XVIII ст. *Чечка* (БА, I, 272). СРП *Чечин, Чечик, Чечиков*

ЧЭЧАТ рус. *чечет* 'назва птушкі' (Даль).— *Чэ́чат.* СЛП *Чечетас, Чечета, Чечётас*

ЧЭЧЫК укр. *чечик* 'назва птушкі' рус. *чечет* (Грынч., Даль).— *Чэ́чык, Чэ́чыкаў*

ШАБ(А)— *Шабо́віч*

ШАБАЛА, ШАБАЙЛА рус. раз., тамб. *шабала* 'лахманы, паношанае адзенне', кастр. 'плецены са шчапы пасудак', паўдн. 'балбатун, ілгун', 'бадзяга' (Даль), ярасл. *шабала* 'пустая галава' (Мельн.).— *Шаба́ла, Шабалін; Шабалю́к; ?Шаба́йла; Шабалінскі, Шабало́ўскі.* У Туп. у XVII ст. *Шабала.* СРП *Шабалов. Шабалин*

*ШАБАЛЬ.— *Шаба́ль.* Параўн. ШАБАЛА

ШАБАЛТАС параўн. рус. данск. *шеболташ* 'папруга, да якой падвешвалі рог з порахам і мяшочак з кулямі' (Мірт.), укр. *шабельтас* 'партупея, рэмень, на якім носяць шашку' (Грынч.).— *Шабалта́с*

ШАБАН тат. *шогбан, шабан* 'назва восьмага месяца мусульманскага календара' (ТРС).— *Шаба́н.* Араб. УІ *Шабан* (Шынк.). Бел. у XVI—XVIII стст. *Шабан, Шебан* (БА, I, 273; Туп.). У Туп. у XV—XVII стст. *Шабан.* СРП *Шабанов, Шебанов*

ШАБАР параўн. рус. *шабёр, шабр* 'сябр, сусед' цвяр. *шабёр* 'таварыш, удзельнік у агульнай справе', *шабер*

уладз. 'сям'я, двор, адна гаспадарка' (Даль).— *Шáбараў*. СРП *Шабаров, Шабарин*

ШАБАРША рус. *шабарша, шебарша* 'буркун, заўсёды незадаволены чалавек', 'балбатун, бесталковы, мітуслівы чалавек', 'пераборлівы ў ядзе', зборн. 'дрэнь, зброд' (Даль).— *Шабаршы́н*. СРП *Шабаршин, Шабаршов*

*ШАБАТ.— *Шабáт, Шабáтаў*

*ШАБЕКА.— *Шабéка*. СРП *Шебеко*

ШАБЕЛЬНІК 'майстар, які вырабляе шаблі'.— *Шáбельнік*. Бел. у XVI—XVII стст. *Шабельник* (БА, I, 273). СРП *Шабельников*

ШАБЕТА 'скураная сумка, якую носяць на поясе' (БРС, Нас.), рэг. *шабэта* 'скураны капшук для тытуню' (КСЧ).— *Шабéта*

*ШАБЛЫКА.— *Шаблы́ка*. У Туп. у XVI ст. *Шаблыка*. СРП *Шаблыкин*

ШАБЛЯ.— *Шаблю́к; Шаблінскі, Шабліцкі*

*ШАБОЎТА.— *Шабóўта*

*ШАБОХА.— *Шабóха, Шабóхін*

ШАБУЛДА параўн. рус. *шабалда* 'балбатун, ілгун', 'бадзяга' (Даль).— *Шабулдá*. Рус. у XV ст. *Шеболда* (Туп.). СРП *Шебалдин*

ШАБУНЯ, памянш. ШАБУНЬКА рэг. 'жартаўнік', *шабуняць* 'жартаваць, весяліцца' (Нас.), 'кідаць', 'пераварочваць, перакідаць, прыводзіць у беспарадак' (Маг.— В. Л.), 'невыразна гаварыць' (Бяльк.), параўн. рус. *шабунять* 'падсмейвацца, смяяцца з каго-небудзь' (Даль), параўн. таксама рус. *шебуня, шобуня* 'кажух' (Даль).— *Шабýня, Шабýнін, Шабунéвіч; ?Шабýніо; Шабунéўскі*. Бел. у XVI—XVIII стст. *Шабуня* (БА, I, 273). У Туп. у XV—XVI стст. *Шебуня, Шебунка* (Туп.). СРП *Шабунин, Шебунин, ?Шебуняев*

ШАБУР рус. *шабур, шабура* 'сялянскага вырабу тканъ, аснова ў якой з парцяных нітак, а уток з шарсцяных', 'армяк з гэтай тканi, сярмяга' (Даль).— *Шабýраў*. СРП *Шабуров*

*ШАБУС.— *Шáбусаў*

ШАБУТА параўн. рэг. *шабутня* 'шум, гоман, крык', *шабуцець* 'шумець, крычаць, буяніць' (Юрч.).— *Шабýта; Шабýцкі*. СРП *Шабуцкий*

*ШАБЯЛЯН.— *Шабялянаў*

*ШАВАЛДА.— *Шавалдá*. СРП *Шевалдин*

*ШАВАНДА.— *Шавандá*

*ШАВАР, параўн. рус. яраcл. *шаварить* 'сланяцца, бадзяцца', 'утвараць гукі шорганнем ці скрабеннем' (Мельн.).—*Шавароў*. СРП *Шаварин*

*ШАВАРДАК.— *Шавардáк*

*ШАВЕЙ, памянш. ШАВЕЙКА.— *Шавéй; Шавéйка*

ШАВЕЛЬ рус. *шавель* 'шваль, зброд' (Даль, Дабр.), магчыма, ад *шавяліць*.— *Шавéль, Шавялёў, Шавялёнка*. Бел. у XVII—XVIII стст. *Шавель, Шевель* (БА, I, 273, 274), рус. у XVI ст. *Шевель* (Туп.). СРП *Шевелёв, Шевельков*

ШАВЕЦ.— *Шавéц, Шаўцóў, Шаўчэ́нка, Шэ́ўчанка, Шаўчóнак; Шаўчу́к; Шэ́ўчык; Шэ́ўчак*. Бел. у XVII—XVIII стст. *Шевец, Шевчык, Шевчик* (БА, I, 275; Туп.). СРП *Шевцов, Шевцев, Шевченко, Шевчук*

*ШАВУРА гл. *ШАУРА

ШАВЫРА рус. *шевыря, шевыряла* 'той, хто лазіць там, дзе не трэба, пераварочвае ўсё, варочае, перакідае' (Даль).— *Шавы́ра*. СРП *Шевыров, Шеварёв, Шавырин*

ШАВЯКА, ШАВЕКА параўн. рус. *шевяк* 'жывёльны памёт' (Даль).— *Шавя́ка, Шавéка, Шавякóў*. Бел. у XVIII ст. *Шевяка* (БА, I, 275). Рус. у XVI ст. *Шевяк* (Туп.). СРП *Шевяков*

ШАВЯЛА, ШАВЕЛА параўн. рэг. *шавялявіць* 'шапялявіць' (Бяльк.), *шавяляць* тое ж, *шавялявы* 'шапялявы' (Маг. — В. Л.), магчыма, ад *шавяліць*. — *Шавялá, Шавéла, Шавялёнка*. СРП *Шевелкин*

*ШАВЯЛЬДА.— *Шавяльдзін*

*ШАВЯРГА.— *Шавяргá*

ШАВЯРДА рэг. 'шапялявы' (Маг.— В. Л.).— *Шавярдá, Шавярдó; Шавярдзі́нскі*. СРП *Шевердин*

ШАВЯРНА параўн. рус. уладз. *шеверенька* 'плецены кош, карзіна, у якіх носяць корм скаціне, курэй на базар і інш.'(Даль).— *Шавярнá; Шавярнóўскі*. СРП *Шевернов*

ШАГ.— *Шаг, Шáгаў*. СРП *Шагов, Шагин*

ШАГАВІК.— *Шагавік*

*ШАГАЙ.— *Шагáй*. СРП *Шагаев*

*ШАГОЙКА.— *Шагóйка*

*ШАГРАЙ.— *Шагрáй*

*ШАГУН.— *Шагу́н*. СРП *Шагунов*

ШАДРА рус. *шадра* 'прыродная воспа' (Даль), яраcл. *шадровитый* 'васпаваты' (Мельн.), параўн. укр. *шадровий* 'з трэшчынамі' (Грынч.), тат. *шадра* 'васпіны, ямачкі

ад воспы', 'няроўны, нягладкі, шурпаты' (ТРС).— *Шáдрыч*. Рус. у XV—XVII стст. *Шадра* (Туп.). СРП *Шадрин, Шадров*

*ШАДРАК 'васпаваты'? — *Шадракóў*. Параўн. ШАДРА

*ШАДУРА, памянш. ШАДУРКА 'сівы'? — *Шадýра; Шадýрка; Шадýрскі*. СРП *Шадурский*. Параўн. ШЭДЫ

*ШАЕЎКА.— *Шаéўка*

ШАІР, памянш. ШАІРКА кірг. 'дрэвавая смала' (Будаг.).— *Шаíрка*

ШАЙ, памянш. ШАЕЦ, ШАЙКО тат. *шай* 'здаецца, відаць' (ТРС).— *Шаю́к; Шаéц; Шайкó, Шайкóў, Шайкéвіч; Шайкóўскі*. СРП *Шайков, Шайкевич*

*ШАЙБАК цюрк. з араб. *шефак* 'свет' (Шынк.).— *Шайбáк*. Каз. УІ *Шайбек* (Жануз.)

ШАЙДА ўкр. 'частка ткацкага станка' (Грынч.), параўн. рус. сіб. *шайданник* 'армяк' (Даль). — *Шáйдаў; Шайдó* з пераносам націску

*ШАЙДУКА.— *Шайдýка*

ШАЙКО гл. ШАЙ

*ШАЙНА параўн. укр. *шайність* 'павага, гонар' (Грынч.).— *Шайню́к*

*ШАЙНІК 'паважаны чалавек'? — *Шáйнікаў*. Параўн. ШАЙНА

*ШАЙПАК.— *Шайпáк*

ШАЙПУК параўн. літ. *šaipukas* 'насмешнік'.— *Шайпýк*

ШАЙТАН, ШАТАН бел. 'чорт, сатана' (БРС, Нас.), рус. *шайтан* тое ж (Даль), укр. *шайтан, шатан* тое ж (Грынч.), тат. *шайтан* тое ж (ТРС).— *Шайтáнаў; Шатáнаў*. СРП *Шайтан, Шайтанов*

*ШАЙТАР.— *Шайтáр, Шайтáраў*. Бел. у XVII—XVIII стст. *Шайтор, Шайтур* (БА, І, 272)

ШАКА 'той, хто шапляе, вымаўляе [ш] замест іншых гукаў', параўн. літ. *šaka* 'галіна', 'рукаў'.— *Шáка, Шáкаў*. СРП *Шакин*. Параўн. ШАКУН

ШАКАВЕЦ з в. Шакі, Шакава.— *Шакавéц*

*ШАКАЛЕЙ.— *Шакалéй*. Параўн. ШАКАЛЬ

*ШАКАЛІДА.— *Шакалíда*

ШАКАЛІС літ. *šakalys* 'лучына, трэска'.— *Шакáліс*

ШАКАЛЬ параўн. літ. *šakalas* 'шакал', *šakalys* 'лучына, трэска'.— *Шакáль*. Укр. у XVI ст. *Шеколь* (Туп.). Параўн. ШАКА, ШАКУН

*ШАКАЛЯН.— *Шакаля́н.* Параўн. ШАКАЛЬ

*ШАКЕЛЬ.— *Шаке́ль.* Параўн. ШАКАЛЬ

ШАКІР цюрк. 'благародны, літасцівы' (Будаг.).— *Шакіраў.* Тат., башк., каз. УІ *Шакір* (СЛІ, 166, 75, Жануз.). СРП *Шакиров*

ШАКОЛА параўн. рэг. *шаколіна,* мн. л. *шаколіны* 'шалупіна, шалупінне з грэчкі, ячменю і інш.' (Нас.).— *Шако́ла*

*ШАКОЦЬ параўн. літ. *šakotas* 'галіністы'.— *Шако́ць*

*ШАКРОТА.— *Шакро́та*

*ШАКУДАН.— *Шакуда́н*

*ШАКУЛЯ.— *Шаку́ля.* Бел. у XVI—XVII стст. *Шакула* (Туп.). Параўн. ШАКУН

ШАКУН рэг. 'шапялявы, той, хто шакае, вымаўляе [ш] замест іншых гукаў' (Дзярж.— М. Б.).— *Шаку́н, Шакуно́ў*

*ШАКУР, ШАКУРА.— *Шаку́р, Шаку́ра, Шаку́раў.* Тат. УІ *Шакур* (СЛІ, 167). СРП *Шакуров*

ШАКУТА літ. *šakutė* 'галіна', 'відэлец'. — *Шаку́та, Шаку́цін.* СРП *Шакутин*

ШАЛАБАЛА рус. *шалабола* 'шалапай, пусты, бесталковы чалавек' (Даль).— *Шалаба́ла*

*ШАЛАБОДА.— *Шалабо́да*

ШАЛАБОНЬ параўн. рус. сіб. жарт. *шалабон* 'галава' (Даль), данск. 'пстрычка' (Мірт.).— *Шалабанёў*

*ШАЛАБУТА.— *Шалабу́та*

*ШАЛАГУР.— *Шалагу́р.* СРП *Шелагуров*

ШАЛАЙ, памянш. ШАЛАЙКА рус., арх., курск. 'шалапай, утрапёны' (Даль), магчыма, 'бадзяга, той, хто шалаецца'?, параўн. бел. рэг. *шалацца* 'хадзіць без справы, бадзяцца' (Дзярж.— М. Б.).— *Шала́й, Шала́еў; Шала́йка.* Укр. у XVII ст. *Шелай* (Туп.). СРП *Шалаев*

ШАЛАК кірг. 'слабы, расслаблены, абяссілены' (КРС).— *Шала́к.* Параўн. ШАЛАЙ

ШАЛАН кірг. 'шляя' (КРС).— *Шала́наў.* СРП *?Шаланин*

ШАЛАНДА 'пласкадоннае рачное судна', магчыма, 'бадзяга', параўн. рэг. *шлындацца, шаландацца* 'хадзіць без справы, бадзяцца' (Дзярж.— М. Б.).— *Шала́нда́*

*ШАЛАПА.— *Шала́па*

ШАЛАПАЙ рэг. 'бяздзельнік, пусты чалавек, шалапут' (Дзярж.— М. Б.), рус. *шалапай, шелопай* 'бадзяга, бяздзельнік' (Даль). — *Шалапа́еў.* СРП *Шелопаев*

*ШАЛАПУГА.— *Шалапу́гін*
*ШАЛАПУХА.— *Шалапу́ха*
*ШАЛАТОН.— *Шалато́нін*

ШАЛАХВОСТ 'ветрагон, легкадумны чалавек' (БРС), рэг. 'хвалько' (Нас., КСЧ).— *Шалахво́стаў*

*ШАЛБАН.— *Шалба́наў*

ШАЛГУН рус. *шалгун, шелгун* 'мяшок, торба, кайстра для хлеба і іншых харчовых запасаў у дарогу' (Даль), укр. *шолгун* 'шавецкі інструмент для прыгладжвання каблука' (Грынч.).— *Шалгу́н, Шалгуно́ў.* СРП *Шелгунов*

*ШАЛЕЙ, памянш. ШАЛЕЙКА.— *Шале́йка.* Бел. у XVII ст. *Шалейко,* рус. у XVI ст. *Шалей* (Туп.)

*ШАЛЕЙНІК.— *Шале́йнікаў*

ШАЛЕПА укр. *шалепа* 'някемлівы, недалёкі чалавек' (Грынч.).— *Шале́пін, Шаляпе́нка.* У Туп. у XV—XVI стст. *Шелепа, Шелеп.* СРП *Шелепин*

*ШАЛЕСНЫ з *шелестный?* — *Шале́сны.* Параўн. бел. у XVI ст. *Шелестень* (Туп.), адкуль, магчыма, *шелестный*

*ШАЛІГЕРА.— *Шаліге́ра*

*ШАЛІМА.— *Шалі́ма.* Рус. у XV—XVII стст., укр. у XV ст. *Шалим* (Туп.). СРП *Шалимов, Шелимов*

ШАЛКАВЕЦ з в. Шалкі, Шалкова.— *Шалкаве́ц*

ШАЛКО ад *шаліць* 'гарэзаваць, дурэць'? — *Шалко́віч; Шалко́ўскі*

*ШАЛОЙКА.— *Шало́йка*

ШАЛОМЕНЕЦ з в. Шаламы.— *Шаломенцаў*

ШАЛОНА, памянш. ШАЛОНІК, ШАЛОНЬКА.— *Шало́нік; Шало́нька.* У Туп. у XV ст. *Шалона.* СРП *Шелонин*

ШАЛОХА параўн. рэг. *шалохаць* 'шатаць, калыхаць, шавяліць', 'шастаць, шалясцець' (Нас.), *шолах* 'шастанне, шэлест' (БРС, Нас.).— *Шало́ха*

ШАЛУДКА 'той, у каго шолудзі, шалудзівы'? параўн. бел. *шалудзька* 'струп' (БРС), рэг. 'паршывец' (КСЧ).— *Шалудко́віч.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Шолудко, Шалудзька* (БА, I, 276). СРП *Шелудько*

*ШАЛУК.— *Шалуко́ў.* Параўн. ШАЛУН, ШАЛАЙ

ШАЛУН рус. 'дураслівец, свавольнік, гарэза'.— *Шалуно́ў.* СРП *Шалунов*

ШАЛУПА, памянш. ШАЛУПКА рэг. *шалупка* 'шалупайка' (КСЧ), 'шалупіна'.— *Шалу́пін, Шалупе́нка; Шалупе́нька; Шалу́пкін*

ШАЛУХА рус. *шелуха* 'шалупіна, шалупінне'.— *Шалуха́, Шалухін; Шалуха́нскі.* Бел. у XV—XVII стст. *Шелуха, Шолуха, Шалуха* (Туп., БА, I, 276). Рус., укр. у XVI ст. *Шелуха* (Туп.). СРП *Шелухин*

ШАЛЫГА рэг. 'ашуканец, круцель, абманшчык, ілгун' (Нас.), параўн. таксама *шалыгаць* 'есці папоўніцы, на поўны рот', 'размашыста, шырокім крокам ісці', 'біць, сцябаць' (Дзярж. — М. Б.), рус. 'круглявы верх чаго-небудзь (шалыга галавы — цемя, шалыга гары — вяршыня)', 'палка з загнутым канцом, з ручкай', 'пуга, бізун' (Даль), ярасл. 'капа сена' (Мельн.), параўн. таксама *шалыгать* 'сцябаць, біць' (Даль). — *Шалы́га, Шалы́гін.* Бел. у XVI—XVII стст. *Шалыга* (Туп., БА, I, 273). СРП *Шалыгин, Шелыгов*

ШАЛЫГАЙЛА.— *Шалыга́йла.* Параўн. ШАЛЫГА

*ШАЛЫПА.— *Шалы́па*

*ШАЛЫТ.— *Шалы́т*

ШАЛЬ.— *Ша́лей, Шале́нка, Шалянко́ў; Шалю́к; Ша́лік.* Рус. у XVII ст. *Шаль* (Туп.)

*ШАЛЬМАН.—*Шальма́наў.* СРП *Шальман*

*ШАЛЮТА.— *Шалю́та.* Бел. у XVIII ст. *Шелюта* (БА, I, 276)

ШАЛЯ, памянш. ШАЛЬКА 'талерка вясоў' (БРС), укр. 'аброчная торба, мяшок, з якога кормяць каня' (Грынч.).— *Шальке́віч.* СРП *Шальков*

*ШАЛЯМЕЙ.— *Шаляме́й*

*ШАЛЯПА.— *Шаляпе́нка.* СРП *Шаляпін*

ШАМ, памянш. ШАМКО рэг. 'ціхі шолах, ціхае шастанне, шамаценне' (Нас.), рус. валаг. 'смецце' (Даль), параўн. літ. *šamas* 'сом', тат. *шэм* 'свечка' (ТРС), кірг. *шам* 'лямпа', 'свечка' (КСЧ).— *Шам, Шаме́нка, Шамянко́ў, Шамёнак; Шаму́к; Шамко́; Шамчу́к; Шамо́ўскі.* СРП *Шамов, Шамин*

*ШАМАВЕНЬ.—*Шама́ўнёў*

*ШАМАДУДА.— *Шамаду́да*

ШАМАК рэг. *шамак* 'неразумны, з ветрам ў галаве' (Юрч.), тат. *шамакай* 'клоун, скамарох, шут' (ТРС), параўн. *шам, шамала* (?).— *Шама́к.* Бел. у XVI ст. *Шомак* (БА, I, 274). Укр. у XVI ст. *Шамак* (Туп.)

ШАМАЛА 'той, хто чым-небудзь шастае, шамаціць'? параўн. рэг. *шам* 'шастанне, шолах' (Нас.), параўн. рус. *шамать* 'шамкаць, гаварыць, як старыя', 'шоргаць нагамі пры хадзьбе' (Даль), укр. *шамати* 'шастаць' (Грынч.),

параўн. кірг. *шамала* 'свяцільнік, факел' (КРС).— *Шáмалаў; Шамалýк*

ШАМАЛЬ.— *Шáмáль.* Параўн. ШАМАЛА

ШАМАН.— *Шамáн, Шамáнаў*

*ШАМАР.— *Шамáраў.* СРП *Шамаров, Шамарин*

*ШАМБОН.—*Шамбанóвіч*

*ШАМЕДА, памянш. ШАМЕДЗЬКА.— *Шамéдзька*

ШАМЕЛА рус. смал. *шемела* 'мятла' (Дабр.).— *Шамéла.* Каз. УІ *Шамел* (Жануз.)

*ШАМЕТ(А).— *Шамéтаў.* Параўн. ШЭМЕТ

ШАМЕТАВЕЦ з в. Шэметы, Шэметава.— *Шаметавéц*

*ШАМІЛА.—*Шамíлаў.* Параўн. ШАМ

*ШАМІНКА.— *Шамíнка*

ШАМКАВЯК з в. Шамкі, Шамкова ці сын Шамка.— *Шамкавя́к.* Параўн. ШАМ

ШАМКО гл. ШАМ

*ШАМНУЦЬ.— *Шамнуць*

*ШАМОНЯ.— *Шамóнін.* СРП *Шамонін.* Параўн. ШАМАЛА

*ШАМОТА.— *Шамóта.* Параўн. ШАМАЛА

*ШАМОХА.— *Шамóхін.* СРП *Шамохін.* Параўн. ШАМАЛА

ШАМРО 'той, хто шастае, шамаціць'?, параўн. рэг. *шамрэць* 'шастаць, шамацець' (Дзярж.— М. Б.), укр. *шамрити* тое ж (Грынч.), параўн. ст. бел. *шемрети* 'выказваць незадавальненне, наракаць, сварыцца (КГСБМ). — *Шамрó, Шамры́н; Шамры́цкі.* Бел. у XVIII ст. *Шамро* (БА, І, 274). СРП *Шамров*

ШАМРЫЛА.— *Шамры́ла.* Параўн. ШАМРО

ШАМРЭЙ.— *Шамрэ́й.* Параўн. у XVI ст. *Шамрай* (Туп.). СРП *Шамраев, Шамраевский*

ШАМШУР, ШАМШУРА, памянш. ШАМШУРКА рэг. 'каснаязычны, гугнявы' (Нас.), параўн. *шамшыць* 'шастаць, шамацець', 'шаптаць' (Нас.), укр. *шамша* 'той, хто гаворыць шамкаючы', *шамшити* 'шастаць, шамацець' (Грынч.).— *Шамшýр, Шамшýра, Шамшýрын; Шамшýрка.* СРП *Шамшуренков*

*ШАМЫНА.— *Шамы́на.* Параўн. ШАМ

ШАМЯКА. Трубачоў звязвае са старажытным апелятывам **шимяка* (шнмяка) 'той, хто мне шыю (іншаму)', 'забіяка', падобна як *кажамяка* (коже-мяка) (Этимология, 1966, стр. 53).— *Шамя́ка.* Бел. у XVI ст. *Шемяка*

30. Зак. 515

(БА, I, 276). Рус. у XV—XVII стст. *Шемяка* (Туп.). СРП *Шемяка, Шемякин, Шемяков*

*ШАМЯРЭЙ.— *Шамярэ́й*

ШАМЯТУХА.— *Шамяту́ха.* Параўн. ШЭМЕТ

ШАМЯЦІЛА.— *Шамяціла.* Параўн. ШЭМЕТ

*ШАН, памянш. ШАНКО.— *Шанко́ў.* СРП *Шанович, Шанко*

*ШАНГІРЭЙ, *ШЫНГІРЭЙ.— *Шангірэ́й, Шынгірэ́й*

ШАНДЗЯЛА гл. ШЭНДЗЕЛА

*ШАНДОР, *ШАНДОРА.— *Шандо́р, Шандо́ра*

*ШАНДРО, памянш. ШАНДРЫК.— *Шандро́; Ша́ндрык*

*ШАНДРОХА.— *Шандро́ха*

ШАНЕЦ рэг. 'шанс, шчасце, вязенне' (Дзярж. — М. Б.).— *Ша́нцаў.* СРП *Шанцев.* Параўн. ШАНЬ

*ШАНІБОР.— *Шаніборaў*

ШАНКО гл. ШАН

*ШАНТАР.— *Ша́нтар, Шантаро́віч, Шантарэ́віч, Шантарэ́нка.* Бел. у XVI ст. *Шантыр* (БА, I, 274)

*ШАНТЫКА.— *Шанты́ка*

*ШАНЦЕЛА.— *Шанцяле́нка*

*ШАНЬ, памянш. ШАНЬКО, ШАНЕЦ.— *Шань; Шанько́; Шанько́ў; Шанцо́ў; Шаня́ўскі.* СРП *Шанин*

ШАНЬКО параўн. рэг. *шанька* 'торба, мяшок' (Бяльк.), укр. *шанька* 'аброчная торба, мяшок, у якім каню даюць корм', 'торбачка пастушка' (Грынч.).— *Шанько́, Шанько́ў*

*ШАНЯК.— *Шаня́к*

ШАПАВАЛ.— *Шапава́л, Шапава́лаў.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Шаповал* (БА, I, 274; Туп.). Рус. у XVII ст., укр. у XVI—XVII стст. *Шаповал* (Туп.). СРП *Шаповалов, Шапуваленко*

ШАПАЧНІК.— *Ша́пачнікаў.* Бел. у XVI—XVII стст. *Шапачник, Шапошник* (БА, I, 274). Рус. у XVII ст. *Шапошник* (Туп.). СРП *Шапошников*

ШАПЕЛЬ, ШЭПЕЛЬ рэг. *шапель* 'шапялявы чалавек' (Маг.— В. Л.), параўн. літ. *šapelis* 'саломінка'.— *Шапе́ль, Шапялёў, Шапяле́віч, Шапялёнак; Шапялю́к; Шэ́пель; Шапе́льскі.* Бел. у XVII ст. рус. у XV—XVII стст. *Шепель* (Туп.). СРП *Шепелёв, Шепелин*

*ШАПЕТА, памянш. ШАПЕТКА ад рэг. *шапятаць* 'шапяляць'? (Дзярж.— М. Б.), г. зн. 'шапялявы'? — *Ша-*

*пёткін*. Бел. у XVI—XVII стст. *Шепета, Шепетко*, укр. у XVII ст. *Шепетка* (Туп.)

*ШАПІДА.— *Шапіда*

ШАПІЛА 'шапка'.—*Шапілаў*. Параўн. таксама СРП *Шепилин, Шепилов*

ШАПКА, памянш. ШАПАЧКА.— *Шапкін, Шапчыц; ?Шапко* з пераносам націску; *Шапачка, Шапачкін*. Бел. у XVI—XVII стст. *Шапко* (БА, I, 274; Туп.). Рус. у XVI ст. *Шапка* (Туп.). СРП *Шапкин, Шапочкин*

ШАПЛЫКА ад рэг. *шаплявы* 'шапялявы'? — *Шаплыка*. Параўн. бел. у XVII ст. *Шаплявы, Шаплавы* (БА, I, 276)

ШАПЛЮК рэг. 'сапляк' (Бяльк.), насмешл. 'слабасільны' (Маг.— В. Л.).— *Шаплюк*

*ШАПО 'шапка'? — *Шапо; Шапецкі*

*ШАПОРДА.— *Шапорда*

*ШАПОТ.— *Шапот; Шапацюк*

ШАПТУН.— *Шаптун, Шаптуноў*. СРП *Шептунов*

*ШАПУГА 'шапка'?— *Шапугін*

*ШАПУРА 'шапка'?— *Шапура, Шапураў*. СРП *Шапуров*

*ШАПЭЦЬКА 'шапка'?—*Шапэцька*

ШАР, памянш. ШАРЫК.— *Шараў, Шароў; Шарык, Шарыкаў* — усе магчымы і ад ШАРЫ (гл.). СРП *Шаров, Шариков, Шарин*

ШАРАБ, ШАРАП тат. *шэраб* 'віно' (ТРС), кірг. *шарап* 'віно, спіртны напітак' (КРС), параўн. рус. *шарап* 'рабунак' (Даль).— *Шарабаў; Шарапа, Шарапаў*. Бел. у XVI ст. *Шарапа* (БА, I, 274). Рус. у XV—XVII стст. *Шарап, Шерап, Шарапка* (Туп.). СРП *Шарапов*

*ШАРАБАЙ, памянш. ШАРАБАЙКА.— *Шарабайка*

ШАРАВАР.— *Шаравар*

ШАРАГ параўн. рус. *шарага* 'крыўляка, ламака' (Даль).— *Шараг*

*ШАРАЙ.— *Шарай, Шараеў, Шараёў*

*ШАРАМ, памянш. ШАРАМОК. — *Шарамаў; Шарамкоў*

ШАРАМЕТ, ШАРАМЕТА тур. *шеремет* 'жвавасць, гарачнасць каня' (Будаг.).— *Шарамет, Шарамета, Шарамецеў*. Бел. у XVII ст., рус. у XVI ст. *Шеремет* (Туп.). СРП *Шереметев, Шереметьев*

ШАРАН рус. 'рыба карп, сазан, калі важыць менш як

10 фунтаў' (Даль), укр. тое ж, 'дробныя асколкі лёду на рацэ' (Грынч.).— *Шара́н.* У Туп. у XV—XVII стст. *Шаран, Шаранка.* СРП *?Шаранин*

*ШАРАНДА, *ШАРЭНДА.—*Шара́нда́, Шарэ́нда*

*ШАРАНДАК.— *Шаранда́к*

ШАРАП гл. ШАРАБ

ШАРАФАН укр. 'спадніца з выбайкі' (Грынч.). — *Шарафано́віч*

*ШАРАХ.— *Шара́х; Шарахо́ўскі*

*ШАРАЦ.—*Шарац*

*ШАРАЧ.— *Шарач*

ШАРАШОВЕЦ з н. п. Шарашова.— *Шарашо́вец*

ШАРГУН 'той, хто ходзіць, шоргаючы нагамі'?— *Шаргу́н*

*ШАРДЫКА.— *Шарды́ка*

*ШАРЖАН.— *Шаржано́віч*

ШАРКЕЛЬ 'шаркун, той, хто ходзіць шаркаючы нагамі'?— *Шарке́ль*

ШАРКО 'шаргун'? ці 'шэры, шарак'? — *Шарко́, Шарко́ў, Шарке́віч; Шарко́ўскі.* СРП *Шарко, Шарков, Шаркевич*

ШАРОЙКА рэг. 'абдзіркі з грэчкі' (Бяльк.), рус. арл., варон. 'мякіна, шалупінне з грэчкі' (Даль).— *Шаро́йка, Шаро́йкін.* Бел. у XVIII ст. *Шаройко* (БА, I, 274)

ШАРПАЙ.—*Шарпа́еў.* Параўн. ШАРПАЛЬ

ШАРПАЛЬ 'той, хто рве, раздзірае'?, параўн. бел. *шарпаць* 'рваць, раздзіраць' (БРС).— *Шарпалёў*

ШАРПІЛА. — *Шарпіла, Шарпілаў.* Параўн. ШАРПАЛЬ

*ШАРСТУК.— *Шарсту́к.* Параўн. рус. у XVII ст. *Шерстюк* (Туп.). СРП *Шерстюк*

ШАРСЦЕНЬ рэг. *шарсцень, шэрсцень* 'чмель' (Маг.— В. Л.), 'яршысты, задзірысты чалавек' (Бяльк.) — *Шарсце́нь, Шарснёў.* Параўн. укр. у XVII ст. *Шерстен* (Туп.). СРП *Шерстнёв*

ШАРСЦІНА 'шарсцінка'. — *Шарсці́наў, Шарсціно́ў*

*ШАРТУК.— *Шарту́к*

ШАРУБА параўн. рэг. *шаруб* 'шруба' (Бяльк.).— *Шару́ба*

*ШАРУПА.— *Шару́па, Шару́піч*

*ШАРУХА.— *Шару́хін.* У Туп. у XVI ст. *Шаруха*

ШАРХУН 'шаргун, той, хто ходзіць шоргаючы нагамі'? — *Шарху́н*

ШАРШАВЫ рус. *шершавый* 'шурпаты' (Даль).— *Шаршáвы; Шаршавіцкі.* Бел. у XVII ст. *Шершавой* (Туп.). СРП *Шершавин*

*ШАРШАН.— *Шаршáн*

ШАРШУН, ШЭРШУН укр. *шершун* 'шэршань' (Грынч.).— *Шаршýн, Шэ́ршун, Шаршунóвіч.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Шершун, Шаршун* (БА, I, 276)

ШАРЫ, памянш. ШАРЫК, ШАРКО.— *Шáры, Шáрын, ?Шарóў; Шáрык, Шáрыкаў; Шаркó, Шаркóў; Шаркóўскі, Шарэ́цкі,* вытворныя магчымы і ад ШАР. Бел. у XVIII ст. *Шары* (БА, I, 274). СРП *Шаров, Шариков, Шарко, Шарков, Шаркевич*

ШАРЫБА, памянш. ШАРЫБКА ўстар. бел. *шериба* 'кармленне жывёлы', 'плата за кармленне жывёлы' з літ. (Вяржб.), літ. *šeryba* 'кармленне' тое ж (Вяржб.).— *Шары́бчанка; Шарыбóўскі*

*ШАРЫДОДА.—*Шарыдóда*

*ШАРЫКАЛА.— *Шарыкáла*

*ШАРЫЛА.—*Шары́лаў*

*ШАРЫПА.— *Шары́па.* Каз. УI *Шарип* (Жануз.). У Туп. у XV—XVII стст. *Шарипа, Шорипко.* СРП *Шарыпин, Шарыпов*

ШАРЭЙ, памянш. ШАРЭЙКА рус. арх. *шарэй* 'туман' (Даль).—*Шарэ́йка.* Укр. у XV ст. *Шарейко* (Туп.). СРП *Шареев*

ШАРЭНГА.— *Шарангóвіч*

ШАРЭНДА гл. ШАРАНДА

*ШАРЭПА.— *Шарэ́па*

*ШАРЭЦ.—*Шарэ́ц; Шарэ́цкі.* Параўн. ШАР, ШАРЫ

ШАСТА, памянш. ШАСТКО. — *Шáстаў; Шасткó; ?Шасткóўскі.* СРП *?Шастик.* Параўн. ШАСТАЛА

ШАСТАК устар. бел. *шестак* 'алтын, манета вартасцю ў 6 медных капеек' (БРС, Нас.), рэг. *шастак* 'тры капейкі' (Бяльк.), 'шостае па ліку дзіця ў сям'і'.— *Шастáк, Шастакóў, Шастакóвіч, Шастакéвіч; Шóстак, Шастачýк; Шастакóўскі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Шостак, Шестак* (БА, I, 276—277; Туп.). Рус. у XV—XVII стст. *Шестак, Шестачко, Шестачок,* укр. у XVI ст. *Шестак, Шостак* (Туп.). СРП *Шестак, Шестаков, Шестаковский*

ШАСТАЛА 'той, хто шастае'?—*Шáстала*

ШАСТАПАЛ(Ы) 'які мае шэсць пальцаў'.— *Шастапáлаў.* СРП *Шестопал, Шестопалов*

*ШАСТКО параўн. рэг. *шасткі* 'вёрткі, рэзкі ў рухах' (Юрч.), магчыма, 'шосты ў сям'і, шастак'. — *Шасткó.* Параўн. ШАСТАЛА

*ШАСЦЕЛЬ.—*Шасцéль.* Параўн. ШАСТАЛА

ШАСЦІТКА рус. *шеститка* 'шасцёрка' (Даль).— *Шасцітка.* Бел. у XVIII ст. *Шеститка* (БА, І, 277)

*ШАСЦІШКА.—*Шасцíшка.* Параўн. ШАСЦІТКА

ШАСЦЯРНЯ.— *Шасцярнёў.* СРП *Шестернин*

ШАСЦЯРЫК рэг. 'запражка з шасці коней, шасцярня' (Дзярж.— М. Б.), рус., укр. *шестерик* тое ж (Даль, Грынч.).— *Шасцярык.* СРП *Шестериков*

ШАТА, памянш. ШАТКО рэг. 'рыза на вобразе', 'багатае адзенне' (Нас.), укр. тое ж (Грынч.), параўн. тат. *шат* 'вясёлы, радасны' (ТРС).— *Шáтаў, Шатóвіч; Шаткóў; Шаткóўскі, Шатóўскі, ?Шáцкі.* Бел. у XVII ст., *Шатко* (БА, І, 275). СРП *Шатов, Шатков.* Параўн. ШАЦІЛА (гл.)

*ШАТОН.— *Шатóн*

*ШАТОХА.— *Шатóхін.* СРП *Шатохин.* Параўн. ШАЦІЛА

ШАТРУН параўн. *шатраваць, шатраваны,* г. зн. 'той, які шатруе' ці 'такі, як шатраваны'?— *Шатрýн*

*ШАТУРА параўн. кірг. *шатыра* 'вясёлы, радасны' (КРС).— *Шатýрын*

*ШАТУХА.—*Шатýха.* Параўн. ШАЦІЛА

ШАТЫБАЛА, памянш. ШАТЫБАЛКА. — *Шатыбáлка*

ШАТЫР цюрк. 'слуга, скараход, які ідзе перад выхадам цара ці вяльможы' (Будаг.).— *Шатарóнак*

ШАТЭРНІК рус. *шатерник* 'майстар, які робіць шатры', 'слуга, які ставіць шацёр' (Даль), укр. 'качаўнік, той, хто жыве ў шатры' (Грынч.).— *Шатэ́рнік.* Рус. у XVII ст. *Шатерник* (Туп.). СРП *Шатерников*

ШАУЛА, памянш. ШАУЛІК параўн. літ. *šaulys* 'стралок', параўн. тат. *шаулы* 'бурны, бурлівы' (ТРС).— *Шаýла.* Бел. у XVI—XVII стст. *Шаула* (БА, І, 275). СРП *Шаулов, Шаулин.* Параўн. ШАЎЛА

*ШАУРА, *ШАВУРА. — *Шаýра, Шавýра.* Параўн. ШАЎРО

*ШАЎГЕНЬ.— *Шаўгéнь*

ШАЎКАЛА рэг. 'балбатун, пустамеля, брахун' (Маг.— В. Л.), 'шамкала' (Бяльк.), параўн. літ. дыял.

*šauklis* той, хто падымае крык, верашчыць'. — *Шайкаловіч*

*ШАЎКЕРА.— *Шайкéра*

ШАЎКО рус. *шавка* 'кудла, кундаль' (РБС), параўн. літ. 'крычаць, верашчаць'.— *Шайкó, ?Шайчэнка, ?Шайчонак; ?Шайчук; Шайкоўскі* — частка ўтварэнняў магчыма і ад ШАВЕЦ (гл.). СРП *Шавкин.* Параўн. ШАЎКАЛА

ШАЎКУН рэг. 'той, хто шамкае, невыразна гаворыць з-за адсутнасці зубоў', 'дзіця, якое яшчэ не ўмее гаварыць' (Нас.), параўн. літ. *šauklis 'крыкун'.* — *Шайкýн, Шайкуноў, Шайкуновіч.* СРП *Шевкунов, Шавкунов, Шевкуненко*

ШАЎЛА, памянш. ШАЎЛІК параўн. рус. яраcл. *шавлить* 'шлёпаць, шоргаць нагамі', *шавля* 'той, хто шоргае нагамі пры хадзьбе' (Мельн.).— *Шáйла; Шайлюк, Шайлюкéвіч; Шáйлікаў; Шайлоўскі.* Параўн. ШАУЛА

ШАЎЛЮГА рэг. 'кляча, конь, які чуць шавеліць нагамі' (Карскі, Б. 2—3, 33), *каняжына* (Юрч.), укр. *шевлюга* 'дрэнь, нягоднік', параўн. *шевляга* 'кляча, дрэнны конь', 'авечка' (Грынч.). — *Шайлюга.* Укр. у XVII ст. *Шавлюга* (Туп.). Параўн. ШАЎЛА

*ШАЎЛЯК. — *Шайлякоў.* СРП *Шевляков.* Параўн. ШАЎЛА, ШАЎЛЮГА

*ШАЎРО параўн. рус. яраcл. *шавреть* 'павольна хадзіць, цягнучы ногі', *шаврять* 'шоргаць нагамі пры хадзьбе' (Мельн.) — *Шайроў; Шайрýк, Шайрукоў.* Бел. у XVI ст. *Шавра* (Туп.). У Туп. у XVI ст. *Шавра.* СРП *Шаврин, Шавров, Шавруков.* Параўн. ШАУРА

*ШАЎСТРУК.—*Шайстрýк*

*ШАФАЛ.—*Шафаловіч*

ШАФАР ст. бел. 'распарадчык, той, хто распараджаецца расходамі' (Нас.), укр. *шапарь, шахварь* 'ключнік, эканом' (Грынч.). — *Шафаровіч, Шафарэвіч, Шафаронак.* СРП *Шафаренко*

*ШАФАРАСТ.— *Шафарáстаў*

*ШАФЕРАН.— *Шаферáн*

ШАФРАН, памянш. ШАФРАНОК.— *Шафрáн, Шафрановіч; Шафранóк, Шафранкоў; ?Шаферáн; Шафрáнскі, ?Шафрынскі.* СРП *Шафран, Шафранов, Шафранский*

ШАХ.— *Шах, Шáхаў, Шаховіч, Шáхавіч; Шахоўскі.*

Бел. у XV ст. *Шах* (БА, I, 275). Рус. у XVII ст., укр. у XVI ст. *Шах* (Туп.). СРП *Шахов, Шахин*

ШАХАВЕЦ з в. Шахі, Шахава.— *Шахавéц*

*ШАХЛАЙ.—*Шахлáй.* Параўн. ШАХЛО

*ШАХЛО параўн. рус. пск. *шахлатый* 'касматы, лахматы; шурпаты' (Даль).— *Шахлó, Шахлéвіч*

*ШАХМУЦЬ.—*Шахмýць*

*ШАХНЕР.— *Шáхнер*

*ШАХНО, *ШАХНА.— *Шахнó, Шáхна, Шахнóвіч; Шахнюк.* У Туп. у XVI ст. *Шахно.* СРП *Шахнович, Шахновский*

*ШАХОНЬКА.—*Шахóнька*

ШАХОР, памянш. ШАХОРКА параўн. *шахорыць* 'шукаць з шэлестам, шалясцець' (Бяльк.), *шахарыць* тое ж (Маг.—В. Л.).— *Шахóрка*

*ШАХОЦЬКА.—*Шахóцька*

ШАХРАЙ укр. 'ашуканец, круцель, махляр' (Грынч.).— *Шахрáй*

ШАХЦЁР.— *Шахцёраў*

*ШАЦ.— *Шац; ?Шáцкі.* СРП *Шацков, Шацкий*

ШАЦЁР.— *Шацёр, Шатрóў*

ШАЦІЛА рэг. 'той, хто шатаецца, ходзіць без справы, бадзяга', рус. *шатило* тое ж (Даль), укр. *шатило* 'ілгун' (Грынч.).— *Шацíла, Шацíлаў, Шацілéня, ?Шацялéня* пры [і]>[я]. Бел. у XVI ст. *Шатило* (БА, I, 274). Рус. у XVI ст. *Шатило* (Туп.). СРП *Шатилов*

*ШАЦІНКА.— *Шацíнка*

ШАЧОК гл. ШАКА

*ШАШ, памянш. ШАШКО.— *Шаш, Шашэ́нка; ?Шашэ́нька; Шашýк; Шашкó, Шашкóў.* Бел., укр. у XVI—XVII стст. *Шашко* (Туп.). СРП *Шашин, Шашенков, Шашков, Шашкевич*

ШАШАЛЬ.— *Шашалéвіч*

*ШАШАР.— *Шашарýк*

ШАШОК 'тхор', укр. 'парода сабакі' (Грынч.).— *Шашóк, Шашкóў.* СРП *Шашок, Шашкевич*

*ШАШОЛ, памянш. ШАШОЛКА. — *Шашлóў; Шашóлка*

ШВАБ.— *Шваб; Швабóўскі.* Укр. у XVI ст. *Шваба* (Туп.)

*ШВАЙ, памянш. ШВАЙКО.— *Швáеў; Швайкó, Швайкóў.* СРП *Швайков*

*ШВАЙДА.— *Швайдýк*

ШВАЛЬ рэг. 'дрэнь' (Нас.), рус. тое ж (Даль).— *Шваль.* Рус. у XVII ст. *Шваль* (Туп.)

*ШВАЛЬБО.— *Швальбо́*

ШВАН, памянш. ШВАНОК, параўн. ст. бел. *шванковаты* (КСГБМ), польск. *szwankować* 'вагацца, калыхацца', 'рабіць памылкі', 'быць слабым', 'быць у дрэнным настроі' (Карл.).— *Шван; Шванко́ў, Швано́к.* Параўн. бел. у XVII ст. *Швань* (БА, I, 275). СРП *Шванёв, Шваньков*

*ШВАРА, *ШВАРО.— *Шва́ра, Шваро́.* СРП *Шварёв, Шваров, Шварковский*

ШВЕД, памянш. ШВЕДКА, ШВЯДКО.— *Швед, Швэд; Шве́дай, Швэ́дай; Шве́дка, Швэ́дка; Швядо́к.* Бел. у XVIII ст. *Швед* (БА, I, 275). СРП *Шведов, Шведков, Шведковский*

*ШВЕЙБА.— *Шве́йба*

*ШВЕЙКУС.— *Шве́йкус.* Бел. у XVI ст. *Швейка* (БА, I, 275). СРП *Швейкин*

ШВЕЦ рэг. 'сапожнік, шавец' (Нас.), укр. тое ж (Грынч.).— *Швец, Швяцо́ў.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Швец* (БА, I, 275). Рус. у XV—XVII стст., укр. у XVII ст. *Швец* (Туп.). СРП *Швец, Швецов*

ШВІЛПА літ. *švilpa* 'свістун' (Атр., II, 42).— *Швілпа*

*ШВІНТА.— *Шві́нта*

ШВОРАН, памянш. ШВАРОНАК (Дзярж.—М. Б.).— *Шваро́нак*

*ШВЫР, памянш. ШВЫРКО.— *Швырко́.* Параўн. рус. у XVI ст. *Швыр* (Туп.). СРП *Швырков, Швыркин.* Параўн. ШВЫРКУН

ШВЫРКУН рус. 'той, хто кідае што-небудзь', 'зласлівы, незадаволены, грубы чалавек' (Даль), параўн. бел. рэг. *швыргаць* 'кідаць' (Нас.), *швырацъ* тое ж (Дзярж.—М. Б.).— *Швырку́н, Швыркуно́ў*

ШКАБАРА параўн. укр. *шкабора* 'шчыліна' (Грынч.), бел. рэг *шкаба* 'худы конь' (Бяльк.).— *Шка́бара, Шка́барын*

*ШКАДРА, памянш. ШКАДРЭЦ.— *Шкадрацо́ў*

*ШКАДУН 'той, хто шкадуе'? — *Шкаду́н*

*ШКАЙ.— *Шкае́ў*

ШКАЛІК рэг. 'шкляны штофік для гарэлкі' (Нас.), рус. *шкалик* 'кабачная мера віна, васьмушка' (Даль).— *Шка́лікаў.* СРП *Шкалікаў.* Параўн. ШКАЛЬ

ШКАЛЬ, памянш. ШКАЛІК 'насмешнік, зубаскал'?,

параўн. рэг. *шкаляваць* 'скаліць зубы, смяяцца з каго-небудзь' (Нас.), рус. *шкалять* 'смяяцца з каго-небудзь' (Даль). — *Шкаль, Шкалёў, Шкале́нка; Шка́лікаў.* Параўн. ШКЕЛЬ

*ШКАПО параўн. рэг. *шкапа* 'шафа' (Бяльк.).— *Шкапо́.* Бел. у XVII ст. *Шкапа* (БА, I, 278). СРП *Шкапин, Шкапов, Шкапкин, Шкапцов*

*ШКАР.— *Шкар.* СРП *Шкарин, Шкарёнков*

*ШКАРАДЗЬ.— *Шкарадзю́к*

ШКАРУБА параўн. укр. *шкарубина* 'шчыліна, расколіна, трэшчына', параўн. таксама *шкарубіти* 'пакрывацца зверху цвёрдай скарынкай, карою' (Грынч.).— *Шкару́ба; Шкару́боўскі*

*ШКАТ.— *Шкацёнак.* СРП *Шкатов*

ШКАТУЛА, ШКАТУЛКА. — *Шкату́ла, Шкату́лка.* СРП *Шкатулов*

*ШКЕДА.— *Шке́да*

ШКЕЛЬ рэг. 'насмешнік' (Нас.), рус. тое ж (Даль, Дабр.), параўн. бел. рэг. *шкельнічаць* 'кпіць, насміхацца' (Бяльк.).—*Шкель.* Бел. у XVIII ст. *Шкель* (БА, I, 278). Параўн. ШКАЛЬ

*ШКЕРМАН, памянш. ШКЕРМАНОК.— *Шкерманко́ў*

ШКЕТ, параўн. ШКЕЦІК рэг. 'худы чалавек, часцей аб дзіцяці' (Юрч.), 'малеча, невялікі хлапчук' (Бяльк.).— *Шке́цін; Шке́цік*

*ШКІБЕЛЬ.— *Шкібель*

*ШКІДА.— *Шкі́дзін*

*ШКІДАЙ.— *Шкіда́й*

ШКІЛЬ рус. устар. *шкиль* 'замежная манета, шылінг' (Даль), укр. 'узор, форма, фасон' (Грынч.).— *Шкіль, Шкіле́віч, Шкілёнак.* Параўн. ШКЕЛЬ

*ШКІЛЬНЯ.—*Шкільню́к*

*ШКІНДЗЕР, *ШКІНДЭР.— *Шкі́ндзер, Шкі́ндэр.* Параўн. СКІНДЗЕР

ШКІРА укр. 'шкура' (Грынч.).— *Шкірын, Шкіро́нак.* СРП *Шкирич, Шкиркин*

*ШКІРАНДА.— *Шкіра́нда*

*ШКІРАТ.—*Шкіра́таў*

*ШКІРМАНТ, *ШКІРМАН, *ШКІРМАНОК.— *Шкі́рмант; Шкірмано́к, Шкірмянко́ў*

*ШКІРУБА.— *Шкіру́ба*

*ШКІРУДЗЬ, *ШКІРУЦЬ.— *Шкі́рудзь, Шкі́руць*

*ШКІТ.— *Шкітоў.* СРП *Шкитин*

*ШКЛЕЙНІК.— *Шклейнік*

*ШКЛЯЙ.— *Шкляеў.* Бел. у XVII ст. *Шкляй* (БА, I, 278)

ШКЛЯНКА.— *Шклянка*

ШКЛЯНЫ.— *Шклянэвіч*

ШКЛЯР, памянш. ШКЛЯРЫК.— *Шкляр, Шкляраў, Шклярэвіч, Шклярóнак; Шклярык; Шклярэўскі.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Шкляр* (БА, I, 278; Туп.). СРП *Шкляров, Шкляревич*

*ШКНАЙ.— *Шкнай*

ШКОДА.— *Шкода.* Укр. у XVI—XVII стст. *Шкода* (Туп.). СРП *Шкодин*

ШКОЛЬНІК ст. бел. 'кіраўнік школы' (КСГБМ), бел. 'вучань'.— *Школьнік.* СРП *Школьник, Школьников*

ШКОЛЬНЫ.— *Школьны*

*ШКОР, памянш. ШКОРЫК.— *Шкор; Шкóрык*

ШКОТ, ШКОТА ст. бел. *шкот* 'мера грошай — 1/24 грыўні', 'лодка, судна' (КСГБМ), польск. *szkot* 'гандляр, перакупшчык', '1/24 грыўні' (Карл.), 'шатландзец'?— *Шкóта, Шкацёнак.* Рус. у XVII ст. *Шкота* (Туп.). СРП *Шкотов*

ШКРАБА, ШКРОБ 'той, хто скрабе'? параўн. рэг. *шкрабаць* 'скрэбці' (Бяльк.).— *Шкрáба, Шкрáбаў; Шкрóба, Шкрóбаў; Шкроб.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Шкраба, Шкроб* (Туп., БА, I, 278). СРП *Шкрабов*

*ШКРАБАТУР.— *Шкрабатýр*

ШКРОБАТ.—*Шкрóбат.* Параўн. СКРОБАТ, ШКРАБА

*ШКРЭБНІК.— *Шкрэбнік*

ШКРЭД, ШКРЭДА, памянш. ШКРАДОК рэг. 'задзіра, упарты чалавек' (Юрч.), 'малы, нізкарослы' (Бяльк.).— *Шкрэд, Шкрэдаў; Шкрэда; Шкрадзюк; Шкрадкóў*

*ШКУДА.— *Шкýда.* СРП *Шкудов*

*ШКУДРА.— *Шкудрóў*

*ШКУДУН.— *Шкудýн*

*ШКУЛЕПА.— *Шкулéпа*

ШКУЛЬ рус. заходн., цвярд. 'бумажнік, кашалёк', 'скупы чалавек', пск. 'запас' (Даль).— *Шкулёў, Шкулёнак.* Рус. у XV—XVI стст. *Шкуль* (Туп.). СРП *Шкулёв, Шкулин*

*ШКУЛЬНИК.— *Шкýльнікаў*

*ШКУНДА.— *Шкýндзіч.* СРП *Шкундин*

ШКУЛЬТА ст. бел. 'барка, лодка, рачное судна' (КСГБМ).— *Шкульта, Шкултэцкі, Шкульцецкі*

ШКУНТ(А), памянш. ШКУНЦІК параўн. рэг. *шкунт* 'драбок, крыха, малая колькасць' (Бяльк.), параўн. рус. *шкуни(я)ть* 'падсмейвацца з каго-небудзь, скаліць зубы' (Даль), укр. *шкунтувати* тое ж (Грынч.).— *Шкунцік*

*ШКУЦІЛА.— *Шкуціла*

ШКУРА, памянш. ШКУРКО.— *Шкура, Шкурын; Шкуркó; Шкурскі, Шкурынскі.* Укр. у XVII ст. *Шкура* (Туп.). СРП *Шкурин, Шкуров, Шкуренков*

ШКУРАТ рэг. *шкурат* 'вырабленая шкура' (Нас., КСЧ), 'задзіра, прыставала' (Маг.—В. Л.), рус. паўдн.-заходн. 'палоска старой шкуры' (Даль).— *Шкурáт.* СРП *Шкуратов*

*ШКУРДА.— *Шкурдзюк*

*ШКУРДАЙ.— *Шкурдáй*

ШКУРКО гл. ШКУРА

ШКУРУПІЙ параўн. укр. *шкуропея* 'па народнаму павер'ю — царыца змей' (Грынч.).— *Шкурупій*

ШКУТ, памянш. ШКУТКО, ШКУЦЬКА рэг. 'кусок матэрыялу, ткані' (Маг.—В. Л.), *шкуцік* 'невялікі кусок матэрыялу' (Бяльк.), *шкут* жарт-лайл. аб хлапчуку (Нас.), укр. 'няздатны чалавек', 'слабасільная жывёліна' (Грынч.).— *Шкут, Шкута, Шкутаў; Шкуткó; Шкуцька; Шкуцькó.* Бел. у XVII—XVIII стст. *Шкут, Шкуток* (БА, I, 278)

*ШКУТНІК.— *Шкутнік.* Параўн. ШКУТ

*ШКЯЛЁМА.—*Шкялёма.* Параўн. ШКЕЛЬ

*ШЛАБА.— *Шлабóвіч*

*ШЛАБУН.— *Шлабунóў*

ШЛАВЯНЕЦ з в. Шлавы, Шлавяны.— *Шлавянéц*

ШЛАПАК звычайна ў мн. л. 'шлёпанцы' (БРС), рэг. 'старыя бацінкі', 'туфлі' (Дзярж.— М. Б.), 'апоркі не па назе' (КСЧ).— *Шлапáк, Шлапакóў; Шлóпак* з пераносам націску. СРП *Шлопак*

*ШЛАПЕКА.— *Шлапéка*

*ШЛАПІК.— *Шлáпік*

ШЛЕЙКА.— *Шлéйка, Шлéйчанка.* СРП *Шлейков*

ШЛЕМ.— *Шлéменка, Шлемянкóў*

ШЛЕНДА рус. 'бадзяга, гультай, бяздзельнік, валацуга' (Даль).— *Шлéндаў.* Параўн. ШЛЫНДА

*ШЛЕПАР.— *Шлéпараў*

*ШЛЕПЯНТОХ.— *Шлепянтóх*

*ШЛЕСА.— *Шлесін*
*ШЛІМАК.— *Шлімакоў*
ШЛІХТА бел., укр., рус. 'крухмал, клейстар, якім змазваюць пражу перад тканнем' (БРС, Грынч., Даль).— *Шліхтаў*
*ШЛОЙД, *ШЛОЙДА.— *Шлойд, Шлойда*
*ШЛОМА.— *Шлóма*. Бел. у XVII ст. *Шлома* (Туп.). СРП *Шломин*
*ШЛОМАН.— *Шлóман*
*ШЛУН параўн. рэг. *шлункі, шлунне* 'унутранасці, вантробы' (Нас.), 'суставы' (Дзярж.— М. Б.), укр. *шлунок* 'страўнік' (Грынч.).— *Шлуноў*
*ШЛУПАК.— *Шлупáк*
ШЛЫК рэг. 'востраканечная войлачная накшталт каўпака шапка' (Нас.), рус. 'шапка, каўпак, чапец' (Даль), укр. *шлик* 'род шапкі' (Грынч.).— *Шлык, Шлы́каў, Шлыкéвіч*. Бел. у XVIII ст. *Шлык* (БА, І, 278). СРП *Шлык, Шлыко́в*
*ШЛЫН.— *Шлы́наў*
ШЛЫНДА бел., рус. 'бадзяга, валацуга, гультай, бяздзельнік' (БРС, Нас., Даль).—*Шлы́нда*
ШЛЭХ рэг. з яўр. 'рэшткі, адкіды, адыходы; горшае', 'дрэнь' (Нас.).— *Шлэхаў*
ШЛЯГА, памянш. ШЛЯЖКА.— *Шля́га; Шля́жка*. СРП *Шлягин*
ШЛЯПА рус. 'капялюш'.— *Шля́паў, Шля́пін; Шляпó* з пераносам націску. Рус. у XVI ст. *Шляпа* (Туп.). СРП *Шляпин, Шляпкин*
ШЛЯПАЧНІК 'капялюшнік'.—*Шля́пачнік*. СРП *Щляпочников*
ШЛЯХТА.— *Шляхцéнка; Шляхтó* з пераносам націску. Укр. у XVI ст. *Шляхта* (Туп.). Бел. у XVI ст. *Шляхта* (БА, І, 278). СРП *Шляхтин*
ШЛЯХЦІЦ, ШЛЯХЦІЧ.—*Шля́хціцаў; Шля́хціч*. Бел. у XVII ст. *Шляхтич* (Туп.)
*ШМАК.— *Шмак*. СРП *Шмаков, Шмачков*
ШМАЛЬЦ рэг. 'шмалец, топлены гусіны тлушч' (Нас.).— *Шмальц*
ШМАН, ШМАНЬ, памянш. ШМАНОК параўн. рус. *шманить, шмонить* 'бадзяцца без справы', 'абсмейваць', 'абманваць', *шмон* 'бадзяга' (Даль). — *Шман, Шмань; Шманóк; Шмáнскі*. СРП *Шманенков*
*ШМАНАЙ.— *Шманáй*

*ШМАНДА.— *Шмандзюк*
*ШМАНДУР.— *Шмандуроў*
ШМАРАВОЗ 'той, хто падмазвае калёсы', рэг. 'нікчэмны чалавек' (КСЧ), 'неахайны чалавек, чалавек у запэцканым адзенні' (Нас., КСЧ), укр. *шмаравоз* тое ж (Грынч.).— *Шмараво́з*
ШМАРГУН рэг. 'той, хто шморгае носам' (Дзярж.— М. Б.).— *Шмаргу́н*
ШМАТ, памянш. ШМАТОК, ШМАТКО.— *Шмат, Шма́таў; Шмацюк; Шмато́к, Шматко́.* Бел. у XVIII ст. *Шмат* (БА, I, 278). СРП *Шматов, Шматков*
*ШМАТУХА.— *Шмату́ха.* Параўн. ШМАТ
ШМАЎГАНЕЦ з в. Шмаўганы.— *Шмаўгане́ц*
*ШМЕЙ, *ШМЕЯ.— *Шмей, Шме́я*
ШМЕЛЬ гл. ЧМЕЛЬ
*ШМІГЕЛЬ.— *Шмігель; Шміге́льскі*
*ШМІЛА.— *Шміло́віч*
*ШМОЛЬ, памянш. ШМОЛІК.— *Шмо́лік*
ШМУЛЬ рэг. 'той, хто ходзіць у падраным замазаным адзенні' (Стэц.).— *Шмуль.* СРП *Шмулевич*
*ШМУЛЯЙ.— *Шмуля́еў*
*ШМУРАД(А), памянш. ШМУРАДКА.— *Шмура́дка*
*ШМУРЭЙ.— *Шмурэ́й*
ШМЫГА рус. смал. 'жвавы, спрытны' (Дабр.), 'бадзяга, шатун' (Даль).— *Шмы́га, Шмы́гаў*
ШМЫГУН рус. 'бадзяга, шатун' (Даль).— *Шмыгу́н*
*ШМЫДРА.— *Шмы́дрын*
ШМЫК рэг. 'пабег, уцёкі' (Нас.).— *Шмык.* СРП *Шмыков*
*ШМЫР.— *Шмыро́ў.* СРП *Шмырёв, Шмыров, Шмырков*
ШМЭР рэг. 'шорах, шум' (Нас.), польск. *szmer* тое ж.— *Шмэ́рын*
*ШНАР(А) параўн. бел. *шнарыць, шнырыць* 'шукаць; мацаць', 'бегаць, лазіць, шукаць' (БРС).—*Шнарэ́віч; Шна́рскі*
*ШНІП, *ШНЫП.— *Шніп, Шнып*
*ШНІТКО.— *Шнітко́.* Бел. у XVII ст. *Шнитка* (БА, I, 278; Туп.). СРП *Шнитков.* Параўн. СНІТКА
ШНУР.— *Шну́раў.* СРП *Шнуров*
*ШНЫПАРНЫ 'той, хто шныпарыць, лазіць, шукае'?— *Шныпарно́ў*
ШНЫРА, памянш. ШНЫРЫК бел. 'пралаза, прайдзі-

свет' (Нас.).— *Шнырыкаў.* Бел. у XVII ст. *Шнырка* (БА, I, 278). СРП *Шнырёв*

ШНЯК рус. арх. *шняка* 'марская лодка' (Даль).— *Шняк*

*ШОБА, памянш. ШОБІК.— *Шоба; Шобік*

*ШОДА, памянш. ШОДЗІК.— *Шода; Шодзік*

*ШОКАЛЬ параўн. укр. *шокати* 'часта гаварыць шо', 'шамкаць, невыразна гаварыць' (Грынч.).— *Шокаль*

*ШОЛА, памянш. ШОЛКА.— *Шолкавіч*

*ШОЛАМ.— *Шоламаў; Шаламіцкі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Шелом, Шолома, Шаломка* (Туп., БА, I, 275). Рус. у XVI ст. *Шелом* (Туп.). СРП *Шеломов*

ШОЛАХ.— *Шолахаў.* У Туп. у XV ст. *Шолох.* СРП *Шолохов*

*ШОЛЬГУС.— *Шольгусаў*

ШОПА, памянш. ШОПІК рэг. 'шафа' (Нас.), 'пасудны шкафчык' (КСЧ), 'гумно для сена', рус. 'пуня ці навес на базары для гандлю збожжам, агароднінай' (Даль), укр. 'навес, пуня для гаспадарчых прылад, вазоўня' (Грынч.).— *Шопік*

*ШОПАР.— *Шопараў*

*ШОРАП.— *Шорап*

ШОРАХ.— *Шорах; Шарахоўскі.* СРП *Шорохов*

*ШОРАЦ.— *Шорац.* Бел. у XVI ст. *Шорц* (БА, I, 276)

ШОРНІК рэг. рус. 'рымар'.— *Шорнікаў.* СРП *Шорников*

ШОСТ, памянш. ШОСЦІК.— *Шосцік.* Бел. у XVI ст. *Шостик* (БА, I, 277)

*ШОСТЫР.— *Шостыр*

*ШОТ, *ШОЦЬ, памянш. ШОЦІК. — *Шот; Шоць; Шоцік; Шоцкі.* СРП *Шотин*

*ШОХАН.— *Шохан.* СРП *Шоханов*

ШОХТА укр. *шохта* 'пруток ніта' (Грынч.).— *Шохцін*

*ШОЧАК.— *Шочак*

ШОША.—*Шошын.* СРП *Шошин*

ШПАГА.—*Шпагін.* СРП *Шпагин*

*ШПАДАР.— *Шпадарук*

ШПАК.— *Шпак, Шпакаў, Шпаковіч, Шпакевіч; Шпакоўскі.* Бел у XVI—XVII стст. *Шпак, Шпачек* (БА, I, 279). Рус., укр. у XVII ст. *Шпак* (Туп.). СРП *Шпаков, Шпаковский*

ШПАЛА.— *Шпалёнка, Шпалянкóў*. СРП *Шпалюкин*

ШПАНДАР параўн. бел., рус. *шпандыр* 'шавецкая нацяжка, папруга' (БРС, Даль), рус. смал. 'бізун, пуга' (Дабр.).— *Шпандарýк*

ШПАРА, памянш. ШПАРЫК, параўн. рэг. *шпар* 'паз' (Нас.), укр. *шпара* 'паз, шчыліна' (Грынч.).— *Шпáрык*

*ШПАРАНДА.— *Шпарáнда*

*ШПАРЛА 'той, хто шпарыць'?— *Шпáрла*

*ШПАРУН.— *Шпарýн*. Параўн. ШПАРЛА

*ШПАРТА.— *Шпартóў, Шпáртаў*

*ШПЕКТАР.— *Шпéктар*

*ШПЕНДА, памянш. ШПЕНДЗІК.— *Шпéндзік*

ШПЕНЬ.— *Шпень*

*ШПЕТ параўн. бел. *шпэціць* 'ганіць, ганьбіць', 'псаваць' (Нас.), рус. *шпетить* 'дакараць, папракаць' (Даль), укр. *шпетити* 'лаяць, аскарбляць' (Грынч.).— *Шпет, Шпэт; Шпяцюк*

ШПЕТНЫ ст. бел. і рэг. 'дрэнны', 'непрыгожы' (Нас., КСГБМ), рус. *шпетный* 'модны, фарсісты' (Даль), укр. *шпетний* 'дрэнны' (Грынч.).—*Шпéтны*

*ШПІГАН.— *Шпіганóвіч*. Параўн. ШПІГУН

*ШПІГУН 'той, хто шпігуе, шпег'?— *Шпігун*

ШПІЛЬ.—*Шпілеў, Шпілéня; Шпілéўскі*. Бел. у XVI—XVIII стст. *Шпиль* (БА, I, 279). Рус. у XV—XVI стст. *Шпиль* (Туп.). СРП *Шпилёв*

ШПІЛЬКА.— *Шпілька*. Бел. у XVII ст. *Шпилька* (Туп.)

*ШПІН, памянш. ШПІНОК.— *Шпінóк*

*ШПІР(А), памянш. ШПІРКА.— *Шпірóнак; Шпіркóвіч*. Параўн. ШПЫРА

ШПІТАЛЬ.— *Шпітáль*

ШПІТАЛЬНІК 'які адносіцца да шпіталя'.— *Шпітáльнік*. СРП *Шпитальников*

ШПІЦ 'шпіль', 'кудла, кундаль'.—*Шпіц*

*ШПІЦАР.— *Шпіцар*

*ШПОН польск. *szpon* 'кіпцюр'.— *Шпон*

*ШПОТ.— *Шпот*

*ШПУЛА.— *Шпýла*

*ШПУР, памянш. ШПУРЫК.— *Шпýрык*

ШПЫРА, памянш. ШПЫРКА рус. смал. *шпыря* 'тоўсты кусок хлеба'.— (Дабр.).— *Шпы́рка, Шпы́ркаў*. Бел. у XVI ст. *Шпырка* (БА, I, 279). СРП *Шпыров*

ШРАМ, памянш. ШРАМОК.— *Шрамай; Шрамкоў.* СРП *Шрамков*

ШРАМЯК 'шрам'?—*Шрамякоў*

ШРУБА, ШРУБ, памянш. ШРУБОК.—*Шруба, Шруб, Шрубай; Шрубок*

*ШРЭМ 'шрам'?— *Шрэмай*

*ШТАЙДА.— *Штайда*

*ШТАЛЬ.— *Шталь*

ШТАНЫ.— *Штанюк*

ШТОКАЛА 'той, хто часта ўжывае слова што'?— *Штокала*

ШТОЛА, ШТАЛА, памянш. ШТОЛІК укр. *штола* 'глыбокая ўпадзіна ў скале', *штала* 'скала' (Грынч.).— *Штолік*

ШТУКА.— *Штукін.* СРП *Штухин*

ШТУКАР.— *Штукар.* СРП *Штукарёв*

*ШТУНЬ.— *Штунь*

*ШТУРА.— *Штура*

*ШТЫЛІЎКЕР.— *Штыліўкер*

*ШТЫНДА, памянш. ШТЫНДЗІК.— *Штындзік*

ШТЫРХУН параўн. рэг. *штырхаць* 'піхаць' (Дзярж.— М. Б.), 'той, хто піхае'?— *Штырхун*

ШТЫХ 'штык'.— *Штых, Штыхай*

*ШТЫЦЬКО.— *Штыцько*

ШТЭМПЕЛЬ.— *Штэмпелей*

*ШТЭЦЬКА.— *Штэцька*

ШУБА.— *Шуба, Шубіч, Шубін, Шубянок; Шуб; Шубік; Шубскі.* Бел. у XVIII ст. *Шубко* (БА, I, 279). Рус. у XIV—XVII стст., укр. у XVII ст. *Шуба* (Туп.). СРП *Шубов, Шубин, Шубенков, Шубик, Шубинский*

ШУБАДЗЕР.— *Шубадзерай*

*ШУБАРА параўн. каз. *шубар* 'рабы, стракаты', параўн. рус. *чубарый* (масць каня) 'стракаты з цёмнымі лапінамі на светлай шэрсці' (Даль).— *Шубара*

*ШУВАЛ.— *Шувалай*

ШУГАЙ рэг. 'армяк з шырокімі і доўгімі крысамі, які носяць мужчыны і жанчыны' (Нас.), 'світка з дамотканага сукна' (Бяльк.), рус. 'кофта', 'целагрэйка', 'сарафан', 'агароднае пудзіла' (Даль), укр. 'хлопец, малады чалавек', 'род жаночага адзення' (Грынч.).—*Шугай, Шугаей.* СРП *Шугаев*

ШУГАЙЛА параўн. рус. *шугала* 'той, хто шугае', параўн. рус. *шугать* 'палохаць, адганяць' (Даль), бел.

*шугаць* 'кідаць', 'узнімацца, налятаць' (Нас., БРС).— *Шугайла*

*ШУГАЛЕЙ.— *Шугалéй, Шугалéеў*. Бел. у XVII ст. *Шугалей* (БА, I, 279)

*ШУДА, памянш. ШУДЗЕЙКА польск. *szuda* 'адыходы', 'нечыстоты', з літ. *šudas* 'нечыстоты' (Вяржб.).— *Шудзéнка, Шудзянкóў; Шудзéйка*

*ШУДЛА.— *Шудлюк; Шудлéўскі*

*ШУЕР 'ляўша'?, параўн. рус. *шуйца* 'левая рука', *шуий* 'левы' (Даль).— *Шýер*

*ШУК тат. 'балаўнік, свавольнік, гарэзнік' (ТРС), магчыма, 'той, хто шукае'.—*Шук, Шукóў*. Бел. у XVIII ст. *Шук* (БА, I, 279). СРП *Шукин*. Параўн. ШУКАЙЛА

ШУКАЙЛА, ШУКАЛА 'той, хто шукае'.— *Шукáйла, Шукáйлаў; Шукáла, Шукáлаў*. СРП *Шукалов*

ШУКАНЫ.— *Шýкан*. СРП *Шуканов*

*ШУКЕЛА.— *Шукéла, Шукілéвіч* пры [е]>[і]. Параўн. ШУКАЙЛА

*ШУКЕЛЬ.— *Шукéль, Шукілéвіч* пры [е]>[і]. Параўн. ШУКАЙЛА

*ШУКША.—*Шýкшын*

ШУЛАК рэг. 'невялікі слупок у будынку ці агароджы' (КСЧ), 'шула' (Бяльк.).— *Шулакóў*. СРП *Шулаков*

*ШУЛЕГА, памянш ШУЛЕЖКА.— *Шулéжка, Шулéшка* пры [ж]>[ш]. Бел. у XVII ст. *Шуляга* (Туп.). СРП *Шулешко, Шулешкин*

*ШУЛЕЙКА.— *Шулéйка*. СРП *Шулейкин*

ШУЛЕПА рус. *шулепа* перм. 'левая рука', цвяр. *шулепа* 'ляўша' (Даль).— *Шулéпа*. СРП *Шулепин, Шулепов*

ШУЛЕР.— *Шýлераў*

ШУЛЬГА, памянш. ШУЛЬЖЫК рус. 'левая рука', 'ляўша' (Даль), укр. 'левая рука і нага', 'ляўша', назва расліны (Грынч.).—*Шульгá, Шульгін, Шульгóвіч, Шульжэнка; Шýльжык; Шульгóўскі*. Бел. у XVI—XVII стст. *Шульга, Шулга* (БА, I, 279). Рус. у XV—XVII стст., укр. у XVII ст. *Шулга* (Туп.). СРП *Шульга, Шульгин, Шульгинов, Шульгович, Шульженко*

*ШУЛЬГАН.— *Шульгáн*. Параўн. ШУЛЬГАЧ

ШУЛЬГАЧ рус. 'ляўша' (Даль).— *Шульгáч*

*ШУЛЬДА, памянш. ШУЛЬДЗІК параўн. каз. *шулди* 'кулік' (Будаг.).— *Шýльдзік*

ШУЛЬКА, памянш. ад ШУЛЯК (гл.).— *Шýлькін.* Бел. у XVI ст. *Шулька* (Туп.). СРП *Шулькин*

ШУЛЯК 'коршун' (БРС), рэг. 'нятоўстае шула з пазамі' (Нас.), рус. 'коршун' (Даль), укр. 'коршун', 'кіях, пачатак кукурузы', 'назва вала з рагамі, загнутымі ўніз' (Грынч.).— *Шуля́к, Шулякóў; ?Шулья́к; Шулякóўскі.* Бел. у XVII ст. *Шуляк* (Туп.). СРП *Шуляк, Шуляченко, Шуляковский*

ШУМ, памянш. ШУМІК, ШУМКО.— *Шум, Шумóвіч; Шýмік; Шумкó; Шýмскі, Шумі́нскі.* Бел. у XVI ст. *Шумка* (БА, I, 279). Укр. у XVI—XVII стст. *Шум* (Туп.). СРП *Шумов, Шумков, Шумкин, Шумских, Шумовский, Шумский*

ШУМАВЕЦ з в. Шумы, Шумава.— *Шумавéц*

*ШУМАЙ.— *Шума́й.* СРП *Шумаев*

*ШУМАК.— *Шума́к, Шумакóў.* Укр. у XVII ст. *Шумак* (Туп.). СРП *Шумаков.* Параўн. ШУМІЛА

*ШУМАН, памянш. ШУМАНЧЫК.— *Шума́н; Шума́нчык; Шума́нскі.* Рус. у XVI ст. *Шуман* (Туп.). СРП *Шуманов.* Параўн. ШУМІЛА

*ШУМЕЙ, памянш. ШУМЕЙКА.— *Шумéйка.* Бел. у XVIII ст. *Шумей, Шумейка* (БА, I, 279). Укр. у XVII ст. *Шумейка* (Туп.). СРП *Шумейко.* Параўн. ШУМІЛА

ШУМЕЛЬ рэг. 'пустазелле' (Бяльк.).— *Шумéль.* Параўн. ШУМІЛА

ШУМІЛА рэг. 'той, хто шуміць, любіць лаяцца, крыкун' (Маг. — М. Б.), рус. тое ж (Даль). — *Шумі́лаў; Шумі́лін; Шумілóўскі.* Бел. у XVII ст. *Шумилик.* Рус. у XVII ст. *Шумило, Шумил, Шумилко* (Туп.). СРП *Шумилин, Шумилов*

ШУМКО гл. ШУМ

ШУМНЫ.— *Шýмны*

*ШУМРАТ.— *Шумра́таў*

ШУМЯКА.—*Шумя́ка.* Параўн. ШУМІЛА

*ШУНА, памянш. ШУНЬКО. — *Шунéвіч; Шунькó, Шýнькін.* Бел. у XVI—XVII стст. *Шунко, Шунка, Шунько* (БА, I, 279). СРП *Шунин, Шунков*

*ШУНДРА, памянш. ШУНДРЫК.—*Шýндрык*

*ШУНЕЙКА. — *Шунéйка.* СРП *Шунейко.* Параўн. ШУНА

*ШУНІБОР.— *Шунібóраў*

*ШУНТА, *ШУНТО— *Шу́нта, Шунто́*

*ШУПА, памянш. ШУПІК, ШУПЕНЬКА, ШУПЕНІК 'той, хто разумее, кеміць, цяміць, кемлівы чалавек'? параўн. рэг. *шупіць* 'разумець, цяміць, панімаць' (КСЧ, Бяльк.), рус. *шупить* 'ведаць, разумець' (Даль, Дабр.), укр. *шупити* 'разумець, кеміць, цяміць' (Грынч.).—*Шу́па, Шупе́нка, Шупе́ня, Шу́пікаў; Шупе́нька.* СРП *Шупиков, Шупский*

*ШУПЕЙ, памянш. ШУПЕЙКА.— *Шупе́й; Шупе́йка.* Параўн. ШУПА

ШУПЕЛЬ параўн. рус. *шупел* 'знахар, чараўнік, чарадзей, вядзьмар' (Даль), параўн. таксама ШУПА.— *Шупле́нка, Шуплянко́ў*

*ШУПЕНЬ, памянш. ШУПЕНІК.— *Шупе́нік.* Параўн. ШУПА

ШУПІК рэг. 'фарбаванае пабітае яйцо, якое выкарыстоўваюць у гульні, калі качаюць яйца' (Нас.), параўн. таксама ШУПА.— *Шу́пікаў*

*ШУПІЛА.— *Шупіла, Шупілаў.* Параўн. ШУПА

*ШУПЛЯК.— *Шупля́к.* Бел. у XVI ст. *Шупляк* (Туп.). СРП *Шупляков.* Параўн. ШУПА, ШУПЕЛЬ

*ШУР, памянш. ШУРКО.— *Шур, Шу́раў; ?Шу́рын; Шурко́.* СРП *Шуров, ?Шурин*

*ШУРАЙ.— *Шура́й, Шура́еў.* СРП *Шураев*

ШУРАК рус. валаг. *шура(я)к* 'швагер' (Даль), укр. *шуряк* тое ж (Грынч.).— *Шура́к.* Бел. у XVII ст. *Шурак* (Туп.). СРП *Шураков*

*ШУРАН, памянш. ШУРАНОК.— *Шура́наў; Шураню́к; Шуранко́ў.* СРП *Шуранский*

*ШУРАХТА.— *Шура́хта, Шура́хтаў*

ШУРБА цюрк. 'суп, булён' (Будаг.).— *Шу́рба, Шурбе́нка, Шурбянко́ў*

ШУРГА рус. 'бура, завіруха, мяцеліца', 'віхор, які слупам узнімаецца ўверх' (Даль).— *Шургін*

*ШУРЛАК параўн. укр. *шурлай* 'род гульні' (Грынч.).— *Шурлако́ў*

*ШУРМЕЛЬ.— *Шурме́ль*

ШУРПА, памянш. ШУРПІК.— рэг. ласк. 'кучаравы хлопчык, ці кучаравая дзяўчынка' (Нас.), 'гніль', 'стары чалавек' (КСЧ), *шурпычка* 'дзіця з кучаравымі валасамі' (Бяльк.), рус. 'курыца з узлахмачанымі пер'ямі' (Даль), укр. тое ж, што рус., 'брыдка адзетая жанчына'

(Грынч.), магчыма, ад *шурпаты.—Шурпó; Шýрпік; Шурпіцкі.* СРП *Шурпин.*载 Параўн. ШУРПАК

*ШУРПАК 'чалавек з нягладкім тварам ці з няроўным, задзірыстым характарам'?, параўн. бел. *шурпаты* 'нягладкі, няроўны' (БРС, Нас.).— *Шурпакóў*

*ШУРПАЧ.— *Шурпáч.* Параўн. ШУРПАК, ШУРПА

*ШУРПЯК.— *Шурпя́к.* Параўн. ШУРПАК, ШУРПА

*ШУРУКАЙ параўн. рус. цвяр. *шурукать* 'шаптаць, шушукацца з кім-небудзь' (Даль).— *Шурукáеў*

*ШУРХАЙ параўн. рэг. *шурхаць* 'груба піхаць, штурхаць у злосці', 'у злосці кідаць, адкідаць' (Нас.), укр. *шурхати 'шмыгаць,* хутка прабягаць' (Грынч.).— *Шурхáй*

*ШУРУХАЙЛА.— *Шурухáйла.* Параўн. ШУРХАЙ

ШУРЫГА рус. 'нягоднік, круцель, ашуканец, шалапут' (Даль).— *Шуры́гін.* СРП *Шурыгин*

*ШУРЫКА.— *Шуры́кін*

ШУРЫН рэг. 'швагер', рус., укр. *шурин* тое ж (Даль, Грынч.).— *Шýрын.* СРП *?Шурин, Шуринов*

ШУСТ, памянш. ШУСЦІК рус., укр. 'прыстасаванне для выраўнівання ствала стрэльбы' (Даль, Грынч.), магчыма, ад рэг. *шустаць* 'дзейнічаць хутка, з шумам' (КСЧ), 'растрачваць, прагульваць' (Нас.), рус. *шустать* 'есці, жэрці, уплятаць', '(авёс, ячмень) абтаўкаць' (Даль), укр. *шустати* 'ачышчаць ад шалупіння' (Грынч.).—*Шуст, Шýстаў; Шýсцік; Шусцíцкі, Шустýцкі.* Бел. у XVI—XVIII стст. *Шуст, Шустик,* (Туп., БА, I, 279). Укр. у XV ст. *Шуст* (Туп.). СРП *Шустов, Шустовский*

ШУСТА рус. 'мох, якім абрастаюць пні' (Даль).— *Шýста.* СРП *Шустин.* Параўн. ШУСТ

*ШУСТАЛА.— *Шýстала.* Параўн. ШУСТ

ШУСЦЕР рэг. *шустар* 'марнатравец, мантач, растратчык' (Нас.), рус. *шустер* 'шустры, бойкі, спрытны, бывалы чалавек' (Даль).— *Шýсцер.* СРП *Шустер*

ШУТ, памянш. ШУЦІК, ШУТКО, ШУЦЬКО рус. 'блазен' (Даль, РБС).— *Шут, Шýтаў, Шутóў, Шутóвіч; Шýцік, Шýцікаў; Шуткó, Шýткін; Шуцькó.* Бел. у XVII ст. *Шутко* (Туп.). СРП *Шутов, ?Шутый*

*ШУЦЯЙ 'той, хто жартуе'?, параўн. бел. рэг. і рус. *шуціць, шутить* 'жартаваць'.—*Шуця́еў*

*ШУТРО.— *Шутрó.* Бел. у XVII ст. *Шутра* (БА, I, 279)

